# МАЗАІКА ЖЫЦЦЯ

А. ТАМКОВІЧ



КНІГАРНЯ ПІСЬМЕННІКА

**Тамковіч, А. Л.**

Мазаіка жыцця / А. Тамковіч

«Мазаіка жыцця» — кніга, якая складаецца з біяграфічных артыкулаў, зробленых у розныя часы і ў розным фармаце. Аб'яднала іх жаданне герояў дасягнуць у сваіх сферах пэўных вышыняў, іх працаздольнасць і непакорнасць «агульнай плыні». «Мазаіка жыцця» — незвычайная энцыклапедыя, бо зроблена не толькі з фактаў, але і з пачуццяў.

Магчыма, нехта ўбачыць шурпатасці ў стылістыцы і лексіцы, але героі кнігі — жывыя людзі, да ўсяго неардынарныя, а таму часам непрычасанасць выказванняў найлепш перадае іх сутнасць, якая не ўкладаецца ў шаблоны, правільнасць ці гладкаць, а выбіваецца з агульнапрынятасці.

У нейкім сэнсе «Мазаіка жыцця» — працяг тэмы «Найноўшай гісторыі ў асобах».

Выкарыстаны фотаздымкі А. Ждановіча (Таранціна), А. Кузняцова, Г. Лабадзенкі, А. Плясанава, Т. Цюрынай, budzma.org, svaboda.org, tut.by, tuzinfm.by, lit-bel.org і сямейных фотаальбомаў.

# *Аўтарскі пралог*

Усім нам пашанцавала. Цяпер ёсць магчымасць даведацца пра жыццё выдатных людзей сучаснасці, як кажуць, «з першакрыніц». У гэтым сэнсе «Мазаіка жыцця» — унікальная кніга, бо дае магчымасць пачуць не тое, што кажуць ПРА АСОБАЎ іншыя, а аповед САМІХ АСОБАЎ.

Менавіта пачуць, бо ў кожным радку гучыць голас не аўтара, а таго, з кім ён размаўляе.

Пранікнёны голас успамінаў. Без пафасу і ўзнёслых эпітэтаў. Голас шчырасці і прастаты.

А яшчэ ў гэтых АСОБАЎ ёсць агульная рыса: нікому з іх жыццё не прыносіла поспех на сподачку, слава не прыходзіла «па блату».

Усяго ў жыцці яны дабіваліся самі. Сваёй ПРАЦАЗДОЛЬНАСЦЮ І МЭТАНАКІРАВАНАСЦЮ. СВАІМ ТАЛЕНТАМ!

Як вядома, слова МАЗАІКА паходзіць з латыні і першапачаткова азначала «твор, прысвечаны музам». Да нас яно дайшло праз італьянскую і французскую мовы. Адно з сучасных значэнняў — «злучэнне разнародных элементаў, стракатая сумесь», то бок тое, што і ёсць у кнізе.

Толькі з дабаўленнем мноства біяграфічных момантаў і фота, якіх дагэтуль не бачыў і не ведаў ніхто, апроч знаёмцаў герояў кнігі.

Добра разумею, што некаторыя артыкулы, змешчаныя тут, крыху ўжо «састарэлі», бо жыццё ўносіць свае (істотныя часам) карэктывы ў людскія лёсы, але наўмысна амаль нічога не мяняў. Ніхто з маіх суразмоўцаў не мог ведаць, што іх чакае ў будучыні, таму чытачам раю ўважліва сачыць за датамі напісання артыкулаў.

На мой погляд, заўсёды больш цікава тое, што мы казалі і думалі ТАДЫ, а не цяпер, а нейкія змены ў біяграфічным мінулым немагчымыя ўвогуле...

Нагадаю таксама, што кніга «Мазаіка жыцця» па змесце і сутнасці стала лагічным працягам прэзентаванай у 2013 годзе «Найноўшай гісторыі ў асобах», дзе расказвалася пра лёсы сотні выбітных дзеячаў грамадска-палітычнага і культурніцкага жыцця нашай краіны. Амаль адразу стала зразумела, што для Беларусі падобнай колькасці будзе недастаткова, бо тых, пра чый жыццёвы шлях

варта расказаць, значна больш. Так нарадзілася ідэя стварэння «Мазаікі жыцця», але зноў адной кнігай не абысціся, таму хай даруюць мне тыя, пра каго плануецца расказаць у працягу, — змясціць пад адной вокладкай усіх дастойных людзей немагчыма нават тэарэтычна.

Як і немагчыма некага «прымусіць» успомніць сваё жыццё. Пытанне, чаму сярод герояў кнігі апынуліся менавіта гэтыя, а не іншыя АСОБЫ, — найбольш распаўсюджанае. Часам выклікалі розныя рэакцыі і канкрэтныя персаналіі. Кожны чалавек мае права на асабістую ўнікальнасць: сімпатыі, ацэнкі, думкі. Падабацца ўсім немагчыма. І не трэба. Асабліва ў выданнях энцыклапедычнай накіраванасці.

Аднак усё гэта неістотна. Галоўнае — зробленае гэтымі людзьмі.

# БЕЛАРУСКІ ФЕНОМЕН

Гадоў сем таму, яшчэ перад пасадкаю (пішу і пасміхаюся сам сабе, маё жыццё для мяне ўжо, мабыць, назаўсёды падзялілася на дзве часткі — да пасадкі і пасля), Аляксандр Тамковіч, даўні і добры сябра праваабаронцаў, які тады па нашай просьбе рабіў кніжку пра чарговых на той час сядзельцаў, падзяліўся сваёй задумкаю — адну з наступных кніжак прысвяціць толькі творчым асобам, якія працуюць у беларускай культуры. Я яго безумоўна падтрымаў. Затым ён напісаў пра гэта мне ў бабруйскую калонію — я зноў адказаў падтрымкай.

Амаль ва ўсіх сваіх папярэдніх кніжках Аляксандр Тамковіч ужо пісаў пра творцаў. У «Лёсах», якія выйшлі ў 2010 годзе, ёсць інтэрв'ю з Васілём Быкавым, Рыгорам Барадуліным, Генадзем Бураўкіным, Аляксеем Марачкіным, Уладзімірам Някляевым ды іншымі. Але ж абсягі беларускай культуры немалыя, і ў нас, дзякуй Богу, яшчэ хапае выбітных пісьменнікаў, мастакоў, музыкаў. Ёсць кім ганарыцца і ёсць пра каго пісаць.

Ужо неаднаразова казалася пра ўнікальную ролю Аляксандра Тамковіча ў сучасным беларускім жыцці. Ён — нястомны летапісец сённяшняга часу, без намаганняў якога разуменне беларускага свету было б значна бяднейшым. Адметнасць інтэрв'ю, дыялогаў у тым, што Аляксандр дае свайму суразмоўцу лёгка выгаварыцца. З кім бы ні размаўляў, а такіх гутарак адбылося ўжо, мабыць, сотні, ён нейкім няўлоўным чынам выклікае давер да сябе, і людзі няпростыя, часта негаваркія, некантактныя, раскрываюцца. Таму можна было заставацца спакойным за змест новага зборніка.

Наступны важны аргумент для мяне ў патрэбе кніжкі такога фармату існуе ў феномене беларускай культуры. А яшчэ больш — у людзях, якія робяць яе. Не сакрэт, што беларуская ўлада мала заклапочаная развіццём беларускай культуры, літаратуры, мастацтва. Прарасійская арыентацыя ў эканоміцы, у палітыцы, русіфікацыя ў адукацыі і асвеце, якая з'яўляецца мейнстрымам сённяшняй дзяржаўнай улады, усе гэтыя неаднаразовыя выказванні пра беднасць і неактуальнасць беларускай мовы, пра тое, што мы «тожа рускія людзі», рознага кшталту «славянскія базары» і «залатыя шлягеры», засілле расійскай папсы ў радыё і тэлевізіі — усё гэта

разам балюча б'е па нашай культуры, адразае яе ад беларускага народа, заганяе ў штучны рэзерват.

Але ж сапраўдная беларуская культура — гэта жывы арганізм. Які адчайна супраціўляецца спрашчэнню і вульгарызацыі, пратэстуе супраць дрэнных густаў сённяшніх уладцаў, не збіраецца быць на ўслужэнні каму б там ні было. Дэмакратызм беларускай культуры, выразная нацыянальная арыентацыя, нежаданне падпарадкоўвацца жалезнай аброці, якую накідвае аўтарытарная ўлада, урэшце нонканфармізм творцаў стварылі культурніцкі супраціў. Беларуская культура і яе творцы аўтаматычна сталі ў шэрагі апанентаў улады па адзін бок барыкадаў, баронячы маральныя, нацыянальныя, гуманныя каштоўнасці. Улада ж з яе постсавецкай ідэалогіяй, пагардай да чалавека і ўвогуле культуры апынулася па другі.

Беларуская культура развіваецца па-за рамкамі гэтай дзяржавы, па-за яе ідэалогіяй, якая трактуе беларускую культуру як штосьці прыкладное і дэкаратыўнае. Лапці на сцяне ў раённым краязнаўчым музеі, прыпеўкі ды полька на сцэне на Дажынкі, Свята беларускага пісьменства для галачкі раз на год — вось такі сённяшні ўзровень разумення ўладамі беларускай культуры і такая ў ёй дзяржаўная патрэба. Але ж ці з'яўляецца гэта сапраўднай беларускай культурай?

Культурны кантэнт робіцца ў грамадстве, у народзе, за мяжой — дзе заўгодна, але не там, дзе прысутнічае аўтарытарная дзяржава. Без усялякага спрыяння і нават насуперак ёй. Забароненыя музычныя канцэрты, скалечаныя мастацкія выставы, выкінутыя са школьных праграмаў мастацкія творы, замоўчаныя ў дзяржаўных мас-медыя імёны, урэшце творцы, якія з палітычных матываў апынуліся за кратамі, — вось сапраўднае аблічча беларускай культуры. Гэта такое нашае сённяшняе суровае жыццё.

Творцы, пазбаўленыя дзяржаўнай падтрымкі, часта вымушаныя выжываць, шукаць нейкія жыццёвыя нішы, якія б дазвалялі існаваць матэрыяльна. І ў кожнага тут атрымліваецца па-рознаму. Кім толькі ні працуюць беларускія пісьменнікі і музыкі, чым толькі ні займаюцца беларускія рэжысёры і мастакі. Зазвычай творчы чалавек на людзях — у вядомасці і славе, а са сваімі праблемамі ён застаецца адзін на адзін. Пазіцыя дзяржавы — цынічная. Хочаш мець гарантаваны кавалак хлеба — прадай чорту душу. Але ў творчасці спраўджваюцца зазвычай незалежныя асобы. І перад кожным творцам раней ці пазней паўстае гэты няпросты выбар — застацца незалежным і

мецъ перспектывы для творчай самарэалізацыі ці пайсці служыць, абрэзаць сабе крылы і развітацца з марамі.

Урэшце, калі было лепей... Сто гадоў таму, калі любая, у тым ліку і культурніцкая, творчая праца ў беларускім руху была справай прыватнай, асабістай, а часта і рызыкоўнай? Ці ў 30-я гады, калі каласы беларускай культуры патрапілі пад сталінскі бязлітасны серп? Ці ў 70-я, калі зарэгламентаванасць, цэнзура, КДБ, «творчы метад» сацыялістычнага рэалізму душылі беларускую культуру пятлёй? Дык калі ж было лепей? Ды, мабыць, ніколі. Можа, толькі самы пачатак 90-х, які, нягледзячы на беднасць і нястачу, тым не менш даў сённяшняму пакаленню творцаў глынуць паветра свабоды і незалежнасці, ды так, што на ўсё жыццё. Для кагосьці, як для герояў Святланы Алексіевіч у «Часе сэканд хэнд», гэта быў час няспраўджаных мараў і расчараванняў, але для нас — час вялізных спадзяванняў на змены, якія, на жаль, так і не адбыліся. Расчараванне прыйшло пазней. Хтосьці з'ехаў, нехта апусціў рукі і сагнуў галаву, але багата хто ўпарта працягваў рабіць сваю справу.

Праглядаючы кнігу Аляксандра Тамковіча, адзначаю, што гутарыў ён у асноўным з творцамі з майго пакалення. Майму пакаленню, якое спраўдзілася як асобы і творцы на зломе тысячагоддзяў, прыйшоў час дзяліцца вопытам і сваімі набыткамі, а ўжо лепшых з нас — Анатоля Сыса, Сяржука Цімохава, Таццяны Сапач, Ігара Герменчука — з намі няма...

Прабягаючы вачыма па змесце зборніка, бачу, што гэтыя людзі — частка беларускай культуры, якія з'яўляюцца яе зрэзам, яе сімвалічнай і прадстаўнічай часткаю, страшэнна таленавітыя асобы, за кожнай з якіх стаіць свой шэраг нябачных тут іншых беларускіх творцаў, ці тых, хто мусіў бы стаяць, каб умовы існавання для беларушчыны былі лепшымі. Чытаючы гутарку з Алесем Пушкіным, уяўляеш за ягонымі плячыма Алеся Марачкіна, Міколу Купаву і Яўгена Куліка. За жыццяпісам Алеся Аркуша нябачнымі стаяць Алег Мінкін, Вінцэсь Мудроў і Анатоль Сыс. За пошукамі праўды Святланы Алексіевіч — магутныя постаці Алеся Адамовіча і Васіля Быкава. За развагамі і намаганнямі Ірыны Дубянецкай — усе яе папярэднікі ў перакладзе Бібліі на беларускую мову: Антон Луцкевіч, Вінцэнт Гадлеўскі, Уладзіслаў Чарняўскі, Васіль Сёмуха ды іншыя нашы ахвярнікі. Асацыятыўныя рады пакаленняў ствараюць пачуццё пераемнасці і трываласці — тое, што ўпарта разбуралі нядобразычліўцы беларушчыны і што так доўга адсутнічала ў беларускай культуры.

Разнастайнасць асобаў сапраўды стварае «мазаіку жыцця». Але чытаючы гэтыя такія непадобныя адна на адну жыццёвыя гісторыі, мяне не пакідае ўражанне, што большасць з гэтых Індывідуальнасцяў з вялікай літары, сабраных пад адну вокладку, праходзіла падобныя этапы ўнутранага развіцця, пераадольвала адны і тыя ж перашкоды, мае такія самыя ідэалы, блізкія і зразумелыя таксама і мне. Сябруючы і спрачаючыся, часта сустракаючыся і не спатыкаючыся гадамі, адно, чытаючы адзін пра аднаго ў незалежнай прэсе ці ў фэйсбуку, мы тым не менш існуём на адной хвалі светаўспрымання, плывем па адной плыні радасцяў і турботаў, сілкуемся аднымі ўражаннямі і пачуццямі. Мы звязаныя нябачным нітвом, якое стварае прастору беларускай культуры, і яшчэ шырэй — сучаснага беларускага жыцця. Мабыць, гэтымі прыкметамі і вызначаецца пакаленне. Наўрад ці наступнікі так зразумеюць нас, як мы разумеем адно аднаго, як і не зразумець нам тых, хто жыў да нас.

Недарэмна ж сярод выбраных Аляксандрам Тамковічам для гэтай кніжкі асобаў, абраных на яго разуменне і густ, так багата людзей, з якімі перасякаўся і мой жыццёвы лёс. З Гэнікам Лойкам удзельнічалі мы ў першых падпольных сходах дэмакратычнай беларускай моладзі ў сярэдзіне 80-х, у першых мітынгах на Дзяды і водным ралі па Дзвіне ў 87 годзе. Ён перадаў слуцкі пас музею Максіма Багдановіча, каб за атрыманыя грошы набыць першую прыстойную апаратуру для беларускамоўнага гурта «Мроя», а затым, быўшы дырэктарам гэтага музея, я займаўся рэстаўрацыяй таго паса.

Алеся Пушкіна затрымалі міліцыянты ў кастрычніку 1988-га, калі ён рваўся на мітынг-рэквіем Дзяды, адным з арганізатараў якога быў я. А неўзабаве ў 1989-м, 25-га сакавіка, на Дзень Волі, бачыў, як ён выйшаў з тэатральна-мастацкага інстытута, абвешаны плакатамі з лозунгам «Жыве незалежная Беларусь!». Ахвярна ішоў, асуджаны на закланне, як Хрыстос на Галгофу, а вакол — дзяўчаткі, як анёлкі ў белым. Іх гвалтоўна змяла-скруціла міліцыя, плакаты былі падраныя, Алеся асудзілі на два гады ўмоўна, а праз тыя ж два гады Беларусь стала незалежнай. А затым, у 2001-м мы разам ладзілі ў Менску выставу «Не дазволена цэнзурай» — знятых з выставы ці не дапушчаных да прагляду карцін. На той час гэта быў неверагодны цуд. Выстава правісела толькі пяць дзён.

Я памятаю, як у сярэдзіне 80-х Вінцук Вячорка распавёў мне, што студэнты мастацкай вучэльні, амаль яшчэ дзеці, вывесілі над

ёй бел-чырвона-белы сцяг. Прозвішчы студэнтаў тады не назваў, але мы былі ўсхваляваныя за іх лёс і радаваліся, што ёсць яшчэ хтосьці апроч нас, хто думае гэтаксама, як і мы. Адкуль жа мне тады было ведаць, што сярод іх быў Сяргей Харэўскі, адзін з герояў гэтай кнігі. Гэта ён у 1987 годзе намаляваў нам эмблему Таварыства маладых літаратараў «Тутэйшыя».

З «Тутэйшымі», якія актыўнічалі ў 1987—89 гадах, звязаныя ўспаміны пра Алеся Аркуша і Сяргея Верацілу, якія былі сябрамі нашай суполкі. Мы імкнуліся, каб беларускае жыццё было паўнакроўным і разнастайным, каб яно не было заточанае ў літаратурнае гета. Той каўток вольнага паветра, нязгоды з абмежаваннямі і прымусам, які хапанулі мы тады, пэўна што паўплываў на далейшую жыццёвую пазіцыю ўсіх гэтых людзей. Прыходзілі на «Тутэйшыя» спяваць Кася і Алесь Камоцкія. Затым Кася Камоцкая таксама неаднаразова далучалася да мастацкіх праваабарончых праектаў.

З Артурам Клінавым у 90-я мы былі ў адной суполцы БНФ, а з сястрой Ірыны Дубянецкай Галінай — у адной камсамольскай арганізацыі Інстытута літаратуры Акадэміі навук у 80-я гады, што праславілася лістом у ЦК КПСС пра гаротны стан беларускай мовы ў навучанні і патрабаваннем яго выправіць. Былі разборкі, якія скончыліся тым, што мяне ледзь не выгналі з аспірантуры.

З Барысам Сачанкам разам багата гадоў рабілі бюлетэнь Праваабарончага цэнтра «Вясна» «Права на Волю» і рыхтавалі штогадовыя «Хронікі» парушэнняў правоў чалавека. У яго на кватэры ў Гомелі ў 1987 годзе менская і гомельская свядомая беларуская моладзь разам адзначала Каляды. Сяргей Дубавец, Таццяна Сапач, Алесь Суша, Вінцук Вячорка, Вальжына Цярэшчанка — удзельнікі тых гомельскіх Калядаў, хоць іх і няма ў гэтай кніжцы, усё ж яны нябачна прысутнічаюць тут, бо без іхняга ўнёску беларускую культуру сёння немагчыма ўявіць.

А вось са Святланай Алексіевіч нашы лёсы перасекліся сёлета ў Еўропе, у Бруселі, дзе мы выступалі ў Еўрапейскім парламенце. Яна казала пра літаратуру, я — пра правы чалавека, але мы разам гаварылі пра Беларусь.

Колькі гэтых гісторыяў-перасячэнняў яшчэ маглі б расказаць героі гэтай кнігі!

Мы жывём у адной жыццёвай прасторы. Мы актыўна рухаемся ў ёй, спрабуем самарэалізавацца, адстаяць свой пункт погляду, права на сваё бачанне свету. Але ў мяне не знікае адчуванне, што ўсе робяць адно і тое ж: мы ўмацоўваем сэнс існавання беларусаў

як асобнага народа, не лепшага, але і не горшага за іншыя, які мае права на лепшую будучыню.

Гэтая кніга гутарак-інтэрв'ю, складзеная Аляксандрам Тамковічам, дае ўяўленне пра людзей, якія жывуць у беларускай культуры. Урэшце дае магчымасць лепей зразумець — што такое беларуская культура. Яна, насуперак складанасцям і цяжкасцям нашага часу, не мізарнее, прыстасоўваецца да неспрыяльных умоў, выпрацоўвае свае канцэпцыі незалежнага існавання, урэшце паспяхова развіваецца ў кантэксце агульнаеўрапейскай культуры. Гутаркі з беларускімі творцамі даюць цвёрдае ўсведамленне таго, што беларуская культура жыве і не збіраецца паміраць.

**Алесь Бяляцкі**.
*Жнівень 2017*

# Святлана АЛЕКСІЕВІЧ



**Упершыню пра сваё жыццё Святлана Алексіевіч расказала мне ў 2008 годзе. У 2015 годзе за сваю літаратурную дзейнасць атрымала самую прэстыжную ў свеце прэмію — Нобелеўскую. У 2017 годзе Святлана Аляксандраўна спецыяльна для гэтай кнігі пагадзілася ўспомніць старую размову і дадаць да яе новыя дэталі.**

## «Раскручанае» дзяцінства

«Я не вельмі люблю чытаць пра сябе — гэта ўсё роўна, што слухаць свой голас — ніколі не падабаецца. Таму заўсёды ўдзячная і захопленая героямі сваіх кніг, тым, як яны часта гранічна шчырыя, — часам мне здаецца, што я б так не змагла.

Так, напэўна, яны больш сумленныя за мяне. Я часам... і нават часта прыхоўваю сваё жыццё... можа, у сілу публічнасці. Нельга ж увесь час жыць на сцэне, ва ўласным тэатры.

Бацька мой — беларус з Палесся, а маці — украінка. Нарадзілася я 31 мая 1948 года ў Івана-Франкоўску, дзе ў той час служыў бацька. Там ён і ажаніўся з прыгожай украінкай. А на фронт бацька пайшоў з другога курса журфака, які тады зваўся КІЖ (Камуністычны інстытут журналістыкі). Памятаю, тата распавядаў, што калі яны вярталіся з летніх вакацый, то больш за палову педагогаў ужо не было — іх пасадзілі за гэты час. А яшчэ ён згадваў маладога выкладчыка па гісторыі журналістыкі Марка Саламонавіча Зярніцкага.

І трэба ж! Калі я паступіла ў БДУ на факультэт журналістыкі, то на першай жа лекцыі Марк Саламонавіч спытаў: «Гэта быў ваш бацька? Добра памятаю — таленавіты хлопец!»

І тады я зразумела, як выдатна сустракаць людзей, што памятаюць нашых сваякоў маладымі.

Пра Івана-Франкоўск бацька ўспамінаў з жахам, бо савецкіх вызваліцеляў, якімі яны сябе лічылі, бандэраўцы (украінскія лясныя браты) не толькі стралялі, але і рэзалі па начах нажамі, секлі сякерамі. Тады гэта былі бандыты, а цяпер народныя героі. Мы выраслі ў адной гісторыі, а жывём у іншай! У нас яшчэ ёсць

час, але нашым бацькам як быць? Гінулі ад куль і нажоў за адну гісторыю, а дажыўшы да глыбокай старасці, паміраюць у іншай. Гісторыя ў руху.

І калі нешта ёсць у ёй вечнае, то гэта — дабро. Вось яшчэ адзін бацькаў аповед.

Мне не было года, і я памірала ад рахіту, таму што мясцовае насельніцтва нічога не прадавала савецкім афіцэрам і іх сем'ям. А мяне магло выратаваць толькі казінае малако (так казаў лекар). І бацька разам са сваімі сябрамі пайшоў у жаночы манастыр. Зачынены. Стукалі — не адчыняюць. Тады па спінах сваіх таварышаў бацька перабраўся цераз сцяну манастыра. Знайшоў ігуменню і стаў перад ёй на калені: «Хай я — вораг. Мяне забіце! Але выратуйце дзіця... Вы ж людзі Бога...» Ігумення доўга маўчала, а потым сказала: «Ты больш сюды не прыходзь, а тваёй жонцы мы будзем даваць кожную раніцу паўлітра казінага малака».

Вось гэтыя паўлітра малака і пакідаюць нас людзьмі ў любым кашмары... нават у самым страшным — у грамадзянскай вайне. І гэтую гісторыю я пішу, выслухваю і захоўваю ў чалавечых галасах. Жывую «ачалавечаную» гісторыю.

Шмат гадоў таму я была ў Івана-Франкоўску, калі японскае тэлебачанне «Энич-кэй» здымала пра мяне фільм. Дакранулася да сцяны манастыра...

У Беларусь наша сям'я вярнулася пасля пяцідзясятых. Бацька працаваў журналістам, затым лектарам у Палескім абкаме партыі. Ужо рыхтавалі яго дакументы на пасаду сакратара абкама, і тут выявілася, што родная сястра маці сядзіць у лагеры. Уся віна яе была ў тым, што засталася на акупаванай украінскай тэрыторыі (як быццам людзі самі засталіся, а не доблесная Чырвоная армія кінула іх на волю лёсу), а да вайны выкладала ў школе нямецкую мову. І калі немцы заходзілі ў вёску, то яе прасілі весці перамовы: «У нас партызан няма. У нас толькі старыя і дзеці». Яе веданне мовы выратавала вёску, але не выратавала яе. Пасля вайны асабісты з ёй гаварылі на рускай мове: «Зачем ты учила немецкий язык? Знала, что начнется война?» Гэта цяпер здаецца смешным... праз шэсцьдзясят гадоў... А тады бацьку сказалі: або развод з жонкай, або пакладзі партбілет...

Тату выратаваў яго ваенны сябар — Лабанок, у той час сакратар ЦК. Ён дапамог захаваць партбілет і з'ехаць у вёску дырэктарам школы. Бацька захоўваў партыйнае пасведчанне да самай смерці, але ён вельмі кахаў маю маці. І каханне перамагло.

Гэта быў другі мой урок на чалавека... Я зразумела канчаткова, калі вырасла і шмат думала пра гэта: чалавекам можна застацца заўсёды. Хоць неяк пачула ад аднаго са сваіх герояў (і гэта ёсць у мяне ў кнізе): «Чалавека ў ча-

лавеку няшмат. Ножку венскага крэсла ў задні праход, як мне, — і чалавека няма. На мяне мачыліся і крычалі ў вуха: «Называй сваіх сяброў, разумнік, успамінай!» І я ўспамінаў...» Гэты чалавек 17 гадоў адседзеў на Калыме, і я яму не апанент. Ён быў там і даведаўся тое, што чалавеку ведаць не трэба. Мне, напэўна, проста ў жыцці шанцавала: маё сэрца вучылі дабром...

У дзяцінстве я была сарамлівая, і мая ўкраінская бабуля вучыла: «Ты людзей не бойся... Ты смела ідзі да чалавека, але будзь у яго душы, як у храме...»

А тэма акупацыі — гэта вялікая і яшчэ закрытая ў нас тэма. Я калісьці трохі пра яе сказала і памятаю, як на мяне абрынуліся знакамітыя партызанскія камандзіры: не руш святое. А я сказала пра тое, што з дзяцінства чула. Як баяліся днём немцаў, а ноччу партызан. Як адразу ж пасля вайны пайшлі эшалоны з «акупаванымі» на Поўнач... Як мне адна мінская падпольшчыца распавядала, што пасля вайны яе выклікалі ў школу, дзе вучыўся сын, і папрасілі: «...Не крыўдуйце, але мы перавядзём яго ў іншы клас. Гэты — самы лепшы ў школе, а ваш сын усё ж такі жыў «пад немцамі».

Калі ты быў у акупацыі, значыць, ты з таўром. А калі ты памыў бялізну нямецкім салдатам, каб зарабіць грошай і пакарміць галадаючых дзяцей, то ты — памагаты ворага.

Людміла Міхайлаўна Кашэчкіна, мінская падпольшчыца, гераіня французскага Супраціву, без слёз не магла ўспамінаць, як яна пасля вайны вярнулася і даведалася, што яе муж сядзіць. А яна прыехала ўся ў ордэнах, разам з мужам яны былі ў мінскім падполлі. Яна пайшла да следчага НКУС, які вёў справу, і гэта быў той самы следчы, што займаўся яе справай яшчэ да вайны і тады крычаў: «Французская прастытутка!».

Калі да вайны мужу ў НКУС зламалі адно рабро, то пасля вайны, калі яго зноў узялі і пакуль яна яго адтуль выдрапала, яму зламалі другое рабро і адбілі ныркі. Ёй вярнулі хворага старога.

З беларускага боку ў нас амаль не засталося сваякоў — бабуля, маці бацькі, загінула ў партызанах ад тыфу, два браты бацькі зніклі без вестак дзесьці на фронце, дзве сям'і далёкіх сваякоў спалілі ў іх дамах за сувязь з партызанамі... Я вырасла ў пасляваеннай беларускай вёсцы і згадваю, як мала там было мужчын. У памяці адны старыя жанчыны, можа быць, яны былі маладымі, але здаваліся мне старымі... Ад слёз, ад бяды, ад працы. З таго часу я любой вясковай старой гатовая ў ногі пакланіцца — як абразу.

Мы часта кажам «народ — герой», «народ — пераможца», але ніхто не любіць успамінаць, як народ прыніжалі. Гэта яшчэ цёмныя старонкі нашай гісторыі. Нам адкрылі толькі адну грань — гераічную. Можа быць, я калі-небудзь

напішу пра тое, як было жыць у партызанскім атрадзе прыгожай дзяўчыне... І што было з ёй, калі яна спадабалася камандзіру... Гэта трэба было выконваць, як загад...

А калі не... Маглі і забіць... Таму толькі аднаго партызанскага камандзіра за гэта і судзілі... Ды і судзілі толькі таму, што брат той дзяўчыны быў Героем Савецкага Саюза. З Масквы. Але справе не далі агалоску — у Перамогі павінен быць прыгожы твар...

Так што бачыце — у мяне няма маёй біяграфіі, асобнай ад маіх кніг.

# Творчая магістраль

Што я раблю трыццаць гадоў? З кнігі ў кнігу пішу, скажам так, аўтабіяграфію Утопіі... Камуністычнай ідэі. Гісторыю чырвонага чалавека. І гэтую гісторыю распавядае сам чалавек, кат і ахвяра аднačасова. Я думаю, што ўся наша бяда ў тым, што кат і ахвяры — гэта адны і тыя ж людзі. Геніяльная бальшавіцкая задума, я б не прыпісвала гэтую ідэю толькі аднаму Сталіну: спачатку — кат і ахвяра, а потым гэты самы кат ператвараецца ў ахвяру і ідзе тымі ж шляхамі пекла. І судзіць няма каго. Ідэю ці што судзіць? Але яна ж у галаве канкрэтных людзей... Часта добрых, вельмі добрых людзей... Родных.

Я памятаю, як тыя ж японцы прыехалі да маіх бацькоў. Першае пытанне бацьку:

— Вы камуніст?

— Быў і застаюся камуністам. Нічога лепшага за чырвоны сцяг няма. Так, вядома, былі памылкі...

— А вось ваша дачка антыкамуністка. Як вы да гэтага ставіцеся?

— Я яе люблю... Ганаруся... Але мы з ёй заўсёды спрачаемся. Яна не любіць Лукашэнку, а я галасую за яго. Ён захоўвае ранейшую краіну...

Я таксама любіла пры жыцці і люблю цяпер свайго бацьку, але мы з ім не чулі адно аднаго. Дыялог не атрымліваўся. Хоць ён, былы настаўнік гісторыі, і сам прызнаваўся, што на яго памяці гісторыю ўжо перапісвалі чатыры разы.

У нас непрадказальная не толькі будучыня, але і мінулае. Усё роўна ён хацеў застацца ў сваім часе... Дажыць у ім... Усё ж такі быў «савецкі чалавек», і ў яго былі свае ўяўленні пра каштоўнасці жыцця, пра герояў і пакутнікаў. І не так лёгка яму было выйсці з-пад наркозу ідэі, і, давайце будзем сумленныя, сацыялістычная ідэя не такая ўжо простая і прымітыўная, як нам здавалася. У ёй ёсць і праўда, і рамантызм... І кроў, і Калыма. І наогул, я ўсё часцей думаю, якія мы былі рамантыкі дваццаць гадоў таму: нам здавалася, што абрынецца крамлёўская сцяна і мы — вольныя. А выходзіць, што ўся справа не ў ідэі, а ў чалавеку. Ізноў усё ўпіраецца ў чалавека. У культуру. Калі Флабэр казаў

пра сябе: «Я — чалавек-пяро», то я скажу: «Я — чалавек-вуха». Размаўляю з людзьмі, слухаю вуліцу, нашы начныя чуванні на кухні і бачу ў адным чалавеку двух людзей.

Прыклад з «У вайны не жаночы твар». Жанчына плача і ціха расказвае... Як пасля вайны не магла хадзіць у мясныя крамы, бачыць, разбіраць мяса, таму што яна на вайне была санінструктарам і бачыла, як ад чалавека застаецца паўвядра цёплых парэшткаў... І пра тое, якія дзіўныя жывёлы коні... Як конь ніколі не можа наступіць на мёртвага чалавека, і як па-чалавечы коні стогнуць, калі параненыя... І плачуць... Божа! Ды ў кожным яе слове — глыбіня Дастаеўскага.

А потым з ёй, з гэтай жанчынай, мы гаварылі пра Гарбачова, Ельцына... І гэта ўжо зусім іншы чалавек, які ўраз стаў прасцейшым, больш прымітыўным, пакорлівым і спалоханым: мы пясочак маленькі... Мы не вінаватыя... Калісьці я ведала, што пакута ўзвышае чалавека, цяпер я ў гэтым не ўпэўненая. Пакута асобна, а жыццё асобна. І ўсё зноў паўтараецца... Вайна... Дыктатура...

Памятаю, неяк сядзім з маёй сяброўкай (дыпламатычны работнік) у маім вясковым доме (калісьці купіла, каб жыць сярод прыроды і прыродных людзей, сярод жывёл, нарэшце — таму што прырода і жывёлы там, дзе Бог — гэта дасканаласць). Дык вось сядзім мы з ёй... Заходзіць у двор сусед — пчаляр, рыбак, каларытны апавядальнік — і, убачыўшы амерыканку, адразу пра палітыку: маўляў, Лукашэнка любіць народ і абараняе яго ад амерыканцаў... І ад рускіх... Усе нас рабуюць, а мы вось добрыя. Госця пытаецца: «А гэта ваш двор насупраць?» — «Так». — «А чаму там такая гразь і гной на вуліцу выкідваеце з кароўніка?.. І плот добры не паставіце, хоць лес вакол? Хто вінаваты? Рускія ці амерыканцы?..» Сусед узлаваўся... Каб адказаць, трэба думаць, а думаць не прывучылі. Іх вучылі толькі верыць. Будзеш верыць — атрымаеш пайку.

І я іду за гэтым чалавекам... За «суседам па часе»... Няхай застанецца ў слове не аголеная ідэя і халодныя падзеі, а гэтая прапушчаная гісторыя (яна звычайна знікае ў вялікім) нашых пачуццяў — у што верылі, чаго баяліся... Якімі мы сталі...

## Шляхам церняў

У маім жыцці бывала рознае — і забарона на друк, і дэманстрацыйнае ігнараванне афіцыйных уладаў, і нават суд за сумленную кнігу пра Афганістан. Ад усяго гэтага можна стаміцца, але я ніколі не шкадавала, што стала пісьменнікам.

Што дапамагае ісці па жыцці?

Адказ банальны... Банальны і просты... Дапамагае любоў. Я люблю ўглядацца ў проста жыццё, у проста чалавека. Я люблю жыць. Люблю жыць да рызыкі. Часам падыду раніцай да акна і радасць — яшчэ адна раніца... Яшчэ адзін світанак... І я чую крыкі чаек над Свіслаччу. І вось сонца ўзыходзіць...

Я пішу... Дакладней, хачу пісаць такія кнігі, каб кожная была як бы напісана новым чалавекам. Мне нецікава рабіць тое, што я ўжо ўмею рабіць, таму свае кнігі пішу падоўгу — 7-8 гадоў. За амаль сорак гадоў напісала толькі пяць кніг, але яны перакладзены на дзясяткі розных моў ва ўсім свеце. Існуе ўжо больш за сто выданняў. Я кнігі не пішу, я імі пражываю жыццё. Гэта і мой шлях. Я нават не ведаю, кім бы я была, не стань журналісткай, гэта значыць я здабываю матэрыял журналісцкімі метадамі, але раблю з яго літаратуру. Калі б я не пісала, то, думаю, стала б настаўніцай.

Мой прадзед быў настаўнікам... Вучыўся разам з Якубам Коласам. Бацька і маці — настаўнікі... Тое, чым я цяпер займаюся, таксама ў нейкай ступені настаўніцтва. Я яшчэ з тых «былых» пісьменнікаў, якія не баяліся браць на сябе рызыку асветніцтва і не ператваралі літаратуру ў гульню. У знакі. Гэта добра, што я прайшла добрую журналісцкую школу — у «Сельской газете», у часопісе «Нёман». Вучыла не газета, вучылі людзі. Мне пашанцавала на настаўнікаў: Алесь Адамовіч — з яго еўрапейскім і талстоўскім поглядам на свет, Васіль Быкаў, Вячаслаў Кандрацьеў... Геніяльны рускі рэжысёр Анатоль Эфрас... Не! Я шчаслівы чалавек! Мне падабаецца жыць, і ўвесь час сустракаюцца людзі, якія любяць жыць...

Шчасце — гэта цэлы свет. Нам пра яго не казалі... І мы пра яго мала ведаем. Пра тое, колькі ў гэтым свеце куткоў, вокнаў, дзвярэй, ключыкаў. Складскіх памяшканняў. Гэта надзвычайны свет, у нас вельмі цьмянае ўяўленне пра яго. У кнізе «Цынкавыя хлопчыкі» салдат, які вярнуўся з Афганістана, так пра гэта кажа: «Калі ў мяне нарадзілася дзіця, я так нюхаў гэтыя пялёнкі... Так бег дадому, каб пачуць гэты пах. Гэта быў пах шчасця».

Гэта так важна. Нам трэба перабіць пах смерці, сярод якога мы выраслі.

Але я не люблю, калі чую: вы мужная, на вашым месцы... Калі ў мяне ад раку памірала сястра ў трыццаць пяць гадоў і я бліжэй пазнаёмілася з хірургамі-анколагамі, то назаўжды вызвалілася ад усялякай сваёй асаблівасці. Паспрабуйце дзіцяці сказаць, што ён смяротна хворы... Паспрабуйце гэта сказаць яго маці! Проста ў нас прафесія з падвышанай доляй рызыкі... І я — не герой!

У тым жа Афганістане, куды я паехала і адкуль вярнулася абсалютна свабодным чалавекам, быў выпадак, калі пайшла з нашай дэлегацыяй раздаваць цацкі і рэчы ў наш шпіталь. Ідзе насустрач маладая афганка з дзіцем на руках,

я аддаю яму плюшавага мішку, ён бярэ яго зубамі. Пытаюся: «Чаму зубамі?» Жанчына зрывае з яго коўдру, і я бачу — дзіця без рук і без ног. «Гэта твае... Рускія зрабілі!..» — крычыць яна. І я... Я страчваю прытомнасць...

Або калі нашых хлопцаў лыжкамі зграбалі з брані, каб хоць нешта роднае пакласці разам з зямлёй у труны, якія адвязуць іх маці...

Так, я магу гэта без канца працягваць... Як адна з маці ўжо ў Мінску стукала ў бяспамяцтве ў цынкавую труну: «Ты ці там, сынок? Ці ты там, сынок? Труна такая маленькая, а ты быў пад два метры...» Калі яе пазнаёмілі са мной, яна, захлынаючыся слязьмі, выла, менавіта выла, а не плакала: «Напішыце праўду... Іх нават страляць не навучылі, а адправілі на вайну. Ён не ў цір хадзіў, а дачу генералу рамантаваў. І яго «адстралялі ў першы ж месяц, як курапатку...» І я гэта напісала... І мяне судзілі за гэтую кнігу, што я «ўзвяла паклёп» на савецкіх герояў. Як быццам не было аднаго мільёна афганцаў. Я прыходжу ў суд... І каго я там бачу сярод тых, хто падаў пазоў? Я бачу там гэтую маці... Пытаюся ў яе: «А вы чаму тут? Я напісала праўду, пра якую вы казалі...» Яна мне адказвае... як зомбі: «Мне не патрэбна твая праўда, мне патрэбен «сын-герой». Гэта самае страшнае для мастака. Канфлікт з уладай... З царом... Ён быў заўсёды, мастак да яго не гатовы. А што сказаць гэтай маці? Нават смерць сына не адкрыла ёй вочы... Не зрабіла свабоднай...

Што з намі адбылося за гэтыя трыццаць гадоў, калі скончылася чырвоная цывілізацыя. Мы ў постсавецкай прасторы... Перакажу словы мастака Ілы Кабакова, якія люблю: раней мы змагаліся з пачварай, верачы, што ўсё зменіцца, калі мы яе пераможам. Мы перамаглі пачвару — азірнуліся, а трэба жыць з пацукамі, гэта значыць замест аднаго монстра вылезлі полчышчы монстраў. І жыць мы з імі не ўмеем.

Замест ідэі цяпер кажуць пра даляры... Пра «мерседэсы»... Не сорамна стала выхваляцца (рускі алігарх), што ў яго пазалочаны ўнітаз. І ніхто не скажа ўслых, што гэта сорамна. Што сорамна маўчаць, калі прэзідэнт, як старшыня заняпалага калгаса, гарлапаніць і прыніжае прынародна прэм'ера... І кажа «я пабудаваў», «я купіў»...

Калі прыязджаеш у Беларусь, адчуванне такое, што было падарожжа на машыне часу. Руская эліта таксама не асэнсавала, што адбываецца, а мы і тым больш. Нічога новага не з'явілася. Толькі лозунгі часоў «старой» «Нашай нівы». Ні новага пакавання, ні новых падыходаў. На мітынгі апазіцыі ходзяць адны і тыя ж людзі (як правіла, актывісты), і іх колькасць не расце. Культ спажывання... Краінаператварылася ў страўнік. Сёння можна зарабіць. У той жа вёсцы трымаць па некалькі свіней або кароў. Думалі, што людзі кінуцца вучыцца свабодзе, а яны кінуліся жыць. Вульгарны перыяд. Усе жадаюць усё паспрабаваць: еўрарамонты, падарожжа ў пляжнае замежжа і г. д.

Неяк была ў адной будаўнічай краме, а там працуе знаёмы. Распавядаў, што яны адкрытыя нават па выхадных днях. Людзі сёння не на плошчах, а ў будаўнічых крамах. Памятаеце дзевяностыя... Людзі хадзілі па крамах, як па тэатрах. Новае адзенне... Ежа... Рэчы... Я назірала такую карціну: адна жанчына выйшла ашаломленая на вуліцу: гранату б сюды. Логіка простая — яна купіць не можа, а хочацца. Агрэсія вечнай ахвяры.

Лукашэнка — больш складаная постаць, чым некаторыя думаюць. Ён сапраўды спыніў час... А наша нацыя сялянская, яна баіцца пераменаў. Нас чакаюць цяжкія часы, як у тых, хто спазніўся ў гісторыі. Але я — не палітык, я — мастак... Летапісец... Я стараюся сумленна пісаць час...»

*08.09.2017*



**З сястрой Тамарай**



**З чытачамі кнігі «У вайны не жаночы твар»**







З выдаўцом Барысам Пастэрнакам



З лепшай сяброўкай Таццянай Цюрынай

# Алена АНІСІМ



Хачу падкрэсліць: размову з Аленай Анісім мы задумалі за некалькі гадоў да таго, як яна стала дэпутатам Палаты прадстаўнікоў. А калі дайшла справа да дыктафоннага запісу, вырашылі абмежавацца толькі канстатацыяй самога факта прыналежнасці да беларускага парламента, у якім яна працуе ў камісіі па адукацыі, культуры і навуцы.

## Наканаваны выбар

«Я нарадзілася ў настаўніцкай сям'і 28 верасня 1962 года ў вёсцы Савані Стаўбцоўскага раёна Мінскай вобласці. Маю двух братоў: Віктар старэйшы за мяне на 13 гадоў, Анатоль — на 9. Абодва ўжо на пенсіі, адзін жыве ў Мінску, другі — на Стаўпеччыне ў вёсцы Låратокі.

Бацька, Мікалай Сцяпанавіч Амельчыц, выкладаў рускую і беларускую мовы, а таксама нямецкую, якую добра ведаў, таму што трапіў пад акупацыю, а да гэтага вучыўся ў гімназіі ў Стоўбцах. Сярод вяскоўцаў у яго быў вялікі аўтарытэт. Заўсёды запрашалі на сямейныя святы, накшталт вяселляў і хрэсьбінаў. Ён нават мірыў маладых, калі ў тых узнікалі сур'ёзныя спрэчкі.

Мама, Вера Іванаўна Амельчыц, выкладала матэматыку, а перад пенсіяй працавала выхавацелькай групы падоўжанага дня.

Так атрымалася, што найбольшы ўплыў на мяне аказаў бацька.

Добра памятаю, што першыя словы прачытала ўжо ў чатыры з паловай гады. Гэта была назва: «Настаўніцкая газета». Слова «настаўніцкая» я яшчэ асіліць не магла, а «газета» прачытала выразна. Бацькі вырашылі аддаць мяне ў школу раней часу. Па-першае, таму, што не было з кім пакідаць, а па-другое, яны ўсё роўна ішлі туды кожны ранак і проста пачалі браць з сабой.

Такім чынам школьніцай я стала ў няпоўныя шэсць гадоў.

Цяпер разумею, наколькі з іх боку гэта было правільна. Я расла і ўвесь час (у тым ліку і фізічна) падцягвалася да дзяцей, старэйшых за мяне на год.

У гэты ж час бацька прывучыў да канькоў, што стала захапленнем на бліжэйшыя дзесяць гадоў. Зімой я каталася кожны дзень. Браты вучыліся на

філфаку БДУ і, калі прыязджалі дамоў, чысцілі мне ад снегу ўсе бліжэйшыя стаўкі, сажалкі і нават кар'еры, якія пасля таго, як адтуль забіралі торф, залівала вадой.

Канешне, лёд далёка не заўсёды быў гладкім, а часта і зусім шурпатым, але прага да катання стала такой вялікай, што я не зважала на любыя недарэчнасці. Каталася дзе заўгодна, хоць па выслізганай дарозе.

Акрамя гэтага бацька істотна паўплываў і на тое, каб мой характар быў такім, якім ён стаў цяпер. Мяккі па-жаночаму, але і па-мужчынску дастаткова прамалінейны і прынцыповы.

На ўсё жыццё мне запомнілася шмат яго фраз. Прывяду толькі адзін прыклад. Калі ў падлеткавым узросце ў мяне нешта не атрымлівалася і я моцна нервавалася-злавалася, ён казаў: «Я ў тваіх бедах не вінаваты».

Гэта ставіла ўсё на месца. Я навучылася ў сваіх бедах вінаваціць толькі сябе.

А яшчэ бацька моцна паўплываў на крытычнае стаўленне да таго, што сёння называецца прапагандай. Ён ніколі не імкнуўся ўступіць у партыю, што прывіваў і сваім дзецям. А яго маці (мая бабуля Сарафіна) была і ўвогуле антысаветчыцай. Заходняя Беларусь усё ж...

Дарэчы, маці паходзіла з Беларусі Усходняй. Яна родам з вёскі Сакольнікі, якая, напэўна, ужо стала часткай Віцебска.

Такім чынам, у нашай сям'і як бы паядналіся дзве часткі Беларусі. І гэта крышачку адчувалася. Памяркоўная, ціхмяная маці і баявы, крытычна настроены да Савецкай улады бацька.

Вучылася я выдатна.

Пасля васьмі класаў рыхтавалася пступаць у радыётэхнічны тэхнікум, які цяпер стаў каледжам. Мы з татам нават ездзілі ўсё там паглядзець, аднак перад тым, як я павінна была ехаць падаваць дакументы, ён задумліва сказаў: «Канешне, ты, Алена, можаш рабіць, як хочаш, але там трэба працаваць з машынамі, а табе можа лепш з людзьмі»...

Прагучала не як забарона — проста меркаванне, падказка, аднак тыя словы прымусілі моцна задумацца.

Я пайшла ў дзявяты і дзясяты класы, што азначала пераход з «васьмігодкі» ў сярэднюю школу вёскі Залужжа. Ад нас гэта шэсць кіламетраў. У цяпло кожны дзень ездзілі на роварах. А зімой жылі там «па кватэрах».

У піянерскім узросце ў «васьмігодцы» я ўвесь час абіралася старшынёй савета атрада, а потым старшынёй савета дружыны. А вось ужо на новым месцы ніякіх грамадскіх пасадаў не займала, таму што, паўтаруся, была на год малодшая за аднакласнікаў, і ў камсамол мяне прынялі толькі ў дзясятым класе.

І тое толькі таму, што патэнцыяльная медалістка ў тыя часы не магла размінуцца з ВЛКСМ...

Гэта да таго, што некаторая грамадская актыўнасць была мне ўласціва з маленства. Заўсёды з задавальненнем удзельнічала ў мастацкай самадзейнасці, чаму актыўна спрыялі бацькі.

Варта ўзгадаць, што мая маці добра іграла на гітары. У маладосці яна ўваходзіла ў склад настаўніцкага школьнага ансамбля. Увогуле тады была натуральная традыцыя спяваць сямейным колам. Напрыклад, мой бацька ведаў акрамя процьмы беларускіх песняў шмат украінскіх.

Памятаю, у нас меўся нават зборнік песняў на беларускай мове.

Я таксама хацела скончыць яшчэ і музычную школу. І нават туды паступіла, аднак месцілася яна ў Стоўбцах, а ездзіць не заўсёды атрымлівалася, таму ад захаплення прыйшлося адразу адмовіцца. Бацька нават купіў акардэон, і я саматугам вучылася на ім іграць.

У тыя ж часы перамагла на абласным конкурсе сачыненняў, пра што сведчыць адпаведны дыплом.

Сярэднюю школу скончыла з залатым медалём. Маці — матэматык, бацька — філолаг, таму я крыху вагалася з жыццёвым выбарам, хоць адназначна марыла стаць настаўніцай. Урэшце перамог тата. Разважала так: «Матэматыку я сама разумею, але ці змагу гэта растлумачыць дзецям так, каб зразумелі яны...»

Для пятнаццацігадовай дзяўчыны гэта стала галоўным аргументам, і я падала дакументы на філалагічны факультэт БДУ.

## Матэрыялізацыя выбару

Як медалістцы мне патрабавалася здаваць адзін іспыт. Без праблем атрымала вышэйшы бал і паступіла.

Акрамя вучобы і лагічнага ўдзелу ў мастацкай самадзейнасці нашага факультэта была і яшчэ адна «фішка». Мой старэйшы брат Віктар (на філфаку вучыліся абодва) у свой час быў перакладчыкам у гасцей з Польшчы.

Я таксама пачала працаваць з турыстамі, толькі з Чэхаславакіі. Мову вывучыла разам з аднакурснікамі ў складзе адпаведнай групы, многія з іх па маім прыкладзе таксама ездзілі перакладчыкамі. Дарэчы, славацкая мова больш падобная да беларускай, чым чэшская.

А брат Анатоль не абмінаў будаўнічыя атрады, чым таксама стаў для мяне прыкладам. Пасля першага курса (нягледзячы на ўзрост, які афіцыйна забараняў працаваць) мы выправіліся ў Бярэзінскі раён на цагляны завод.

Так, цяжка, але ўсё кампенсавала маладосць і прыгажосці Бярэзіны!

Наш будаўнічы атрад быў жаночым. Недзе ў сямейным альбоме захаваліся (вельмі дрэнныя па якасці) фотаздымкі тых часоў — маладыя дзяўчаты здымаюць з канвеера па 4—5 цаглін... Бацька вельмі хваляваўся за мяне і нават прыязджаў паглядзець, як мы там жывем. Такая адказнасць!

Наступным разам паехала працаваць у Малдову, збіраць ураджай памідораў і гарошку. Гэта 1980-ы, год Алімпіяды ў Маскве. Усе штатныя актывісты працавалі там, а мы зноў сфарміравалі філфакаўскі будатрад «Мара», які існаваў ужо шмат гадоў. Легендарны. Са сваімі традыцыямі.

Дарэчы, менавіта ў гэты час я цалкам перайшла на беларускую мову. Калі з бацькамі ніякіх праблем не мела, то па месцы вучобы адчуваўся пэўны дыскамфорт. Выключна псіхалагічнага плана. Яно і зразумела. Калі яшчэ ўчора ты размаўляў «как все», а сёння цалкам перайшоў на беларускую, то ўзнікаюць нейкія пытанні. Хай ён і кароткі, але гэты перыяд патрабавалася вытрымаць і перастаць вагацца. А ўжо на трэцім курсе я суправаджала турыстаў з Чэхаславакіі і ўвайшла ў «Майстроўню».

У 18 гадоў чалавек — фактычна сфарміраваная асоба і робіць асэнсаваны выбар, таму «Майстроўня» для мяне стала нечым магістральным у жыцці. Было прыемна ўсведамляць, што побач з табой шчырыя сябры і аднадумцы. Асяроддзе — надзвычай важна.

Думаю, сітуацыя ў гэтым сэнсе была даволі спрыяльнай. Сярод маіх аднагрупнікаў і аднакурснікаў вельмі вядомыя людзі — Вінцук Вячорка, Сяргей Запрудскі, кандыдат філалагічных навук Вераніка Курцова, якая сёння працуе ў Акадэміі навук, магілёўскі паэт Сяргей Украінка, на жаль, ужо адышоўшая ў лепшы свет паэтка Ала Канапелька і інш.

Нічога ў нашым жыцці не бывае бессэнсоўным, усё пакідае свой адбітак. Мне вельмі пашанцавала з тымі, хто стаяў побач, з тымі, хто вучыў жыць. Карыстаючыся момантам, нагадаю свайго класнага кіраўніка, настаўніцу беларускай мовы Любоў Ульянаўну Войнa і ўніверсітэцкага выкладчыка Яўгена Міхайлавіча Камароўскага, які зрабіў першы пасляваенны правапіс беларускай мовы. Яны навучылі мяне адказнасці, мэтанакіраванасці і прынцыповасці.

Нягледзячы на тое, што сустрэчы «Майстроўні» праходзілі на філфаку, яе нельга назваць «філфакаўскай», бо там было багата студэнтаў з іншых факультэтаў і ВНУ — хімікі, журналісты, гісторыкі, эканамісты і інш.

Нам давалі нават актавую залу. Напэўна, гэтаму спрыяла тое, што нашым выкладчыкам быў светлай памяці Ніл Сымонавіч Гілевіч, з яго аўтарытэтам і прыязнымі адносінамі да ўсяго беларускага.

У «Майстроўні» мы «ставілі» «Цара Максіміліяна», а Ларыса Сімаковіч вучыла спяваць. А яшчэ ладзілі розныя народныя святы. Накшталт «Гукання

вясны» 1982 года. А на адным са святаў сустрэліся са спявачкай Валянцінай Пархоменка. На той момант, здаецца, ужо народнай артысткай Беларусі.

Дарэчы, на іншым факультэце БДУ (механіка-матэматычным) вучыўся і мой будучы муж Валерый. У 1982 годзе ён скончыў вучобу і размеркаваўся на мінскі «Інтэграл», а ў 1983-м мы пабраліся шлюбам. Я перайшла тады на пяты курс. Праз дзесяць дзён пасля абароны дыплома нарадзіла старэйшага сына Аляксандра.

Дэкрэтны адпачынак быў толькі паўтара года, літаральна некалькі тыдняў я адпрацавала ў дзіцячым садку і нарадзіла другога сыночка Мікалая.

Калі яму споўніўся год, выйшла на працу ў сталічную 55-ю сярэднюю школу. Выкладала там беларускую мову і літаратуру, а ўсяго праз пару месяцаў, паколькі гэта была толькі кадравая замена, перайшла ў школу №71, цяпер гімназію. Першы запіс у працоўнай кніжцы там зрабілі 25 жніўня 1986-га.

Адпрацавала пяць гадоў.

На жаль, бацькоў ужо няма. Спачатку ў лепшы свет адышоў бацька. Пасля таго маці пачувала сябе вельмі кепска, я знаходзілася побач і кожны дзень з родных Саванёў ездзіла ў Мінск на працу. Пехам 3 км у Асіпаўшчыну, а там электрычкай паўтары гадзіны да мікрараёна Курасоўшчына.

Вярталася ў 10—12 гадзін вечара, а ў 5 раніцы падымалася зноў.

Гэта доўжылася адну вучэбную чвэрць, а потым я забрала маму да сябе ў Мінск. Падыходзячую кватэру знайсці было надзвычай цяжка, жылі ў адным пакоі ўсе разам, упяцярых.

Праз пэўны час мужу, як маладому спецыялісту, прапанавалі пабудаваць «кааператыў», і ў 1988 годзе мы пераехалі ў чатырохпакаёўку на Паўднёвым Захадзе.

Шмат хто памятае тыя часы — чэргі, перапоўнены транспарт, татальны дэфіцыт...

Дзяўчатам хацелася апранацца модна, разнастайна, але не атрымлівалася. Банальна не мелася такой магчымасці, таму, як гусяняты, усе хадзілі ў аднолькавым. Памеры розныя, мадэль адна і тая ж... Не разумею тых, хто марыць пра «светлае ўчора»...

У 1991 годзе стаўся «бум» на добрае веданне беларускай мовы дый беларушчыны ўвогуле, і з Акадэміі навук шмат хто перайшоў на працу ў Саўмін альбо ў Вярхоўны савет. Нягледзячы на скарачэнне, кадраў там не хапала, і я падала дакументы на ўдзел у адпаведным конкурсе, пра які даведалася ад маёй сяброўкі Веранікі Курцовай. І атрымалася.

У школе адпускаць не хацелі, адпрацавала там, як кажуць, «дзень у дзень», і 14 мая 1991 года я ўладкавалася ў Інстытут мовазнаўства Нацыянальнай акадэміі навук (НАН) Беларусі.

# Прафсаюзны выбар

Канешне, працаваць у школе з дзецьмі нялёгка, аднак сярод бюракратаў — яшчэ цяжэй. Колькасць паперак тады была вялікай, але гэта нішто, калі параўноўваць з тым, што ёсць цяпер...

Праз год працы на новым рабочым месцы нарадзіла трэцяга сына, Уладзіміра. А калі ў 1995-м зноў выйшла на працу, адразу атрымала прапанову ўвайсці ў прафсаюзны камітэт. Шчыра кажучы, гэтая прапанова мне не вельмі спадабалася, бо, ведаючы свой характар, разумела, што не змагу цынічна «адбываць нумар».

Угаварылі і хутка абралі намесніцай, а неўзабаве старшыня прафкама Іван Дода з'ехаў на стажыроўку ў Польшчу, мяне «кінулі» на яго месца.

Так бывае заўсёды, калі чалавек не адмаўляецца адразу...

Але, з іншага боку, новая якасць прывяла да таго, што мяне пачалі ўспрымаць як пэўнага лідара. Калі выконваеш свае абавязкі належным чынам, так, як сам лічыш неабходным, то абавязкова сутыкнешся неўзабаве з начальствам. Не, гэта не канфлікты. Гэта адстойванне пазіцыі шараговых супрацоўнікаў, бо прафсаюзная дзейнасць — не толькі культурніцкія мерапрыемствы. Яна — абарона правоў тваіх калег.

Было нялёгка, асабліва, калі прафбос краіны Уладзімір Іванавіч Ганчарык вырашыў прыняць удзел у прэзідэнцкіх выбарах. Фактычна ўсе мы ўвайшлі ў яго каманду, што на практыцы азначала перманентную напружанасць у адносінах з выканаўчай уладай. Да таго ж я была членам Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі.

Атрыманы тады досвед вельмі прыдасца, калі пачну прымаць удзел у выбарах сама.

У 1999 годзе мяне дэлегавалі на гарадскую канферэнцыю Таварыства беларускай мовы ад акадэмічнай суполкі. Арганізацыю тады ўзначальваў светлай памяці прафесар Аляксей Саламонаў.

Выконвала абавязкі сакратара і рабіла гэта так добрасумленна, што ён сказаў: «Хачу бачыць цябе на сваім месцы». Канешне, было прыемна, але і крыху дзіўна.

Прафесар як у ваду глядзеў. І неўзабаве ўзначаліла гарадскую арганізацыю ТБМ (2000 год) і была яе кіраўніком аж да 2014-га, калі на змену прыйшоў Аляксандр Давідовіч.

У гэтыя ж часы я ўваходзіла ў Рэспубліканскі савет, а нейкі перыяд нават узначальвала Савет старшыняў прафсаюзных арганізацый Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, куды ўваходзілі і даволі буйныя структуры. Гэта быў вельмі карысны досвед.

Наш акадэмічны прафкам месціўся ў памяшканнях акадэмічнага Інстытута гісторыі НАН. Паколькі інстытуцкая арганізацыя была невялікай, то кіравала суполкай на грамадскай аснове.

# Выбар «Новага часу»

Пачынаючы з 2000 года, я вельмі цесна «завязалася» на Таварыства беларускай мовы, таму да актыўнай дзейнасці ў прафсаюзах дадаўся яшчэ і гэты накірунак. У сэнсе актыўнасці не меншы, а часам і нават большы. Спачатку ачольвала сталічную арганізацыю ТБМ, потым была звычайным намеснікам старшыні, а з 2014 года — першым намеснікам.

У 2002 годзе мы запачаткавалі газету «Новы час». Скажу шчыра, у той момант далёка не ўсе ў яе верылі і хацелі рабіць. Маўляў, навошта — дастаткова «Нашага слова». Я была сярод тых, хто лічыў, што акрамя таго, што ёсць, патрэбна газета больш высокага ўзроўню, большай чытацкай аўдыторыі. Хацелася зрабіць выданне інтэлектуальнага кшталту, цікавае не толькі сябрам нашай арганізацыі, але і іншым. Распрацавалі канцэпт, прыдумалі назву, вырашылі прызначыць галоўным рэдактарам Кастуся Тарасава. Патрабавалася толькі знайсці чалавека, які б афіцыйна фігураваў як заснавальнік. Прапанавалі гэта Трусаву, аднак Алег Анатольевіч прапанаваў замест сваёй асобы Мінскую гарадскую арганізацыю ТБМ, якую на той момант ачольвала я.

З задавальненнем пагадзілася зрабіць апошні крок, узяла падрыхтаваныя дакументы і пайшла ў Міністэрства інфармацыі. Як і чакалася, там іх браць не захацелі, бо ішоў ужо, паўтаруся, 2002 год, і для незалежных выданняў, скажам мякка, узнікалі пэўныя цяжкасці. Асабліва, калі тэматычна прадэкляраваны грамадска-палітычны кірунак... У міністэрстве я пачала пералічваць усе неабходныя для рэгістрацыі дакументы. Не хапіла так званага «рэгістрацыйнага збору», які заўчасна не стала рабіць наўмысна, бо не ведала, да чаго канкрэтна прычэпяцца. Хуценька яго аплаціла і літаральна прымусіла зафіксаваць заяўку. Праз пэўны час патэлефанавалі з Міністэрства інфармацыі і прапанавалі забраць пасведчанне аб рэгістрацыі.

Вельмі сімвалічна, што яго выдалі 25 сакавіка 2002 года, то бок у гэты Дзень волі мы святкуем яшчэ і 15 гадоў існавання «Новага часу». Для мяне было надзвычай прынцыпова забраць яго менавіта 25 сакавіка.

Памятаю, у Доме ветэранаў у гонар Беларускай Народнай Рэспублікі ладзілі імпрэзу, і я з радасцю паказвала тое пасведчанне.

Умоўна дзейнасць любой газеты можна падзяліць на дзве часткі — творчую і адміністрацыйную. Творчай часткай займаўся Кастусь Тарасаў, усім астатнім — я.

Праз пяць гадоў да нас прыйшла творчая каманда ліквідаванай уладамі «Згоды», што, на мой погляд, цалкам слушна, бо дазволіла многім прыстойным людзям захавацца ў прафесіі.

Па вялікаму рахунку, кадравыя перамены не прывялі (і не маглі прывесці) да змены нейкіх арыенціраў, таму што рэдакцыя з самага пачатку прытрымлівалася грамадска-палітычнага кірунку дзейнасці. Пэўныя асветніцка-культурніцкія элементы былі ад самага пачатку, але яны ніколі не дамінавалі над імкненнем да масавасці.

Варта таксама дадаць падрыхтаваныя ТБМ разнастайныя слоўнікі, беларускі варыянт правіл дарожнага руху, праекты законаў і г. д.

За пятнаццаць гадоў існавання «Новага часу» можна прыгадаць шмат адметных падзей, але галоўным (на мой погляд) сталася тое, што закладзенае Кастусём Іванавічам Тарасавым працягваў Аляксей Сцяпанавіч Кароль, а цяпер паспяхова рэалізуе Аксана Мікалаеўна Колб — накіраванасць на знакамітыя, славутыя постаці Беларусі. Як у гісторыі, так і ў сучаснасці. Гэта было з самага пачатку, гэта ёсць і сёння.

Мне здаецца, такая лінія «Новага часу» вельмі важная, бо чалавек, які чытае выданне з моманту яго стварэння, можа бачыць тое, што адбывалася ў даўніну, якія тады былі людзі, хто штурхаў, тварыў гісторыю, пакінуў у ёй след. І ведаць, якія постаці ёсць сёння, што канкрэтна яны робяць.

«Новы час» — беларускі час, які бярэ свае вытокі ў мінулым і накіраваны ў будучыню».

*12.03.2016*




**За штурвалам расійскага ваеннага карабля**



**З Наталляй Плаксай падчас выбарчай кампаніі 2016 года**



З Янінкай Салаўёвай і яе матуляй

# Алесь АРКУШ



Калі нехта думае, што добрыя пісьменнікі павінны жыць толькі ў сталіцы, то ён глыбока памыляецца. Можна прывесці шмат прыкладаў, сярод якіх абавязкова сустрэнецца прозвішча Алеся Аркуша. Што сведчыць аб адсутнасці залежнасці наяўнасці (во — накруціў!!!) таленту ад пашпартных даных. Калі ж гаварыць без падобных «прышпілаў», то ўсё жыццё Алесь Аркуш нечага прагне. Перш за ўсё — перамен. І не толькі літаратурных.

## Прага жыцця

«Вядома, што радавод кожнага з нас умоўна дзеліцца на два напрамкі: «па кудзелі» і «па мячу». То бок па лініі маці і па лініі бацькі. Абодва мае дзяды паходзяць са Смалявіцкага раёна. Дзеда «па кудзелі» звалі Захарам Андрэевічам. Без перабольшванняў ён быў унікальным чалавекам. У маладосці са стрыечным братам з'ехаў у Амерыку зарабляць грошы. Пасля вяртання ў 1917 годзе на бацькоўскім хутары Арлова пачаў ладзіць сваю сельскую гаспадарку.

Калі арганізоўвалі калгасы, яму загадалі перавезці дом у вёску Бабін Лес. Там на могілках, дзе капліцу пабудавалі мае продкі, ён і пахаваны. На пераезд дзед не пагаджаўся. Двойчы яго арыштоўвалі. Адзін раз напісалі ў даносе, што агітуе супраць калгасаў, але сяляне з суседніх вёсак пачалі дружна сведчыць, што гэта подлы паклёп. Двойчы вызвалялі з турмы.

1941 год. Дзеду саветы сказалі: або перавозіш свой дом, або едзеш у ГУЛАГ. Дом ён ужо разабраў, але перавезці не паспеў. Пачалася вайна. Хату склаў на ранейшым месцы. Аўтарытэт дзеда быў такім высокім, што, калі немцы пачалі ствараць уладу, сяляне аднагалосна абралі яго старастам.

Некалькі гадоў таму я пацікавіўся ў старэйшай сястры мамы пра дзеда Захара. Алена Захараўна з 1922 года нараджэння і памятала падзеі нават даваенныя. Яна мне напісала ліст і патлумачыла, як здарылася гісторыя са старраствам Захара Андрэевіча. «За немцамі 1941 год усе працавалі разам у калгасе. Зерне дзялілі па 200 грамаў на аднаго сем'яніна, гэта спачатку, пасля зусім нічога. У 1942 годзе зямлю падзялілі: на вялікую сям'ю — па 7 гектараў,

на сям'ю з 2—3 чалавек — па 3,5 гектара. Тата да вайны быў членам сельсавета (хоць і не калгаснікам). Членаў сельсавета абіралі на агульным сходзе грамадзян. Для таго, каб дзяліць зямлю і сачыць за парадкам, таксама на агульным сходзе яго абралі старастам. На гэтым сходзе ў вёсцы Бабін Лес я асабіста была і добра ўсё памятаю. А неўзабаве мы з татам ужо сталі сувязнымі і забеспячэнцамі партызанскай брыгады «Смерць фашызму». Вось такая гісторыя пра стараства».

Дзед пачаў выконваць заданні партызан. У прыватнасці, ездзіў у Смалявічы па прадукты і іншыя рэчы, прывозіў са сваіх «службовых» паездак каштоўную інфармацыю. Адна з такіх паездак закончылася трагічна.

Аднойчы, калі вёз партызанам торбу з цыгарэтамі, яго спынілі паліцаі, пачалі высвятляць, куды столькі цыгарэт, моцна збілі. Дзед упарта казаў, што збіраецца іх мяняць у чыгуначнікаў на хлеб. Дзеда, ледзь жывога, адпусцілі, а цыгарэты забралі. Хутка Захар Андрэевіч ад збіцця памёр. Было гэта ў 1944 годзе, перад самым вызваленнем. Напэўна, ад дзеда Захара і перадалася мне прага свабоды, прага непадпарадкавання і імкненне да самастойнасці.

Дзед «па мячу» — начальнік Жодзінскай чыгуначнай станцыі. Трэба было прапусціць апошні савецкі эшалон, які ішоў у тыл, таму эвакуявацца яму не дазволілі. Прыйшлося, як кажуць, застацца «на часова акупаванай тэрыторыі». Зразумела, савецкія спецслужбы ўсіх іх завербавалі і яны актыўна кантактавалі з партызанамі, якім дапамагалі не толькі інфармацыяй. Аднойчы прыйшоў добра знаёмы немец і папярэдзіў пра арышт і пра тое, што ў дзеда, каб уцячы, застаецца адна ноч. Той пасадзіў на падводу сям'ю, і яны ноччу з'ехалі ў партызаны. Ваяваў дзед у атрадзе «Смерць фашызму», а звалі яго Антонам.

У дзеда Антона было шасцёра дзяцей, а ў дзеда Захара — васьмёра.

Імя майго бацькі — Барыс, а маці — Ганна. Пазнаёміліся яны ў Жодзіне.

Спачатку гэта было невялікае мястэчка, потым пабудавалі электрастанцыю, дзе працаваў брат маёй маці Уладзімір. У яго нейкі час мая маці і жыла.

Вяселля ў маіх бацькоў не было. Яны проста распісаліся і сталі разам жыць. Здарылася тое ў 1959 годзе, а 28 траўня 1960 года нарадзіўся я. Праз чатыры гады з'явіўся малодшы брат Віктар. Ён аб'ехаў увесь свет, бо працуе рамонтнікам-наладчыкам БелАЗаў, якія пастаўляюцца ад Кітая да Чылі.

# Прага ведаў

Мне было толькі два гады, калі бацькоў накіравалі ў Манголію, дзе мы жылі ў невялічкім гарадку Тасон. Там стаяў дрэваапрацоўчы камбінат з асабістай цеплавой электрастанцыяй, і бацька вучыў манголаў, як трэба на ёй працаваць.

Хоць пасля вяртання ў Беларусь мне было толькі пяць гадоў, добра памятаю тыя горы і як мы з бацькам хадзілі лавіць харыусаў і тайменяў. Аднойчы я сабраў «малую шантрапу», і мы пайшлі ў горы. Нас доўга шукалі. Памятаю, як знайшлі там нейкую пячору, дзе быў манастыр і некалі жылі манахі.

Дасталося тады ад бацькоў даволі моцна...

Нагадаю, што горад Жодзіна паўставаў з таго, што запрудзілі маленькую рэчку Пліса (націск на апошні склад. — **Заўв**. **аўт**.), зрабілі вадасховішча і пабудавалі цеплавую электрастанцыю. У той час існаваў толькі невялікі пасёлак, і гарачую ваду не было куды дзець, таму маё дзяцінства нагадвала сапраўдны рай. Так бы мовіць, узнікла штучная тэрмальная крыніца. Наш пасёлак называўся ГРЭС. Сёння гісторыю гэтага кутка ў Жодзіне ведаюць усе. Некалі пасёлак быў абсалютна самастойным. Там працаваў свой рэстаран, мая любімая кнігарня (як я яе любіў!), школа, крамы, лазня, сталоўка, пошта і нават будынак гарсавета ў той час быў менавіта ў нас.

Усё маё дзяцінства прайшло менавіта там, аб чым напісана ў шматлікіх эсэ і апаведах. Тыя гады, прыгоды, сябры, з якімі мы стварылі рок-гурт, цяпер успамінаюцца з нейкай настальгічнай цеплынёй, хаця мой стрыечны брат, вядомы архітэктар Сяргей Казлоўскі, мае рацыю, калі кажа, што мы жылі ў самым крымінальным месцы Жодзіна.

Сапраўды, каб прыехаць да нас на танцы, патрабавалася альбо набрацца вялікай смеласці, альбо мець моцны «дах» у выглядзе сяброўства з кімсьці з мясцовых «аўтарытэтаў».

Апошніх мы добра ведалі. Скончалі яны (доўга не жылі) або ў турмах, або ў нейкіх крымінальных «разборках». Але сваіх, жыхароў пасёлка, яны ніколі не чапалі. Фактычна жылі такой вялікай вёскай, а ў вёсках крымінальнікі ніколі не чапаюць сваіх. Нават калі тыя значна слабейшыя. Чужых могуць пабіць, сваіх — не.

Наша вадасховішча называлі Брызгалаўка. Яшчэ мне вельмі падабалася Судабальскае возера. Чароўнае месца! Да яго тры-чатыры кіламетры. На роварах мы ехалі туды на цэлы дзень, знаходзілі лодкі, схаваныя ў хмызняках, і лавілі з іх карасёў сярод лабірынтаў чароту.

Настальгія...

Светлыя дзіцячыя ўспаміны — рыбалка, Судабальскае возера, ранішняя пара над Брызгалаўкай, якая ніколі не замярзае...

У школу №1, якая носіць імя Пятра Купрыянава, у 1967 годзе я і пайшоў. Адвучыўся там восем гадоў. Адразу стала відавочна, што лягчэй даецца ўсё гуманітарнае, але маці сказала, што трэба атрымаць нейкую «запасную» прафесію, і параіла ісці ў Жодзінскі палітэхнікум. Маўляў, потым, калі пачну вучыцца ва ўніверсітэце, можна будзе скарэктаваць прафесію.

Так і зрабіў.

Мая спецыяльнасць называлася «аўтатрактарнае электраабсталяванне», хоць па гэты дзень амаль нічога не цямлю ў падобнай справе. Як кажуць — «не маё».

У гэты ж час бацькі зноў паехалі ў Манголію. Малодшага брата ўзялі з сабой, а мяне пакінулі «на цётку», то бок родную сястру маці Лідзію Захараўну. Гэта маці ўзгаданага вышэй Сяргея Казлоўскага.

Ён старэйшы за мяне на 4 гады. Заўсёды быў сапраўдным інтэлектуалам. Пісаў лісты ў армію, раіў працягваць вучобу.

Палітэхнікум стварылі на базе БелАЗа для падрыхтоўкі сваіх кадраў. Перыядычна мы праходзілі там практыку, і размеркаванне, натуральна, я атрымаў туды ж. Дакладней, у канструктарскае бюро. Рабіў нейкія чарцяжы, але да войска заставалася зусім мала часу.

Дарэчы, трапіў туды з пэўнымі прыгодамі. Напэўна, так мне адпомсцілі за жаданне пасля вучобы ўбачыць бацькоў... Маўляў, «не вернешся назад»... Але я ўсё ж, хоць і са скандалам, аднак дамогся, каб адпусцілі перад арміяй выехаць за мяжу. І за гэта паплаціўся...

Атрымалася так. Калі з ваенкамата прыйшла павестка, з Манголіі прыехаў бацька зрабіць провады. Мы развіталіся, аднак у той самы дзень з размеркавальнага пункта ў Смалявічах мяне вярнулі назад — няма патрэбнай «каманды». Праз пэўны час ЗНОЎ прыйшла павестка, і бацька ЗНОЎ зрабіў провады. І ЗНОЎ мяне вярнулі. Толькі на гэты раз з Мінска. Тады ў бацькі лопнула цярпенне. Ён бярэ мяне «за шкірку» і вязе ў нейкі мінскі штаб. Там не сталі больш здзекавацца і параілі самім ехаць у Печы і выпісалі нейкае накіраванне. У тамтэйшай вучэбцы ўжо месяц ішлі заняткі з навабранцамі, але мяне (не без смеху ў штабе) нарэшце забралі служыць.

Размеркавалі ў сяржанцкую вучэбку. Старшыня роты, калі даведаўся адкуль я родам, накіраваў ва ўзвод, дзе «замкамам» быў Косця Бараноўскі, з якім мы раней вучыліся (ён на год раней) у Жодзінскім політэхнічным тэхнікуме.

Можна сказаць, пашанцавала. Ніякай палёгкі, але ніхто мяне не прэсаваў.

Пасля вучэбкі размеркавалі на перавалачную базу ў Брэст. Гэта сапраўдны «трэш». Высветлілася, што камандаваць я буду (пасля паўгода службы) аддзяленнем «дзядоў», то бок стараслужачых, паколькі ў той батальён набіралі людзей паўзводна аднаго прызыву.

Хто служыў, зразумее, наколькі тое складана...

Мяне ніхто не слухаўся, але ніхто і не чапаў...

Потым гэты прызыў «дэмбяльнуўся», і стала значна прасцей.

У час службы я ліставаўся з сябрам па палітэхніцы Сашам Хомічавым, і мы вырашылі разам паступаць у прэстыжны наргас. «Праляцелі», канешне, але

мяне ўзялі на падрыхтоўчае аддзяленне, і праз год я стаў студэнтам. Сёння такой спецыяльнасці ўжо няма. Яна называецца па-іншаму, напэўна, які-небудзь «маркетынг». А за савецкім часам я вучыўся на планава-эканамічным факультэце на спецыяльнасці «матэрыяльна-тэхнічнае забеспячэнне».

У 1987 годзе скончыў наргас і па размеркаванні паехаў у Наваполацк.

# Прага перамен

У Наваполацку адбылася кардынальная змена ў маім лёсе.

Вершы я пачаў пісаць яшчэ падчас юнацтва. Іх друкавалі не толькі белазаўская і наргасаўская шматтыражкі, але і вельмі салідныя выданні, накшталт маскоўскага «Студенческого меридиана» і мінскай «Рабочей смены», якая потым стала «Парусом».

У Мінску пачаў шукаць адпаведнае асяроддзе і трапіў у літаб'яднанне «Восхождение» расійскай паэткі Валерыі Маргуліс. Яно працавала пры будаўнічай шматтыражцы. Збіраліся ў доме, які знаходзіцца ў самым пачатку вуліцы Карла Маркса. Дарэчы, разам са мной літаб'яднанне наведвала будучая жонка вядомага паэта Леаніда Галубовіча Вера Лойка.

Калі я туды стаў хадзіць, то спачатку нават не мог уявіць, што ёсць нейкія маладыя людзі, чыя творчасць звязаная з беларускай мовай, бо яна падавалася мне чымсьці архаічным, выключна сялянскім, абсалютна не сучасным.

У 1984 годзе выдаў сваю першую «самапальную» кніжку «Дыхания», цалкам рускамоўную. Зборнічак падпольна збрашуравалі ў друкарні «БелАЗа». Літаратараў, якія пішуць на беларускай, я сустрэў толькі ў наступным годзе — Леанід Дранько-Майсюк, Анатоль Сыс, Уладзімір Сіўчыкаў, Уладзімір Сцяпан. Хутка перайшоў на мову і сам. Стаў Алесем Аркушам.

Так атрымалася, што больш шчыльныя сувязі мая сям'я падтрымлівала са сваякамі маці.

Яе дзявочае прозвішча Пятровіч, як псеўданім сучаснага кіраўніка Саюза беларускіх пісьменнікаў...

Чаму Аркуш? Мне хацелася чагосьці больш гучнага, чым маё сапраўднае прозвішча — Козік. Хацелася знайсці нешта ідэалагічна-нейтральнае і ў той жа час блізкае да літаратуры. Аркуш (белы чысты ліст паперы) падыходзіў амаль ідэальна.

Чамусьці ў пісьменніцкім асяроддзі гэты псеўданім успрынялі, як нешта жыдоўскае. Многія думалі, што гэта сапраўднае прозвішча.

Мая першая беларускамоўная публікацыя планавалася ў газеце «Літаратура і мастацтва». Вершы нават ужо набралі на лінатыпе, і я прыйшоў вычытваць гранкі, калі мне настойліва параілі падпісацца не псеўданімам Аркуш,

а сваім уласным прозвішчам. Маўляў, тады не будзе перашкод, а інакш не надрукуюць. Я адмовіўся, і нізку «знялі». Тая карэктура захавалася ў маім архіве... Да сёння ходзяць плёткі пра мае жыдоўскія карані... І не важна, што прадзед пабудаваў праваслаўную капліцу на могілках вёскі Бабін Лес...

Знятыя «ЛіМам» вершы я аднёс у «Маладосць», дзе Яўгенія Янішчыц сказала — друкуем. Але папрасіла (каб было з чаго выбраць) прынесці яшчэ. Калі я другі раз прыйшоў у рэдакцыю, з яе кабінета выходзілі Віця Шніп і Толя Сыс. Віцю я ведаў раней, з літаб'яднання пры «Чырвонай змене», а з Анатолем тады і пазнаёміўся. Сыс адразу да мяне прасякнуўся добрымі пачуццямі, дачакаўся выхаду з кабінета Янішчыц і сказаў: «Ну што? У звычайным жыцці ты «маскаліш», напэўна? Трэба размаўляць па-беларуску. Пайшлі — пакажу». І павёў нас (я быў з дзяўчынай) у «Батлейку», дзе тэатральна зрабіў замову: «Нам, калі ласка, тры марозіва і тры філіжанкі кавы!». Афіцыянт усё зразумеў, што вельмі красамоўна пацвердзіла тэзу Сыса пра тое, што вакол усе добра разумеюць беларускую мову і не трэба баяцца на ёй размаўляць. На жаль, потым ён стаў «злоўжываць», а я памятаю яго абсалютна іншым. Мы разам бывалі на шматлікіх імпрэзах. Не аднойчы я ў яго ў інтэрнаце начаваў, калі затрымліваўся ў Мінску. Гарэлку, дарэчы, пілі толькі адзін раз — на фэсце ў Вязынцы.

Менавіта Анатоль вычытваў мой першы зборнік паэзіі «Вяртанне» і паспрыяў выхаду ў якасці дадатку да часопіса «Маладосць». Цікава, што ў новай серыі яго першая кніга была трэцяй, а мая — пятай. Так што мы стартавалі амаль адначасова.

Пазней Сыс прывёў мяне ў «Тутэйшыя» і параіў маю кандыдатуру Алесю Бяляцкаму, які адразу запрасіў на «падпольныя» пасяджэнні аб'яднання. Да слова, «Тутэйшыя» мне тады больш падабаліся, чым пасля «легалізацыі». На мой погляд, трэба заўсёды імкнуцца да самастойнасці, як гэта зрабіў у той час Алесь Усеня, не варта было нешта даказваць «савецкім мастадонтам»...

## Прага свабоды

Таварыства вольных літаратараў (ТВЛ), у нейкім сэнсе, утварылася ў піку тагачаснаму (яшчэ адзінаму) Саюзу пісьменнікаў. «Вольным» не падабалася тая (з большага) закасцянелая, канфармісцкая, неканфліктная ў адносінах да ўлады проза і паэзія. Нам хацелася стварыць нешта сваё. Беларускую літаратуру, якая б дыстанцыявалася ад ранейшай. Старэйшыя пісьменнікі ўспрынялі нашу ініцыятыву калі і не варожа, дык і не прыхільна. Кажу яшчэ вельмі карэктна... Яны лічылі, што ўсе павінны быць разам, і ўбачылі ў ТВЛ пэўную спробу расколу пісьменніцкага асяроддзя. Натуральна, гэта стварала для нас шмат праблем.

Нягледзячы на моцны супраціў, 8 траўня 1993 года два дзясяткі пісьменнікаў (пераважна з Гародні і Полаччыны) на ўстаноўчым сходзе стварылі Таварыства вольных літаратараў. І гэта вельмі сімвалічна, бо як бы лічыцца, што самае галоўнае ў жыцці чалавек павінен паспець зрабіць да Хрыстовага ўзросту — да 33 гадоў. Я, можна сказаць, «ускочыў у апошні вагон». 8 траўня нарадзілася ТВЛ, а 28-га — мне споўнілася 33.

Чаму пасля наргаса абраў размеркаванне менавіта ў Наваполацк? Адказ просты: Наваполацк (а гэта практычна прамысловы раён Полацка) у некаторым сэнсе быў культурнай сталіцай Беларусі. Я вучыўся ў ВНУ сярэдне, але ніхто на аддзел камплектацыі завода «Вымяральнік» не прэтэндаваў. Ён лічыўся ваенным, не ведаю, як туды мяне прапусцілі. Напэўна, нехта нечага не дагледзеў...

Праблемы пачаліся пазней, але прадпрыемства ўжо «памірала», і было не да адсочвання нелаяльных да ўлады работнікаў. Размеркавалі мяне ў 1987 годзе, пасля пачатку перабудовы, звязанай з кардынальнай ломкай архаічных савецкіх устояў.

Наваполацкае літаб'яднанне «Крыніцы», якое дзейнічала пры гарадской газеце «Хімік», узначальваў Уладзімір Арлоў. Той перыяд стаўся сапраўдным зорным часам тамтэйшага культурніцкага жыцця. У Наваполацку і Полацку было пісьменнікаў (нават афіцыйна прызнаных) больш, чым у любым абласным горадзе Беларусі. І якіх! Уладзімір Арлоў, Вінцэсь Мудроў, Сяржук Сокалаў-Воюш, Якуб Лапатка, Ірына Жарнасек, Лявон Неўдах, Міхась Барэйша, Лера Сом, Іна Снарская і г. д.

Зразумела, нашай тэвээлаўскай вольнасці паспрабавалі нешта супрацьпаставіць. На мой погляд, «Полоцкая ветвь» узнікла менавіта з гэтай прычыны, бо ў тыя часы ў іх было проста шыкоўнае фінансаванне. Для мяне па сёння застаецца загадкай, адкуль яны бралі грошы на выпуск процьмы сваіх кніг, газеты «Вестник культуры» і часопіса «Западная Двина»? Нам дапамагаў фонд Сораса (пакуль ён існаваў), і ніхто гэтага не хаваў, усё абсалютна празрыста. Рэцэнзіі на праекты пісалі Рыгор Барадулін, Адам Мальдзіс... А «Полоцкую ветвь» часткова падтрымлівала мясцовая ўлада.

З цяжкасцямі, але мы пачалі выдаваць першы ў Беларусі недзяржаўны літаратурны часопіс, які называўся «Калоссе».

Ідэя яго стварэння належыць карэспандэнту «Звязды» Алесю Касценю, які жыў у Паставах. Ён паведаміў, што мае магчымасці выдаваць часопіс, але каб ён абавязкова меў назву «Калоссе». Моцныя спрэчкі былі па назве, бо часопіс з такой назвай выходзіў у Вільні ў 30-х гадах. Шмат каму яна не падабалася, але сітуацыя «разрулілася» фразай Юры Гуменюка: «У нас ёсць два

варыянты. Або мы будзем мець часопіс, які называецца «Калоссе», або не будзем мець нічога і зможам гэта называць як заўгодна...»

Выдавалі яго раз на год, выйшла ўсяго адзінаццаць нумароў.

Акрамя гэтага мы заснавалі выдавецкую суполку «Полацкае ляда», якая выдала шмат (каля трыццаці) розных кніжак, у тым ліку (упершыню ў беларускай гісторыі) зборнік візуальнай паэзіі Людкі Сільновай «Рысасловы» ў заснаванай намі серыі «Паэзія новай генерацыі».

Да таго ж па прыездзе ў Наваполацк я стварыў літаратурны альманах «Ксеракс беларускі», дэбютны нумар якога падпольна выйшаў у Вільні яшчэ за Савецкім Саюзам, а потым афіцыйна друкаваўся ў Беларусі і распаўсюджваўся праз легальныя структуры. А неўзабаве пачаў пісаць тэксты для рок-гурта «Мясцовы час».

На гэты момант выйшла 12 маіх кніжак. Не толькі паэзіі, але і прозы, эсэістыкі і публіцыстыкі.

У 1993 годзе мы абвясцілі прэмію «Гліняны Вялес», першым лаўрэатам якой стаў Ігар Бабкоў.

На жаль, сітуацыя ў беларускай літаратуры сёння ВЕЛЬМІ складаная, на мяне выходзяць многія пісьменнікі з прапановай актывізаваць дзейнасць ТВЛ і паспрабаваць зарэгістравацца афіцыйна, аднак у год выбараў гэта немагчыма па вызначэнні.

Асобна хачу сказаць пра сваю жонку Таццяну.

Самым важным у маім жыцці быў 1988 год, калі ў лютым мы з Таццянай пабраліся шлюбам. Нас пазнаёміў мастак Сяржук Цімохаў. Яго жонка Рыта вучылася разам з Таняй.

Мая Таццяна была з легендарнага «нацыяналістычнага» класа Гэніка Лойкі, дзе палова вучняў потым сталі апантанымі прыхільнікамі беларушчыны. Мастацкай вучэльні надалі імя Ахрэмчыка, але многія называюць яе «парнатам».

Жонка нарадзіла мне двух сыноў — Антона і Данілу. Розніца паміж імі 14 гадоў. Даніла яшчэ школьнік. Антон скончыў прэстыжную Познаньскую політэхніку. Працуе праграмістам у сур'ёзнай фірме. Жыве ў Познані.

Мінулым годам адбылося яго вяселле. На маім спяваў Сяржук Сокалаў-Воюш, на яго — Зміцер Вайцюшкевіч. Паўгода таму ў сына нарадзілася дачка Сафія. Мая цудоўная ўнучка».

*06.07.2015*



Дзед Захар (справа) са стрыечным братам. 1916 год



2 гады



Студэнт наргаса



З сынамі Данілам і Антонам



З сынам Антонам і жонкай Таццянай, Уладзімір Арлоў з сынам Багданам



З Данілам і Таццянай


Экалагічны мітынг у Наваполацку


З Анатолем Сысам




З Андрэем Новікавым і Уладзімірам Арловым на Валовай азярыне ў Полацку



З Янкам Брылём



З Генадзем Бураўкіным



З Юрыем Гуменюком



З Уладзімірам Някляевым



З Уладзімірам Арловым



# Зміцер ВАЙЦЮШКЕВІЧ

Сустракацца з гэтым чалавекам заўсёды прыемна. Перш за ўсё таму, што Зміцер Вайцюшкевіч сёння адзін з нямногіх нашых артыстаў, які без адміністрацыйнага рэсурсу можа сабраць людзей на дадатковы канцэрт па той прычыне, што на асноўным не ўсім хапіла месцаў. На жаль, гэта не перашкодзіла ўключыць спевака ў так званыя «чорныя спісы». Напэўна, чыноўнікі ад культуры не разумеюць, што забараніць любоў прыхільнікаў творчасці яны не могуць, хоць і дарваліся да «размеркавальнай кармушкі»...

## Крышталь дзяцінства

Месца, дзе нарадзіўся Зміцер Вайцюшкевіч, ведае амаль кожны беларус. Маленькую Бярозаўку Лідскага раёна Гродзенскай вобласці нефармальна называлі «крышталёвай сталіцай Беларусі» задоўга да таго, як там утварылі ААТ «Нёман».

Яшчэ ў 1883 годзе на беразе самай прыгожай беларускай ракі Юліус Столе і Вільгельм Краеўскі наладзілі вытворчасць шкла, якое потым стане адной з «візітовак» сучаснай Беларусі.

Ніхто тады нават уявіць не мог, што некалі слова «Нёман» нахабна перавернуць у памылковае «Неман» і непісьменнасцю нават пачнуць ганарыцца.

Нарадзіўся Зміцер 20 ліпеня 1971 года. Калі б мясцовыя акушэркі ведалі, што з часам першы крык гэтага немаўляці ператворыцца ў надзвычай прыгожы спеў, яны АСАБЛІВА б ганарыліся сваёй працай.

Бацька зваўся Іванам Аляксандравічам, але часцей яго клікалі Янакам, бо ў тых мясцінах гэта гучыць больш звыкла. Імя маці — Лідзія Імпалітаўна. У пашпарце памылкова напісана «Іпалітаўна». Як тлумачыць памылку сам Зміцер Вайцюшкевіч — бальшавікі банальна не ведалі пра існаванне мужчынскага імя Імполь, таму падчас перапісу і перайначылі яго на Іпаліта.

Бацькі былі «простымі людзьмі», што ў разуменні большасці азначае не прыналежнасць да начальнікаў.

На жаль, нікога з іх на гэтым свеце ўжо няма. Тата Зміцера загінуў вельмі рана, а ў 2009 годзе пайшла з жыцця і маці спевака.

Палову роднай вуліцы спевака займаюць вяскоўцы з аднолькавым прозвішчам Вайцюшкевіч, а на другой жывуць Брылі. Што па сутнасці адно і тое ж, бо за многія стагоддзі ўсе яны «пераажаніліся» паміж сабой.

Значную частку «дынастыі» Вайцюшкевічаў складаюць шкляры. Аднаго з яго дзядоў у міжваенны час уладальнік прызначыў дырэктарам завода. На той час даволі вялікая пасада. Было гэта ў 1939-м.

Зміцер з дзяцінства памятае здымак дзеда на фоне егіпецкіх пірамід.

Другая частка радні — будаўнікі. Адзін нават «дайшоў» зусім блізка да прэм'ер-міністра. У 1994 годзе сярод намеснікаў Вячаслава Кебіча быў Станіслаў Васільевіч Брыль. Гэта дзядзька Зміцера Вайцюшкевіча.

У Бярозаўцы — дзве школы. Адна спецыялізуецца на нямецкай мове, другая вызначаецца паглыбленым вывучэннем англійскай. Менавіта ў ёй Зміцер і вучыўся, і ўдзячны настаўнікам за магчымасць размаўляць па-англійску даволі свабодна.

Яго «басаногае дзяцінства» прайшло, як і ва ўсіх аднагодкаў — лес, грыбы, Нёман, гульні ў «партызаны». Сям'я трымала свайго кабанчыка (шынка, сала, паляндвіца), таму ніколі не ведала галечы, што і адрознівае заходнюю частку Беларусі ад той самай недалёкай Расіі.

Словам, Зміцер Вайцюшкевіч быў адным з мясцовых «маўглі». Большасць яго тагачаснай кампаніі потым адсядзела ў турме, а ён не трапіў за краты перш за ўсё таму, што пачаў займацца музыкай. І яшчэ дзякуючы даволі цеснай апецы бабулі, цёткі і маці. А апекаваць было ад чаго, бо і гарэлку пілі ў той кампаніі, і курылі.

«Алкагольны дэбют» Зміцера адбыўся ў сем гадоў. Напэўна, шмат хто ведае пра беларускую традыцыю ставіць «вясельную браму», то бок перагароджваць маладым дарогу. Звычайна гэта каштуе некалькі бутэлек гарэлкі, але бывае і больш шчодрае вяселле. Шматлікай «бандзе» сямігадовага Зміцера (да якой далучыліся і дарослыя колішнія «зэкі») аднойчы выставілі ажно два вядры самагонкі. Тады і пакаштаваў ён першы кілішак.

Якраз у той момант да бабулі прыехала з Бельгіі (для Заходняй Беларусі раскіданыя па ўсім свеце з-за вайны сваякі — звычайная справа) родная сястра з мужам, бельгійскім паштальёнам, якога мясцовыя адразу ахрысцілі «Рэне Карлавічам».

Калі п'яны хлапчук прыйшоў дамоў і лёг спаць, яны гэтага не бачылі, але калі потым ён выбег з хаты і каля плота зрабіў тое, што звычайна называюць «арыяй Рыгалета», проста былі ў шоку.

Пра той сорам Зміцер Вайцюшкевіч памятае па гэты дзень.

Каб хтосьці не зрабіў тут нейкіх высноў, адразу падкрэслю, што гэты выпадак — выключэнне, а прыярытэты былі іншымі.

Хлопчык хадзіў у розныя гурткі і секцыю вольнай барацьбы, нават быў чэмпіёнам Лідскага раёна ў вазе да 35 кілаграмаў. Аднак музыка перамагла, хоць барцоўская ўчэпістасць і сёння дапамагае па жыцці. У музычную школу ён не трапіў (з прычыны безграшоўя), таму абмежаваўся школьным духавым аркестрам.

На гэты ж час прыпадае і першае каханне, якое гучна-пафасна звалі «Эдзіта Федарэнка». Потым Зміцер даведаўся, што яна скончыла ўніверсітэт імя Патрыса Лумумбы, выйшла замуж, нарадзіла двух дзяцей і жыве цяпер у Маскве. Са школы не бачыліся ніводнага разу.

# Музычны вектар

Пасля васьмі класаў Зміцер Вайцюшкевіч паступіў у Лідскае музвучылішча, дзе конкурс у тыя часы быў не вельмі вялікім. Спецыялізавацца выпала на кларнеце. Было гэта ў 1986 годзе, амаль адразу пасля Чарнобыля, пра які тады людзі ведалі надзвычай мала.

Адмысловай адукацыі ў выглядзе музычнай школы ў яго не мелася. Толькі добры слых, што для любога музыкі галоўны кампанент.

Да таго ж знаёмыя крыху падвымуштравалі гранню на «артапедычным» кларнеце. «Артапедычнымі» Зміцер Вайцюшкевіч называе ўсе «савецкія» інструменты, якія ён прынцыпова лічыць антычалавечымі.

Рыхтавалі да паступлення ў Пецярбургскую (на той час яна была Ленінградскай) кансерваторыю. Чаму менавіта туды? Тлумачыцца ўсё даволі проста. Там працягваў вучобу выхаванец аднаго з выкладчыкаў, які потым прайшоў праз аркестр імя Мусаргскага і апынуўся ў Валерыя Гергіева.

Вайцюшкевічу абралі менавіта гэтую сцяжынку, аднак, калі ў 1990 годзе ён прыехаў у горад Пятра, лёс склаўся так, што там ужо ну без аніякіх шанцаў. Праслухаўшы хлопца з далёкай Бярозаўкі, ленінградскія настаўнікі параілі павучыцца крыху ў Петразаводску. Маўляў, за год адбудзецца перавод у «другую сталіцу».

Зміцера такая перспектыва не задаволіла, і ён адразу паехаў паступаць у Мінск. Хутка высветлілася, што тут ужо ведаюць пра «ленінградскую спробу» і надта пакрыўдзіліся на адсутнасць належнага патрыятызму. З гэтай прычыны і з мінскай кансерваторыяй атрымаўся «пралёт»: той «настаўнік па кларнеце» таксама не ўзяў да сябе Вайцюшкевіча. Прыйшлося пайсці ў Інстытут культуры, дзе выкладаў вучань лідскага «куратара» Зміцера.

Хто памятае, то дробнай камерцыяй тады займаліся амаль усе. Асартымент складаўся пераважна з прадукцыі прадпрыемстваў, дзе працавалі самі гандляры.

У студэнта Вайцюшкевіча, зразумела, такой магчымасці не было. Таму ён «спецыялізаваўся» на хрусталі, які дадому прыносіла маці. Іншых варыянтаў больш-менш нармальна жыць проста не існавала.

Спачатку вазіў крышталь у Беласток, а потым — у Варшаву. Гандляваў неўзабаве знакаміты музыка на прыступках Палаца культуры і навукі, які месціцца бліз чыгуначнага вакзала «Варшава Цэнтральная».

Сёння нават цяжка паверыць, што ў пачатку «ліхіх дзевяностых» там быў адзін з вядомых рынкаў Варшавы...

Як і трэба чакаць, у польскай сталіцы Зміцер Вайцюшкевіч займаўся не толькі камерцыяй. На першае месца выйшлі музычныя арыенціры. Ён нават трапіў на праслухоўванне да аднаго з прафесараў Варшаўскай музычнай акадэміі. Той пагадзіўся ўзяць да сябе і накіраваў у канцылярыю. Там Зміцер і даведаўся, што за год вучобы трэба заплаціць суму, эквівалентную 1650 далярам.

Для 1991 года гэта не проста шалёныя, а ВЕЛЬМІ шалёныя грошы... Можна нават сказаць — касмічныя...

Словам, варшаўскім кларнетыстам Вайцюшкевіч не стаў.

Дарэчы, менавіта ў гэты перыяд ён ледзь не зрабіўся «крымінальнікам». Жарт, канешне, але самому Зміцеру было не да жартаў. У тыя гады мінскі Камароўскі рынак нагадваў ждановіцкае «Поле цудаў». Малады музыка некалькі разоў прадаваў там «бярозаўскі крышталь». Аднойчы падышлі маладыя хлопцы і пачалі цікавіцца таварам. Ён назваў кошты і паабяцаў зрабіць зніжку, калі будзе опт. Тыя пагадзіліся, але замест грошай выцягнулі з кішэняў міліцэйскія пасведчанні. Абысціся пашанцавала штрафам, але з гэтага моманту ў Зміцеры Вайцюшкевічу назаўжды «памёр бізнесмен»...

Цяжка сёння паверыць і ў яшчэ адзін момант з яго біяграфіі.

Студэнтам, каб зарабіць грошай, ён час ад часу граў у пераходах да метро «Плошча Перамогі» альбо каля Галоўпаштамта (вельмі рэдка), а калі туды прыходзілі жабракі, прынцыпова сыходзіў. Хацеў зарабіць грошай «прыгожа», нават марыў стварыць своеасаблівы беларускі Манмартр.

Аднойчы пад Новы год граў на кларнеце, апрануты ў Дзеда Мароза, раздаваў дзецям цукеркі і чырванеў, калі ўдзячныя бацькі за гэта «выказвалі матэрыяльную падзяку»...

У 1992 годзе Зміцер Вайцюшкевіч вырашыў дэбютаваць для «вялікай аўдыторыі», то бок прыняць удзел у конкурсе спевакоў, які ладзіла Беларускае тэлебачанне.

У студэнта з Конга ён пазычыў зялёны двухбортны пінжак з моднымі залатымі гузікамі, навязаў шыйную хусцінку і выканаў песню з рэпертуару «Сяброў» «Белая, белая, русая, русая» (словы — Лягчылава, музыка — Лучанка). Але ўсё абмежавалася толькі першым турам, бо ў другі банальна «не пусцілі».

Там былі пераважна заслужаныя і народныя, а тут — нікому невядомы хударлявы хлопец... і вельмі наіўны...

# Новы паварот

Ён адбыўся на прыступках Інстытута культуры, калі да Зміцера Вайцюшкевіча падышоў бубнач ансамбля «Палац» Уладзіслаў Шварцкопф (некаторыя, згадваючы фільм «Шчыт і меч», называюць яго — Генры Шварцкопф) і прапанаваў паспрабаваць стаць салістам групы «Палац». Той пагадзіўся і паспяхова «праслухаўся». Калектыў зацвердзіў яго аднагалосна.

«Палац» тады працаваў у двух напрамках — народныя песні і рэтра накшталт песняў Леаніда Уцёсава і Эдзі Рознэра. Апошняе і мусіў спяваць Зміцер Вайцюшкевіч.

У 1993 годзе «Палац» трапіў на чарговы адбор «Славянскага базару», дзе самым галоўным у журы быў Уладзімір Мулявін. Легендарны «Пясняр» сказаў: ніякіх конкурсаў, гэтыя хлопцы будуць выступаць на галоўнай сцэне як прадстаўнікі Беларусі. Дарэчы, менавіта там Зміцер Вайцюшкевіч пазнаёміўся са сваёй першай жонкай Веранікай Кругловай, якая потым стане амаль першай рок-князёўнай Беларусі.

Адбылася ў тым годзе і яшчэ адна знакавая для яго лёсу сустрэча.

У 1993-м у Беларусь прыехала дачка Ілонкі Сурвілы Паўліна, каб сабраць для сваёй амерыканскай доктарскай дысертацыі «фактуру» па беларускім фальклоры. Яна і прапанавала «паездзіць па Беларусі».

Тое, што тады Вайцюшкевіч убачыў на свае вочы і пачуў на свае вушы, цалкам змяніла яго светапогляд і адносіны да беларускай песні. І сёння нават цяжка ўявіць, што некалі ён спяваў на мове «ўсходніх братоў».

Да 1997 года Зміцер Вайцюшкевіч уваходзіў у залаты склад «Палаца», таму, калі ён разам з Веранікай Кругловай і Юрыем Выдронкам заснавалі «Крыві», шмат хто гэтага не зразумеў.

Пакіну ўсе акалічнасці тых падзей музыказнаўцам, адзначу толькі, што самы зацікаўлены ў справах «Палаца» чалавек і яго нязменны кіраўнік Алег Хаменка ставіцца да сыходу Зміцера Вайцюшкевіча вельмі спакойна, што для шоу-бізнесу, мякка кажучы, не характэрна...

Па гэтай жа прычыне не стану акцэнтаваць увагу і на далейшых «прыгодах» «Крыві». Спецыялісты тут расставяць кропкі лепш.

У 2001 годзе пачалася сольная кар'ера Зміцера Вайцюшкевіча, прадвеснікам якой стала праца над альбомам «Цацачная крама» на вершы Леаніда Дранько-Майсюка. Менавіта з гэтага моманту дэбютаваў і Вайцюшкевіч-рэжысёр. У тым сэнсе, што адгэтуль мастацкае аздабленне ўсіх сваіх музычных

праектаў ён прыдумляе сам. Цікава, што чатыры ці пяць «сольнікаў» запісаў на абсталяванні «Палаца», купленым вядомай тады ўсім фірмай «Дайнова».

Праз некалькі гадоў Зміцер Вайцюшкевіч зразумеў, што ў фальклоры яму цеснавата, бо ў той час толькі лянівы не абраў менавіта гэты музычны кірунак. Мабыць, многія артысты разумелі, што там «лёгкі хлеб», які вельмі запатрабаваны за мяжой.

Быць «як усе» Вайцюшкевічу не хацелася, і ён вырашыў паспрабаваць сябе ў «спяванай паэзіі» — паўтарыць тое, што некалі рабілі «Песняры» ў музычных праграмах на вершы Максіма Багдановіча, Янкі Купалы. То бок прайсці іх дарогай, але зрабіць па-свойму.

Зміцер абраў Маякоўскага і прысвяціў гэтаму ўвесь 2003 год. І зрабіў акцэнт не на яго рэвалюцыйнасці, якая добра вядома ўсім яшчэ са школы, а на тым, што спецыялісты называюць футурызмам.

За расійскім паэтам «пакрочылі» беларускія. Рыгор Барадулін, Уладзімір Някляеў, Генадзь Бураўкін...

І зусім не таму, што яму не падабаліся тыя ж Янка Купала альбо Якуб Колас, напрыклад. Гэта бяспройгрышны варыянт, але ён настолькі часта эксплуатаваўся калегамі, што Зміцер вырашыў абраць іншае. Балазе, беларуская зямля заўсёды багатая на добрых паэтаў.

Паралельна пачалася сумесная праца з Алесем Камоцкім над праектамі «Святы вечар», «Я нарадзіўся тут» і «Скрыпка дрыгвы». Апошні альбом быў ужо запісаны, але потым шлях яго спыніўся — кожны ўзяў для сябе сваю частку.

7 мая 2001 года Зміцер Вайцюшкевіч заявіў аб утварэнні асабістай каманды «Усход-захад аркестр» (WZ-Orkiestra).

## Распаўсюджаныя пытанні

**Калі я чытаў інтэрв'ю Зміцера розным СМІ, слухаў, пра што пытаюцца ў яго пасля канцэртаў, то адабраў найбольш тыповыя пытанні, каб з дапамогай самога музыкі, як кажуць, расставіць усе кропкі над «і».**

***— Колькі на гэты момант запісана альбомаў?***

*— Усіх — каля сарака. Асабістых — васямнаццаць. Сумесных — чатыры. З «Палацам» — пяць, столькі ж з «Крыві». Плюс шмат зборак. Плюс альбом «Personal Depeche», створаны ў 2002 годзе. Гэта беларускі трыб'ют знакамітага гурта «Depeche Mode», дзе я выконваў эратычную «I Want You Now».*

*Ідэя належала фанатам «Depeche Mode». Такім чынам яны хацелі паказаць, што прыхільнікі гурта ёсць і ў Беларусі.*

*— **Чаму «Тодар»**?*

*— У «Палацы» мянушкі былі ва ўсіх. Мяне звалі «Фёдар Іванавіч», часцей проста — «Фёдар». У «Крыві» трэба было пастаянна праяўляць цвёрдасць характару, таму адбылася трансфармацыя ў «Тодар». Менавіта такія асацыяцыі слова і выклікае.*

*Калі мы пачалі ездзіць за мяжу, «новае імя» вельмі спатрэбілася. Іншаземцам было вельмі цяжка вымаўляць «Зміцер Вайцюшкевіч», для некаторых — амаль катастрофа. «Тодар» — значна прасцей.*

*Да таго ж... Так прасцей* (смяецца) *заблытаць цёшчу...*

*— **Нядаўна яшчэ з'явіўся «Хведар Шчавель»**?*

*— Гэта звязана з напісаннем альбома беларускага шансону.*

*Калі не памыляюся, сцэнічны псеўданім «Мэрлін Мэйсан» складзены з імён двух вельмі жахлівых злачынцаў. У дадзеным выпадку я вырашыў пайсці гэтай жа дарогай.*

*Памятаеце «злодзея ў законе» з мянушкай «Шчаўлік»?..*

*— **Творчасць Вайцюшкевіча асацыюецца з чымсьці рамантычным**, **узнёслым**, **прыгожым**, **а тут — шансон**...*

*— Як у тым анекдоце — не трэба блытаць шансон з «блатняком».*

*Калі мы разам са знакамітым паэтам Генадзем Бураўкіным працавалі над гэтым альбомам, першапачаткова не хацелі «крыміналізаваць» вобраз героя песняў і іх тэму. Для нас галоўнае — чалавек, які апынуўся ў цяжкіх жыццёвых умовах. На пэўным этапе яны здараюцца амаль у кожнага з нас. І кожны іх перажывае па-свойму.*

*Скажам так, альбом — мост паміж афіцыйным светам і неафіцыйным.*

*— WZ-Orkiestra **таксама мост**?*

*— Безумоўна. Нават назва такая — «Усход-захад аркестр». Ніхто ў Беларусі сёння гэтым не займаецца. Натуральна, нейкія кантакты ў музыкаў ёсць, але тут нешта большае, чым выкананне асобных песняў. Праз іх мы імкнёмся зразумець сапраўдную сутнасць нацыі, стварыць яе музычны кантэкст на фоне аб'яднання Усходу і Захаду.*

*Не палічыце пафасам, аднак у нейкім сэнсе мы сапраўды будуем масты паміж людзьмі. І выконваем па-беларуску японскія, шведскія, польскія песні. А праз вершы Уладзіміра Маякоўскага пабудавалі беларуска-расейскі мост. Зараз ідзе аналагічная праца адносна вядомага чэшскага барда Яраміра Нагавіца.*

*— **А чаму «Вайцюшкі»**?*

*— У жыцці кожнага з нас надыходзіць момант, калі чалавек разумее: трэба мець нешта сваё. У 2006 годзе я адчуў — асабіста ў мяне нічога такога няма. Таму і паставіў перад сабой адпаведную задачу на бліжэйшы час.*

*«Наверсе» заўсёды чуюць нашы просьбы і часта даюць чалавеку шанец. Выпаў ён і мне. За 900 даляраў набыў старую хату. Хутар на беразе Нёмана, дзе мой бацька калісьці «адпачываў» і заляцаўся да пляменніцы гаспадара гэтага дома. За сем гадоў існавання «лецішча» мы зрабілі там рамонт і нават крыху заняліся агратурызмам. Больш за тое, забарона на канцэрты дала магчымасць больш глыбока разабрацца ў тым, што нас акружае. Цяпер я ведаю, калі і якая птушка спявае, навошта і дзе растуць розныя травы. Па сутнасці, я вярнуўся на родную зямлю. Толькі ў іншай якасці. А такую «амбіцыйную» назву прыдумала мая жонка Галіна*.

***— Не палічыце нахабствам, што карыстаюся выпадкам і прашу дапамагчы «разабрацца» з вашымі жонкамі?***

*— Усё нармальна. Першай была Вераніка Круглова, потым — Алена Мелех, цяпер — Галіна Казіміроўская. Вельмі спадзяюся, трэцяя жонка стане апошняй. Яна для мяне нарадзіла дачку Стэфанію і сына Язэпа.*

***— Вайцюшкевіч не раз публічна падтрымліваў паэта Някляева, які заняўся палітыкай. Чаму? Можа ёсць жаданне самому стаць палітыка***м?

*— Няма абсалютна. А Уладзіміра Пракопавіча падтрымліваю не толькі таму, што ён аўтар цудоўных вершаў і я лічу яго адным з лепшых паэтаў сучаснасці. Проста ад яго тады шмат хто адмовіўся. У тым ліку і тыя, хто на працягу дзесяцігоддзяў «біў сябе пяткай у грудзі», даказваючы асабістую адданасць. Так рабіць нельга. Непрыстойна.*

*Я нікога з іх не асуджаю, бо ў нашым жыцці бывае featureзнае, але сам так ніколі не раблю.*

*26.08.2014*



**Стэфанія з хросным бацькам Стэфанам Эрыксанам**

**З жонкай Галінай і сынам Язэпам**



**Сын Язэп і дачка Стэфанія**




# Ігар ВАРАШКЕВІЧ

Упэўнены, далёка не ўсе ведаюць, што да назвы самага вядомага рок-гурта меў дачыненне знаны беларусіст Адам Мальдзіс. Здарылася гэта ў сярэдзіне 1980-х. Калі шукалі назву для гурта, які потым стаў звацца «Бонда», сярод слоў-кандыдатаў (іх прапанаваў паэт Анатоль Сыс, а Адам Восіпавіч пракаментаваў кожнае) было і «Крама». Праз некалькі год — у 1991-м, яго і выкарысталі. Лідару гурта Ігару Варашкевічу перш за ўсё спадабалася тое, што ў іх назвы будзе так шмат значэнняў...

## Першая крама

«Для мяне яна адчынілася 15 жніўня 1960 года ў Баранавічах у мясцовым раддоме. Але першыя дзіцячыя ўспаміны звязаныя, зразумела, не з раддомам, бо, натуральна, пра тое нічога памятаць не магу. Успамінаецца дзіцячы садок, дакладней, як мяне адтуль заўчасна забірала бабуля. Мяне гэта вельмі радавала, бо я ніколі не любіў вялікую колькасць людзей, то бок натоўп.

Сцэна — гэта іншая справа. Перад ёй зусім не натоўп. Не падабаецца той, што бывае ў звычайным жыцці. Я, напрыклад, не аматар хадзіць на Камароўку. Мне там адразу становіцца дрэнна. Шопінг і гандаль — не для мяне.

Я не вельмі люблю канцэрты на стадыёнах, больш даспадобы залы на 200-300—500 чалавек. Калі людзей шмат, працуеш неяк па-іншаму, адчуваеш іншыя эмоцыі. Ніколі не імкнуўся да масавага ідалапаклонства. І вельмі спакойна стаўлюся да таго, што нехта называе мяне «легендай беларускага рока».

Мой бацька, Уладзімір Фаміч, нарадзіўся ў 1935 годзе ў Мядзелі, аднак неўзабаве пераехаў у Паставы, таму адным са складнікаў успрыняцця тых часоў я лічу менавіта Паставы. На жаль, у 1996 годзе таты не стала. Скончыў зямны шлях адразу пасля выхаду на пенсію, таму я прыдумаў такі жартлівы «алгарытм»: для гэтай улады выгадна, каб чалавек памёр у год выбараў, перад смерцю паспеў «правільна» прагаласаваць, а потым адразу пайшоў з жыцця, каб не плаціць яму пенсію...

А маці, Тамара Ільінічна, родам з Гомеля. Яе бацька ваяваў, і пасля вайны яго накіравалі ў Баранавічы начальнікам мясцовага вузла сувязі. Там і працаваў усё сваё жыццё.

Таму ў маім дзяцінстве як бы існавалі два палярныя полюсы выхавання. Цалкам саветызаваныя Баранавічы, дзе было шмат вайсковых часцей, і Паставы з іх польска-беларускім духам. Аднак зразумеў гэты падзел я пазней, а тады пачуваўся звычайным савецкім хлопчыкам, у якога ўсё нармальна — адзін у бацькоў, дзядулі і бабулі, прадзядулі і прабабулі, яслі, дзіцячы садок і г. д.

Мае бацькі пазнаёміліся і пабраліся шлюбам у Баранавічах. Маці там жыла пастаянна, а тата прыехаў па размеркаванні пасля геалагічнага тэхнікума. Ён працаваў бурыльшчыкам. Толькі шукаў не нафту, а звычайную ваду для піцця. І быў не звычайным рабочым, а галоўным інжынерам, намеснікам дырэктара. Даволі часта ездзіў у камандзіроўкі і, калі дазваляла вучоба (канікулы альбо выхадныя), браў мяне з сабой. Я вельмі любіў тыя падарожжы. А маці працавала на мясцовай радыёстанцыі, бо калісьці скончыла адпаведны тэхнікум у Пінску.

Першыя дзіцячыя ўспаміны — паездка ў Крым, калі мне было толькі пяць гадоў. А яшчэ першы малюнак — у дзіцячым садку акварэллю намаляваў Крэмль. Малюнак вялікі, з салютам... Памятаю таксама, што з тых часоў я з любой стравы выкідваю цыбулю, бо амаль не магу яе есці. У ніякім выглядзе. У дзяцінстве мяне ад яе ўвогуле ванітавала. Сёння гэта не такая вялікая праблема, але калі бываю ў гасцях і пытаюся, што ў салаце, заўсёды гучыць шмат пытанняў накшталт: «А што табе зробіцца?»

Гэта адносна «баранавіцкай» часткі дзяцінства. «Пастаўская» ж перш за ўсё асацыюецца з пернікамі, якія мне пякла тамтэйшая бабуля. Яна так іх называла, але гэта не быў пернік у тым выглядзе, як мы яго ведаем. Хутчэй сапраўдны пірог. Некалі запісаў нават рэцэпт. Потым ён згубіўся, але я не надта засмуціўся, бо паўтарыць бабуліна печыва немагчыма па вызначэнні.

Яшчэ ў Паставах я даволі часта еў фінскія цукеркі «Файзер» або «Гелас». Бабуля добра шыла, і ёй прыносілі розныя салодкія прэзенты. Вельмі смачна... Цяпер, напэўна, такіх няма.

У 1967 годзе пайшоў у сёмую школу. Там быў «ангельскі ўхіл», і сёння вельмі шкадую, што лайдачыў, «ухіляўся»... Канешне, магу спяваць па-ангельску, але не больш...

## Крама захапленняў

Прыкладна да пятага класа я вучыўся больш-менш, а потым вучоба стала цалкам не цікавай. На ўроках з большасці толькі маляваў, а з сёмага класа яшчэ і захапіўся рок-музыкай. Больш за ўсё падабаліся «Led Zeppelin», «Deep Purple», «Nazareth», «Slade», «Pink Floyd», «Doors», Джымі Хендрыкс, Джэніс Джоплін. Словам, увесь «джэнтльменскі набор» тых часоў.

Шчыра кажучы, не разумею тых, хто ігнаруе класіку нашага жанру і лічыць гэта нечым звыш арыгінальным. Ёсць рок-н-рол, панк-рок, хард-рок і г. д. У рок-музыцы можна эксперыментаваць і змяняць, але трэба ведаць крыніцы, грунт, гісторыю. У дадатак да рок-музыкі я слухаў шмат блюза. Пераважна па радыё, для чаго «лавіў» польскія і чэшскія радыёстанцыі, дзе было шмат аўтэнтычнага «чорнага» блюза.

Мікст гэтых двух жанраў і склаў тое, што мы граем усё жыццё, што я называю народным беларускім блюзам, а агульнапрынятая назва — рок-блюз.

Паралельна моцна захапляўся прыгодніцкай літаратурай і кніжкамі пра свет жывёл. Зараз, напэўна, гэтыя прозвішчы нікому нічога не скажуць, а тады былі амаль культавымі — Джэралд Дарэл, Бернард Гржымек, Джой Адамсан з яго фільмам пра львіцу «Народжаная свабоднай». Сёння гэта ўсё можна ўбачыць на «Animal Planet», а калісь толькі прачытаць...

З прыгодніцкай літаратуры адужаў усяго Джэка Лондана, Конан-Дойла, Герберта Уэлса (фантастыку таксама любіў). Гэта мяне больш вабіла, чым школьная праграма. Нават хацеў быць заолагам, але, калі справа дайшла да біялогіі, стала відавочна, што ніколі ім не стану. Матэматыка, фізіка для мяне — «кранты». Тое ж самае наконт хіміі і біялогіі. Не навукоўца я. У старэйшых класах, калі ламаў галаву над тым, што рабіць пасля школы, быў у роспачы, бо разумеў, што без гэтых навук нікуды не паступлю. Менавіта таму ўсур'ёз разглядаў варыянт стаць бібліятэкарам... Але больш за ўсё вабіла маляванне. Паўтаруся, гэта захапленне з дзяцінства. Бацькі заўважылі схільнасць і пачалі купляць каляровыя алоўкі, якімі я любіў маляваць. Класічны жывапіс — не зусім маё. Больш даспадобы графіка. У Паставах яшчэ захаваліся малюнкі, зробленыя напрыканцы 60-х гадоў мінулага стагоддзя, то бок адны з самых першых.

Ад таго захаплення не адмовіўся цалкам і цяпер. Напрыклад, у 2008 годзе ў мінскай галерэі «Падземка» прайшла выстава маіх мастацкіх работ, арганізаваная разам з вядомай мастачкай Нікай Сандрас.

Паралельна з гэтым захапленнем узмацнялася цікавасць да рыбалкі ў прыватнасці і беларускай прыроды ўвогуле. Памятаю, з бацькамі ў час іх адпачынку заўсёды ездзілі ў Швакшты. Людзей там практычна не было. Некалькі тыдняў я праводзіў як нейкі «абарыген». Не так даўно пабываў там зноўку. Мясціны свайго дзяцінства ледзь пазнаў. Усё змянілася кардынальна.

З гадамі больш хочацца цішыні. Нават калі на возеры няма клёву, гэта не важна. Прыгажосць у іншым. У сонцы, якое ўзыходзіць, альбо зорках, за якімі ты назіраеш, калі сядзіш ноччу ля вогнішча. На жаль, нашы дзеці ўсяго гэтага могуць ужо не ўбачыць... 20 гадоў таму не было нічога падобнага. Цяпер возера арандуе нейкі «маркіз Карабас». Заплацілі трыццаць тысяч за тое, што ён там паставіў нікому непатрэбныя лаўкі і альтанкі. Ні туалетаў, ні электрыч-

насці, ні нармальных стаянак для машын. На Захадзе сутнасць арэнды зусім іншая... А ў нас галоўнае — «срубить бабло»...

# Крама сталення

Перад войскам у мяне пачаў мяняцца густ. Пачынаўся хэві-метал, і зацікаўленасць цяжкай музыкай змяншалася. Выключэнне — «AC/DC». На мой погляд, гэта блюз. Толькі выкананы ў стылі цяжкога рока. Акрамя іх слухаў толькі панк-рок. Дарэчы, свае першыя песні я напісаў, пачуўшы «Sex Pistols». Было гэта напрыканцы 1970-х. Пасля вайсковай службы стаў зусім іншым чалавекам. У сэнсе музычных прыярытэтаў.

Пасля школы я амаль год працаваў на авіязаводзе, займаўся дэмантажом. Разборка самалётаў — першая стадыя іх рамонту. Напэўна, гэта была самая цяжкая работа ў маім жыцці. Працаўладкаваўся я перад самай зімой і вельмі хутка адчуў, што такое «неацяпляльны» цэх. Тэмпература там, як на вуліцы.

У маёй працоўнай кніжцы гэта адзін запіс, які не звязаны з мастацтвам. Пасля авіязавода была праца на тарарамонтным прадпрыемстве, ужо ў якасці мастака. Малады тады быў, любіў паспаць, таму ўвесь час спазняўся. Вокны кабінета нашага начальніка выходзілі на прахадную, таму ён усё гэта бачыў і потым мне выгаворваў. Але галоўнае, што паспеў адтуль звольніцца за тыдзень да таго, як згарэў клуб, дзе працаваў. Калі б гэта адбылося пры мне, яго б 100% «павесілі» на мяне... Як кажуць, паспеў «саскочыць»...

Было гэта перад самым прызывам. Пасля школы два гады мне рабілі адтэрміноўку, таму прызвалі толькі восенню 1979-га. Ледзь не трапіў у Афганістан, але ў рэшце рэшт — Сосны, вучэбка.

Вядома, што пасля яе звычайна трапляюць у «лінейку», то бок у звычайныя вайсковыя часці. Напэўна, так адбылося б і са мной, каб не адзін выпадак.

У нас былі чарговыя заняткі. Аднак паколькі ў асноўным я рабіў тады ленінскі пакой, то ў сэнс размовы «не ўязджаў». Надакучыла слухаць ухаластую «настаўніка колеру хакі», і я пачаў маляваць. Было тры фламастары — сіні, зялёны і чырвоны. Намаляваў імі таго падпалкоўніка. Здаецца, з прозвішчам Гардзейчык. Гэта было нешта падобнае на шарж. А потым аўтаматычна вакол яго — голых жанчын. Ён выпадкова заўважыў, пачырванеў, але нічога адразу не сказаў. Пасля заняткаў я папрасіў прабачэння. Сябе ён пазнаў, а наконт голых жанчын спытаў: «Чаму?» — «Яшчэ малады...»

Канешне, потым быў даволі гучны скандал, але з вучэбкі мяне «не выперлі». Па загадзе камандзіра часці прымусілі служыць у гаспадарчым узводзе. Каб да канца службы (у тым ліку і пад камандай падпалкоўніка Гардзейчыка) я нешта для іх маляваў.

Дарэчы, дэмбельскі альбом у мяне захаваўся па наш дзень. Там незвычайныя «калькі». Не як ва ўсіх, зробленыя пад капірку, а кожная намалявана эксклюзіўна. Там усё наша жыццё, шаржы на ўсіх афіцэраў і прапаршчыкаў.

Некаторыя начальнікі пра гэта чулі, і каб мяне злавілі, што называецца, «з доказамі віны», каштавала б усё вельмі дорага, але, дзякуй Богу, пранесла. Словам, гуляў з агнём...

«Дэмбяльнуўся» я восенню 1981 года.

Людзі настальгуюць па тых часах, па той жа арміі, а мяне ў той эпосе цікавілі зусім іншыя рэчы.

Польская музыка, напрыклад.

Да службы гэта быў Тадэвуш Налепа і гурт «Breakout», а пасля таго, як у Польшчы ўвялі ваеннае становішча, з'явіліся «Брыгада крызіс», «Отдзел замкненты», «Лэдзі панк», «Банда і Ванда» і г. д.

У 1982 годзе я паступіў на мастацка-прамысловы факультэт Тэатральна-мастацкага інстытута па спецыяльнасці «Інтэр'ер і абсталяванне». Як скончыў, па размеркаванні паехаў у рэстаўрацыйныя майстэрні ў Гародню. Але там адразу ўзяў «адмацаванне», таму што мне пастаянна трэба было ездзіць у Мінск, дзе яшчэ існавала «Бонда».

З Баранавічаў значна бліжэй і прасцей, таму ў родным горадзе я ўладкаваўся мастаком у раённы аддзел культуры.

## Крамы творчасці

Праз некалькі гадоў перайшоў на працу ў нейкае прыватнае ТАА. Адпрацаваў (з большасці фармальна) там да 1997 года. Больш ніякіх запісаў у маёй працоўнай кніжцы няма.

Яшчэ ў школе, дакладней пасля восьмага класа, бацькі падарылі класічную гітару. Калі сказаць вельмі мякка, то граць на ёй (хадзіць на заняткі) не падабалася.

Неўзабаве мне выпадкова перабілі палец, і я перастаў граць увогуле. Праз некаторы час траўма зажыла, і зноў узяў гітару. Зняў дзве струны і сам пачаў падбіраць нешта рок-н-рольнае. У гэты ж час засвоіў ігру на гармоніку.

Перад самай арміяй пачаў складаць песні, не ведаю чаму, бо па спевах у школе ў мяне заўсёды былі двойкі. Напэўна, прага да творчасці ў нас ёсць на нейкім падсвядомым узроўні. Першыя песні былі на вершы Бернса і байкі Кандрата Крапівы.

Хутчэй за ўсё з гэтага і пачалася мая любоў да беларускай мовы. Я зразумеў, што можна спяваць па-беларуску пад музыку, якая падабаецца. Потым дадаліся тэксты на беларускай мове, у «Бондзе» іх пісаў Сяргей Кныш. Я ад-

чуваў пры гэтым уплыў палякаў, якія спявалі па-польску. У выніку неўзабаве прынцыпова перайшоў на беларускую.

Дарэчы, менавіта моўнае пытанне і вырашыла мой творчы лёс.

Першай групай, дзе я граў, была «Студыё-7». Трапіў туды амаль выпадкова. Памятаю, як Слава Сцяпанаў, на той момант студэнт кансерваторыі, ішоў па калідоры нашага інтэрната ў той час, як я ў сябе ў пакоі нешта дрынкаў на гітары і граў на губным гармоніку. Пачуўшы маю «музыку», Слава запрасіў у склеп інтэрната, дзе ў хлопцаў была студыя. Сыграў на губным гармоніку нешта з рэпертуару «Led Zeppelin», і мяне прынялі ў калектыў, які складаўся з некалькіх скульптараў і аднаго кантрабасіста. Потым з яе ўзніклі адразу дзве каманды — «Бонда» і «Метро». Я, Сяргей Кныш і Іван Маркаў вырашылі стварыць беларускамоўную групу. Мы нават з Мальдзісам кансультаваліся наконт назвы. Прынеслі яму цэлы спіс слоў, які напісаў, здаецца, Анатоль Сыс. І Адам Восіпавіч падрабязна тлумачыў сэнс кожнага. «Метро» ж пайшло іншым шляхам. Яны сталі граць і спяваць рускамоўны поп.

«Бонда» мае шмат сэнсаў, сярод якіх — «лепта», «кавалак», «частка нечага суцэльнага, адзінага». Прынамсі, шмат адценняў і ў слова «крама», якое таксама было ў тым спісе і якое я потым і прапанаваў...

Першы альбом «Бонды» (дзе ёсць «Слуцкая брама» і «Стэфка») мы зрабілі ў 1986 годзе. А да гэтага ў падвале Тэатральна-мастацкага інстытута былі запісаныя стартавыя песні. Адбылося гэта на зломе 1984 і 1985 гадоў. З большасці — у 1985 годзе. Умоўна сёлета 30 гадоў маёй беларускамоўнай творчай дзейнасці. «Бонда» праіснавала да 1989 года.

У гэты час, нагадаю, я з'ехаў у Баранавічы і на два гады адышоў у бок ад публічнай музычнай творчасці.

У 1991 годзе ў першы дзень путчу і стварэння ГКЧП да мяне прыехалі хлопцы з «Рокіс». Я нешта спрабаваў гаварыць ім пра небяспечную палітычную сітуацыю, аднак ніхто да гэтага не паставіўся сур'ёзна.

Хуценька арганізавалі нейкія пасядзелкі, і яны запрасілі мяне стаць вакалістам. Маўляў, у іх ужо ёсць беларускамоўная праграма. Я пагадзіўся.

Напэўна, гэты акцэнт трэба зрабіць менавіта тут, бо падчас той сустрэчы я пазнаёміўся з чалавекам, з якім сябрую ўжо амаль чвэрць стагоддзя. Гаворка пра Зміцера Лукашука. Цудоўны, сціплы чалавек і паэт, які напісаў большасць тэкстаў «Крамы». Яго добра ведаюць па журналісцкай рабоце на «Еўрарадыё для Беларусі». На мой погляд, ён адзін з найлепшых у гэтай справе.

Напэўна, у нас са Зміцерам ёсць нейкая творчая сувязь на энергетычным узроўні. Звычайна, я пішу музыку, а ён потым аздабляе яе вельмі добрымі тэкстамі. Думаю, адно з тлумачэнняў поспеху «Крамы» якраз у гэтым і ёсць.

Ён мне як брат.

Аднак вернемся ў жнівень 1991 года. Праз пару дзён пасля баранавіцкай сустрэчы я прыехаў у Мінск на рэпетыцыю «Рокіс», паслухаў іх песні. Не скажу, што моцна спадабаліся і надта пасавалі да майго голасу.

Перарабілі. Запісалі дыск з галоўнай песняй «Пагоня» на вершы Максіма Багдановіча. Паводле «Народжанага тут» на вуліцы Кастрычніцкай знялі кліп.

І зноў я ўбачыў: нешта не тое. Тады ў мяне былі напісаны песні, якія я даў Лукашуку, каб той зрабіў тэксты. Сам я, на жаль, не паэт, таму звычайна пішу толькі «рыбу». То бок выкладаю сэнс таго, пра што музыка. Калі закончылі, хлопцы ўбачылі, што мае песні значна лепшыя за тыя, што былі раней. Раней яны нагадвалі нейкі канструктар, не было цэльнасці, агульнай ідэі. І нават свайго стылю. Неўзабаве пачалі граць толькі тое, што я пісаў. Выказаў патрэбу змяніць канцэпцыю і назву. У адказ прагучала, што ўжо ўсе ведаюць «Рокіс», з чым я кардынальна не пагадзіўся і сказаў: «Не хвалюйцеся, праз месяц-два ўсе будуць ведаць новую назву не менш за першапачатковую».

Так яно і адбылося. Напрыканцы 1991 года з'явілася «Крама». І ў наступным годзе на «Басовішча» мы паехалі ўжо з новай назвай.

На момант размовы, калі не памыляюся, у нас ужо дзесяць альбомаў (у тым ліку і адзін канцэртны).

Зразумела, што за часы існавання гурта было шмат чаго цікавага. З'яўленне «Крамы» супала з распадам Савецкага Саюза, з вяртаннем гістарычнай сімволікі і юрыдычнай незалежнасцю Беларусі. Тады (як і ў час перабудовы) было шмат ідэй і творчай энергіі. І хоць абодва перыяды былі дастаткова цяжкімі (так адбываецца заўсёды), аднак не гэта самае галоўнае. Не заўсёды, але менавіта ў цяжкія часы і з'яўляецца САПРАЎДНАЕ МАСТАЦТВА.

Напэўна, яно ёсць і цяпер, але раней было больш шчырага імпэту, жадання зрабіць адразу ўсё. І трэба сказаць, многае атрымлівалася. Аб чым сведчыць і першая рок-карона ў 1994 годзе, і перамога на конкурсе ў Маскве. Усё гэта давала штуршок для наступных работ, новых пошукаў.

## Крама выпрабаванняў

Уздым працягваўся да 1996 года, калі забаранілі кліп «Гомельскі вальс» і не аддалі нам запіс канцэрта, што адбыўся на пяцігоддзе «Крамы» ў Палацы прафсаюзаў. Нават не ведаю, захаваўся ён ці не.

Потым паціху пачалася інфармацыйная блакада, якая вылілася ў першую забарону. Прынцып добра вядомы — калі гурта няма на сцэне і ў эфіры некалькі гадоў, пра яго пачынаюць пакрыху забываць.

Далей нас «разбаранілі» і зноў забаранілі... Нечым гэта нагадвае вяла цякучую форму адной непрыстойнай хваробы...

Першая забарона звязана з тым, што скончыліся першыя (выбачайце за таўталогію) 10 гадоў прэзідэнцтва Лукашэнкі. Як вядома, у парку Дружбы народаў каля сумна вядомай плошчы Бангалор з гэтай нагоды адбыўся пратэсны канцэрт. Чамусьці нас туды не запрасілі, але гэта — да арганізатара.

Шчыра кажучы, чаму так зрабіў Шаблінскі, я не ведаю па наш дзень. Напэўна, таксама нейкія «гульні»... І ўвогуле, ён вельмі «своеасаблівы» чалавек...

У адным з інтэрв'ю на гіпатэтычнае пытанне, што было б у выпадку наяўнасці запрашэння, я адказваў станоўча. І «Крама» папала «пад раздачу».

Як кажуць дыпламаты, да 2007 года мы былі персонамі нон грата. Увесь гэты час ездзілі на канцэрты ў Польшчу, калі там у нейкім горадзе праходзілі апазіцыйныя мерапрыемствы.

Плюс «Басовішча». Гэта крыху падтрымлівала, бо ў Беларусі ніякай працы для нас не было.

Калі забарону знялі, мы адразу запісалі альбом «Усё жыццё — дзіўны сон».

Другая забарона адбылася пасля падзей 2010 года. Канешне, больш за ўсіх дасталося Зміцеру Вайцюшкевічу, але аўтаматычна хапіла і ўсім, каго ўлады не лічаць сваімі.

Не святкавалі ні маё 50-годдзе, ні 20 гадоў існавання «Крамы». Памятаю, тады да нас з Расіі прыязджаў Мікалай Аруцюнаў, якога называюць «бацькам расійскага блюза», і на невялічкіх канцэртах нас віншаваў. Гэта была вельмі патрэбная падтрымка.

Разам мы выканалі з дзясятак песняў і запісалі альбом «Live in Minsk». Назва агульнага гурта «Blues Barbarians»

Зараз зноў лібералізацыя, і праз сем гадоў пасля папярэдняга мы прэзентавалі альбом «Белая вада». Вядомы музычны журналіст, крытык і стваральнік «Тузіна гітоў» Сяргей Будкін назваў яго вандроўкай па нашай творчасці. Магчыма, так яно і ёсць. Гэта сапраўды дарожны альбом.

Зразумела, што цяпер нас у чарговы раз «разбаранілі», але вялікага жадання займацца палітыкай (у беларускім разуменні) у мяне больш няма. Кожны павінен рабіць сваю справу.

Я — музыкант, а палітыкай хай больш клапоцяцца тыя, хто ёй займаецца прафесійна. Такое ўражанне, што пакуль яны банальна нас выкарыстоўваюць у сваіх мэтах. І не больш.

Гэта не азначае, што я не цікаўлюся тым, што адбываецца вакол. Наадварот. Прынцыпова веру ў абавязковыя змены. Іншая справа, якімі яны будуць. Я за бел-чырвона-белы колер».

*27.08.2015*



# Сяргей ВЕРАЦІЛА

Напэўна, гэта самы неадназначны персанаж літаратурнага бамонду Беларусі, якога шмат хто не прымае. І, на мой погляд, зусім не таму, што яго даволі рэдка бачаць цвярозым. Рэч у іншым. Па-першае, Сяргей Вераціла ніколі не імкнецца здавацца лепшым, чым ён ёсць на самай справе. Па-другое, ён заўсёды гаворыць тое, што думае, а гэта падабаецца нямногім.

## Бацькоўскі парог

«Пачну з дзеда па лініі маці. Іван Лук'янавіч быў вельмі неардынарным чалавекам. Падчас Першай сусветнай вайны за тое, што абараніў сваю роту ад першай газавай атакі немцаў, здагадаўшыся схавацца ў сене, яго хацелі ўзнагародзіць і прапанавалі на выбар — альбо георгіеўскі крыж, альбо яфрэйтара. За «Георгія» пасля вайны плацілі добрую пенсію, а за чын — 99 капеек у месяц, плюс штодня белая булка. Дзед слушна рассудзіў, што да канца вайны трэба яшчэ дажыць і абраў «тут і цяпер», то бок нашыўку на пагоны.

Дарэчы, ён служыў у спецназе, у так званых сібірскіх палках.

Потым рабіў рэвалюцыі. Адну — у лютым, другую — у кастрычніку. Прымаў удзел у грамадзянскай вайне і ваяваў з англічанамі ў Мурманску. Затым бунтаваў у Кранштаце і быў сярод тых, хто не паверыў Леніну. Сышоў у Фінляндыю, што і захавала жыццё. Бо ўсіх, хто даверыўся бальшавікам, традыцыйна падманулі і расстралялі.

Праз некалькі месяцаў ён пешшу вярнуўся на радзіму. Ішоў па чыгунцы, праз Латвію. І ўспамінаў, што столькі ваўкоў ніколі не бачыў. На жывых яны не нападалі, хапала трупаў. Аднойчы прачнуўся ад таго, што нехта пачынаў грызці пальцы на нагах. Ваўка дзед ткнуў нажом, адбегся і потым двое сутак не спаў. Пакуль не дайшоў да Воршы, а там ужо было недалёка да роднага Сенненскага раёна.

А бацька мой родам з Гарадзеншчыны, з вёскі Карпаўцы Ваўкавыскага раёна. Бацька 1925 года нараджэння. А маці — 1929-га, яна з Сенненскага раёна. Іх імёны — Аляксандр Аляксандравіч і Ганна Іванаўна. Бацькі ўжо няма. Маці, дзякуй Богу, жывая пагэтуль. Пасля вайны скончыла педагагічны

тэхнікум, і як многіх усходнікаў яе «перакінулі» на Захад. Каб вучыць дзетак размаўляць па-руску. Такім чынам умацоўвалася савецкая ўлада.

А бацька да вайны паступіў у Беластоцкі чыгуначны тэхнікум — гэта мара многіх тагачасных беларусаў. За польскай уладай чыгунка была «закрытай» для праваслаўных беларусаў.

Вайна застала бацьку менавіта там, і ён пачаў «адступаць» разам з савецкім войскам. Афіцыйная прапаганда падрыхтавала людзей да таго, што нямецкую навалу хутка спыняць, і таму бацька нёс з сабой нават падручнікі, бо кніжкі для нас — святое. Іх паліць — апошняя справа.

Так ён дайшоў да Мінска і тут зразумеў, што ніхто нікога не спыніць яшчэ доўга. Вырашыў вярнуцца на сваю «малую Радзіму», аднак вельмі хутка напароўся на танкі з чырвонымі сцягамі. Прыглядзеўся, а на іх белыя кругі з чорнай свастыкай. Тады ён закапаў (савецкія падручнікі маглі быць небяспечнымі) кнігі і пайшоў у адваротны бок. Так дабраўся аж да Масквы. Там усіх чыгуначнікаў сабралі разам і накіравалі ў Калугу. У якасці ежы ім давалі ўсяго па 150 грамаў кукурузнай мукі. І больш нічога — ні солі, ні соды... Што хочаш, тое з яе і ляпі... Нават блін не атрымаецца... Галодныя хлопцы (сярод якіх было шмат заходніх беларусаў) прасілі міласціну, але мясцовыя нічога на давалі. Казалі — палякі. Бацька вельмі крыўдаваў. Маўляў, які ён паляк, праваслаўны, значыць, аўтаматычна рускі. Аднак па-руску ён гаварыць не ўмеў, толькі мог вельмі добра чытаць (у тым ліку па царкоўна-славянску). Размоўнай практыкі не мелася, таму і называлі «пшэкам»... Даводзілася есці нават пацукоў... У Калузе ён так моцна сапсаваў свой страўнік, што потым усё жыццё амаль не ўжываў алкаголю. Нават ад 100 грамаў яму было вельмі дрэнна. Так што сэнс паняцця «п'яны бацька» я ведаў толькі ад знаёмых і суседзяў і ў дзяцінстве ніколі не баяўся п'яных людзей.

Потым прыехалі «пакупнікі» і ўсіх разабралі па вайсковых вучэльнях, дзе за некалькі месяцаў падрыхтоўкі давалі лейтэнанцкія пагоны. Ён трапіў «на артылерыста».

Напрыканцы вучобы прапанавалі запоўніць анкету. Па сваёй прастадушнасці ён напісаў, што бацькі жывуць на акупаванай тэрыторыі.

Адлічылі адразу.

Як кажуць, не бывае дрэннага без добрага. Жыццё лейтэнанта на фронце складала ўсяго некалькі хвілін. Можа, так Бог выратаваў яму жыццё...

Бацьку накіравалі на чыгунку звычайным качагарам. Таварняк цягнулі адразу тры паравозы. Два спераду, адзін — ззаду, які называўся «піхач».

Тапілі не вугалем, а дровамі. Спалі прама там. Не мыліся, і таму вошы аж кішэлі. Бацька расказваў, што на стаянцы выбежыш, знімеш кашулю і катаеш па ёй бутэлькай. Аж трэск стаіць.

Потым яго «кінулі» ў Чачню, дзе ён удзельнічаў у сумна вядомай дэпартацыі чачэнцаў. Як качагар цягніка, канешне. Як іх заганялі ў вагоны — не бачыў. Бачыў толькі, як трупы (дзяцей, жанчын, старых) выкідвалі праз вокны — памерлых ніхто не хаваў. Маладога хлопца гэта так уразіла, што на нервовай глебе ён захварэў. Ад шоку выскачыла «воўчае вымя». Гэта фурункулёз, калі адразу ў адным месцы вылазіць па сем фурункулаў. Звычайна пад пад-пахамі. Не ведаў, што рабіць бедны... Да Чачні ён вазіў боепрыпасы, а пасля перавялі на санітарны цягнік. Вайну бацька скончыў у Кёнігсбергу і толькі потым звярнуўся да свайго начальніка, медыцынскага генерала. Той глянуў на бяду і ледзь не абамлеў ад такой стойкасці. Даў бацьку нейкую тыбецкую мазь. Моцна дапамагала. Але гэта такая хвароба, што будзе турбаваць усё жыццё. Фурункулы вылазілі кожны год. Не дапамагала нічога. У тым ліку і пераліванне крыві. Толькі тая мазь. Пакуль яна была, ён, што называецца, гора не ведаў, а потым не змог знайсці, хоць пісаў медыцынскім зоркам усяго Савецкага Саюза.

Дарэчы, усе суседзі звярталіся да яго з просьбай напісаць ліст «наверх». Гэта мой бацька ўмеў рабіць вельмі добра. І ўвогуле, ён быў вельмі прадстаўнічы. Пад два метры ростам, шырокі ў плячах. Надзене касцюм, капялюш, плашч альбо паліто і ідзе ў краму. Адразу на склад да тавараведа. Нічога не кажучы сядае. І яна сама: «Ой, что Вам нужно?». Яна ж не ведае, хто перад ёй — ці машыніст паравоза, ці які-небудзь рэвізор, начальнік і г. д. Паголены, заўсёды надушаны добрым адэкалонам. Выдаць маглі толькі рукі, але ён быў вельмі акуратны і заўсёды імкнуўся, каб пад пазногцямі не заўважалася ніякіх чорных «палосак».

Меў двух малодшых братоў. Абодва засталіся «пад акупацыяй». Іван трымаў сякую-такую сувязь з партызанамі, а Анатоль толькі пасвіў дзедавых кароў, што не перашкодзіла атрымаць адпаведныя «корачкі». Абодва ёсць у кніжцы пра піянераў-герояў. Смех. Мясцовыя старажылы мне расказвалі, што ніякай арганізацыі з назвай «Піянерскі тайнік» насамрэч не існавала. Яе прыдумалі. Гэта чарговы савецкі фейк.

Падумайце: «кіраўніку» арганізацыі тады было толькі пяць гадоў...

Партызаны ў нашых мясцінах з'явіліся толькі ў сярэдзіне вайны і адзначыліся тым, што забілі нямецкага доктара ў вёсцы Шабулічы (эсэсаўцы потым спалілі яе разам з жыхарамі) і за тры дні да вызвалення ўзарвалі турбіну на цэментным заводзе. Турбіна была шведскай, і вытворцы пагаджаліся яе рамантаваць толькі па просьбе гаспадара, таго, каму належыць гэта ўласнасць. А які гаспадар можа быць пры савецкай уладзе?..

А маці ўвесь час была «пад немцамі» на роднай Сенненшчыне. Яе нават гналі на работы ў Германію. Тры разы ўцякала. Двойчы — з размеркавальнага пункта, адзін — прама з вагона.

Пра яе пакуты ў час вайны можна расказваць вельмі доўга, але зараз не пра гэта. У 1955 годзе яна пабралася шлюбам, а ў 1961 годзе (29 красавіка) на свет з'явіўся я. Нарадзіўся ў Ваўкавыску, дзе і знаходзіцца раддом. Так што я ў нейкім сэнсе — «гарадскі».

З дзяцінства мне больш за ўсё запомніўся адзін эпізод. Да двух гадоў я не размаўляў увогуле, а потым пачаў вымаўляць адразу цэлыя фразы. Прычым без дзіцячага «сюсюкання». А яшчэ праз год здарылася тое, што засталося на ўсё жыццё.

Памятаю, 1964 год. Малы (тры гады) стаю ў доўгай чарзе па хлеб, што пры Хрушчове было звычайнай з'явай. Побач за мной — стол, збіты з негабляваных дошак. Нехта паставіў на яго ровар з мяшком хлеба. Нечакана ён зваліўся прама на мяне. Мяне балюча ўдарыла тым мяшком. Голас прапаў зноў, і маці доўга вазіла мяне на загаворы да розных бабулек.

Так што я цяпер «ударацы».

# Ад бацькоўскага парога

Мы жылі ў рабочым пасёлку Краснае Сяло, што за 12 кіламетраў ад Ваўкавыска і за тры ад знаёмай усім лётчыкам (і не толькі) Росі. Там 8 тысяч жыхароў. Упэўнены, шмат хто ведае нашы мелавыя кар'еры — гэткія «беларускія Мальдзівы».

У мяне яшчэ ёсць сястра Ніна, старэйшая на тры гады. Раней яна працавала ў дзіцячым садку, а цяпер на пенсіі.

Спачатку мы жылі ў былым «даходным доме», якія ў нас называюць камяніцамі. Потым далі двухпакаёвую «хрушчоўку», дзе былі свае ванна, калонка, кухня, прыбіральнік і паравое ацяпленне, якое трэба было награваць печкай, што тапілася вугалем. Балазе, мой бацька ўжо працаваў машыністам паравоза і ў кішэнях цягаў з работы вугаль. Ім мы і палілі ў печы. А ягоны стрыечны брат Антон у «тармазку» (так называлі «ссабойку» з тэрмасам) прыносіў з работы цэмент, з якога потым яны збудавалі цэлы дом... Па жменьцы... Неверагодна...

Пры ўсёй павазе, бацьку нельга назваць добрым хатнім гаспадаром альбо агароднікам. А вось тое, што датычыцца саду, то тут ён быў амаль Мічурыным. Дрэвы яго слухаліся. За два кіламетры ад дома было наша лецішча — восем «касыгінскіх» сотак.

На адным ствале бацька рабіў па дваццаць «прышчыпак». Яблыкі розных колераў, розных гатункаў. Яны былі ў нас, што называецца, «ад яблыкаў да яблыкаў». Акрамя гэтага грушы, вішні, чарэшні. Кусты агрэсту, чорных і чырвоных парэчак і г. д.

Спачатку бацька саджаў тое, што расце ў нашых мясцінах. Потым пачаў пісаць лісты знакамітым садаводам, прафесарам. Саджанцы яму прысылалі з усяго Савецкага Саюза. Грушы «бэра» вагой даходзілі да кілаграма.

Падчас маіх бадзянняў маці тое лецішча прадала, бо адна не хацела яго даглядаць.

І ўвогуле. Маё свабодалюбства пачалося яшчэ ў дзяцінстве. З самага пачатку — абсалютна некіравальнае дзіця. З дзіцячага садка мяне пастаянна выганялі, таму маці прыходзілася браць нянек з вёсак. Яны ехалі з вялікім задавальненнем: такім чынам можна было атрымаць пашпарт, якога сялян тады пазбаўлялі.

Тое ж самае працягвалася ў школе, дзе, мякка кажучы, я лічыўся не самым лепшым вучнем. Дакладней, адным з самых праблемных. Бацька нават за гэта не хацеў купляць мне ровар «Арляня».

У першы клас я прыйшоў цалкам падрыхтаваным. Умеў чытаць, пісаць, складаць, аднімаць, да тысячы лічыў. А там малююць «палачкі»... Чытаюць па складах, а мне ўжо ў бібліятэцы выдаюць кнігі...

Словам, сум, а не вучоба. Можа, менавіта з гэтай нагоды і пачаў хуліганіць. Галоўнай праблемай стала так званая дысцыпліна. Лічу і кажу ўсё жыццё, што 45 хвілін для сямігадовага чалавека сядзець нерухома — вельмі зашмат. На мой погляд, урок павінен быць не болей за 25 хвілін, а потым даць дзесяць хвілін перапынку. Каб трохі пабегаць.

Савецкая сістэма адукацыі накіравана на іншае. З нас адразу робяць робатаў. Я ж, паўтару, быў цалкам некіруемы, і цікавасць да працэсу вучобы хутка страціў. Адзінае выключэнне — гісторыя і геаграфія. На іх расказвалі пра далёкія краіны і іх мінулае. То бок тое, што мне надзвычай падабалася.

Больш за тое, адзін з бацькавых братоў (старэйшы) дазваляў чытаць энцыклапедыю, а другі (малодшы) даваў чытаць падшыўкі дэфіцытнага часопіса «Вокруг света». Альбо сам пераказваў змест цікавых артыкулаў, бо быў цудоўным расказчыкам. Дарэчы, ён на памяць ведаў «Новую зямлю» Якуба Коласа і палову твораў Някрасава.

Увогуле ж у бацькі было двое братоў і тры сястры.

Так што цяга да вандровак — у крыві.

Школа стала кашмарам жыцця. Напэўна, для мяне стаць пад расстрэл было б лягчэй, чым штодзённа туды хадзіць. Прычым, канфлікты здараліся не толькі з настаўнікамі, але і з іншымі вучнямі. Настаўнікі не маглі са мной справіцца, таму даволі часта іх банальна нацкоўвалі. Прыходзілася абараняцца.

Цікава, што разам з прагай бунтарства і свабоды ўва мне жыла вялікая прага да тых ведаў, якія падабаліся. Гаворка не толькі пра геаграфію з гіс-

торыяй. Былі даспадобы добрая літаратура, паэзія. Але толькі не савецкія, бо расказы сваякоў сведчылі аб тым, што там з большасці ідэалагічная хлусня.

Зразумела, такія погляды не заставаліся без увагі тых, хто за гэтым сачыў. З 14 гадоў я стаяў на ўліку ў мясцовым КДБ.

З павагі да бацькоў мяне літаральна «перапіхвалі» з класа ў клас. Напрыклад, з настаўніцай нямецкай мовы ў мяне мелася дамова: я не хаджу на ўрокі, а яна мне за гэта ставіць «траякі». Лагічнае, дарэчы, выйсце, бо бывала так, што ўрокі я банальна зрываў. Напрыклад, мог закурыць прама на ўроку біялогіі.

Курыць я пачаў з пяці гадоў. А праз кароткі час навучыўся і піць.

Школу скончыў у 1978 годзе. З-за ранейшага запалення вачэй атрымаў «белы білет», дзякуючы чаму не трапіў у Афганістан.

Майму прызыву пашанцавала менш...

Уладкаваўся на працу на шыферны завод, які знаходзіўся ў родным Красным Сяле.

## Бунтарскія парогі

На заводзе я прапрацаваў каля двух гадоў.

Амаль адразу канфлікты з начальствам. Нават арганізаваў забастоўку. Пачаў ствараць паралельна існуючаму незалежны прафсаюз. Вельмі шмат крала начальства, і я гэта выкрываў.

Хутка зразумеў, што мяне альбо заб'юць, альбо пасадзяць у турму. Глебу для гэтага яны ўжо пачыналі рыхтаваць. Я якраз прачытаў, што ў БДУ стварылі падрыхтоўчае аддзяленне. Сабраў дакументы, з горам папалам здаў іспыты (асабліва нямецкую мову).

Наш інтэрнат месціўся на Паркавай магістралі, якая пры мне стала праспектам Машэрава, а цяпер зноў перайменавалі — ужо ў праспект Пераможцаў. Адвучыўся там год і ў 1980-м стаў студэнтам філалагічнага факультэта (рускае аддзяленне) Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Чаму менавіта рускае аддзяленне? Гэта мне параілі дасведчаныя людзі, бо там вучылася вельмі шмат, скажам так, надзвычай прасунутых асоб. І гэта сапраўды так. Напрыклад, Пеця Марцаў.

Да таго ж, паступаючы на рускае аддзяленне, я ўжо быў прынцыповым беларускім нацыяналістам...

Невыпадкова, што мной вельмі хутка зноў пачала цікавіцца адна сумна вядомая арганізацыя. Мая камунікабельнасць стала глебай для таго, каб КДБ прапанавала супрацоўніцтва. Я, канешне ж, адмовіўся. Не думаю, што камунебудзь гэта спадабалася...

Для таго, каб адпомсціць, не спатрэбілася нічога прыдумляць. Усё зрабіў мой «язычок». Пра савецкую ўладу я заўсёды выказваўся негатыўна і жорстка. Мяне банальна «залажылі». Я нават ведаю хто.

Дарэчы, тое, што мяне «залажылі» як нацыяналіста, а не як антысаветчыка, крыху дапамагло, бо яны не знішчылі адразу, а проста пачалі «душыць».

Прапанова прагучала ў канцы першага курса. Тыдзень далі падумаць. Я прыехаў дамоў, некалькі дзён хадзіў «чорны», а потым пра ўсё вылажыў маці. Яна сказала так: «У нас у радаводзе не было ні паліцаяў, ні партызан. Вяртайся, работу знойдзеш».

Беспрацоўных у СССР сапраўды не было.

У БДУ ўдалося скончыць паўтара курса, але да хаты я не вярнуўся. Паехаў бадзяцца па Савецкім Саюзе. Справа ў тым, што на руках застаўся студэнцкі білет, а ён даваў права 10% скідкі «на ўсе віды транспарту, акрамя таксі».

У мяне быў добры сябра Андрэй Вальдулевіч, якога за выкананне рок-музыкі адлічылі з Гарадзенскай музвучэльні. Суперскі гітарыст. На жаль, у Германіі памёр ад двайной анкалогіі — меланома і рак лёгкіх. Пахаваны на праваслаўных могілках у Берліне.

Захапленне гэтай музыкай сярод моладзі тады толькі-толькі набірала абароты. Многія дзеля гэтага і слухалі розныя «галасы». Памятаю, мы нават з Гародні (ехалі спецыяльна) адпраўлялі лісты — горад Лондан, Bi-Bi-Si, Севу Наўгародцаву.

Разам з Андрэем аб'ездзілі амаль усю еўрапейскую частку Савецкага Саюза, аднак на ўсход я не быў далей за сто першы кіламетр ад Масквы. Выключэннем стаў толькі адзін раз — у горадзе Струніна Іванаўскай вобласці жыў наш сябар.

Тэкстыльны горад Струніна — гэта тое ж Іванава. Толькі меншых памераў. Вечарам утраіх прыходзім у іх агромісты Дом культуры на танцы. На ўваходзе невялікая купка мужыкоў. У ватніках, кірзавых ботах, усе кураць «Беламор». Мы ў касцюмчыках у залю, а там — процьма дзяўчат. Вядучы нас заўважыў і адразу абвясціў «белы танец». «Процьма» кінулася да нас. Праняў нейкі невытлумачальны страх. Мы кінуліся ўцякаць. Беглі аж да вакзала, дзе заўсёды бывае міліцыя. Такое помніцца ўсё жыццё...

Аб'ехалі амаль увесь Крым, краіны Балтыі, Украіну, дзе, як і ў Крыме, я крыху жыў. Жыў на грошы, якія зарабляў. На шчасце, з працай ніякіх праблем тады не было. На любым прадпрыемстве патрэбны як мінімум грузчыкі.

Кім я толькі не быў... Змяніў каля дваццаці месцаў работы. Працаваў і токарам, і слесарам, і перакладчыкам у БелТА, і спортінструктарам, і агентам па продажах, і нават докерам (па-простаму — грузчык) у Клайпедзе. Апошняе — вельмі цяжкая работа, асабліва, калі трэба цягаць рыбную му-

ку. Кожны мяшок — пад сто кіло, плюс у мяне маленькія далоні, што для грузчыка не вельмі добра. Акрамя гэтага — пыл у труме стаяў такі, што я пачынаў задыхацца.

Менш за ўсё любіў вандраваць па Расіі. Галеча і бардак.

Пераязджалі з месца на месца з большасці ў электрычках, дзе кантралёры нас амаль не чапалі. У любых кампаніях мы былі пажаданымі гасцямі, бо Андрэй прыгожа граў на гітары, а я добра расказваў анекдоты. Начавалі дзе давядзецца. На вакзалах, у гатэлях альбо ў прыватнікаў, ці проста ў знаёмых. Ці ў дзяўчат — маладыя, валасатыя, з гітарай. Хіпі тады былі моднымі...

Колькі сябе памятаю, увесь час хацелася «зваліць» з Савецкага Саюза. Як і маім блізкім сябрам. Не падабалася нам гэта сістэма. Сістэма хлусні, двудушнасці і татальнага дэфіцыту.

У сёмым класе мяне нават не прынялі ў камсамол. Па-першае, вучоба і паводзіны. Па-другое, я быў для іх «классово чуждым элементом», бо збіраў ягады і прадаваў іх на мясцовым рынку.

Праз два гады яны ўжо самі ўгаворвалі ўступіць. Я паглядзеў на тое, што іх цягаюць на камсамольскія сходы і там «чысцяць», і «паслаў».

Школу скончыў некамсамольцам. Уступіў ва ВЛКСМ толькі падчас працы на заводзе. І тое пры ВЕЛЬМІ «цікавых» абставінах...

Аднойчы мы даволі моцна з хлопцамі выпілі. Назаўтра я прыйшоў на работу «ніякі» — рукі трасуцца, халодны пот, галава баліць. Да мяне падышоў наш сакратар камітэта камсамола і мой сусед Мар'ян Юроўскі. Паглядзеў, усё зразумеў і кажа: «Паехалі ў Ваўкавыск. Я там цябе пахмялю, а ты ўступіш у камсамол». Да таго ж ён паабяцаў аформіць адгул з аплатай рабочага дня і даць пуцёўку ад ЦК ВЛКСМ.

Так і зрабілі... Я пахмяліўся (Мар'ян купіў ежу і пляшку каньяку), стаў камсамольцам (без заходу ў гарkам камсамола — усё зрабіў Юроўскі сам) і з'ездзіў у месячны круіз па Чорным моры...

У час вучобы ў БДУ мяне таксама спрабавалі «прыструніць» за пропускі заняткаў. Вызвалі «на дыван» у камітэт камсамола і спыталі прычыну. Я адказаў, што гэта творчыя пошукі. Маўляў, пішу паэму пра «Малую зямлю»...

## Парогі лёсу

Бадзяліся аж да Чарнобыля, то бок да вясны 1986 года, з перарывам на некалькі месяцаў 1985 года, калі я паспрабаваў аднавіцца ў БДУ. Нават паспеў з'ездзіць на бульбу і правучыцца некалькі месяцаў. А потым зразумеў, што КДБ мяне ў спакоі не пакіне і зноў сышоў. Дарэчы, менавіта тады я і пазнаёміўся са сваёй будучай жонкай. У той дзень я быў у некага ў гасцях. Вяр-

таўся ў наш інтэрнат «пад мухай» і пераблытаў паверх. Ліфт, як заўсёды, не працаваў, і замест свайго сёмага я трапіў на пяты паверх. Зразумеў памылку і ўжо хацеў сысці, калі ўбачыў святло, якое лілося ў калідор з крайняга пакоя.

Вырашыў паглядзець, што там такое. Аказалася, дзяўчаты святкавалі дзень народзінаў сваёй сяброўкі і запрасілі мяне далучыцца. Сярод іх была адна, якая сядзела ў старонцы і чытала кніжку. Прыглядзеўся, па-ангельску напісана — Рэй Брэдберы. Мяне гэта моцна ўразіла. Дамовіўся пазнаёміцца «на цвярозую галаву».

Аказалася, Інэс Берэсуэта родам з Эквадора, да нас прыехала па студэнцкім абмене. Па бацьку яна басконка. З басконскай мовы прозвішча перакладаецца «як чалавек, які любіць мора». Ніякіх рамантычных настрояў дзяўчына не выклікала, бо, на мой густ, малая ростам, 158 см. Тады мне больш падабаліся высокія і даўганогія. Гэта я потым зразумеў, што ніякіх стандартаў тут быць не можа, бо Бог зробіць з дакладнасцю наадварот.

Пасля гэтага я паехаў у Клайпеду, дзе і працаваў докерам. Аднак хутка не вытрымаў і з'ехаў адтуль у Грузію. Дакладней, у горад Тэлаві, які вядомы па культавым фільме «Міміно». Горад-казка, сапраўдная Грузія.

У Тэлаві ёсць шыкоўная карцінная галерэя. Князі Чавчавадзэ падарылі яе гораду. Там трыста карцін. Па адной усіх вялікіх мастакоў. Якія імёны! Ціцыян, Рубенс, Манэ!!!

Потым мы з Андрэем вярнуліся ў Беларусь. І на наступны дзень пасля аварыі на ЧАЭС загаралі на пляжы Жлобіна, бо спёка была неймаверная.

Купаемся ў возеры, папіваем чачу і бачым, што стала вельмі шмат машын хуткай дапамогі. Спачатку мы нічога не маглі зразумець, потым ад нейкай бабулькі даведаліся пра тое, што ў Чарнобылі «ўзарвалася нейкая атамная бомба»... Потым на электрычках сталі дабірацца да Мінска. Вакол людзі ў зімовых шапках, усе п'юць ёд. Магчыма, менавіта тады ў Андрэя і пачалася меланома... Чатыры гадзіны на радыяцыйным сонцы...

У Мінску зноў сустрэўся з Інэс. Пагаварылі і зразумелі, што кахаем адно аднаго. Я паехаў дадому, у Ваўкавыску ўладкаваўся на завод, які вырабляў машыны для дахавых работ.

Год мы не маглі распісацца, збіралі дакументы.

Дарэчы, шмат перашкодаў было не толькі ў мяне. У Інэс таксама. Эквадор — вельмі веруючая краіна, шчыльна кантактуе з Ватыканам, таму для іх усе савецкія людзі былі заўзятымі бязбожнікамі. Для іх лепш, каб я паходзіў не з Савецкага Саюза, а, скажам, з Кубы, якая, нягледзячы на камуністычны рэжым, ніколі не сварылася з рымскім Папам.

Я для эквадорцаў быў увасабленнем ваяўнічага атэізму.

14 траўня 1987 года мы пабраліся шлюбам. Я перабраўся ў Мінск. Адразу ўзніклі праблемы з жытлом. Усе баяліся. Як толькі людзі даведваліся, што мая жонка замежніца, — адразу адмаўлялі.

А ў мяне — іншая «засада». Прапіска толькі ваўкавыская, у Мінску нідзе не ўладкавацца на працу.

Раддома, дзе нарадзіўся мой сын, ужо няма. Гэта той самы раддом, які месціўся насупраць перарobленага ў турму Пішчалаўскага замка. Напэўна, там была ці не самая паскудная ў рэспубліцы падобная ўстанова. Пасля родаў унутры маёй жонкі пакінулі вату. Праз пэўны час у яе прапала малако і паднялася высокая тэмпература.

Выратаваў стары жыд, да якога мы тэрмінова паехалі ў Ваўкавыск. Менавіта гэты доктар некалі прымаў мяне. Ён паглядзеў на Інэс, адразу зразумеў прычыну, усё вычысціў і параіў прыносіць «белае мяса». Але не ад курыцы, а ад свінні, то бок сала. За дзесяць дзён паставіў яе на ногі. Без усялякіх лекаў, адным харчаваннем...

У сына падвойнае імя Ян Францішак і падвойнае прозвішча Вераціла-Берэсуэта. Сын нарадзіўся ў 1988 годзе, а дачка — у 1990-м. Яе завуць Ляля Марыя Эліза, працуе настаўніцай пачатковых класаў у Лондане, вучыць так званых стрэсавых дзяцей з гарачых кропак. Сын жыве ў Эквадоры. Хоць яму там вельмі няпроста, бо ён не падобны на асноўнае насельніцтва краіны — высокі, светлы. Спрабаваў нават фарбаваць валасы ў чорны колер, каб быць падобным на астатніх. Не спрацавала. У яго шмат талентаў — спартовец, вэб-майстар, музыкант, мастак. Наколькі мне вядома, цяпер ён у турыстычным бізнесе.

Пасля нараджэння сына нам далі маленькі пакойчык у інтэрнаце. Яны жылі там, а я — дзе прыйдзецца. З большасці ў сяброў. Працаваць мог толькі «на халтурах».

Некалькі дзён будаваў Шушкевічу лецішча, таму магу дакладна сказаць, што гісторыя са «скрыняй цвікоў» — прымітыўная прафанацыя.

Калі сыну было больш як год, мы на дзевяць месяцаў паехалі ў Эквадор, каб яго і мяне паказаць тамтэйшаму клану Берэсуэта.

У Эквадоры для нас шмат незвычайнага. Напрыклад, там ледзь не далікатэсам лічацца марскія свінкі. На мой густ — амаль пацукі. На мове мясцовых індзейцаў іх называюць вядомым словам з трох літараў. Тым, што часта пішуць на плоце, а ў прыстойных тэкстах абазначаюць шматкроп'ем...

Дачка, як і я, нарадзілася ў Ваўкавыску, але мы зачалі яе ў Эквадоры...

Потым я вырашыў паступіць на журфак БДУ, зразумела, на завочнае аддзяленне. Па дагаворы супрацоўнічаў з «Вожыкам», і як фрылансер пісаў артыкулы для розных СМІ.

Адным з першых іспытаў быў па замежнай мове. Для мяне, зразумела, гэта іспанская. За час наведвання Эквадора я навучыўся размаўляць на ёй амаль свабодна. Іспыт, як у тым фільме, быў святам. Выкладчыца ў «зачотку» паставіла «пяць», а ў ведамасці зрабіць адпаведны запіс забыла.

Праз некаторы час прыйшоў ліст, дзе было напісана, што я адлічаны з журфака за тое, што не здаў экзамен па замежнай мове. У мяне і маёй жонкі быў шок. Пайшоў разбірацца. На шчасце, у БДУ была і загадчыца кафедры, якая сама прысутнічала на тым іспыце і пацвердзіла маю праўду.

Для выкладчыцы, якая прымала іспыт, яе памылка магла каштаваць надзвычай дорага, і я праявіў не зразумелае многім высакародства. Я яе пашкадаваў. Урэшце на дадзены момант маю паўтара курса філфака і паўкурса журфака.

# Да бацькоўскага парога

Калі жонка закончыла вучыцца, яна з дзецьмі вярнулася ў Эквадор.

Спачатку мы падтрымлівалі адносіны, ліставаліся, размаўлялі па тэлефоне, а потым гэта ўсё сышло.

Напэўна, каб камусьці было падказаць, што такія, як наша, сем'і (муж і жонка з розных кантынентаў) маюць у некаторых краінах шмат прывілеяў, усё было б па-іншаму.

Напрыклад, у Канадзе. Для нас гэта быў бы ідэальны варыянт. Гэта б задавальняла і яе, і мяне, бо туды трэба ляцець самалётам і ёй, і мне.

Пачалася вельмі моцная дэпрэсія. Не ведаю, як змог яе перажыць. Сёння ў гэта цяжка паверыць, аднак у 1992 годзе я зняў кватэру ва Уруччы за 10 даляраў у месяц. Калі з раніцы сыходзіў на работу, то пакідаў там уключанымі святло, радыё і тэлевізар. Так па вяртанні першыя хвіліны мне здавалася, што ў доме нехта ёсць, бо пасля раданага шуму жонкі і дваіх дзяцей, «слухаць» цішыню проста невыносна. Хоць ты вешайся...

Праз два гады вярнуўся ў роднае мястэчка. Спрабаваў трошку гандляваць, то бок зладзіць нейкі дробны бізнес. Хутка гэта надакучыла, і я цалкам пачаў займацца літаратурай. У Саюз пісьменнікаў уступіў у 2005 годзе, калі ён раскалоўся і адразу пяцьдзясят чалавек, сярод якіх шмат знакавых прозвішчаў, выбралі тое, што не створана ўладамі. Рызыкну выказаць здагадку, магчыма, гэта і выратавала ад «творчай зачысткі», бо было цалкам зразумела — узяць усіх пад кантроль не атрымаецца.

Дарэчы, мяне прынялі без ужо выдадзенай кнігі. Яна з'явілася крыху пазней, хаця была напісана даўным-даўно. «Разбітае сэрца Вітаўта» намінавалі на прэмію Ежы Гедройца, і многія бачылі яе сярод пераможцаў. Замест гэта-

га мяне там публічна абразілі, а вядомая чытачка Алена Гушча скандальна «раскруціла» створаны там «паміжсабойчык».

Аднак гісторыя гэтай кніжкі складаецца не толькі з таго скандалу.

Некалі я надрукаваў у «ЛіМе» (часоў рэдактарства нябожчыка Алеся Пісьмянкова) адно апавяданне. Першапачаткова яно называлася «Разбітае сэрца Вітаўта Чаропкі». Рэдактар, каб не крыўдзіць Чаропку, зняў з загалоўка ягонае прозвішча. У выніку назва атрымалася суперская. Не адразу здагадаешся, што яна расказвае пра каханне чалавека ў розныя перыяды яго жыцця.

Назва таго апавядання і стала назвай маёй першай кнігі.

Наколькі мне вядома, пасля таго, як «Мастацкая літаратура» надрукавала «Разбітае сэрца Вітаўта», па камандзе аднаго «пісьменніцка-генеральскага» начальніка я стаў там непажаданым аўтарам, і чарговую кнігу яны друкаваць адмовіліся. Калі Бог дасць, «Эпоху звера» надрукуе адно прыватнае выдавецтва. 18 гадоў гэты раман, што называецца, ляжыць у стале.

Па вялікаму рахунку, звер ёсць у кожным з нас, і толькі ад асобы самога чалавека залежыць прачнуцца яму альбо згінуць назаўсёды.

Магчыма, некаторыя не пагодзяцца з такой высновай, але, на мой погляд, прычына негатыўных адносінаў да Верацілы з большасці ў адсутнасці ўнутранай свабоды. Многія моцна вельмі залежаць ад розных абставінаў, грантаў, творчага славалюбства, а я ўнутрана свабодны.

У тым ліку і ад гарэлкі, з якой многія звязваюць маё імя.

Многія не разумеюць гэтую свабоду, бо яны нават уявіць не могуць, што па жыцці можна абыходзіцца самым мізэрным. Я атрымліваю фінансавую дапамогу па доглядзе маці, плюс яе пенсія. На гэтыя грошы мы і жывём. Сціплы бюджэт размяркоўваем кожны месяц. Хапае на ўсё.

І ў першую чаргу на тое, каб быць свабодным».

*08.02.2016*



Вяселле. Жонка Інэс Берэсуэта



Краснае сяло. Парк.
З жонкай і сынам



Сын і дачка



З сынам Янам Францішкам



Пагаліў сына.
Цешча абурылася,
тады Сяргей у знак
салідарнасці
пастрыгся налыса
сам



# Наталля ГАРДЗІЕНКА

**Нягледзячы на малады для гісторыка ўзрост, кандыдат гістарычных навук Наталля Гардзіенка паспела ўжо трапіць у гісторыю сама, калі стала першай кіраўніцай створанай нядаўна пры Саюзе беларускіх пісьменнікаў секцыі нон-фікшн, то бок непрыдуманай літаратуры. Але не толькі гэта з'яўляецца яе дасягненнем. Сёння Наталля Гардзіенка — адна з найбольшых знаўцаў беларускай эміграцыі.**

## Гісторыя дзяцінства

«З шостага ліпеня 1977 года і да вяселля мяне называлі Наталляй Арловай. Нарадзілася я ў Мінску. Маці, Таццяна Георгіеўна, — медык, родам таксама з Мінска, але яе бацькі паходзілі са Случчыны, з-пад Лядна. Землякі Мікалая Статкевіча.

А бацька, Сяргей Віктаравіч, паходзіць з Круглага Магілёўскай вобласці. Доўгі час ён быў вайскоўцам, скончыў вайсковую вучэльню, якую ў Мінску называюць ВІЗРВ. Калі мая маці вучылася ў мединстытуце, яны і пазнаёміліся.

Пасля заканчэння вучылішча бацьку накіравалі служыць у войскі супрацьпаветранай абароны на Далёкі Усход, дакладней, на самую мяжу з Кітаем, ва Усурыйскі раён. На дзесяць гадоў.

Калі мне споўнілася тры, разам з маці я паехала туды таксама. Там пайшла ў дзіцячы садок. На Далёкім Усходзе нарадзіўся мой брат Віктар, які цяпер жыве ў Амерыцы, працуе праграмістам.

Калі надышоў час ісці ў школу, бацькі вырашылі, што мне лепш вярнуцца ў Мінск, дзе жылі бацькі маці: мая бабуля Ганна Аляксандраўна, дзядуля Георгій Рыгоравіч і цётка Ала Георгіеўна. Так і зрабілі.

У першы клас я пайшла ў школу №150, што ў мікрараёне Масюкоўшчына. А тата з мамай разам з братам яшчэ два гады былі на Далёкім Усходзе.

У 1986 годзе бацьку накіравалі ў Еменскую Арабскую Рэспубліку, якую да аб'яднання называлі Паўночным Еменам. У трэцім класе я вучылася ў тамтэйшай сталіцы Сане, у школе пры савецкай амбасадзе. Гэта была цікавая, надзвычай інтэрнацыянальная школа.

Бацькава вяртанне з Емена супала з развалам Савецкага Саюза, і ён вырашыў застацца ў Беларусі і працягваць службу ў Лідзе Гарадзенскай вобласці, дзе ў 15-й школе я вучылася восьмы і дзявяты класы.

Бацька не імкнуўся да вялікіх зорачак на пагонах (напэўна, войскі супрацьпаветранай абароны — не самае лепшае месца для кар'ернага росту ўвогуле), таму звольніўся на пенсію ў сціплым чыне капітана. Гаворка, канешне, пра ваенную пенсію, бо ён і па наш дзень працуе інжынерам-электрыкам на хлебазаводзе ў Мінску.

Як бачна, сярэдніх школ мне давялося змяніць даволі багата, што, як вядома, магло негатыўна адбіцца на ўзроўні адукацыі. На шчасце, гэтага не адбылося, аб чым сведчыць паступленне ў знакаміты Ліцэй БДУ.

Гэта быў 1992 год. Трапіць у ліцэй заўсёды цяжка. Тым больш для дзяўчынкі з беларускай правінцыі. Зразумела, чаму ніхто з блізкіх у мой поспех асабліва не верыў. У мяне ж была моцная матывацыя — я вельмі хацела вярнуцца з Ліды ў Мінск.

Паступіла я ў ліцэй (па маім глыбокім перакананні) перш за ўсё дзякуючы настаўніцы беларускай мовы і літаратуры Наталлі Іванаўне Вянсковіч, якая мяне для гэтага спецыяльна рыхтавала. І ішла я туды ў першую чаргу як будучы філолаг.

Іспыты ў профільны клас адпаведныя: беларуская мова і літаратура (вусна), руская мова (пераказ) і гісторыя Беларусі (вусна). Конкурс вялікі — каля 6 чалавек на месца, што мяне зусім не здзівіла.

А вось тыя, хто прымаў іспыты, крыху здзівіліся ўзроўню ведаў «дзяўчынкі з правінцыі»... У выніку я паступіла і скончыла ліцэй з залатым медалём.

Клас у нас быў гісторыка-філалагічны. Нягледзячы на тое, што я паступала як філолаг, у час вучобы настаўнікі мяне «пераарыентавалі» на гісторыю.

## Універсітэцкая гісторыя

З ліцэя адразу пайшла на гістфак БДУ. Вучылася на беларускамоўным аддзяленні.

У мяне ніколі не было праблем з беларускай мовай, хаця статус дачкі вайскоўца дазваляў яе не вучыць. Калі тая з'явілася сярод прадметаў навучання, я якраз з'ехала ў Емен, а па вяртанні ў беларускую школу настаўніца мне сказала: «Табе ж нескладана вучыць нашую мову, а ў хуткім часе яна будзе паўсюль патрэбная...»

Як і многія гарадскія дзеці, мела родных на вёсцы. Практычна кожнае лета праводзіла ці на Случчыне, ці на Магілёўшчыне, таму мову чула. Яна мне

падабалася заўсёды (нават у адпаведных алімпіядах удзельнічала), і з ёй, паўтару, не было ніякіх праблем. Прафесійнае маё гістарычнае жыццё ад універсітэта звязана з беларускай мовай. У пэўны момант перайшла на яе і ў сям'і, гэта адбылося ўжо пасля нараджэння сына Яраслава.

Шчыра кажучы, да вучобы ў ліцэі ніколі не думала, што стану гісторыкам. Гісторыя мне не вельмі падабалася, бо школьны настаўнік быў не самым лепшым...

Калі ж паступала на гістфак, меркавала, што стану спецыялізавацца на сусветнай гісторыі, аднак даволі хутка арыенцір зноў кардынальна змяніўся. Ужо на першым курсе я перайшла на кафедру гісторыі Беларусі старажытнага часу і сярэдніх вякоў.

Першыя гады ўніверсітэцкай вучобы былі даволі простымі, таму што мы, ліцэісты, мелі вельмі багаты «багаж», на якім можна доўга трымацца. Але вялікую ролю адыгралі і выкладчыкі. Перш за ўсё Павел Алегавіч Лойка і Уладзімір Пятровіч Емяльянчык, што і выкладалі старажытную гісторыю Беларусі. Яны настолькі «запалілі» студэнтаў беларускай гісторыяй, што значная частка курса хацела спецыялізавацца на іх кафедры. На жаль, абодва сышлі ў лепшы свет у маладым узросце.

Маім навуковым кіраўніком быў Уладзімір Пятровіч Емяльянчык — добры спецыяліст па беларускай гісторыі XVIII стагоддзя. Гэта і прадвызначыла цікавасць да таго перыяду. Ужо з трэцяга курса пісала па ім курсавыя работы, абараняла дыплом. А пазней і кандыдацкая дысертацыя называлася «Становішча жанчыны-шляхцянкі ў Вялікім Княстве Літоўскім у XVIII стагоддзі». Тэму падказала таксама наша ўніверсітэцкая выкладчыца Алена Мікалаеўна Філатава. Яна ж вельмі падтрымлівала мяне ў працы і пры абароне.

Ва ўніверсітэце сустрэла свайго будучага мужа Алега Гардзіенку, з якім на апошнім курсе мы пабраліся шлюбам. У 2006 годзе ў нас нарадзіўся сын Яраслаў.

## Гісторыя з прафесіяй

Натуральна, пасля сканчэння ўніверсітэта я пайшла ў аспірантуру. Амаль адразу. Вядома ж, было патрабаванне спачатку ўладкавацца на працу і толькі потым паступаць.

Па размеркаванні мяне (як мінчанку) пакінулі ў Мінску, дзе і адпрацавала ў школе настаўніцай гісторыі роўна чатыры месяцы, да таго моманту, як паступіла ў вочную аспірантуру. Мне вельмі хацелася займацца менавіта даследчай працай, бо настаўніцтва здавалася не зусім маім заняткам.

Тым не менш, яшчэ да сканчэння аспірантуры і абароны дысертацыі я ўладкавалася на працу ў Мінскі абласны інстытут развіцця адукацыі (МАІРА — сучасная назва), то бок у тую ўстанову, што працуе з настаўнікамі, займаецца павышэннем іх кваліфікацыі.

У МАІРА я прапрацавала да канца 2010 года. Спачатку звычайным выкладчыкам, потым дэканам факультэта, а апошні год была прарэктарам па вучэбнай рабоце. Можна сказаць, «зрабіла кар'еру», якая, што праўда, мяне зусім не цікавіла. Я проста «трапіла ў плынь».

Да канца 2010 года ў інстытуце ніхто асабліва не цікавіўся маімі палітычнымі поглядамі і прыярытэтамі, але менавіта апошнія адыгралі важную ролю, калі я сыходзіла. Дакладней, сталі адной з прычын.

Як ужо казала, мяне не вельмі цікавіў настаўніцкі шлях. Не вельмі падабаліся мне і кіруючыя пасады. Трывала ўсё пры ўмове, што мела магчымасць займацца найбольш для мяне цікавым — даследчай працай. Але паступова часу на даследаванні станавілася ўсё меней, таму пачала шукаць варыянты, каб сысці з інстытута. Урэшце сышла не па ўласным жаданні.

Нагадаю, напрыканцы 2010 года былі прэзідэнцкія выбары і ўсё, што з імі звязана. Муж працаваў і працуе ў апазіцыйнай «Нашай Ніве». Час пасля выбараў быў даволі нервовы, і мы чакалі розных непрыемнасцяў у выглядзе ператрусаў. Да таго ж мой бацька быў пасля выбараў на плошчы перад Домам урада (я — не, бо сядзела з сынам)...

Словам, перад самым Новым годам кіраўніцтва інстытута вырашыла, што я ўяўляю для яго небяспеку. Справа ў тым, што я была адзіным прарэктарам, няўзгодненым непасрэдна з абласным кіраўніцтвам адукацыі. Так атрымалася ў выніку чарговай рэарганізацыі інстытута. Калі пайшлі размовы наконт апазіцыйнасці маёй сям'і, гэта стала выглядаць небяспечным для кіраўніцтва, і рэктар прапанавала звольніцца. Напэўна, каб вельмі хацела гэтай працы, то змагалася б... Але я ўжо нудзілася там, трымаў толькі вельмі добры калектыў...

У выніку 30 снежня 2010 года я сышла «ў нікуды». Нягледзячы на ўнутраную маральную падрыхтаванасць, самі абставіны зрабілі сыход даволі балючым.

Паўгода жыла, як кажуць цяпер, «дармаедкаю», пакуль не ўладкавалася ў прыватную навучальную ўстанову — Інстытут парламентарызму і прадпрымальніцтва. Так я зноў стала выкладчыцай, толькі ўжо не для настаўнікаў, а для студэнтаў. Праз тры гады выкладання мая афіцыйная прафесійная кар'ера зрабіла чарговы зігзаг — запрасілі ў Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва для працы з беларускімі замежнымі фондамі. За

1990-я і 2000-я гады тут назбіралася даволі шмат матэрыялаў, якія перадавалі беларусы замежжа, аднак не было спецыяліста, хто б мог з імі працаваць. Так я стала архівістам і, здаецца, нарэшце знайшла тое месца, дзе сапраўды хочацца працаваць.

# Гісторыя з эміграцыяй

Вельмі добра памятаю, што, калі на гістфаку мы здавалі іспыт па пасляваеннай гісторыі Беларусі, я надта не хацела, каб мне трапілі пытанні па беларускай дыяспары. З-за фрагментарнасці інфармацыі гэтая тэма была для мяне «цёмным лесам». Тады я літаральна малілася, каб мне не дасталося тое, чым займаюся сёння.

У змене стаўлення зноў, як часта ў маім жыцці, адыграла ролю асоба. На пачатку 2000-х гадоў пазнаёмілася з архівістам, бібліятэкарам, даследчыкам беларускай эміграцыі з Нью-Ёрка Лявонам Юрэвічам. З таго часу пачалося супрацоўніцтва і сяброўства. Калі скончыла сваю дысертацыю, XVIII стагоддзе стала не вельмі цікавым, прыйшла так званая «стомленасць ад матэрыялу». Нехта з калег слушна заўважыў: гісторыку трэба праз пэўны час мяняць або тэму, або перыяд даследаванняў, бо «прытупляецца» ўспрыманне матэрыялу. Для мяне XVIII стагоддзе змянілася на XX, на тэму эміграцыі.

На пачатку 2000-х мы рыхтавалі да друку «Хроніку беларускага жыцця на чужыне» Міколы Панькова. Гэта храналагічныя запісы (памесячныя і нават падзённыя) пра тое, што адбывалася ў асяродках беларускага замежжа на Захадзе, пачынаючы ад канца 1940-х гадоў і да пачатку 1980-х. Я дапамагала рабіць іменны паказнік. Вельмі ўразіла, што многія з некалькіх тысяч узгаданых прозвішчаў былі цалкам невядомыя для нас. Складанасцю стала нават расшыфроўваць ініцыялы. Нараджалася крыўда за гэтых людзей, захацелася «вярнуць» імёны...

Паколькі мая дысертацыя была прысвечана жанчынам, то і тут я вырашыла аддаць прыярытэт менавіта эмігранткам. І калі пра беларускую эміграцыю наогул даволі мала інфармацыі, то пра жанчын — амаль не было.

Дзякуючы Лявону Юрэвічу і Віктару Кавалеўскаму (беларусу з Аўстраліі) я пачала збіраць адрасы беларусак, да якіх можна было б звярнуцца, каб запісаць іх успаміны.

Адправіла вельмі шмат лістоў у Канаду, ЗША, Аўстралію... Хтосьці адгукнуўся, як Раіса Жук-Грышкевіч з Канады, з якой у нас наладзілася ліставанне. Але найбольш актыўнымі аказаліся беларусы Аўстраліі, прычым менавіта мужчыны. Яны вырашылі, што лепш не ліставацца, а запрасіць мяне туды,

каб я на месцы паразмаўляла з іх жанчынамі і запісала ўсё, што хачу. Папярэдне, вядома ж, яны высветлілі, хто я такая, зрабілі адпаведныя даведкі ў Згуртаванні беларусаў свету «Бацькаўшчына».

Так нечакана, праз месяц пасля абароны дысертацыі, з'ехала на чатыры тыдні да аўстралійскіх беларусаў. Было гэта ўвесну 2003 года.

Тыдзень я правяла ў Мельбурне, тыдзень — у Адэлаідзе, два тыдні — у Сіднеі. Жыла ў сем'ях беларускіх эмігрантаў. Яны арганізоўвалі сустрэчы з іншымі беларусамі. Я запісала тады дзясяткі інтэрв'ю. Дакладней — паспела запісаць... На жаль, шмат удзельнікаў тых размоў ужо адышло ў іншы свет...

Аўстралійскія ўспаміны сталі асноўнай часткай маёй першай кнігі. Але ў працэсе працы над ёй стала зразумела, што пісаць выключна пра жанчын не выпадае — пра беларусаў Аўстраліі наогул амаль нічога не было вядома ў Беларусі. У выніку кніга прысвечаная і беларусам, і беларускам Аўстраліі. Яна пабачыла свет у 2004-м і стала першай маёй прыступкай у вывучэнні беларускай эміграцыі.

Так у мяне наладзіліся добрыя стасункі са Згуртаваннем беларусаў свету «Бацькаўшчына», і паступіла прапанова працягнуць працу над тэмай. Тады беларусы Брытаніі шукалі каго-небудзь, хто б папрацаваў з іх архівамі, і я паехала туды. Так з'явілася другая кніга ў 2010 годзе. Потым, якраз у перыяд вымушанага «дармаедства», я змагла папрацаваць з архівамі канадскіх беларусаў, на падставе якіх плануецца яшчэ адна кніга... Таксама разам з Лявонам Юрэвічам за апошнія гады мы выдалі ўжо дзве кнігі пра Раду БНР на эміграцыі і рыхтуем трэцюю.

Цікавасць да эміграцыі адлюстравалася не толькі ў кнігах. Яшчэ калі ішла праца над «аўстралійскай» кнігай, паступіла прапанова паўдзельнічаць у выданні альманаха «Запісы Беларускага інстытута навукі і мастацтва». Ён пачаў выдавацца яшчэ ў 1950-х у Нью-Ёрку, калі інстытут толькі заснавалі.

Пачынаючы з 2004 года да сёння я рэдагую «Запісы», а выдаюцца яны штогод.

Ад самага пачатку гэтай працы беларусы замежжа, найперш з БІНіМа, перадалі вельмі шмат каштоўных дакументаў. З часам наша кватэра стала нагадваць музей, таму я ўсё перанакіравала ў больш адпаведнае месца — Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва, той самы, дзе цяпер працую. Тут мы стварылі своеасаблівы Цэнтр камплектавання і вывучэння дакументальнай спадчыны беларускага замежжа, які можа займацца збіраннем матэрыялаў больш эфектыўна. Дзякуючы нашай працы ў мінулым годзе ў Беларусь з ЗША сярод іншага вярнуліся аўтографы Янкі Купалы і Уладзіміра Жылкі.

Цікавасць да беларускага замежжа ў мяне шматбаковая. І выставу неяк удалося арганізаваць, і інтэрв'ю запісваюцца, і архівы збіраюцца, і секцыю на Кангрэсе даследчыкаў Беларусі ў Коўна арганізоўваю... Даволі шмат даводзіцца займацца падрыхтоўкай да друку розных эміграцыйных ці эміграцыязнаўчых тэкстаў. Багата кніг выдадзена ў серыі «Бібліятэка Бацькаўшчыны» Згуртавання беларусаў свету.

У 2010 годзе пачалося таксама супрацоўніцтва з выдавецтвам «Лімарыус». З'явілася ідэя стварыць серыю, дзе б выдаваліся ўспаміны беларускіх эмігрантаў. Аляксандр Фядута прапанаваў пашырыць ініцыятыву да выдання наогул беларускіх мемуараў. Так узнікла «Беларуская мемуарная бібліятэка». У 2011 годзе амаль адначасова выйшлі дзве кнігі: «Успаміны пасла» Аляксандра Стагановіча, падрыхтаваныя гісторыкам Аляксандрам Пашкевічам, і «Успаміны» Яўстафія Янушкевіча, што былі падрыхтаваныя Вольгай Гарбачовай. І серыя атрымала жыццё. Сёння ў ёй выйшла ўжо больш за дзясятак кніг, сярод якіх значная частка «эміграцыйных»...

Тэма эміграцыі даволі шмат мне дала. Але, бадай, самае каштоўнае — гэта вялікая колькасць цікавых знаёмстваў з беларусамі (і не толькі) з розных краін. Асабліва важнымі асобамі сталі айцец Аляксандр Надсан, які дапамагаў у працы над кнігай пра беларусаў Вялікабрытаніі і ў размовах з якім прайшло багата гадзін; Вітаўт Кіпель, што падтрымлівае, бадай, усе мае эміграцыязнаўчыя ініцыятывы і чый прыклад актыўнай жыццёвай пазіцыі дае і мне сілы для працы; Янка Запруднік, што актыўна папаўняе нашы архіўныя фонды, дапамагае матэрыяламі; Юры Туронак, чыя даследчая праца для мяне заўсёды будзе прыкладам дакладнасці і сумленнасці... Можна згадваць дзясяткі імёнаў беларусаў Аўстраліі, Брытаніі, ЗША, Канады, Польшчы ды іншых краін, з кім давялося спаткацца і якія пакінулі след у маім жыцці. Гэтыя сустрэчы не толькі ўзбагацілі мае веды пра эміграцыю, але і шмат далі ў разуменні каштоўнасці міжчалавечых адносінаў.

Нягледзячы на тое, што ёсць яшчэ багата планаў і даследчых, і выдавецкіх, і іншых, сёння я задаволеная тым, што ўжо ўдалося зрабіць.

Пэўная ідэалізацыя эміграцыі, уласцівая 1990 гадам, па сутнасці, знікла. Тады яна была цалкам абгрунтаванай, бо тэма толькі-толькі адкрывалася. Але сёння створаны падставы для сапраўды сур'ёзных даследаванняў і для разумення, што беларускае замежжа шмат у чым ёсць адлюстраванне грамадства метраполіі, там дзейнічаюць тыя самыя механізмы, існуюць тыя самыя праблемы. Вельмі важна ўсведамляць, што і ў Беларусі, і ў замежжы жывуць тыя ж беларусы, яны — часткі адзінай нацыі, складнікі агульнай нацыянальнай гісторыі і культуры.

# Гісторыя з літаратурай

Нягледзячы на тое, што ўжо больш за дзесяць гадоў актыўна працую з рознымі тэкстамі, багата пішу, але доўгі час не думала пра сябе як пра менавіта пісьменніка. Штуршок прыйшоў звонку. Восенню пазамінулага года мне патэлефанавалі з Саюза беларускіх пісьменнікаў (СБП) і прапанавалі з'ездзіць у Швецыю, паглядзець, як пры тамтэйшым пісьменніцкім саюзе працуе секцыя нон-фікшн.

Зразумела, пасля такой прапановы я стала цікавіцца, у чым сутнасць літаратуры нон-фікшн, бо гэта было для мяне адносна новым паняццем. Вырашыла стаць сябрам СБП.

Пазней даведалася, што з гэтым былі праблемы, бо далёка не ўсе пісьменнікі лічаць нон-фікшн сапраўды літаратурай...

У Швецыі я паглядзела, як усё працуе там, пазнаёмілася з кіраўніцай секцыі Анэт Розэнгрэн. У час гэтай паездкі ўзнікла ідэя стварыць падобную секцыю і ў нас. Старшыня СБП Барыс Пятровіч ідэю шчыра падтрымаў. У выніку ўвесну мінулага года секцыя непрыдуманай літаратуры пры СБП была створана і мяне абралі яе кіраўніцай.

Пакуль значнымі вынікамі працы пахваліцца не магу. Напэўна, найбольш важным стала заснаванне Прэміі імя Аляксандра і Марыі Стагановічаў у галіне непрыдуманай літаратуры, якую мы сёлета ўпершыню ўручылі. У гэтай прэміі спалучылася тое, што мяне на сёння найбольш цікавіць: тэма эміграцыі і літаратура нон-фікшн. Спадзяюся, у абедзвюх галінах яшчэ атрымаецца нешта карыснае зрабіць».

*25.06.2015*



З маці і братам Віктарам





З маці, бацькам і братам. Сана (Емен), 1987 год



З Алегам Шнэкам. Мельбурн, 2003 год



**З айцом Аляксандрам Надсанам.
Лондан, 2005 год**



**З сынам Прэзідэнта Рады БНР Міколы
Абрамчыка Альгердам. Парыж, 2012 год**



З прафесарам Сіднейскага ўніверсітэта Вольгай Качан. Сідней, 2003 год



З сынам Яраславам





З братам Віктарам. Вёска Круглае, 2002 год





**На прыёме ў амерыканскага амбасадара.
Злева направа: Ягор Фядзюшын, Вольга Іпатава,
Вітаўт Кіпель, Алег і Наталля Гардзіенкі. Мінск, 2005 год**

# Адам ГЛОБУС



Напэўна, гэтага чалавека можна назваць самым «спрэчным» прадстаўніком беларускага бамонду... Напэўна, шмат хто палічыць яго занадта натуралістычным... Напэўна, нехта нават абвінаваціць у недахопе маральнасці... Не буду нікога пераконваць. Адзначу толькі, што прэтэнзіі пры жаданні можна выставіць кожнаму з нас. Галоўнае, на мой погляд, тут зусім іншае. Адам Глобус не мімікруе згодна з сітуацыяй, а шчыра робіць тое, што лічыць неабходным. Як вядома, усім падабацца немагчыма. І не трэба. Асабліва ў выданнях энцыклапедычнай накіраванасці. На жаль, у нашай гісторыі ўжо былі прэцэдэнты замазвання прозвішчаў «ворагаў народа» чорнай фарбай. Сучаснае становіцца мінулым, калі перастае быць будучыняй....

## «Лагернае» дзяцінства

«Вельмі гэтым ганаруся. Мне пашанцавала нарадзіцца на Замкавай (Кальвінскай) гары ў Дзяржынску. Радзільны дом знаходзіўся менавіта там. Маці, Ніна Уладзіміраўна Глобус, успамінала, што 29 верасня 1958 года было цудоўнае сонечнае надвор'е.

Глобус — яе сапраўднае прозвішча, а другую частку творчага псеўданіма я «пазычыў» у бацькі — Вячаслава Уладзіміравіча Адамчыка. Калі бацькі становяцца вядомымі, дзеці заўсёды імкнуцца адрознівацца, каб ніхто не казаў пра «эксплуатацыю прозвішча».

Першыя тры месяцы мы былі ў бабы Ядзі (маміна маці), а потым перабраліся ў Мінск, дзе і жыву па сённяшні дзень.

Брата Міраслава «купілі» (шчыра гэтага хацеў) у 1965 годзе, калі я пайшоў у першы клас. Памятаю, калі суседзі жартавалі, што «коцік Мурзік быў бы лепш», вельмі крыўдаваў.

Многія лічаць, што ў сына знакамітага пісьменніка ў жыцці ўсё павінна адбывацца лёгка і проста. Даволі распаўсюджаная памылка, бо знакамітым пісьменнікам мой бацька стаў потым, а тады быў малавядомым журналістам, чалавекам, якога выключылі з універсітэта за тое, што ён адаслаў сваё апа-

вяданне ў беластоцкую газету «Ніва». Выгналі, дарэчы, з пятага курса. Як кажуць, не далі скончыць, і таму яго «вышэйшай адукацыяй» сталі толькі курсы ў Літаратурным інстытуце імя Горкага.

Калі бацька вучыўся ў Маскве, мы з маці жылі ў Мінску, на Чарнышэўскага, 7. Амаль насупраць сённяшняга офіса БНФ. Гэта пісьменніцкі дом. У маім пад'ездзе былі Уладзімір Сямёнавіч Караткевіч, драматург Махнач з жонкай Маяй Міхайлаўнай Клімковіч (дачкой аўтара беларускага гімна), Міхась Лявонавіч Стральцоў, Язэп Пушча, Іван Пташнікаў. Словам, асяроддзе цалкам беларускае, што не зусім характэрна для тутэйшага грамадства.

Пачаў я вучыцца ў 73-й школе — звычайная, то бок без розных ухілаў. Плюсам з'яўлялася блізкасць да цэнтра, таму ўзровень больш-менш. А мінусам стала тое, што настаўніцай у нас была казачка, якая не ведала беларускай мовы, і калі я прынёс дамоў сшытак, дзе было напісана: «Кравец крыет кроўлю. Шыбенік устаўляет шыбы», бацькі паднялі скандал на ўсю школу. Высветлілася, настаўніца думала, што беларуская мова вельмі простая і прымітыўная. Маўляў, яе можа выкладаць любы, хто пажадае...

Даволі хутка замест генеральскай жонкі, той самай казачкі, нам далі іншага настаўніка. Былога вязня сталінскіх лагераў, аб чым гаварылі амаль шэптам. Ён прыносіў кніжкі-чытанкі і ўслых чытаў казкі. Гэта дазваляла дзецям пастаянна папаўняць новымі словамі свой лексікон, і даволі хутка наша беларуская мова стала, як кажуць, «на ўзроўні».

Потым бацькі атрымалі новую кватэру, і мы пераехалі ў раён Кальварыі, на Апанскага, 68. Там я трапіў (без перабольшвання) у жудасную школу. У класе больш за пяцьдзясят чалавек, а наша «трэцяя змена» пачыналася ў 16.15. Сядзелі па тры чалавекі за партай, аднак і так не змяшчаліся. І тады прыходзілася займаць парты, якія былі прызначаны для дзесяцікласнікаў, то бок завялікія для нашага ўзросту.

Тлумачылася ўсё вельмі проста: пабудавалі новы гарадскі раён, а пра школу зусім «не падумалі».

Тады гэта лічылася ўскраінай Мінска. Адразу за праспектам Пушкіна — поле, па якім зімой мы каталіся на лыжах, а цяпер там месціцца кінатэатр «Аўрора», была вёска Цівалі. У ёй жыў будучы скульптар Вова Жбанаў.

Паўтаруся, школа проста жудасная. З майго класа восем чалавек села ў турмы. Кантынгент быў амаль бандыцкім. Напрыклад, у аднаго з маіх аднакласнікаў бацька выпадкова забіў маці. Хлопчык-сямікласнік прыбег у школу і сказаў: зараз прыйдзе міліцыя і будзе задаваць пытанні, скажыце, што вы нічога не чулі, бо, калі забяруць бацьку, нас (у яго дзве малодшыя сястры) накіруюць у інтэрнат. Ніхто з класа міліцыянерам нічога не сказаў...

У школе пашанцавала толькі адзін раз. Мяне паслалі ў «Артэк». Сядзеў там на ўроку і адчуваў, што ўсё сказанае настаўнікам разумею, і потым, каб разабрацца, не трэба чытаць падручнік. Узровень там (у адрозненне ад нашай школы) быў ВЕЛЬМІ высокі, настаўнікі суперскія. Вучыцца вельмі спадабалася, я нават напісаў цэлую аповесць «Архіпелаг «Артэк». Менавіта там і зразумеў, што жыць у адной краіне мы не будзем ніколі. Надта рознымі былі дзеці...

Аднак лагер ёсць лагер. Усё хатняе цалкам забіралі. Свайго не было нічога. Выдавалі форму, і ты як бы станавіўся новым чалавекам. Але гэта толькі вонкава. Імгнення з'явіліся нейкія групы, зямляцтвы, іерархія.

У нас розны менталітэт. Калі для Сярэдняй Азіі падзел людзей на «рабоў і баяў» — звычайная справа, то для беларусаў (якіх у нашай дружыне было за семдзясят) — не.

Дарэчы, на маю просьбу даць падручнікі на беларускай мове там адразу ўсё знайшлі...

У лагеры нельга было казаць «Здравствуйте!»: да 12.00 — «Доброе утро!», пасля 12.00 — «Добрый день!», а пасля вячэры — «Добрый вечер!». Гаварыць па-іншаму забаранялася, інакш былі нейкія пакаранні.

Хадзіць па лагеры дазвалялася толькі «ў нагу». Па выніках мне далі пасведчанне інструктара ігры на барабане і горне, і я павінен быў у сваёй школе арганізаваць адпаведныя групы. Фармальна так і стала.

## «Акадэмічнае» юнацтва

Адразу пасля восьмага класа школу я (у душы) пракляў і аддаў свае дакументы ў мастацкую вучэльню. Там выказалі здзіўленне тым, што ў атэстаце па маляванні стаіць «прочырк». Маўляў, я ім афіцыйна і не займаўся...

А гісторыя была такой. На адным з заняткаў паслаў школьную настаўніцу па маляванні «на тры літары», а яна мне ў адплату пракрэсліла адпаведную графу атэстата. Прызнацца прыёмнай камісіі ў гэтым было сорамна, таму прыйшлося зноў звяртацца ў школу і прасіць, каб паставілі нейкую адзнаку.

У школе, дарэчы, вельмі складаныя адносіны з настаўнікамі былі ва ўсіх. Я не піў дэманстратыўна на ўроках «чарнілаў», як іншыя, але джэнтльменскі набор у выглядзе ножыка, салдацкага рэменя і ліхтарыка насіў з сабой заўсёды. Гэта было абавязковым, як партфель або падручнікі.

Ліхтарыкамі добра біцца. У нашу школу прывозілі дзяцей з вёсак Кунцаўшчына і Бараноўшчына, і, каб дабегчы да аўтобуса ў цёмны час па гразі, усе мелі ліхтарыкі. Хутка з імі хадзіла ўся школа. Доўгія такія, на тры батарэйкі, літоўскай вытворчасці.

Успамінаю адзін жудасны выпадак. Настаўніца па рускай мове нешта пісала на дошцы, а адзін з вучняў вадзіў па яе дупе праменем. Увесь клас пачаў смяяцца. Яна павярнулася і ўсё ўбачыла, выхапіла ліхтарык і — па галаве. Рассекла да крыві. А потым павалакла хлопца ў прыбіральню і засунула галаву ва ўнітаз. Жудасна...

...У 15 гадоў я раптам стаў дарослым, што надзвычай спадабалася. Вельмі добрыя настаўнікі, вельмі моцная група. Многія ў будучыні сталі вядомымі людзьмі. Са мной, напрыклад, вучыліся Алесь Лось, які потым стварыў батлейку, аднавіў беларускія дуды і рэстаўраваў шмат фрэсак і жывапісу; Вова Сцепаненка, які сёння стаў публіцыстам і пісьменнікам Уладзімірам Сцяпанам, і іншыя.

Бацька ў той час працаваў у часопісах «Полымя», «Маладосць», на «Летапісу», потым узначальваў сцэнарную секцыю «Беларусьфільма». Заўсёды ставіўся да гэтай рэчы, як і я — адпрацоўка. І не больш.

Асноўнымі былі раманы, апавяданні, то бок тое, што друкаваў «Новый мир», тады часопіс нумар адзін, дзе друкаваліся Салжаніцын і Быкаў. Аляксандр Трыфанавіч Твардоўскі пісаў у лістах, што вельмі захапляецца яго прозай, і бацьку гэта надзвычай натхняла.

Пасля чатырох гадоў вучэльні я паступіў у Акадэмію мастацтваў на самае тады прэстыжнае манументальнае аддзяленне. За прэстыжам стаялі каласальныя грошы. Каб уявіць памеры, магу, напрыклад, расказаць, што вядомы мастак Кішчанка атрымаў замову аздобіць габеленамі оперны тэатр на мільён савецкіх рублёў. Нагадаю, інжынеры тады атрымлівалі ў месяц 120—130 савецкіх рублёў, акадэмікі — 500, а тут — фантастычная сума.

Адпаведна, у гэтай прафесіі былі вялікая канкурэнцыя і вельмі складаныя адносіны паміж людзьмі. Канкурэнтаў мастадонты накшталт Савіцкага, Кішчанкі, Вашчанкі знішчалі на ўзроўні вучобы ў акадэміі. Быццам бы набіралі, быццам бы ўсіх любілі...

Аднак з тых, хто трапляў у студэнты, да выпуску даходзілі адзінкі. З сямі — адзін, напрыклад. У некага здавалі нервы, нехта разумеў, што «з'ядуць», і сам адыходзіў убок, нехта не вытрымліваў і цяжка хварэў. Былі жудасныя выпадкі — людзі вешаліся (Валік Дзялендзік) альбо сякерай (Лёня Еўтух) адсякалі сабе пальцы...

Карацей, канкурэнцыя вельмі жорсткая. Я ўжо пісаў, што Люду Русаву, якая вучылася са мной, таксама б выгналі, але не маглі гэтага зрабіць, таму што яна адна заставалася на цэлым курсе.

Вучыцца было вельмі цяжка, але мне падабалася, што сярод маіх выкладчыкаў былі неверагодна таленавітыя людзі. Катастрафічна жорсткія,

зайздрослівыя, але фантастычна таленавітыя. У таго ж Вашчанкі, напрыклад, карціны віселі ў Траццякоўскай галерэі. Алег Уладзіміравіч Хадыка, які ў нас выкладаў архітэктурную кампазіцыю, — стваральнік рэстаўрацыйных майстэрняў, і многае з таго, што ёсць у сучаснай Беларусі са старой архітэктуры, захавалася дзякуючы менавіта гэтаму чалавеку.

Пад канец вучобы я таксама стаміўся змагацца за «месца пад сонцам», думаў, што сыйду з дыстанцыі і нічога не скончу. Выратаваўся «акадэмкай».

Яшчэ калі вучыўся, я крыху займаўся рэстаўрацыяй, таму ў «акадэмічным адпачынку» і абраў яе. Мы рэстаўрыравалі Мсціслаўскі касцёл, за 350 км ад Мінска, на самай мяжы з Расіяй. Наколькі ведаю, аднаўленчыя работы працягваюцца па наш дзень. Добра, што там ёсць браты Маліноўскія, якія не даюць гэтай справе канчаткова спыніцца. Проста няма сродкаў. У Мсціславе вельмі малая каталіцкая абшчына, а Ватыкану, напэўна, больш важна пабудаваць нешта новае ў Іркуцку, скажам, чым адрадзіць беларускую спадчыну...

Праз год я вярнуўся да вучобы і абараніў дыплом з рэлігійна-правакацыйнай (на той час) назвай «Дзева Марыя». Выкладчыкі параілі на абароне не гаварыць па-руску, таму што там будуць «людзі з Масквы і Ленінграда».

Так бы мовіць, з горам папалам удалося абысці ідэалагічныя догмы і абараніцца. Мне паставілі «тры» і сказалі: «Ніколі ніводнай тваёй карціны ніхто не купіць, не будзе ніводнай выставы і ніякіх дзяржаўных замоваў». За «авангардызм, хамскае ігнараванне патрабаванняў кафедры і нянавісць да сацыялістычнага рэалізму».

## «Эпатажнае» сталенне

Добрыя людзі дапамаглі спачатку ўладкавацца (было часовае журналісцкае месца) у часопіс «Беларусь», дзе я друкаваўся пад псеўданімамі Лучанок, Анікейчык, Янкоўскі. Усе гэтыя прозвішчы (кампазітар, скульптар і артыст. — **Заўв**. **аўт**.) добра вядомыя ў нашай краіне, аднак не прыжыўся я ў тым часопісе.

І стаў афарміцелем камісійных крамаў. Афармляў для іх вітрыны, пісаў літары «М» і «Ж» на прыбіральнях і таму падобнае. Працаваў у майстэрнях даволі доўга. Пачаў пісаць, друкавацца.

У гэты час ад першай жонкі Тамары, з якой мы вучыліся ў адной групе, у мяне нарадзілася дачка Вольга Уладзіміраўна.

Другой жонкай стала фотамайстар Алена, якую сёння ведаюць як Алену Адамчык. Яна нарадзіла мне дачку Ядзю. У нас ёсць яшчэ сын Мікалай, у якога ўжо ёсць свой сын Уладзімір.

Вольга — матэматык. Крутая! Прачытаў у Інтэрнэце назву яе дыпломнай і нічога не зразумеў. Для мяне гэта — закрытая тэма.

Мікалай скончыў Коласаўскі ліцэй, калі той толькі-толькі ствараўся. Дарэчы, я непасрэдна прымаў у гэтым удзел.

Памятаю, як у бібліятэцы Янкі Купалы сабраліся, акрамя мяне, Вінцук Вячорка, Сяргей Дубавец, Зміцер Колас і прыйшлі да высновы, што трэба рабіць нейкі адукацыйны прарыў і ствараць беларускамоўны ліцэй. Рэалізоўваць ідэю вырашылі даручыць брату Зміцера Уладзіміру. Потым там нават мая жонка Алена выкладала, праводзіла майстар-класы па фота.

Мікалай абсталёўвае кухні. Новабудоўляў у Мінску зараз шмат, таму для яго бізнесу кліентаў хапае.

Ядзя на момант нашай размовы ў Барселоне, дзе адкрылася фотавыстава Алены, якая прысвечана іспанскаму сюррэалізму. Мабыць, пойдзе «маміным шляхам», і гэта вельмі добра. Там сапраўдны густ.

На жаль, жанр партрэтнага фота сёння крыху «адышоў у цень». Так атрымалася, што сёння сталі фатографамі амаль усе. Цяжка сустрэць чалавека, які б не «шчоўкаў» хаця б на тэлефон. Між тым зрабіць сапраўдны парадны партрэт, які будзе падабацца ўсім, правесці неабходныя падрыхтоўчыя работы ВЕЛЬМІ складана. Патрэбны талент і кваліфікацыя экстра-класа.

Паколькі камісійныя крамы выдалі мне майстэрню, у яе пачалі заходзіць сябры і знаёмыя — Валодзя Арлоў, Лёня Галубовіч, Віця Шніп, Толя Сыс. Нават некалькі разоў бываў Міхась Лявонавіч Стральцоў. Перш за ўсё таму, што яна месцілася пад «Кнігарняй пісьменніка» на вуліцы Румянцава. Побач рэдакцыя «ЛіМа» і будынак Саюза пісьменнікаў. Людзі спачатку ішлі туды, а па вяртанні заходзілі да мяне.

Як і ў бацькі, яшчэ з часоў інстытута ў нашым асяроддзі ўсталявалася правіла: мастак (або пісьменнік) нешта павінен рабіць дзеля грошай, нешта для сацыяльнай адаптацыі, а самае галоўнае — для сябе. Як гаворыцца — для душы. Сумленна, не па законах грамадства, а па законах мастацтва. Не тых, па якіх жывуць аўтарытэты твайго часу, накшталт Заіра Ісакавіча Азгура, а па тых, якія для сябе ты выбраў сам.

Зразумела, уладзе гэта не падабалася па вызначэнні. Першая забарона вялікай выставы адбылася ў 1985 годзе. Разумеючы, што з Саюзам мастакоў непазбежна будуць праблемы, мы адразу вырашылі яе праводзіць у Саюзе пісьменнікаў, дакладней у Доме літаратара. Справа ў тым, што парторгам пісьменнікаў тады быў Карамазаў, з якім у добрых адносінах знаходзіўся Стральцоў. Я пагаварыў са Стральцовым, Стральцоў — з Карамазавым, Карамазаў — з Танкам. Той загадаў прынесці карціны. Мы прынеслі, развесілі.

Танк паглядзеў — цікава. Паглядзелі «людзі ў цывільным» — і ўсё забаранілі. Больш як пяцьсот чалавек, якія прыйшлі на адкрыццё нашай выставы ў Дом літаратара, проста не пусцілі ў будынак. І тады, як кажуць, «пад ціскам грамадскасці» Саюзу мастакоў прыйшлося правесці выставу ў сябе. З той умовай, што на яе прыйдуць тагачасныя мастацкія аўтарытэты і агучаць свае думкі пра нас, нягоднікаў.

«Мы» — гэта шэсць маладых мастакоў. Акрамя мяне Ігар Кашкурэвіч, яго тагачасная жонка Люда Русава, Сяргей Малішэўскі, Жэня Ліс, стваральніца батлейкі ў Залессі, і Эдзік Куфко. Кашкурэвіч, Малішэўскі, Куфко — дзеці вядомых мастакоў, я — знанага пісьменніка.

Падкрэсліваю гэты момант спецыяльна, бо потым з дапамогай Анатоля Анікейчыка нас пачалі «гнобить» за выкарыстанне творчых псеўданімаў. Маўляў, мы не проста ворагі савецкага грамадства, а ворагі ўласных бацькоў: чаму Вова Адамчык называе сябе нейкім Глобусам, Кашкурэвіч падпісаўся як Кашкур, а Малішэўскі — Маліш?..

Напрамкі ніхто не казаў пра «здраднікаў Радзімы», але пра ворагаў савецкай улады прагучала. Міхаіл Андрэевіч Савіцкі, напрыклад, казаў, што мы «льём ваду на млын капіталізму»...

Шчыра кажучы, я не думаў, што яны адважацца ўсё выказаць адкрыта ў твар. Адна рэч «гадзіць» у кабінетах і зусім іншая — рабіць гэта публічна. Афіцыйныя мэтры крычалі, махалі рукамі, агучвалі розныя глупствы. Напрыклад, той жа Савіцкі крычаў: «Кому надоел соцреализм? Кому противны «Девочка с персиками» или Веласкес?» Быццам бы сацыялістычны рэалізм і Веласкес адно і тое ж...

Для некаторых у той год пачалася перабудова, а для нас — вандэя. Яны не верылі ў нейкія змены ў грамадстве, а я гэта адчуваў. Як і тое, што іх трэба не толькі чакаць, а рэальна нешта рабіць.

# «Спрэчнае» жыццё

Тая выстава стала для маёй свядомасці пэўным каталізатарам. Няправільна лічыць, што пісьменнікам Глобус зрабіўся «раптам». Проста стала цалкам зразумела — нармальна працаваць мне не дадуць, бо ў савіцкіх-азгураў-анікейчыкаў — улада, а ўсё жыццё з акадэмічнай адукацыяй пісаць на прыбіральнях «М» і «Ж», мякка кажучы, алагічна.

І тады я прыдумаў для сябе ход — буду пісаць не самі карціны, а апісваць мастацкія паводзіны ў прозе і паэзіі, а наша цэнзура нічога не ўбачыць. Яна будзе думаць, што гэта толькі звычайнае апавяданне... І не больш...

Пачаў друкавацца яшчэ падчас маёй вучобы, то бок напрыканцы 70-х гадоў мінулага стагоддзя. Гэта былі вершы, і іх нават пачалі перакладаць за мяжой. Потым пайшла проза, асноўнай тэмай быў канфлікт творчай асобы з грамадствам.

Спачатку гэта ўсё друкавалася без праблем, бо ўлада не бачыла для сябе пагрозы. У 1985 годзе цэнзура быццам бы прачнулася. Прама на выставе (якая не адбылася) рэдактар маёй першай кнігі «Груд» прынёс ад яе «сігнал» і сказаў: у гэтай краіне цябе ніколі друкаваць не будуць. Адбылося горш, чым простая забарона: кнігу ўжо вычыталі, надрукавалі, а потым па цэнзарскіх патрабаваннях увесь наклад пусцілі пад нож.

Мінула шмат гадоў, і Міхась Скобла расказаў, што бачыў яе ў асабістай бібліятэцы памерлага палкоўніка КДБ, якую распрадаваў яго сын. Патраціўшы некалькі гадзін, мы так і не змаглі кнігу знайсці, і толькі бібліятэкарскі досвед маці дапамог мне ў рэшце рэшт гэта зрабіць. Кніга стаяла побач з забароненымі творамі Салжаніцына і Шаламава, без вокладкі, са шматлікімі цэнзарскімі заўвагамі па ўсім тэксце. У КДБ заўсёды ўмелі шукаць крамолу...

Змагацца з тагачаснай імперыяй (у тым ліку і літаратурнай) можна было толькі знішчаючы яе з дапамогай створанага самастойна. Паўсюль існавалі рангі, ранжыры, катэгорыі. Напрыклад, «пачынаючымі пісьменнікамі» тады лічыліся ўсе, каму менш за 36 гадоў, і ледзь не да 60-ці ты лічыўся «маладым». Як кажуць, смех і грэх. Памятаю, высветлілася, што ў Санкт-Пецярбурзе сярэдні ўзрост мясцовых пісьменнікаў 66 гадоў... Яны былі вымушаны нават маладзёжную секцыю стварыць...

Я даведаўся пра піцерскі досвед, прывёз адтуль усе іх дакументы і прапанаваў стварыць нешта сваё. Тое, што адпавядае нашаму пакаленню. Так узніклі «Тутэйшыя». Юрыдычна мы былі пры Саюзе пісьменнікаў, аднак многія разумелі, што гэта толькі намінальна.

І не памыляліся, бо вельмі хутка мы выказалі пратэст кампартыі Беларусі і кіраўніцтву БССР, якое подла схавала наступствы Чарнобыля. І гэта была не незадаволенасць нейкай паўмаргінальнай тусоўкі, а афіцыйны юрыдычны дакумент афіцыйнай структуры. Памятаю, быў травень 1988 года. Усе тады думалі, што мы проста не дойдзем дахаты, усіх перасадзяць...

Знакамітымі Дзядамі 1988 года для «Тутэйшых» усё і скончылася. Як толькі была пададзена заяўка, нас пачалі выклікаць у пракуратуру і мадэляваць сітуацыю з забойствам людзей. Калі пра гэта даведаўся Анатоль Сідарэвіч, ён імгненна распаўсюдзіў інфармацыю на Бі-Бі-Сі, радыё «Свабода», «Нямецкай хвалі» і г. д. Хутчэй за ўсё, менавіта гэта і прадухіліла падрыхтаваную ўладамі крывавую правакацыю.

У гэты ж час я пачаў працаваць у часопісе «Крыніца», які ствараў Міша Кацюшэнка (па загадзе Масквы). Калі ЦК КПБ прыслала туды рэдактарам Някляева, ён адразу звольніў некалькі чалавек. У тым ліку мяне, Паўла Якубовіча і Косцю Тарасава. Потым высветлілася, што ніякага партыйнага загаду «зверху» няма, што ініцыятыва цалкам асабістая, і Някляеву прыйшлося мяне і Якубовіча аднавіць...

На тых Дзядах з'явіўся новы палітычны лідар — Зянон Пазняк, і стала зразумела, што астатнія творчыя людзі павінны адысці ўбок. Грамадства зрабілася іншым. З маімі палітычнымі арыенцірамі (перакананы анарха-індывідуаліст) у палітыцы новага часу больш не было чаго рабіць. Вабіла іншае.

Хацелася стварыць новую беларускую літаратуру, адкрыць новыя жанры. Наблізіць нашу літаратуру да кантэксту сусветнай. Напрыклад, у нас не было сваіх хайку (японскае трохрадкоўе), традыцый малявання коміксаў, не хапала беларускіх дэтэктываў. У якасці першага айчыннага комікса я зрабіў «Дзікае паляванне караля Стаха» і асабіста напісаў шэраг дэтэктываў. Апошнія так добра прадаваліся, што хутка прыйшлося адкрыць сваё выдавецтва і студыю па напісанні раманаў.

Тады быў час сапраўднага інфармацыйнага буму. Акрамя моды на публіцыстыку з'явіліся відэамагнітафоны і недаступнае раней амерыканскае кіно, з'явіліся раманы, якія раней не перакладаліся. Нарадзілася нейкая фенаменальная любоў да ўсяго, што раней было забаронена. Людзі з задавальненнем глядзелі фільмы жахаў, эротыку, трылеры і г. д. Раптам стала зразумела, што, у адрозненне ад палітычнай, сексуальную рэвалюцыю мы зробім дакладна...

Наша выдавецтва друкавала безліч усялякай эратычнай прадукцыі і нават анекдоты на гэтую тэму. У студыі пісалі раманы па матывах кінасерыялаў. Таго ж 42-серыйнага «Твін Пікс», напрыклад. Усіх цікавіла, «хто забіў Лору Палмер», і мы далі адказ. Я прыдумаў, як абагнаць тэлевізійны час, бо ў тыдзень яны паказвалі толькі дзве серыі. Трэба было хутка напісаць адпаведны раман, выдаць яго і прадаць. І мы гэта (з дапамогай сямі пісьменнікаў) зрабілі. Па нашай версіі, Лору Палмер не забраў, як у фільме, касмічны Карлік, а проста забіў паганы шэрыф...

Спачатку мы выйшлі на расейскі рынак, потым на замежныя, а потым амерыканцы сказалі, што яны супраць, каб рабіліся такія рэчы. Амерыканскі амбасадар прыйшоў да Шушкевіча, і нас даволі хутка пазбавілі ліцэнзіі.

А гісторыя была такая.

Мы напісалі восем працягаў «Знесеных ветрам», а яны — толькі адзін. Амерыканскім праектам кіраваў Тэд Цёрнэр, які выкупіў у Галівуда чорна-бе-

лы варыянт фільма, расфарбаваў яго і зрабіў двухтомны працяг — «Скарлет». Праект быў фінансава паспяховым.

Яны нават уявіць не маглі, што мы напісалі яшчэ восем кніг і пачалі іх таксама добра прадаваць. Амерыканцы думалі, што ўсе друкаваныя версіі іх бясконцых серыялаў (накшталт «Санта-Барбары») зроблены ў іх, а тут раптам высветлілася, што ўсё напісана ў Мінску. Падняўся вэрхал.

Амерыканцы знялі пра мяне і брата кіно, а ўсе газеты надрукавалі адпаведныя артыкулы і нават карыкатуры. Потым пачалі біць свае, то бок беларусы. Маўляў, пірацтва, парушэнне аўтарскіх правоў, хоць, на мой погляд, ніякіх законаў я не парушаў. Перш за ўсё таму, што наша краіна да іх яшчэ не далучылася.

Ціскператварыўся ў пазбаўленне нас ліцэнзіі на выдавецкую дзейнасць. Вялікія грошы перамаглі...

На дадзены момант асабіста мной напісана 29 кніжак, а наогул наша выдавецтва паспела выдаць каля шасці тысяч найменняў, дзе самыя вялікія наклады даходзілі да чатырох мільёнаў.

Асобна магу расказаць пра свае складаныя адносіны з вядомымі людзьмі, накшталт Пятра Садоўскага і Станіслава Шушкевіча, аднак гэта тэма для асобнай размовы. Скажу толькі, што мае «правакацыі» не знаходзілі б чытача, калі б ён гэтага не хацеў чытаць, і ўсе мы не казалі б адзін пра аднаго розныя гадасці...»

*01.11.14*



З бабуляй Ядзяй. 1963 год



З бацькам. 1981 год



З дачкой Ядзяй. 1986 год



З маці Нінай Глобус. 2008 год




**Адам Глобус, Міраслаў Адамчык і Алена Адамчык на вуліцы Карла Маркса, што ў Мінску**

# Таццяна ГРЫНЕВІЧ



Размову з Таццянай Грыневіч я вырашыў зрабіць зусім не таму, што яна мая зямлячка. Прычына ў цудоўным выкананні знакамітага «паланеза Агінскага», які для альбома «Я нарадзіўся тут» быў зроблены песняй. А калі пачуў расказ пра яе жыццё, зразумеў, што мне пашанцавала, бо так марыць можа толькі вельмі неардынарная асоба.

## Першыя мары

«Зразумела, першыя спевы, якія я пачула, былі матуліны — Алы Іванаўны Грыневіч. Для мяне яны пачалі гучаць у Ашмянах 10 лістапада 1977 года.

Сям'я ў нас вельмі музыкальная. Бабуля, Варвара Кузьмінічна Альфяровіч, грала на балалайцы, дзядуля — Іван Іосіфавіч — на скрыпцы. А мама ўвогуле была настаўніцай музычнай школы, выкладала фартэпіяна. Нягледзячы на тое, што мой тата, Іван Ігнатавіч, працаваў у энергетыцы, уся яго сям'я была таксама музыкальнай. Так што гены ў мяне, што ноты — музыка.

Бацькі пазнаёміліся ў Ашмянах. Тата служыў сувязістам, добра ведаў азбуку Морзэ, і пасля войску яго часта запрашалі ў Ашмянскі ваенкамат на радыёстанцыю, праз якую ішла сувязь з Гродзенскім ваенкаматам. А мама жыла побач з ваенкаматам, там тата яе і заўважыў, і неяк на танцах пазнаёміўся. Часам тата залазіў на дрэва, як той Рамэа, каб зазірнуць у акенца і паглядзець, ці дома каханая — поўная рамантыка, бадай, толькі рамансы пад акном не спяваў. Неўзабаве яны пажаніліся і пайшлі дзеткі. Нас у сям'і трое, я сярэдняя. Старэйшага брата завуць Васіль, малодшага — Юрась. Абодва цяпер у Піцеры, прадпрымальнікі.

Ужо ў два гады я бегала па хаце і нешта высокім голасам пішчала. Мой дзядзька, выкладчык Гарадзенскай музычнай вучэльні Алег Іванавіч Альфяровіч, пачуў гэта і прафесійна заўважыў: «Будзе мая пляменніца опернай спявачкай». Жарт жартам, але праз шмат гадоў гэтыя словы быццам бы матэрыялізаваліся ў маё раптоўнае жаданне стаць менавіта спявачкай. Было гэта пасля другога курса Маладзечанскай музычнай вучэльні, але пра ўсё па парадку.

У Ашмянах я вучылася ў 2-й сярэдняй школе. Два першыя класы — у старым будынку, астатнія — у новым. Паралельна было восем гадоў вучобы ў музычнай школе, дзе я зразумела: музыка — гэта маё. Менавіта ў музычнай школе я пазнаёмілася з дзецьмі, якія потым хадзілі ў мясцовы Дом піянераў «на гітару». Шмат разоў складала ім кампанію. І падгледзела тыя «тры акорды», якія потым стануць базай для майго «гітарнага» досведу, бо значную частку сваіх песняў я выконваю якраз з гэтым інструментам.

Некалькі гадоў таму я прыехала з выступам у родную школу, і мяне сустрэла настаўніца беларускай мовы. Як аказалася, мая аднакласніца! Яна павіталася і расказала, што яе папярэдзілі: «З Мінска прыедзе нейкая спявачка, родам з Ашмян. Ніколі б не падумала, што гэта будзеш ты...» Аказваецца, па адзін з дыскаў, зробленых мной для школы, яна спецыяльна ездзіла ў Мінск. Яна яго знайшла і набыла, аднак не магла нават уявіць, што Таццяна Грыневіч — яе былая аднакласніца...

З дзіцячых успамінаў засталася дарожка да любімай рэчкі Ашмянкі, якая працякае побач з бацькоўскай хатай, і горка каля ваенкамата, з якой зімой мы каталіся на санках. Побач быў яшчэ стадыён, дзе часта гулялі ў футбол, але цяпер яго забудавалі...

Пасля базавай адукацыі, то бок дзевяці класаў, я паступіла «на дырыжора» ў Маладзечанскую музвучэльню. Там пасля другога курса і «стрэльнула» думка наконт687 опернай сцэны. Вучыцца патрэбна было чатыры гады, таму, калі набліжаўся фініш, я падышла да настаўніка па вакале і расказала пра сваю мару. Маўляў, у кансерваторыю «праслухалася», але яны мяне не бяруць. Настаўнік параіў пайсці ў Акадэмію мастацтваў, дзе ёсць набор на спецыяльнасць «акцёр музычнага тэатра». Па сутнасці аперэта нечым вельмі блізкая да класічнай оперы.

# Першыя іспыты

Я ехала на ўступны экзамен з неверагоднай упэўненасцю ў сваім поспеху і атрымала... «двойку» ад прымы айчыннай аперэты Наталлі Гайды. Праз гады Наталля Віктараўна ацаніла мой голас, але ўжо не помніла, што некалі паставіла адмоўную адзнаку...

Вярнулася я тады да настаўніка па вакале ледзь не ў слязах. Спыталася, што рабіць далей? Пётр Пятровіч Туронак кажа: «Калі тут праблемы, паступай у Інстытут культуры на харавое аддзяленне. Там ёсць настаўнік вакалу, які табе зробіць правільнае дыханне». Як вядома, гэта аснова для добрага спявання. Прозвішча ён не помніў.

Я такі чалавек, што калі чаго-небудзь хачу, то абавязкова дасягну. Літаральна ў першы дзень вучобы знайшла гэтага настаўніка, ім аказаўся Пакідчанка Віталій Вісарыёнавіч, і ў яго кабінеце амаль безапеляцыйна сказала яму: «Буду ў вас вучыцца і стану опернай спявачкай!» Уяўляю, як ён тады разгубіўся, але папрасіў мяне заспяваць. Пачуўшы, схапіўся за галаву і кажа: «Нават не ведаю, чым дапамагчы... Прыходзь на заняткі, будзем разбірацца...»

Я наведвала яго заняткі амаль фанатычна — па пяць разоў на тыдзень. Спявала сама, слухала іншых. І так усе дні, калі ён працаваў, але, нягледзячы на гэта, маё развіццё ў спевах ішло надзвычай марудна.

Мой будучы муж вучыўся на іншым факультэце, і сярод яго выкладчыкаў быў Вячаслаў Антонавіч Ракіцкі, які стала працуе на радыё «Свабода». Студэнты з добрым захапленнем расказвалі пра яго лекцыі. Адзін раз схадзіла і я. І таксама захапілася. Ён чытаў свае лекцыі, як і некаторыя іншыя, на беларускай мове, але менавіта ў яго адчувалася незвычайная шчырасць, да таго ж мяккая «тарашкевіца» дабаўляла такой прыгажосці, што мне самой захацелася вывучыць беларускую мову. На бліжэйшыя вакацыі ўзяла з сабой у Ашмяны «Каласы пад сярпом тваім» Уладзіміра Караткевіча, слоўнічак Беларуска-расейскі і вывучыла беларускую мову.

З таго моманту ўва мне быццам бы прачнуўся ген жадання ведаў (у звычайнай школе гэтага не было). Я быццам бы праглынала новую інфармацыю.

Дыпломную работу напісала на беларускай мове і на ёй жа вырашыла абараняцца. Большасць успрыняла гэта нармальна, але некаторыя казалі: «Навошта табе гэта трэба?» Ішоў 2001 год, а не пачатак 90-х, калі ідэі нацыянальнага адраджэння літаральна віравалі ў грамадстве.

У 2000-м мы з Матафонавым пабраліся шлюбам і нарадзіўся Адась. Так што разам з дыпломам я атрымала яшчэ і аднагадовага сына.

Неяк у час аднаго выступу ў Полацку пачула: «Вам добра, у Мінску ёсць з кім размаўляць на беларускай мове, а мы тут гэтага не можам. Размаўляць няма з кім...» Адказала: «У мяне ў Мінску была такая ж праблема. Я знайшла выйсце — нарадзіла сабе сыночка...»

Менавіта з сынам звязаныя вельмі значныя падзеі ў маім жыцці. Я размаўляла з ім толькі па-беларуску, таму цалкам лагічна, што і дзіцячы садок быў абраны беларускамоўны. Напэўна, тады адзіны ў Мінску.

Дакладней, беларускамоўная група дзяцей розных узростаў. Месціцца дзіцячы садок каля вядомага многім цацачнага магазіна «Матрошка». З мікраранёна Зялёны Луг, дзе тады жылі, кожны дзень мы дабіраліся каля гадзіны. У адзін бок, канешне. У гэты ж садок вадзілі сваіх дзетак Лявон Вольскі, Вінцук Вячорка, Алесь Міхалевіч, Зміцер Сідаровіч. Пасябравалі і дзеці, і дарослыя.

Са Зміцерам Сідаровічам мы непасрэдна пазнаёміліся ў наступным годзе, калі нашы дзеці (яго Тамаш і мой Адась) разам хадзілі ў цэнтр народнай творчасці на вуліцы Кірава. Вельмі цікавымі былі заняткі па саломцы, якія праводзіла Валянціна Лойка. Адась яе так і называў — спадарыня Саломка...

Там жа дзеці наведвалі і музычныя заняткі. Аднойчы са Зміцерам мы чакалі сваіх хлопцаў, разгаварыліся і вырашылі ў будучыні зрабіць нешта разам.

У 2005-м прыйшла ідэя стварэння «Дзіцячага альбома». Было агульнае разуменне, што для дзяцей няма ніякага беларускамоўнага матэрыялу, што ўсе мы выраслі на песнях з савецкіх мультфільмаў. Натуральна, усе яны рускія. Мы прыйшлі да высновы, што трэба стварыць нешта сваё, беларускае

Кніга «Дзіцячы фальклор» вельмі нам дапамагла. Адтуль мы са Зміцерам узялі і апрацавалі 27 песняў. Спачатку думалі, што спяваць будзем самі, а потым аддалі прыярытэт дзецям. Гэта была першая сумесная праца.

Потым запісалі «Дзіцячы альбом. Частка другая», куды ўвайшлі калядныя і школьныя песні.

# Пошукі мары

Аднак вернемся да маёй мары стаць опернай спявачкай.

Ніякага размеркавання, натуральна, не было, бо я адразу трапіла ў дэкрэтны адпачынак. Час ад часу хадзіла да свайго настаўніка па вакале, а потым амаль выпадкова даведалася, што ў нашым універсітэце па маім профілі можна атрымаць дадатковую адукацыю.

Першапачаткова ў дэканаце мне сказалі, што за год навучання стаць дыпламаванай опернай спявачкай немагчыма, і яны мне замест дыплома выпішуць даведку — «вучылася оперным спевам». Выбару не мелася, я пагадзілася. Тата аплаціў вучобу.

Пачаліся заняткі. Ставілася да іх надзвычай адказна. Асабліва да тых, якія не былі «ідэалагічнымі».

Прадстаўніцы дэканата прысутнічалі на экзаменах і чулі, як я спяваю, і ў рэшце рэшт выдалі не выпіску пра тое, што вучылася, а рэальны дыплом з кваліфікацыяй «спявак оперны — канцэртны». Аказалася, дзеля мяне жанчыны хадзілі ў Міністэрства адукацыі і ім «в порядке исключения» дазволілі выдаць «диплом установленного образца».

Жаданы дыплом нічога, акрамя маральнага задавальнення, не даваў. На шчасце, адна са знаёмых сказала, што ў яе школе ёсць стаўка акампаніятара танцаў. Заробак невялікі, але гэта было выйсцем. Тым больш, што яшчэ падчас вучобы выкладала ў розных школах. У якасці акампаніятара прапра-

цавала некалькі гадоў. Гэта даволі цікава. Я глядзела, як дзетак вучаць танчыць, а калі гэта было магчымым, падыходзіла да «станка» сама і паўтарала іх практыкаванні. Самастойна займалася і вакалам.

Потым два месяцы спявала ў хоры «Санорус» пад кіраўніцтвам Аляксея Шута, і нарэшце мяне прынялі ў Дзяржаўны камерны хор Беларускай філармоніі, дзе прапрацавала 12 гадоў. Не скажу, што там было ўсё «без праблем». Магчыма, мой голас не адпавядаў іх узроўню, а магчыма, «недарэчнасці» адбываліся таму, што мая індывідуальнасць заўжды ішла наперадзе.

Хор жа — гэта калектыў са сваімі патрабаваннямі, дзе трыццаць чалавек павінны быць адным арганізмам, і сярод яго — «маленькая атамная станцыя», як часам жартаваў Валер Мазынскі пра мяне.

## Мара беларушчыны

Пад канец 2008-га ў мяне з'явілася скрыпка, якая цудоўна спалучалася з дудой Зміцера Сідаровіча, і ён сказаў: «Будзеш маёй скрыпачкай».

Бедныя мае родныя і суседзі...

Музычная адукацыя дазваляла асвоіць новы інструмент самастойна, і даводзілася займацца па некалькі гадзін на дзень. Ужо праз два месяцы мы дэбютавалі ў мінскім Палацы моладзі, а яшчэ праз паўгода кавярня «Жарптушка» (некалі такая была) прапанавала папрацаваць у іх, бо дырэктарка захацела, каб у кавярні адбываліся народныя танцы.

Зміцер нядоўга думаючы сабраў гурт, і да нас далучыліся Ігар Доўгі (барабан) і Аляксей Крукоўскі (гарманіст). Кожны чацвер у кавярні адбываліся адпаведныя вечарынкі, што для мяне асабіста азначала трохгадзіннае практыкаванне ігры на скрыпцы.

Дарэчы, і цяпер адбываюцца такія ж танцы летам на вуліцы недалёка ад Ратушы, а ўзімку — у розных закрытых памяшканнях. Цяпер гурт наш называецца капэла «На таку», але разам з танцорамі, з якімі мы ладзім народныя танцы, мы аб'ядналіся ў клуб, які мае назву «Сіта».

А тады, у 2009 годзе, нас са Зміцерам запрасілі ў Нью-Ёрк. Аб'яднанне амерыканскіх беларусаў святкавала 60 гадоў сваёй дзейнасці і на імпрэзе з гэтай нагоды таксама хацела бачыць народныя танцы.

У Нью-Ёрку адбылося вельмі важнае для мяне знаёмства з Сержуком Сокалавым-Воюшам. Хутка ў нас адбыўся творчы саюз, які матэрыялізаваўся ў цэлы шэраг сумесных праектаў. У прыватнасці, у дыск «Паспеўкі», у якім яго пераклады і аўтарскія тэксты спявалі я і мой сын, а напрыканцы тры песні выканаў сам Сяржук. Словам, паспявалі... Таму і «Паспеўкі»...

Творчыя кантакты з Сержуком яшчэ больш зрабілі мяне беларускай. Калі раней у розных сітуацыях я яшчэ магла перайсці на расейскую мову, то цяпер яна амаль цалкам пайшла з майго жыцця. Размаўляю толькі па-беларуску.

У той жа час вядомы паэт Міхась Скобла прапанаваў падарожнічаць разам з ім па школах у межах культурніцкай кампаніі «Будзьма беларусамі!». Маўляў, ён чытае вершы, я — спяваю.

За гэтыя гады творчым дуэтам мы аб'ездзілі безліч беларускіх школ.

Мабыць, усё папярэдняе было толькі добрай прыступкай да майго асабістага шляху ў беларускім творчым жыцці, бо потым творчыя праекты пайшлі адзін за адным. У 2011 годзе выйшаў мой альбом «Шыпшына». Музычны крытык Вітаўт Мартыненка даўно раіў мне запісаць альбом беларускіх рамансаў і ў рэшце рэшт ён з'явіўся.

Пасля адной з вечарын прагучала думка, што няма нічога для дзяцей музычна-навагодняга па-беларуску. Спачатку я ад гэтай ідэі «адмахнулася», а калі да свята заставаўся месяц, мяне быццам бы асяніла — трэба зрабіць.

Але без сяброў за такі кароткі тэрмін зрабіць нічога немажліва. Дзякуй Вользе Кашэвіч, якая цудоўна грае на фартэпіяна і заўжды адгукаецца на самыя нечаканыя творчыя ідэі. Дзякуй гукарэжысёру Валеру Бяляеву, які нястомна робіць працу за працай, і нашы дыскі растуць як грыбы. І дзякуй сыну Адасю, які за тыдзень змог вывучыць усе песні, і Лоры Арловай за цудоўнейшую вокладку.

Шчыра кажучы, тады ўсім прыйшлося паднатужыцца. Нават Юрась Жыгамонт начытаў навагодніх вершаў у студыі, каб песні чаргаваліся вершамі. Так узнік дыск «З Новым годам».

З вершамі звязаны і своеасаблівы працяг той працы. Аднойчы перад чарговым выступам высветлілася, што Адась (мы выступаем разам) не вывучыў верш, які яму загадалі вывучыць у школе. Часу, каб гэта зрабіць, не было, і я запісала тэкст верша на дыктафон. Ён шмат разоў яго праслухаў, натуральна, нешта запомніў, і гэта ўратавала дзіця ад дрэннай адзнакі.

Праз пэўны час я выпадкова зноў праслухала той запіс, і раптам нарадзілася ідэя зрабіць дыск з вершаў, якія ў школе задаюць вучыць «на памяць».

Ідэя ўсім вельмі спадабалася, і мы прыступілі да яе рэалізацыі.

Школьныя вершы чыталі вядомыя ў краіне людзі: заслужаная артыстка Беларусі Зінаіда Бандарэнка, паэты Генадзь Бураўкін і Анатоль Вярцінскі, публіцыст Сяргей Дубавец і шмат хто іншы. А спявак Лявон Вольскі, дарэчы, прачытаў два вершы свайго бацькі Артура Вольскага.

На гэты раз ужо вершы «разбаўляліся» песнямі, тэксты якіх таксама вучацца «на памяць». Напрыклад, «Мой родны кут» Якуба Коласа альбо «Зорка Венера» Максіма Багдановіча. Атрымаўся падвойны дыск «Няма прыгажэй ад маёй Беларусі».

Цяпер настаўнікі дзякуюць за тое, што Адась некалі не вывучыў верш, бо ў выніку мы зрабілі вельмі патрэбную для беларусаў справу.

Наступны паэтычны дыск таксама прыйшоўся настаўнікам даспадобы. У школьнай праграме шмат вершаў, якія не вучацца «на памяць», але выразна чытаюцца. Вось гэтыя вершы і сталі асновай дыска, яшчэ дадаліся вершы, якія «сышлі» са школьнай праграмы за апошнія гады, ну і, вядома, песні, якія прагучалі пад акампанемент цудоўнага піяніста Юрыя Гільдзюка — мастацкага кіраўніка Белдзяржфілармоніі. Дыск называецца «Сотня вершаў».

А тое, што многія вершы на дыску «Сотня вершаў» чытаюць аўтары, стала падказкай для стварэння наступнага дыска — «Галасы паэтаў».

Гэты праект быў пашыраны, бо, акрамя паэтаў сучасных, на дыску змешчаны архіўныя запісы галасоў Коласа, Купалы, Куляшова, Вялюгіна, Караткевіча, Панчанкі, Танка, запісы Ларысы Геніюш, Таццяны Сапач, Ніны Мацяш. Агулам шэсцьдзясят галасоў творцаў.

Потым з архіваў мастака Аляксея Марачкіна быў зроблены дыск «Мара». Ніколі не думала, што ён так добра спявае народныя песні. Такі прыгожы аксаміцісты голас, які часам нават нагадваў мне голас Шаляпіна... І вершы свае таксама чытае цудоўна. І змясцілі на дыску каля 80 выяў карцін.

Далей — дыск гурта «Рутвіца» з беларускімі абрадавымі спевамі і дыск з голасам беларускай паэткі Іны Снарскай, якая чытае свае вершы. Зараз завяршаецца праца над дыскам «Беларускія танцы для забавы і навучання».

Калі нехта думае, што гэтая праца прыносіць камерцыйны прыбытак, ён моцна памыляецца. Грошы на іх я адкладвала са сваёй мізэрнай зарплаты. Сёння крыху дапамагаюць спонсары, але іх дапамога не заўжды пакрывае ўсе расходы.

## Услед за марай

Працягну пра тое, як надалей працавала над сваім голасам.

Нейкі час я выступала разам з Юркам Габрусем, які прыйшоў у наш хор арганістам і добра спяваў тэнарам. Мой Адась у гэты час дарос ужо да баса, плюс маё сапрана, плюс альт пляменніцы Надзеі Міцэвіч...

Заснавалі ансамбль, і гэтым складам давалі канцэрты у касцёлах, у іншых месцах. Але аднойчы на творчай глебе мы паспрачаліся з Юркам, і ён сказаў, што мне не стае прафесіяналізму. Дзякуй яму за гэта, бо гэта быў голас з нябёсаў аб тым, што забылася на сваю мару.

Паставілася да гэтага надзвычай сур'ёзна, сабрала «кансіліум» сваіх дзядзькаў. Алег Іванавіч і Валерый Іванавіч — прафесійныя музыкі — заўжды былі

побач, калі патрэбна была творчая парада. Менавіта з таго моманту я аднавіла сур'ёзныя заняткі па вакале, а праз два месяцы наш хор павінен быў спяваць оперу «Паяцы». Даведаўшыся пра такія планы, даследавала ўсю інфармацыю пра гэты твор. Праслухала-прачытала ўсё, што ёсць на гэты конт у Інтэрнэце. З усіх варыянтаў мне найбольш спадабаўся тэнар вялікага Пласіда Дамінга.

Падчас першай рэпетыцыі з аркестрам хор выканаў свае партыі, і нам прапанавалі або заняцца сваімі справамі, або пасядзець у зале, паслухаць італьянскага выканаўцу. Я, канешне ж, абрала другое.

Так упершыню ў жыцці пачула ў жывую тэнара сусветнага узроўню — Францэска Аніле. Напэўна, Францэска заўважыў маю цікавасць да яго выканання, бо калі на наступны дзень я папрасіла, не ведаючы ні італьянскай, ні ангельскай мовы, даць мне ўрокі вакалу, ён пагадзіўся.

Калі некаторыя прадстаўнікі творчай беларускай эліты даведаліся, што я збіраюся вучыцца, яны не разумелі сэнс гэтага кроку. Маўляў, з маім узроўнем трэба не вучыцца, а вучыць.

Канешне, гэта падняло самаацэнку, але на першым жа майстар-класе Францэска «астудзіў» градус пахвальбы, і я зразумела, што гэта толькі пачатак — наперадзе шмат працы. Так яно і ёсць.

Нечакана мне зноў пашанцавала. Пры чарговым наведванні Нью-Ёрка, па запрашэнні амерыканскіх беларусаў, высветлілася, што ў знакамітай «Метраполітэн-опера» ў той жа час выступаюць італьянскія спевакі. З дапамогай Францэска Аніле я патрапіла туды і пазнаёмілася з САМІМ Пласіда Дамінга... Мары збываюцца!!!

Але самая вялікая мара яшчэ застаецца, яна лейтматывам праходзіць праз усё маё жыццё, не даючы прыпыніцца, адкрываючы ўсё новыя і новыя прасторы. Оперныя спевы. Спевы, у якіх працуюць творцы найвышэйшага прафесійнага гатунку. А таму заняткі вакалам і самаўдасканальванне працягваюцца і будуць працягвацца ўсё жыццё. (Цяпер дзеля гэтага асвойваю новы для мяне інструмент — трубу, якая лепей дапаможа разабрацца з асновамі дыхання.)

І апошняе.

З Алесем Матафонавым мы па маладосці, па неабачлівасці разышліся. Адасю было толькі тры гады. Я засталася па-ранейшаму Матафонавай, не хацела розных з сынам прозвішчаў. Карыстацца ж дзявочым стала дзякуючы парадзе Сержука Сокалава-Воюша. Ён заўважыў слушна: «Грыневіч гучыць больш па-беларуску».

*21.12.2016*



З бацькамі і братам



З бабуляй
Варварай Кузьмінічнай



16 гадоў. З братам

Гурт Зміцера Сідаровіча



З сынам Адасем і Генадзем Бураўкіным



# Генадзь ДРАЗДОЎ

Пасля размовы з гэтым чалавекам яшчэ раз пераканаўся, што таленавітыя людзі вельмі рэдка бываюць «правільнымі», то бок цалкам рафініраванымі і неканфліктнымі. Напэўна, талент і афіцыйная мараль — рэчы цяжка сумяшчальныя.

Калі, канешне, гутарка пра сапраўдную Асобу... Генадзь Драздоў менавіта з такіх, бо пасля вядомага мастака Аляксея Марачкіна іншыя не маглі б узначаліць творчую суполку «Пагоня» па вызначэнні...

## Малюнкі дзяцінства

«Аповед пра сябе я пачну з расказу пра братоў. Абодва, Віктар і Жора, старэйшыя. Абодва, як і я, атрымалі вышэйшую адукацыю. Віктар скончыў Інстытут фізічнай культуры, які потым стаў універсітэтам, спецыялізаваўся «на лыжах». З часам ён радыкальна памяняў сваё жыццё. Цяпер — пастар пратэстанцкай царквы.

У нейкім сэнсе кожны з нас ідзе па жыцці (у абывацельскім разуменні), як па шырокім шляху, поўным розных спакус. І перад кожным паўстае своеасаблівы Рубікон — крочыць далей праз спакусы альбо выбраць тое, што я называю ШЛЯХ ВУЗКАЙ БРАМАЙ. Гэты вобраз я ажыццявіў у адной сваёй карціне.

З часам у пратэстантызм перайшлі ўсе блізкія, акрамя мяне. Я — прынцыповы прыхільнік аўтакефальнай беларускай нацыянальнай праваслаўнай царквы і з'яўляюся ў ёй намеснікам царкоўнай Рады. Старэйшы Жора скончыў ваенную вучэльню і служыў у авіяцыі, сёння на пенсіі.

Я родам з вёскі Паддуб'е Рагачоўскага раёна Гомельскай вобласці. Гэта 12 кіламетраў ад Доўска. Дарэчы, з Рагачова паходзіў Гервасій Валіваха, герой «Ладдзі Роспачы» Уладзіміра Караткевіча.

У школу я хадзіў у Старыя Журавічы. У гэтым мястэчку ў свой час былі праваслаўная царква, шыкоўны касцёл XVI стагоддзя і дзве сінагогі. У 1651 годзе ў касцёл прыязджаў сам кароль Польскі і вялікі князь ВКЛ Ян II Казімір, каб пакланіцца цудадзейнаму абразу Маці Божай. На жаль, на сённяшні дзень не захавалася нічога. Разбурылі яшчэ да вайны, пры першай хвалі Саветаў.

Апошнія рэшткі (відаць, гэта была званіца) бурылі, калі я хадзіў у першыя класы. Некалі там праходзілі буйныя кірмашы і жыло шмат габрэяў.

Выкладалі ў школе цудоўныя настаўнікі, у большасці габрэі. Дзякуючы ім сярод выпускнікоў заўсёды была вельмі вялікая доля тых, хто паступіў у вышэйшыя навучальныя ўстановы.

Маці маю завуць Ганна Лаўрэнцьеўна. Дзявочае прозвішча Кісялёва. 1932 года нараджэння. У беларусаў сапраўднымі прозвішчамі былі «Кісель», «Дрозд», а канчаткі -оў з'явіліся пры русіфікацыі. Адзін раз хацеў змяніць напісанае ў пашпарце, але трэба было ехаць за мяжу, і я банальна не паспяваў. Да таго ж змена прозвішча пацягне за сабой праблемы з пытаннямі спадчыны, маёмасці і г. д.

Маці была вельмі адметнай і рэдкай па таленце швачкай. Як і бацька, Пётр Мікалаевіч. Да таго ж ён лічыўся вельмі добрым краўцом і мог пашыць літаральна ўсё — шапкі, футра і нават кажухі, якія патрабавалі асабліва моцных іголак. Яны ніколі не былі калгаснікамі. Заказчыкі ехалі да бацькі з усяго раёна, і нават вобласці. Гэта быў чалавек вельмі складанага лёсу. Яго маці не стала яшчэ ў маленстве, і яе замяніла мачаха. Пасля вайны жыццё было надзвычай складаным. Працавалі, як кажуць, і старыя, і малыя.

У дзяцінстве мой бацька зваліўся з каня і зламаў галоўку сцегнавой косткі. Яна пачала загніваць, а добрай медыцыны ў нашых мясцінах тады не было. Прыйшлося тэрмінова ехаць «у вобласць» — ледзь-ледзь уратавалі.

У 14 гадоў ён стаў інвалідам, адна нага была карацейшай за другую. Потым скончыў тэхнікум і стаў закройшчыкам. Матэрыяльна ўтрымліваў усю сям'ю.

Паўтаруся, да яго часта прыязджалі розныя людзі. Я вельмі любіў слухаць іх расповеды пра вайну, пра жыццё, пра свет. Часам дарослыя так і казалі: «Глядзі, гэты малы слухае раскрыўшы рот...»

Да школы ад нашай вёскі паўтара кіламетра. Восенню і вясной мы хадзілі самі, а зімой, калі сумёты былі вялікімі, наперадзе ішоў бацька. Памятаю: ён робіць праход, а потым мы малыя крочым... Калі маразы былі надзвычай моцнымі, у школу не хадзілі ўвогуле. Першыя чатыры класы я вучыўся ў старой драўлянай школе, а потым — у двухпавярховай каменнай. Цяпер яшчэ адну пабудавалі, новую, у ёй — музей Макаёнка, бо той родам менавіта з нашых мясцін. На жаль, сёння там усё вымірае. Чарнобыльская зона...

# Эцюды юнацтва

Маляваць пачаў амаль адначасова з тым, як навучыўся хадзіць.

Па натуры я «індывідуаліст», то бок не люблю людскі тлум. Як толькі гэта стала магчымым, бацькі павялі мяне ў дзіцячы садок. Праз некалькі гадзін я

ўцёк. Яны паўтарылі спробу — уцёк зноў. Больш мяне нікуды не адводзілі. Пакідалі аднаго дома. Садзіўся каля вакна, дзьмуў на шкло. І пальцам маляваў на ім розныя рэчы. Бацькі гэта заўважылі і неўзабаве купілі каляровыя алоўкі, а потым і фарбы.

У першых класах школы, як і браты, я вучыўся вельмі добра і быў здатны да розных навук. Але яшчэ лепш маляваў. Недзе ў класе пятым-шостым з заплюшчанымі вачамі, на спрэчку, мог намаляваць партрэт Леніна. Зразумела, усіх астатніх гэта па-добраму шакіравала.

Я настолькі захапіўся мастацтвам, што вучыцца стала не цікава. Да восьмага класа быў выдатнікам, а ў старэйшых класах надакучыла, пачаў прапускаць заняткі. На жаль, у нашым рэгіёне не было з кім параіцца наконт таго, як і што лепш рабіць у мастацтве. У тыя гады надзвычай не хапала ўсяго некалькіх урокаў прафесійнага пісьма. Я «аблазіў» энцыклапедыі і таксама нічога не змог знайсці. Да ўсяго даходзіў сам, нават эцюднік зрабіў сваімі рукамі.

На той момант мой старэйшы брат Віктар паступаў у Інстытут фізічнай культуры і даведаўся, што ў Мінску ёсць яшчэ і мастацкая вучэльня. Як толькі ён пра яе расказаў, я адразу ж сабраўся і паехаў паступаць.

Без усялякіх блатаў і адпаведнай падрыхтоўкі паступіў з першага разу.

Вучоба разлічвалася на чатыры гады.

Вучэльня месцілася ў двары Акадэміі мастацтваў, там цяпер політэхнічны тэхнікум, левае крыло. Свайго памяшкання ў яе тады не было. Наколькі я ведаю, няма па наш дзень.

У жыцці будучых мастакоў мяне цікавіла ўсё. Вучыцца пашанцавала разам з вядомымі сёння мастакамі — Сержуком Цімохавым, Генадзем Мацурам, Ігарам Рамашэўскім, Людай Шчамялёвай.

На мой погляд, самым значным этапам той вучобы стаў момант, калі да нас прыйшоў выкладаць жывапіс Віктар Маркавец. Малады, прыгожы чалавек, які размаўляў на беларускай мове.

Дарэчы, ён і пазнаёміў з Аляксеем Марачкіным. Аляксей Антонавіч запрашаў нас у сваю майстэрню дапамагаць рэстаўрыраваць творы Язэпа Драздовіча і Алёны Кіш. Дзякуючы гэтаму я ўпершыню сутыкнуўся з сапраўднай народнай творчасцю.

Знаёмства з Віктарам Маркаўцом і Аляксеем Марачкіным значна паўплывала на мой светапогляд, адметнасць мастацкага мыслення, фарміраванне творчага кірунку, які я зараз называю трансцэндэнтным сімвалізмам.

У 1979 годзе скончыў мастацкую вучэльню, але адразу ў Акадэмію мастацтваў не трапіў, таму што не далі туды накіраванне. Як і ў школе, я быў «нядобранадзейным», бо ніколі не прагінаўся перад дзяржаўнымі бонзамі, не

гандляваў сумленнем і ўсяго дабіваўся апантанай працай. У вучэльні ўтраіх (разам з Лявонам Яшэнкам і Міколам Макарам) мы здымалі адну кватэру і адначасова купілі тры гітары. Дачка гаспадара крышачку іграла, таму першыя ўрокі давала яна, а потым я ўсяму вучыўся ўжо самастойна. Час ад часу даю канцэрты. Пераважна на мастацкіх пленэрах. Для мяне гэта добрая магчымасць «пераключаць» мазгі, калі мастацтва вельмі стамляе.

Дык вось з Макарам, Яшэнкам і іншымі студэнтамі мы вялі амаль багемнае жыццё. Напрыклад, маглі дазволіць сабе (у той час) паехаць у Маскву на цікавыя выставы ў музей Пушкіна альбо ў Траццякоўскую галерэю.

Здаецца, квіток да Масквы тады каштаваў каля сямі рублёў. Начавалі прама ў пад'ездах — гітара, «чарнілка», закусь... Зразумела, жыхарам і парцье гэта не падабалася. Выклікалі міліцыю — нас выганялі, і з аднаго пад'езда мы беглі ў іншы. Так «перакантоўвалі» ноч, а раніцай ішлі глядзець арыгіналы сусветна вядомых творцаў.

Тое ж самае было і ў час вучобы ў акадэміі. Калі ў Маскве ладзіліся выставы работ Тамая, Кандзінскага, Шагала, Малевіча, мы абавязкова на іх траплялі. Часам выпадала набыць каталогі, якія каштавалі вельмі дорага. Адзін — 25 рублёў, а студэнцкая стыпендыя — 40 рублёў. Мастаку вельмі важна бачыць арыгіналы, слухаць жывую музыку.

Акрамя гэтага я вельмі люблю класічную музыку, джаз. На канцэрты і выставы (дзе б не быў) хаджу яшчэ з тых часоў. Бывае, за мяжой гэта каштуе не танна. Не тое, што ў нашай філармоніі. Асабліва ў часы перабудовы. Тады кошт квітка быў прыкладна роўным з коштам бутэлькі піва... Між іншым сёння гэтая розніца таксама не вельмі значная...

## Сюжэты лёсу

Дыпломную работу мы рабілі ўчацвярых — я, Сяржук Цімохаў, Пётр Русак і Генадзь Мацур па Мажэйкаўскай царкве. Гэта праект музея народнай творчасці у Мажэйкаўскай царкве абарончага тыпу. Сёння яе ведаюць як знакамітую Мураванку, а раней царква была ў заняпадзе, зачынена.

Абараніліся на «выдатна».

Пасля сканчэння вучэльні мяне, паўтаруся, не накіравалі на далейшую вучобу, а размеркавалі ў Гомель у «Бытрэкламу», але паспеў папрацаваць там толькі некалькі месяцаў — забралі ў войска. Таксама з прыгодамі, дарэчы.

Справа ў тым, што па прыездзе ў Гомель я не мог нідзе прапісацца (на той час гэта было вельмі складана), а значыць і стаць на вайсковы ўлік у ваенкамат. А ў Мінску мяне вайскоўцы ўжо пачалі шукаць. Ледзь не зрабілі «ўхіліс-

там». Нават бацьку ліст напісалі пра пераслед «па заканадаўстве». Прыйшлося самому ехаць у Рагачоўскі ваенкамат. Прызвалі за адны суткі. Пагражалі адправіць ледзь не на Далёкі Усход, але нічога ў іх не атрымалася.

Спачатку я трапіў у Печы, што пад Барысавам, а потым накіравалі пад Лепель, у Заслонава. Адразу хацелі пакінуць у медсанбаце пры вучэбцы, аднак потым пасля чарговага «залёту» адправілі ў лінейку, то бок непасрэдна ў дзеючае войска. Быў стралком-наводчыкам танка Т-72. Як кажуць, настраляўся на ўсё жыццё. Асабліва на вучэннях «Захад-81», бо там наш батальён быў «у самым пекле».

Цікава, што ў Печах пазнаёміўся з Віктарам Мікітам (разам рабілі макет палігона), які потым стаў адным з маіх выкладчыкаў у Тэатральна-мастацкім інстытуце і нават вазіў нас на практыку ў Пінск.

Аднак пра ўсё па парадку. Пасля звальнення ў запас (восенню 1981 года) я зноў вярнуўся ў Гомель. У «Бытрэкламе», дзе да службы працаваў мастаком-афарміцелем (сёння — дызайнер), месца ўжо было занятае. Прыйшлося амаль восем месяцаў працаваць галоўным мастаком Спецыяльнага канструктарскага бюро сейсмічнай тэхнікі (СКБ СТ). Прадпрыемства было «закрытым», то бок траплялі туды толькі па спецыяльным пропуску. Такая сістэма мяне вельмі напружвала, таму, як толькі з'явілася магчымасць, «уцёк» адтуль зноў у «Бытрэкламу».

Ганаруся, што яшчэ ў 1982 годзе з сябрам Алегам Рабіновічам мы першымі ў Беларусі пачалі рабіць з алюмініевай жылы вітражы. Разам распрацавалі ўсю тэхналогію, бо якіх-небудзь даведнікаў тады проста не было. Тыя вітражы захаваліся і сёння, некалькі гадоў назад быў у Гомелі і сфатаграфаваў. Добрая прафесійная праца — таму і захаваліся. Хаця будыніна даўно змяніла свой статус і ведамаснае падпарадкаванне.

Прыгадваецца і яшчэ адзін цікавы выпадак. Напярэдадні нейкіх травеньскіх святаў нам з Алегам даручылі намаляваць вялікі партрэт Леніна. Абодвум гэта было «не ў дугу». Узялі два шчыты (тры на тры кожны), паштоўку і «перавялі» з яе малюнак. За вечар усё зрабілі і пайшлі дамоў спаць. Раніцай наступнага дня (у часоў дзесяць) я прыходжу на работу, бачу два перамаляваныя на бела шчыты, каля якіх «варожыць» адзін з нашых калегаў, які спецыялізаваўся «на партрэтах палітбюро». Аказалася, мастсавету не спадабалася наша праца і, не ведаючы, што гэта паўтор паштоўкі, яны яе «зарубілі». Да святаў заставаліся суткі, таму для калегі гэта быў сапраўдны аўрал.

Зараблялі мы вельмі прыстойна. Абедалі толькі ў рэстаране з лепшай у горадзе кухняй. Грошы зараблялі, але за іх не было чаго купляць, бо добрых рэчаў у крамах немагчыма было набыць. Якасны тавар можна было прыдбаць,

калі быў блат у крамах або ў фарцоўшчыкаў. Быў у мяне адзін такі знаёмы, калі можна сказаць, сябар Герман Іваноў па мянушцы Гера. Працаваў ён мастаком на нейкім заводзе, васьмікратны чэмпіён рэспублікі па штанзе, няскораны аптыміст, добры чалавек. Дарэчы, дзетдомавец. Яго ведаў, бадай, увесь Гомель. Я з ім калі-нікалі хадзіў на эцюды, дзе і пазнаёміўся. Знікаў ён часта. То два гады «хіміі» адседжваў. А аднойчы знік назаўсёды. І як потым высветлілася, знайшлі яго пад Гомелем у возеры з каменем на шыі. Так расправілася з ім банда невядома за што. А панавалі тады ў Гомелі некалькі бандыцкіх груповак — «марозаўцы», «пажарнікі» ды іншыя. Нечаканы працяг гэтай гісторыі адбыўся ў Маскве гадоў 10 назад. Дакладней, пад Масквой на лецішчы генерала генштаба Расіі. Там мой сябар рабіў англійскі кабінет, більярдную залу. Выпадкова мы сустрэлі там маладога чалавека па мянушцы Кузя. Ён быў у адной з груповак, здаецца «Кабана».

Яго расповед шчыры і адкрыты мог шакіраваць любога. Жорсткасць і вычварэнствы, з якімі распраўляліся крымінальнікі са сваімі ахвярамі, пераўзыходзілі нямецкіх катаў. Распавёў ён, як ім мянты здавалі ахвяр. Напачатку ахвяру садзілі на 5—10 сутак па заказе аўтарытэтаў, зразумела. Потым так жа нечакана выпускалі раніцай гадзін у 5 або яшчэ раней. Турма знаходзілася за горадам. Па дарозе дадому ахвяру падбірала машына, і чалавек знікаў назаўсёды. Сувязі з мянтоўкай, пракуратурай, суддзямі былі адпрацаваны на вышэйшым узроўні і не толькі на ўзроўні Гомеля. Я памятаю, пра гэты вядомы гомельскі працэс пісалі ў афіцыйнай прэсе. І зачышчалі гэтых аўтарытэтаў ужо ў часы перабудовы і пазней.

Гэта быў вельмі цікавы час рамантычнай маладосці і суровай рэчаіснасці саўковых часоў з іх каларытнымі асобамі і аўтарытэтамі, пра што можна пісаць цэлую кнігу.

## Колеры іншадумства

У 1983 годзе я паступіў у Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут, які потым стаў Акадэміяй мастацтваў. На станковую графіку. Конкурс там быў 15 чалавек на месца. Вучыўся шэсць гадоў.

Лёс звёў з Алесем Пушкіным. Нас нават у інтэрнаце пасялілі ў адзін пакой, дзе разам і пражылі тры гады. Да таго моманту, калі яго забралі ў войска.

Да гэтага ён быў даверлівы, сентыментальны і нават крыху наіўны вясковец. Так бы мовіць, чысты чалавек. А прыйшоў з войска зусім іншы Пушкін. Больш разважлівы, суровы, упэўнены ў сабе, мужны, нічога не баіцца. Вось што значыць вайна...

Пачалося яго супрацьстаўленне ўладзе. Памятаю, як перад ягоным перфомансам мы хавалі ў бамбасховішчы плакаты. А пасля арышту стварылі ініцыятыўную групу па абароне мастака і патрабавалі выпусціць яго з-за кратаў.

Гэта быў 1989 год. Я тады бараніў дыплом, і мая майстэрня была своеасаблівым штабам падтрымкі Пушкіна. Дзверы там не зачыняліся.

Не скажу, што менавіта гэта на нешта паўплывала, але факт застаецца фактам — Алеся Пушкіна не выключылі з акадэміі.

Дыплом у мяне зноў вельмі цікавы — «Погляд праз шкло». Я і сёння гэтую тэму працягваю распрацоўваць. Дарэчы, за гэтую графічную серыю я атрымаў дыплом 1-й ступені на ІІ Мінскай міжнароднай выставе графікі ў 2009 годзе.

Скончылася вучоба ў 1989 годзе, а 26 красавіка 1986 года адбылася трагедыя на Чарнобыльскай АЭС, і ўсе мае планы рухнулі. Я хацеў ехаць у Гомель, стварыць там мастацкую базу і пастаянна працаваць. На жаль, гэтага не адбылося... Мая родная вёска трапіла ў «зону непрымусовага адсялення», потым мы з бацькамі адтуль з'ехалі ўвогуле. І мелі, трэба адзначыць, рацыю.

Сярод маіх знаёмых, аднасяльчан, блізкіх хворых на анкалогію становіцца з кожным годам усё больш і больш. Рак літаральна косіць людзей. Японцы зрабілі правільны прагноз, калі сказалі, што праз 25—30 гадоў пасля аварыі пачнецца пік анкалагічных захворванняў. Зараз так яно і ёсць. Усяго за апошнія пяць гадоў наша суполка «Пагоня» страціла дзевяць чалавек. Сёння ў яе ўваходзіць толькі 55 чальцоў.

Чарнобыль радыкальна змяніў жыццёвыя планы. Пасля сканчэння Акадэміі мастацтваў у мяне не было нічога — ні жытла, ні майстэрні, ні працы. Уся маёмасць месцілася ў плецаку за плячамі. Так пачыналася жыццёвая «кар'ера».

Яшчэ падчас вучобы ў сталічнай Вяснянцы я вёў студыю выяўленчага мастацтва і там падпольна (ніхто гэтага не ведаў) жыў. Умовы былі нармальнымі. Пад жытло абсталявалі маленькі пакойчык. Два разы на тыдзень праводзіў з дзеткамі заняткі, а ва ўсе астатнія дні займаўся творчасцю. Потым узяў туды Пушкіна. Потым нас адтуль паперлі. Пушкіна выгналі першага, і ён з'ехаў у Віцебск. Мяне таксама з дапамогай міліцыі пачалі выганяць. На пераезд далі трое сутак. Прыйшлося шмат чаго пакінуць у студыі, бо не было куды перавозіць. На шчасце, тады мяне пачалі запрашаць распісваць праваслаўныя цэрквы на Беласточчыну, што дазволіла крыху зарабіць і здымаць кватэру. Гэта былі першыя выезды за мяжу.

На здымных кватэрах я пражыў да 1997 года, калі бацькам у Малінаўцы далі двухпакаёвую кватэру.

На жаль, бацька пражыў у той двухпакаёўцы толькі чатыры гады... Не змог перажыць трэці інфаркт. А маці, дзякаваць Богу, жывая па наш дзень. Ёй 85 гадоў. Усе мае сваякі па жаночай лініі жывуць доўга...

У 1999 годзе я ўступіў у Саюз мастакоў і стаў сябрам створанай яшчэ ў 1990 годзе мастацкай суполкі «Пагоня», якую з 2011 па 2016 год і ўзначальваў.

І яшчэ. Падчас вучобы з Сержуком Цімохавым мы купілі флейты і самастойна навучыліся на іх граць. Бывае, перад нейкімі персанальнымі выставамі альбо на пленэрах я даю «канцэрты» не толькі на гітары, але і на флейце. Граю творы з «Полацкага сшытка», імправізацыі, а на гітары толькі творы ўласнага сачынення.

Нядаўна адбыўся мой літаратурны дэбют. У альманаху «Скрыжалі «Спадчыны» (нумар шосты) надрукавалі прозу і вершы.

У 2014 годзе, калі пачаліся падзеі ва Украіне, і пазней, калі распачалася агрэсія Расеі з захопам украінскіх тэрыторый, немагчыма было заставацца проста сузіральнікам гэтых падзей. У 2015 годзе мы наладзілі міжнародны пленэр разам з украінскім мастаком у зоне АТА. Тое, што давялося пабачыць на свае вочы, і той досвед баявых дзеяў надзвычай уразіў і шакаваў. Пазней у Мінску мы зладзілі выставу па выніках пленэру.

З сумам і прыкрасцю мушу канстатаваць, што нідзе не знайшлося месца пад гэту цікавую і насамрэч актуальную выставу. А як вар'яцела кіраўніцтва Саюза мастакоў, калі мы спрабавалі выставіць гэтыя творы ў Палацы мастацтва... Прыйшлося зладзіць яе ў Амбасадзе Украіны ў Мінску... Хоць нечым мы паспрыялі прымірэнню ў гэтай недарэчнай вайне...

У 2016 годзе выдалі шыкоўны каталог суполкі «Пагоня — 25 гадоў». Бясспрэчна, гэта калектыўная праца, і ўсе сябры суполкі і рэдакцыйнай калегіі папрацавалі на выдатна. Па водгуках сяброў па цэху атрымаўся найлепшы каталог за ўсю гісторыю Беларускага саюза мастакоў.

У 2015 і 2017 гадах я прымаў актыўны ўдзел у арганізацыі і правядзенні выстаў «Праўда пра Курапаты». Гэта была мая ідэя, і я вельмі ўсцешаны, што падабралася вельмі прафесійная і адказная каманда. Нам удалося ўзняць і давесці да шырокай грамадскасці важную тэму масавых рэпрэсій у часы камунабальшавіцкага рэжыму. Наперадзе, калі дасць Бог, новыя праекты, выставы, творы і, бясспрэчна, нас чакаюць вялікія перамены».

*21.06.2017*



**У інтэрнаце Акадэміі мастацтваў разам з Алесем Пушкіным і Эрдэн Батам**



**Падчас вайсковай службы**



**Разам са скульптарам Гэнікам Лойкам у касцюмах «Песняроў»**



**Пасля выпуску з Акадэміі мастацтваў**

# Ірына ДУБЯНЕЦКАЯ



Шчыра кажучы, упершыню ў жыцці сутыкнуўся з тым, што ўладальніца гэтага імені так прынцыпова ставіцца да падобных нюансаў. Дубянецкая прымае «Ірына» і не прымае «Іра», бо ў гэтых імёнаў зусім розныя значэнні. «Ірына» ў перакладзе з грэчаскай — мір, а «Іра» на лаціне азначае «гнеў».

Часам яна так і кажа: «Не будзіце ўва мне Іру...»

А яшчэ мне было вельмі прыемна адчуваць, што размаўляю з першай у беларускай гісторыі жанчынай, якая стала доктарам багаслоўя.

## Пачатак пачаткаў

«Мой бацька, Міхал Дубянецкі, родам з Палесся, дакладней са Століншчыны. У дзяцінстве ён быў кніжнікам, і культ кнігі захаваў на ўсё жыццё. І ягонае першае знаёмства з савецкай уладай пачалося праз кнігі. Першае ўражанне ад бальшавікоў ён таксама захаваў на ўсё жыццё.

Гэта было ў верасні 1939 года. Бацька вучыўся тады ў кляштарнай школе ў Пневах, куды яго разам са старэйшым братам адправілі ў якасці ўзнагароды за выдатную вучобу. Кляштарам кіравала (цяпер ужо святая) Марыя Уршуля Ледухоўская, памяць пра якую грэла майго бацьку да самай смерці. У канцы лета ім з братам са школы прыслалі тэлеграму, каб яны не вярталіся ў Пневы, бо пачыналася вайна.

Неўзабаве прыйшлі чырвонаармейцы і пачалі ўсталёўваць свой лад. Адной з першых дзеяў стала разарэнне школьнай бібліятэкі. Магчыма, хацелі знішчыць польскія кнігі, а іншых там, відаць, і не было. У двары расклалі вогнішча і сталі кідаць туды кнігі. Дапытлівы чырвонаармеец хацеў ведаць, што ён паліць, а чытаць па-польску не ўмеў, і таму загадаў хлопцам агучваць аўтара і назву.

Выглядала гэта прыблізна так.

Малы з трапятаннем бярэ кнігу і чытае:

— Генрык Сянкевіч. «Ogniem i mieczem».

— Вось табе «мечэм»! — чырвонаармеец раздзірае кнігу напалам. — А вось табе «огнем», — і шпурляе яе ў вогнішча.

— Эліза Ажэшка. «Хам», — ледзь не плача хлопчык.

— Ты яшчэ і лаешся, падла?! — салдат радасна дзярэ кнігу і адпраўляе за першай...

Ніякая камуністычная прапаганда потым не затушыла таго вогнішча дзяцінства.

Па вайне стала ясна: Саветы — надоўга, і бацька вырашыў, што рабіць для сваёй краіны нешта карыснае найлепей знутры сістэмы. Ён адслужыў у савецкім войску, скончыў Вышэйшую партыйную школу, працаваў у ЦК КПБ. Пры гэтым ніколі не траціў свой унутраны супраціў. У 1980-я апынуўся ў самым віры адраджэнскіх падзей, а ў 1988 годзе ўзначаліў новаўтвораны «Мартыралог Беларусі» і быў адным са стваральнікаў Беларускага народнага фронту.

На ўсіх працах ягонай «рабочай моваю» — як ён сам гэта далікатна называў — была беларуская. Неяк у ЦК зрабілі брашурку пра БССР для замежнікаў (на некалькіх мовах), а яму прапанавалі стаць яе афіцыйным «аўтарам». Ён спачатку адмовіўся, але потым пагадзіўся пад умовай «аўтарызацыі». І паўстаўляў у тэкст колькі рэчаў пра беларускую даўніну і культуру, якія там зусім не меліся на ўвазе... Таксама з яго афіцыйнай рэкамендацыі Беларусі — адзінай з усіх савецкіх рэспублік — «дазволілі» выдаваць адкрытую (а не на 2-3 тамы, як мелася напачатку) акадэмічную серыю нацыянальнага фальклору. У выніку атрымалася легендарная БНТ (Бібліятэка народнай творчасці), якая выходзіла дзесяцігоддзямі, паказаўшы і беларусам, і свету ашаламляльнае багацце беларускага фальклору і выгадаваўшы некалькі пакаленняў нашых творцаў, даследчыкаў і культурных дзеячаў.

З ЦК бацька вырваўся, каб займацца мілай яго сэрцу справай — кнігамі. Ён стаў спачатку адказным сакратаром Беларускай савецкай энцыклапедыі, а потым дырэктарам выдавецтва «Мастацкая літаратура». Заснаваў шмат кніжных серый, заахвочваў мастакоў ствараць з кніг мастацкія шэдэўры. Кнігі ягонай «Мастацкай літаратуры» заваёўвалі безліч міжнародных прызоў і прадаваліся за мяжу лепш, чым прадукцыя іншых савецкіх выдавецтваў.

Былі гады, калі адна «Мастацкая літаратура» прадавала кніг болей за цэлыя рэспублікі. Яму казалі, што гэта, маўляў, пераважна за кошт дзіцячых кніжак. А ён паспрыяў стварэнню новага асобнага выдавецтва дзіцячай літаратуры — «Юнацтва» і ўжо толькі на «дарослых» кніжках працягваў рабіць «Мастацкую літаратуру» адным з самых прыбытковых выдавецтваў Савецкага Саюза. І адным з самых яркіх з пункту гледжання сузор'я культурных герояў, якія там сабраліся: Рыгор Барадулін, Васіль Сёмуха, Алесь Разанаў, Уладзімір Арлоў, Леанід Дранько-Майсюк...

У рамантычныя і змагарныя 1980-я ён падтрымліваў парасткі новай беларушчыны, хаця даваліся яны вельмі і вельмі цяжка. Бясконцыя змаганні ў вы-

сокіх кабінетах, няспыннае супрацьстаянне сістэме падкасілі здароўе. Бацька перанёс два, як ён казаў, «сацыяльна-палітычныя інфаркты» і інсульт.

У канцы жніўня 1990 года, калі яго «зваліў» другі інфаркт, ён упіраўся, не хацеў ехаць у шпіталь, бо ў яго ўжо быў квіток у Пневы — рай ягонага дзяцінства, дзе ён мроіў — пасля 50-ці гадоў статусу «невыязнога» — глынуць волі. І калі яго забірала «хуткая», ведаў, што сваёй абяцанай зямлі яму не ўбачыць...

Адной з самых гучных выдавецкіх гісторый была ягоная бітва за аповесць Васіля Быкава «Мёртвым не баліць». Тэкст 20 гадоў пад забаронаю, а бацька надумаў уключыць яго ў новы чатырохтомнік Быкава. Нягледзячы на рэзкія адмовы і рэпрэсіі з боку ідэалагічнага апарату, працягваў даводзіць сваё і ўрэшце даслаў велізарную тэлеграму ў маскоўскія «вярхі». Апошні том спазняўся з выхадам у свет, і стомлены Быкаў прапаноўваў замяніць аповесць якой-небудзь іншай такога ж памеру. Бацька не здаўся і — перамог. Небяспечны тэкст пабачыў свет.

Бацькава змагарнасць неяк спалучалася з надзвычайнай унутранай мяккасцю, дабрынёй і вераю ў людзей. І, безумоўна, ён быў кніжнікам. Дома тысячы і тысячы кніг. Ён казаў, што, не выходзячы з нашай кватэры, можна атрымаць некалькі вышэйшых адукацый.

Калі мы з сястрой задавалі яму пытанне, напрыклад, што значыць нейкае слова, ён з ходу не адказваў, а праз хвіліну прыцягваў якуюсьці энцыклапедыю ці слоўнік і даваў максімальна грунтоўны адказ.

Тады гэта не заўсёды выклікала захапленне, бо гэткія лекцыі выходзілі за межы дзіцячай патрэбы ў хуткіх і простых адказах...

А наогул, нам здавалася, што іначай і быць не можа, што твой тата ўвесь свой час аддае табе, заахвочвае цябе заглыбляцца ў гісторыю, мастацтва, філасофію, літаратуру, і што ён ніколі не павышае голас, што ўсе людзі, якія натоўпамі праходзяць праз твой дом, характарызуюцца бацькам або як таленты, або як геніі, што ўсім у ягоным святле добра...

Я шмат павандравала па свеце, бачыла самых розных людзей і цяпер ведаю, што мой бацька быў унікум. І разумею, што ў мяне была незвычайная стартавая пазіцыя ў жыцці.

# Пачатак сям'і

Мая маці, Марыя, таксама незвычайная асоба. Яна нарадзілася ў рэгіёне, частка якога цяпер уваходзіць у Добрушскі раён. Але гэта колішні кавалак Браншчыны, які Саветы падзялілі паміж Гомельскай, Чарнігаўскай і Бранскай абласцямі. Там яшчэ ў канцы XX ст. людзі вельмі каларытна размаўлялі пабеларуску. «Зена была гола ды войстра»; «Казаць мне сакрэты — што кідаць

камянькі ў ваду: які б той камень ні быў, а ўжо не ўсплыве, — распавядалі нам з сястрой старыя ў наш адзіны візіт у маміну вёску ў 1992 годзе і навучалі «важнага»: — Я ё і бог, я ё і чорт». Спявалі даўнія песні, вядзьмарылі, знахарылі і жыва памяталі ўнікальны беларускі абрад «пахавання стралы».

Яна была адна ў маці, мудрай, пявучай і таленавітай жанчыны. Калі маёй маме было гадоў восем, яе маці «ўзяла» мужа з пяццю дзецьмі, бо дачушка паабяцала зваць яго татам і пароўну ўсё дзяліць з братамі і сёстрамі.

Айчым быў адзін з пяці братоў, якіх раскулачылі, бо яны разам трымалі вятрак (адабралі ўсё дачыста, кінуўшы жонак з дзецьмі жабраваць), і саслалі на Салаўкі. Ён і там падняўся, пасля ссылкі на радзіму не вярнуўся, толькі прыехаў у сваю вёску, каб знайсці сабе жонку, а сваім сіроткам — маці. Пабраліся і адразу паехалі чыгункаю на Кубань.

Мая мама яшчэ ў цягніку моцна пасябравала са сваёй новай сястрой Галяй, і праз усё жыццё яны захавалі надзвычайную блізкасць. Галя — гэта традыцыйнае свойскае імя для Ганны, як, зрэшты, і Марыяў там звалі Малямі, а пазней некаторых, у тым ліку і маю маму, «па-новаму» — Манямі.

Жыццё закінула цётку Галю на Далёкі Усход, у Хабараўскі край. Туды да яе перабралася і частка сям'і. І туды ў Хабараўскі медыцынскі інстытут паступіла мая маці, якая паспела ўжо папрацаваць у фельчарскіх пунктах кубанскіх станіц. Ёй было ўжо 26 гадоў, што для першакурснікаў, мякка кажучы, нетыпова... Пасля маці перавялася ў Мінск, куды перабралася і сям'я, скончыла вучобу і па размеркаванні паехала ў Ганцавічы — узначаліць раённую санстанцыю.

Бацька на той час таксама працаваў у Ганцавічах у мясцовай газеце. Яны здымалі кватэры ў адным доме і пры сустрэчах ветліва віталіся. Маці з маёй бабуляй здымалі два пакойчыкі, бацька — адзін.

На нейкай супольнай імпрэзе да мамы пачаў заляцацца адзін хлопец і пайшоў праводзіць яе дахаты. І бацька пайшоў. Каля хаты спыніліся, і кожны чакае, каб другі пайшоў. Але бацька там жыў і мог стаяць колькі заўгодна, і свайго саперніка «перастаяў». Той пайшоў, а бацька пераможна сказаў ветліва: «Дабранач, Марыя Міхайлаўна».

А на раніцу сутыкнуўся з ёй на агульнай кухні і ветліва ж прапанаваў пайсці за яго замуж. Маці строга спыталася: «А вы ведаеце, колькі мне гадоў?» Ён адказаў: «Мяне гэта не цікавіць». У той жа дзень яны распісаліся... У ЗАГСе быў выхадны, таму па загадчыцу гэтай установы адмыслова ездзілі на матацыкле.

У гэты ж дзень да бацькі знянацку прыехала ягоная сястра Вера, зусім выпадкова трапіўшы на вяселле. Вера адразу пасябравала з мамай і пайшла да яе спаць, а бацька застаўся ў сябе. Такая вось «шлюбная ноч»...

Адбылося гэта ў кастрычніку 1958 года. А неўзабаве бацька паехаў у камандзіроўку ў Мінск і з'явіўся да цёткі Галі. Павітаўся і працягнуў ёй ліст ад мамы, які

пачынаўся словамі: «Так-так, Галечка, гэта мой муж...» А яны ж былі не толькі сёстрамі, але і блізкімі сяброўкамі і сакрэтаў адна ад адной не мелі...

«Галечка» запусціла нечаканага сваяка ў хату жыць і амаль імгненна вельмі шчыра яго палюбіла... Маці з бацькам арганічна дапаўнялі адно аднаго. Яна больш практычная, ён — хутчэй рамантык.

Мая старэйшая сястра, якую назвалі ў гонар цёткі Галі Галінаю (а не Ганнаю, каб ужо напэўна была Галя), нарадзілася ў 1962 годзе ў Мінску, куды перабраліся бацькі. Маме было тады 37 гадоў.

Па тым часе — амаль неверагодна для першых родаў. І думала на гэтым спыніцца. Я нарадзілася праз два гады, дзякуючы настойлівасці бацькі (які моцна спадзяваўся на сына).

«Дэкрэт» тады быў толькі тры месяцы. Малую Галю глядзела бабуля, а маці бегала з працы яе карміць. Потым Галю аддалі ў садок, а зусім малую мяне — у яслі. Па начах маці пісала кандыдацкую дысертацыю. Пару разоў на тыдзень бабуля ў яе пыталася: «Ну ты ўжо абаранілася?»

Маё ранняе дзяцінства прайшло на Камароўцы, дзе ў нас была адна з пяці кватэр у драўляным доме з пячным ацяпленнем, калонкай і прыбіральняй у двары. Найбліжэйшым суседам — Васіль Сёмуха, ён тады акурат перакладаў «Фаўста». За Біблію ўзяўся ў сярэдзіне 1990-х, калі я ўжо пісала па ёй студэнцкія работы ў Лондане. Цікава, што адзін камароўскі двор даў двух беларускіх перакладчыкаў Бібліі.

Калі мы пераязджалі ў новую хату, дзядзька Вася з сям'ёй перабраўся ў нашу кватэру. У яго мусіла нарадзіцца дачка, і мой дзіцячы ложак застаўся ёй. З Алесяй Сёмухай мы пазнаёміліся ўжо на моладзевых імпрэзах пачатку 1990-х, і хутка я ў яе на філфаку пачала выкладаць літаратуру. «Чаго ты прапусціла заняткі?» — «А што, у нас ты зараз была? — дзівілася Алеся і казала: — Ай ладна, хадзем на каву».

Па нашым завулку на Камароўскі рынак ездзіла шмат гужавога і грузавога транспарту, і ў нас, дзяцей, была забава — перабегчы дарогу як мага бліжэй да самахода. Я ў свае тры гады лічылася чэмпіёнкай. Магла перабегчы перад грузавіком так блізка, што сукенка зачапляла колы. Бедныя кіроўцы... Таго дома ўжо няма. І таго завулка. Цяпер там крыты рынак.

З чатырох гадоў маё дзяцінства праходзіла на Нямізе, дакладней на Паркавай магістралі, якая потым стала звацца праспектам Машэрава, а потым праспектам Пераможцаў. (Я так і не ведаю, пераможцаў чаго — ці то хакейных чэмпіянатаў, ці то школьных алімпіяд? Заўсёды было неяк сорамна называць свой адрас.)

У дзяцінстве ў мяне амаль не было паняцця «я», толькі «мы», бо мы з сястрой былі адным непарыўным цэлым, пераплеценыя так шчыльна, што

адчувалі адна адну як саму сябе і абсалютна нічога не прадпрымалі паасобку. Яна на два гады старэйшая, і два першыя гады яе школы я па суботах хадзіла з ёй і чакала пад дзвярыма класа, пакуль выпусцяць на перапынак — хіба што настаўніца мяне заўважала і садзіла ў класе, дзе я моўчкі дзівілася, як гэта такія вялікія дзеці не ведаюць адказаў на такія простыя пытанні.

# Пачатак працы

Пасля сканчэння школы хацела стаць мастацтвазнаўцам, але ў Беларусі такой спецыяльнасці не вучылі, трэба было ехаць у Ленінград. Маці мяне не пусціла. Маўляў, з тваім здароўем ды ў такую сырую і халодную дзюрку. І пагнала ў апошні дзень прыёму падаваць дакументы ў Мінск — хоць куды, абы тут. Яна мроіла ўбачыць мяне хірургам — ну ці хаця б архітэктарам.

І я паплялася на беларускае аддзяленне філфака БДУ. Як і сястра, школу скончыла з залатым медалём, таму здавала толькі адзін іспыт і адразу паступіла. Адседзела неяк пяць гадоў, па выніку якіх аказалася другою на курсе.

Галоўнымі цікавосткамі вучобы быў Караткевіч, якога, праўда, нам не выкладалі, але якога я любіла і па якім пісала ўсе свае курсавыя і дыплом, і стыхійная кампаратывістыка Таццяны Шамякінай. Дарэчы, нашая хатняя бібліятэка была амаль цалкам дастатковай на ўсе філфакаўскія праграмы.

Па-сапраўднаму беларускую літаратуру я палюбіла і пачала сур'ёзна даследаваць на сваёй першай працы. У 1986 годзе я далучылася малодшым навуковым супрацоўнікам у наваствораную Аб'яднаную дырэкцыю беларускіх літаратурных музеяў, якую звала проста «аб'ядналаўка».

Нашай далёкай задачай было стварэнне Музея гісторыі беларускай літаратуры, а блізкай — выстава, прысвечаная літаратуры 20—30-х гадоў. Было надзвычай цікава. Тэма раней забароненая, большасць аўтараў амаль невядомыя, фантастычныя гісторыі маладых творцаў «Маладняку» і «Узвышша», расстраляныя і высланыя паэты, скалечаныя лёсы і скалечаная свядомасць тых, хто застаўся. Вялікая радасць і вера, вялікія таленты, вялікая непапраўная трагедыя...

Я сядзела ў архівах, ездзіла ў экспедыцыі, пісала канцэпцыі, збірала цытаты, гарбатай «старыла» паперу скапіяваных матэрыялаў (маімі самымі дарагімі былі, бадай, цыдулачкі, дробненька спісаныя алоўкам і складзеныя шмат разоў дзеля кантрабанднага вынасу з турмы, якія Язэп Пушча пісаў у «амерыканцы» сваім маленькім дзеткам: вершык «Дачушкам Лялі і Галі» і вершаваная казачка «Коцік — вусаты роцік і мышка-стрыжка»).

Выстава была б сапраўднай бомбай, калі б адкрылася, як планавалі, у 1987 годзе. Але яе мурыжылі і мурыжылі, перараблялі, перацягвалі ў іншыя памяшканні па Траецкім прадмесці. Начальства баялася рызыкаваць. Я спрачалася ледзь не кожны дзень, чытала дырэкцыі палымяныя лекцыі па літаратуры і не толькі, адбівала права не заклейваць «шэрай паперкай» Антона Адамовіча на шыкоўным фота 13 сяброў «Узвышша» і не рабіць калектывізацыю ды індустрыялізацыю цэнтральнымі тэмамі выставы...

Урэшце здалася і ўцякла на філфак. Выстава пад вялай назваю «Покліч» адкрылася, калі я ўжо з'ехала за мяжу, гадоў праз шэсць ад пачатку працы, і доўгадоўга вісела ў новым будынку літаратурнага музея на вуліцы Багдановіча.

Неўзабаве я пачала выкладаць на родным філфаку, а ў 1990-м — у Інстытуце замежных моў, цяперашнім Лінгвістычным універсітэце. Там утварылася кафедра беларусістыкі, і яе загадчыца Ала Сакалоўская адважна запрасіла мяне ўзначаліць секцыю літаратуры. На хвалі стыхійнай беларусізацыі ўтварылі беларускія плыні на ўсіх факультэтах, павялічылі колькасць гадзін беларускай мовы і літаратуры. Патрабаваліся цалкам новыя праграмы і новыя падыходы, што супадала і з маімі патрэбамі.

Я выкладала процьму розных курсаў па беларускай літаратуры, літаратуразнаўстве і фальклоры. На маіх лекцыях па фальклоры ў жывую спявалі дзяўчаты з найлепшага тагачаснага квартэта аўтэнтычнага спеву «Голас», які спецыялізаваўся на каляндарных песнях. А я пачала спецыялізавацца на рэканструкцыі традыцыйнай касмалогіі беларусаў. Тады ж усур'ёз захварэла на беларускую літаратуру. Каб добра вучыць, трэба вельмі добра вучыцца, і гэтым я без перапынку займалася. Заняткі — па тры-чатыры пары на дзень — знясільвалі і акрылялі. Пакуль я штосьці прагаворвала, у мяне звязваліся нейкія канцы, праяснялася агульная карціна... Я ўсё ўкладала ў студэнтаў і часам мела на іспытах фантастычныя вынікі. Гэта было шчасце.

Паралельна выкладала гісторыю рэлігіі ў Тэатральна-мастацкім інстытуце, цяперашняй Акадэміі мастацтваў. Рэч у тым, што тады, у «перабудову», выкладаць навуковы атэізм ужо было неяк не камільфо. Аднак гэта адзіная дысцыпліна, з якой савецкі чалавек мог хоць нешта даведацца пра рэлігію.

І вось Міхась Раманюк і Яўген Шунэйка, які вёў мастацтвазнаўцаў-завочнікаў, вырашылі пашукаць, хто б мог павыкладаць студэнтам асновы розных рэлігійных сістэм. Нейкім чынам выйшлі на мяне, запрасілі, а праз два дні я ўжо выкладала прадмет, які ў Савецкай Беларусі не выкладаўся ніколі.

Па выніках гэтага курса, на які, дарэчы, хадзілі і некаторыя выкладчыкі, мяне запрасілі выкладаць на ўсіх асноўных аддзяленнях. Так я сталася першым беларускім выкладчыкам гісторыі рэлігій.

Такія тады былі часы. Мы адважна і безаглядна стваралі новы сусвет.

# Пачатак сваіх праектаў

Навокал тады віравала нацыянальнае абуджэнне. У Беларусі, як і ў дарагія мне 1920-я, пачалі бруіцца культурніцкія, гістарычныя, адукацыйныя маладзевыя рухі. Легендарная «Майстроўня» прайшла амаль міма мяне, хоць і супала са мной па часе на філфаку, сваім першым месцы збораў. Я туды хадзіла ўсяго пару разоў і не паспела захапіцца.

Затое з «Талакой» супрацоўнічала напоўніцу, хаця ніколі ў яе афіцыйна не ўваходзіла. Падчас працы ў музеі пачала рабіць перадачы для радыёстанцыі «Беларуская маладзёжная», якая пад кіраўніцтвам Жанны Літвіной часам смела падымала вострыя тэмы. Я была пазаштатным карэспандэнтам для штотыднёвай праграмы Іны Студзінскай, цяперашняй журналісткі радыё «Свабода». Гэтую праграму ніхто асабліва не кантраляваў, і мае «рэвалюцыйныя» перадачы выходзілі ў эфір у маёй рэдакцыі. Цягалася па ўсім горадзе з велізарнай цяжкой скрыняю бабіннага «рэпарцёра» (тады ўжо былі кампактныя касетнікі, але няштатнікам іх рэдка давалі) ды запісвала то «Талаку», то розных культурных герояў.

У 1987 годзе амаль не заўважаным прайшло 920-годдзе Менска-Мінска. Я зрабіла вялікую гутарку пра гісторыю горада з незабыўным Міколам Ермаловічам. Мы з ім сядзелі ў нейкай бакавушцы Ленінскай бібліятэкі, і ён мне распавядаў нечуваныя датуль гісторыі пра крывавае знішчэнне месца Уладзімірам Манамахам, пра мудрага і адважнага Глеба Менскага, пра Магдэбургскае права, пра ідыятычнае несправядлівае пераразванне Менска ў Мінск у 1939 годзе, калі па Савецкім Саюзе акурат ішла хваля вяртання гістарычных назваў «нярускім» гарадам.

У тым самым 1987-м актывісты пачалі ствараць беларускія класы, дакладней збіраць подпісы бацькоў ды «апрацоўваць» школьныя дырэкцыі, і я запісала пра гэта перадачу. Яна атрымалася надзвычай складанай, як і лёс адной маёй гераіні — адзінай (!) на ўвесь Мінск беларускамоўнай вучаніцы Насты Лісіцынай. Мужнасць, вера і ўпартасць той дзяўчынкі, якая практычна ў адзіночку пераживала свае школьныя гады, і яе бацькоў мяне проста ўзрушылі, але яшчэ больш уразіла новае яснае бачанне дзяржавы, у якой не было месца для свайго народу.

А наогул, у канцы 80-х і першыя гады 90-х час моцна паскорыўся. За дзень можна было зрабіць столькі, што цяпер і за пару тыдняў не перавернеш...

Я тады пачала шчыльна сябраваць з прыгажуняй і разумніцай Каралінай Мацкевіч — маёй дагэтуль самай блізкай сяброўкай ды адзінай інтэлектуальнай напарніцай, а таксама з Сержуком Вітушкам, светлым анёлам нацыянальных рухаў. Мы ўтраіх штосьці разам прыдумлялі і тое-сёе ажыццяўлялі. Святы,

песні, «традыцыйныя» стравы... Я і цяпер сутыкаюся з нашымі прыдумкамі, якія спажываюцца сучаснай моладдзю як само сабой зразумелае і аўтэнтычнае.

На Другім Вальным сойме беларускіх суполак, які ўрачыста прагрымеў у Вільні на самым пачатку 1989 года, утварылася Канфедэрацыя беларускіх суполак, і Караліна была абраная яе каардынатарам.

Разам з Алесяй Сёмухай яна пачала выдаваць газету Канфедэрацыі «Супольнасць». Караліна захацела завесці ў газеце «ўніяцкую бачынку», дзе б распавядалася рэлігійная гісторыя Беларусі, якую тады практычна ніхто не ведаў — ды і цяпер, на жаль, веды ў гэтай тэме найчасцей фрагментарныя нават у звязаных з рэлігіяй людзей.

Тэма Уніі як колішняй нацыянальнай царквы хвалявала тады многіх, яна літаральна звінела ў паветры. З аднаго боку, абцугі прымусовага атэізму зваліліся, пакінуўшы поўную духоўную дэзарыентацыю, якая ці то кампенсавалася, ці то, наадварот, паглыблялася прагаю дапасці да нейкае «праўды», да чагосьці сапраўднага, што нейкім чынам дзесьці захоўвалася непарушным, пакуль мы білі паклоны грозным камуністычным ідалам — штосьці так. З іншага, абудзілася цікавасць да пошукаў свайго, глыбіннага, нескажонага і ненакінутага суседзямі. Не рускага ці польскага, а беларускага.

Караліна пачала з таго, што сабрала разам мяне і Сержука Абламейку, які даследаваў гісторыю Уніі, і запатрабавала тэксты. Аднак цягам гутаркі высветлілася, што мы можам пацягнуць самастойнае выданне. Вітушка прыдумаў стварыць суполку ТБМ «Унія» і прызначыць мяне яе кіраўніком. Скульптар і мастак Гэнік Лойка намаляваў нам пячатку з ім жа вынайдзеным сімвалам Уніі — цярновым вяночкам пакуты і перамогі, мы зарэгістраваліся — і панеслася...

Мяне пачалі запрашаць на ўсе беларускія рэлігійныя і калярэлігійныя мерапрыемствы. Нас было некалькі чалавек, што прадстаўлялі беларускія рэлігійныя традыцыі — праўда, толькі хрысціянскія, бо да глыбокага інтэгравання беларускага юдаізму і ісламу грамадства яшчэ не даспела.

Гэта быў найперш айцец Ян Матусевіч, каталіцкі святар, які пасля паездкі ў Лондан у 1988 годзе натхніўся служыць ва ўсходнім абрадзе і які ўважаў сваёй парафіяй увесь беларускі свет — ад Таліна да Уладзівастока, як ён сам казаў. Ён з'яўляўся паўсюль, дзе пачыналася нешта беларускае, кажучы: «Калі справу пачынаць без Бога, яна разваліцца, а калі з Богам — умацуецца». Ён жа стаў першым уніяцкім святаром пасля адраджэння Царквы ў верасні 1990 года.

Таксама там быў айцец Міхал Сапель, малады каталіцкі святар, якому даручылі ствараць беларускамоўную парафію на Залатой Горцы і якому мы ўсе ў гэтым дапамагалі, праваслаўны святар Георгій Латушка і пратэстанцкі пастыр-дысідэнт Эрнэст Сабіла, і Васіль Сёмуха.

У гэткім жа складзе мы былі абраныя на агульнай канферэнцыі ў студзені 1992 года ў прэзідыум Беларускага біблійнага таварыства, дзе ўтварылі «беларускае крыло». (Дарэчы, нядаўна зазірнула ў Вікіпедыю, у спадзяванні штосьці ўдакладніць, і пабачыла там зусім няпраўдзівую інфармацыю пра склад першага прэзідыума.)

У канцы 1989 года распачалі сваё выданне — па сутнасці, першы незалежны часопіс сярод мора незалежных газет і лісткоў — «Унія». Першы нумар выйшаў 6 жніўня 1990 года і быў прэзентаваны на ўрачыстай вечарыне ў Доме літаратара.

Яго выданне — гэта самастойная шматузроўневая (у тым ліку і дэтэктыўная) гісторыя з мноствам унутраных сувязей, значна большая за межы гэтай размовы, і я распавяду яе як-небудзь іншым разам.

Згадаю толькі пра сустрэчу, якой бы не здарылася без «Уніі» і якая сталася для мяне лёсавызначальнаю. У лютым 1990 года мы даведаліся, што недзе 10 сакавіка ў Беларусь прыедзе з Лондана «сам» Аляксандр Надсан. Дзякуючы прапагандысцкім антыэмігранцкім публікацыям мы ведалі, хто ён такі. Ведалі, што ён едзе па «чарнобыльскіх» справах з грузам лекаў, што ён быў адзіным чалавекам за мяжой, хто на ўвесь свет даводзіў, што Чарнобыль — гэта беларуская (а не толькі ўкраінская ці савецкая) трагедыя. Таксама мы ведалі, што ён быў галоўным беларускім уніяцкім святаром у свеце.

Цягнік айца Аляксандра прыходзіў з Варшавы ў Мінск а чацвёртай-пятай гадзіне раніцы. Ён асабіста ведаў у Мінску толькі айца Яна Матусевіча, а яшчэ па перапісцы — Алеся Гуркова. Спадзяваўся, што айцец Ян яго сустрэне. На пероне ён убачыў, на сваё здзіўленне, велізарны натоўп з расцяжкамі «Чарнобыльскага шляху». І ледзь не самлеў, калі сцяміў, што натоўп сустракае яго...

На наступны дзень ён адслужыў у касцёле на Кальварыі першую за Бог ведае колькі часу літургію ва ўсходнім абрадзе. Пасля паездкі ў чарнобыльскія рэгіёны айца Аляксандра запрасілі на пасяджэнні «Талакі» і там дамовіліся сустрэцца з намі.

Гэта было для яго яшчэ адным узрушэннем — даведацца, што ў Беларусі ёсць нейкія маладыя «уніяты», якія маюцца выдаваць часопіс «Унія». Сустрэчу ён нам прызначыў на... сёмую гадзіну раніцы наступнага дня. Думаў, хуценька з намі пабачыцца ды заняцца сваімі справамі. Потым мы гэта з ім гадамі згадвалі і рагаталі, асабліва калі ён добра засвоіў, што я а сёмай хутчэй пакладуся спаць, чым пачну новы дзень.

А тады мы рыхтаваліся ўсю ноч, нават дэфіцытных кілбасаў панабывалі, каб годна сустрэць высокага госця, які аказаўся вегетарыянцам. З намі ён праседзеў да вечара, не ў змозе паверыць, што мы ёсць і мы сапраўдныя.

Наступны раз ён прыехаў на наша з Каралінай запрашэнне, каб быць з намі 6 жніўня і адсвяткаваць не толькі вялікае свята Перамянення Гасподняга, але і выхад «Уніі».

# Пачатак тэалогіі

Часопіс выйшаў 4 жніўня, а да таго былі ўсе шанцы, што яго не будзе зусім. Калі мы напярэдадні рыдалі айцу Аляксандру, што ўсё так кепска і ўсё правальваецца, ён спытаўся: «Вы ўсё зрабілі, што маглі?» — «Усё», — адказалі мы. — «Ну дык пакіньце што-небудзь і на Бога»...

Такога аншлагу Дом літаратара ні дагэтуль, ні пасля не бачыў. Анатоль Сыс, які тады працаваў на беларускім тэлебачанні, нават прыцягнуў туды здымачную групу БТ. Мая мама потым казала, што ў яе мурашкі пабеглі па скуры, калі заслона рассунулася і на сцэну выйшаў стромкі і прыгожы Андрусь Абламейка з запаленай свечкай і прачытаў «Ойча наш» па-беларуску, і што яна адчула, як стаіла дыханне перапоўненая зала, пачуўшы на савецкай сцэне малітву... Усё неяк склалася. Былі выступы, спевы, вершы, слайды, малітвы. Вітушка ўпершыню паказаў сваю батлейку, якая сталася першай ластаўкай адраджэння традыцыі.

Караліна была эканамістам, яна скончыла наргас і вучылася там у аспірантуры. Але хацела павучыцца чаго-небудзь бліжэйшага да патрэбаў часопіса, пажадана багаслоўя. Я пачала прасіць айца Аляксандра паспрыяць ёй у гэтым. Ён задумаўся і пачаў перабіраць розныя варыянты — Рым, Парыж... «А можа, мне яе ў Лондан да сябе ўзяць?» І тут ува мне нешта грукнула, і я ледзь не прашаптала: «І я хачу». Вось так перавярнулася маё жыццё.

У кастрычніку 1992 года мы з Каралінай апынуліся ў Лондане. Без ангельскай мовы, без уяўлення, што нас чакае. Думалі на год, аказалася, на поўны курс навучання — і з працягам... Айцец Аляксандр адправіў нас у Лонданскі Місіянерскі інстытут, які даваў двухгадовую філасофскую і чатырохгадовую багаслоўскую адукацыю. Нам залічылі нашы гадзіны марксісцка-ленінскай філасофіі і дазволілі адразу заняцца тэалогіяй.

У інстытуце вучыліся клерыкі: манахі, семінарысты, місіянеры, святары. Мы былі не толькі першымі жанчынамі, што пачалі рабіць поўную багаслоўскую праграму, а і першымі свецкімі асобамі наогул.

Нашае з'яўленне, безумоўна, выклікала велізарны фурор, на нас была скіраваная агульная ўвага, што ўскладняла наша і так звышскладанае жыццё.

Апроч заняткаў і бясконцага пісання эсэяў мы мелі па дзве службы штодня — літургію і вячэрню — на Беларускай каталіцкай місіі, дзе мы і жылі пад пільным прыглядам айца Аляксандра.

У Мінску вячэрняў тады не было, і нам даводзілася па ходзе вучыць спевы ўсіх васьмі тонаў ды іншыя літургічныя спевы, сабраныя і выдадзеныя нястомным Гаем Пікардам, які жыў тамсама на Місіі, у Марыянгаўзе. Ён разам з эксцэнтрычнай паэткай Верай Рыч быў пастаянным спадарожнікам нашага лонданскага жыцця.

Айцу Аляксандру раілі накіраваць нас жыць у англамоўнае асяроддзе, каб нам была палёгка ў авалоданні моваю, але ён трымаўся цвёрда, маўляў, не мову вучыць прыехалі, а працаваць дзеля Беларусі.

І мы працавалі.

Пасяліў ён нас спачатку ў пакойчык у славутай Скарынаўскай бібліятэцы, пра якую я яшчэ сваім студэнтам распавядала, маўляў, у Беларусі няма Скарынаўскай бібліятэкі, а ў Лондане ёсць.

Адной з нашых асноўных прац, апроч бясконцай працы па гаспадарцы, было рэдагаванне айцовых літургічных перакладаў, якія ён рабіў цягам дваццаці гадоў. (Шмат-шмат гадоў лонданская капліца святых Пятра і Паўла была адзіным месцам у свеце, дзе штодня тварылася малітва за Беларусь і па-беларуску.)

А мова прыйшла гады праз два. Пасля чаго імгненна падскочылі нашы адзнакі, і мы ператварыліся ў «лепшых вучаніц». І скончылі вучобу мы абедзве з найвышэйшай адзнакай, «Suma qum laude».

Сярод велізарнага мноства багаслоўскіх дысцыплін мы з Каралінай абедзве абралі Біблію. Ці то Біблія нас абрала?

Упрасілі выкладчыка гебрайскай мовы займацца з намі звыш адведзенага аднаго семестра, і апантана на вялікіх перапынках, калі нашы калегі пілі гарбату і гулялі ў пінг-понг ды більярд, мы рабілі практыкаванні па гебрайскай мове.

Пасля сканчэння Місіянерскага інстытута раз'ехаліся. Караліна — давучвацца ў Парыж, у Каталіцкі інстытут, куды яе «дамовіў» айцец. Яна спачатку і жыла ў айцовай кватэры ў квартале Тэмпль, а потым пайшла замуж, нарадзіла дзіця і пасля сканчэння інстытута перабралася ў Англьшчыну, дзе праз доўгія гады зрабіла дактарат у Бібліі ў Шэфілдскім універсітэце.

Я ёю бязмерна ганаруся і вельмі люблю ейных дзвюх дачушак, маіх хросніц, старэйшая з якіх ужо на сваім хлебе — смачным, але цяжкім, акторскім.

А я паехала ў Бельгію, у Лёвенскі каталіцкі ўніверсітэт, да якога быў афіляваны наш лонданскі інстытут. Гэта, безумоўна, адзін з найлепшых універсітэтаў Еўропы, са старымі традыцыямі, што доўжацца ад 1425 года.

У Лёвене я адвучылася яшчэ сем гадоў. Гэты перыяд хай таксама застанецца за межамі гэтай гісторыі, бо ён, па сутнасці, змяшчаў цэлае жыццё. Проста скажу, што гэта самыя шчаслівыя гады.

Акадэмічным іх вынікам сталіся два магістраты, адзін ліцэнцыят і два дактараты. Сярод іх і тая мая навуковая ступень, якую — відаць, праз сваю пэў-

ную экзатычнасць — найчасцей згадваюць у Беларусі: доктар сакральнай тэалогіі (хоць гэта стандартная назва эклезіястычнага дактарату ў багаслоўі).

Я займалася біблійнымі касмалогіямі і іх фантастычным кантэкстам — канцэпцыямі сусвету Старажытнага Блізкага Усходу, ад Егіпта да Месапатаміі, ад Хітыцкае імперыі да старажытнае Сіра-Палесціны, з асобным прыпынкам ва Угарыце — звышпісьмовай і літаратурнай цывілізацыі Бронзавага веку, якая, хоць і не наўпростава, была калыскаю біблійных уяўленняў пра свет.

Па ўгарыцкай касмалогіі я пісала асобную дысертацыю. Усё гэта вымагала вывучэння мноства старажытных моў. Некаторыя вучыла на ўніверсітэцкіх занятках, дзеля чаго мусіла запісвацца на асобныя нідэрландамоўныя праграмы на іншым факультэце, а некаторыя там не выкладаліся, і я вучыла іх сама, па падручніках.

Кожную сесію здавала па 15—16 іспытаў, у той час, як нармальныя людзі мелі па 6—7. Тым не менш — ці то дзякуючы гэтаму? — гэта быў цудоўны час. Маё сэрца засталося ў Лёвене.

## Пачатак працягу

14 гадоў замежных штудыяў ні на імгненне не замглялі цвёрдай веры, што я вярнуся ў Беларусь. У 2005 годзе, пасля апошняе абароны, я і вярнулася. Мяне сустрэла зусім не тая краіна, якую я ў свой час пакінула. Знайсці сабе прымяненне было надзвычай цяжка. Ну каму патрэбныя сакральныя веды Старажытнага Блізкага Усходу, калі ўся адукацыя завісла пад цяжарам ідэалогіі і перастала развівацца, выцясняючы з сябе ўсё «непрактычнае» ды «завумнае»?

Я мяркую, што пакуль беларусы не зоймуцца сур'ёзнымі даследаваннямі не-Беларусі, яны і Беларусі не зразумеюць, і нікому цікавымі не будуць — нават сабе. Беларусь — інтэгральная частка сусветнай цывілізацыі, і каб сябе ў ёй знайсці, а тым болей даць ёй нешта важнае, значнае, чаго ніхто іншы даць не зможа (а інакш навошта мы?), мы мусім ведаць гэтую цывілізацыю, ведаць яе мовы, яе гісторыю, яе шляхі і механізмы.

Той жа любы майму сэрцу Старажытны Блізкі Усход стаўся падмуркам, інтэлектуальным пачаткам еўрапейскай цывілізацыі, а гебрайская Біблія — дзіця Старажытнага Блізкага Усходу — пунктам зборкі Заходняга свету, крыніцаю яго ідэнтычнасці, духоўнасці, культуры і сацыяльных каштоўнасцей.

Сёння Беларусь — адзіная краіна Еўропы, дзе няма сучаснага якаснага перакладу Бібліі на мову тытульнай нацыі. Парадокс: Францішак Скарына зрабіў пераклад падчас Рэфармацыі адным з першых, а ў XXI стагоддзе мы ўвайшлі апошнімі. Пераклады Бібліі на нацыянальныя мовы адыгрывалі велізарную культура-, мова- і нацыятворчую ролю для сваіх краін. У сучасным

свеце недаперакладзеная Біблія абавязкова вынікае ў недасфарміраванай нацыянальнай свядомасці.

Гэтаксама незасвоенасць асноўнага тэксту заходняе цывілізацыі вынікае ў неінтэграванасці культуры ў гэтую цывілізацыю. Гэта не азначае, што, калі мы перакладзем Біблію, сітуацыя зменіцца, але калі не перакладзем, то напэўна застанёмся на перыферыі сусветнай культуры.

Хутка па вяртанні я пачала выкладаць у Беларускім калегіюме і ў віленскім ЕГУ некалькі розных курсаў, датычных Бібліі і Старажытнага Блізкага Усходу. А таксама пачала грунтоўныя паглыбленыя заняткі па Бібліі ў незалежнай Школе Бібліі, якая была спачатку проста «пры мне», потым пры Агенцыі гуманітарных тэхналогій, а потым — і дагэтуль — пры Лятучым універсітэце. Так што алгарытм майго штодзённага жыцця застаўся той самы — вучыцца і вучыць.

Ад 2010 года я пачала гуртаваць беларускіх гебраістаў, эліністаў, багасловаў, філолагаў, літаратараў ды культуролагаў дзеля новага навуковага перакладу Бібліі на беларускую мову. Пару гадоў таму паціху пачалі перакладаць. Спадзяюся, што ў 2017 годзе — на пяцісотгоддзе беларускай Бібліі — зможам хоць што-небудзь прадставіць краіне. Хаця поўны пераклад зойме Бог ведае колькі гадоў.

У 2013 годзе філосаф Алесь Анціпенка прапанаваў мне ўзначаліць створаны ў 1997 годзе Беларускі калегіюм, якім ён ад тога часу кіраваў. Я мудра падзяліла дырэктарства на дваіх: узяла на сябе функцыю акадэмічнага дырэктара, а ролю адміністрацыйнага дырэктара пагадзіўся выконваць колішні выпускнік Калегіюма Андрэй Казакевіч, дырэктар Інстытута палітычных даследаванняў «Палітычная сфера», ініцыятар і арганізатар ужо славутага Ковенскага Міжнароднага кангрэса даследчыкаў Беларусі, які штогод збірае да шасці соцень беларусазнаўцаў з усяго свету і на якім я збіраю сваіх перакладчыкаў Бібліі — таксама з усяго свету. І мне вельмі падабаецца, што адбываецца ў сучасным беларускім інтэлектуальным жыцці, дзе ўжо колькі гадоў актыўна фармуецца незалежная супольнасць мысляроў, свядомых сваіх глыбінных сувязей з мінулым і скіраваных на стварэнне новых інтэлектуальных сусветаў, дзе кіруе вольнае мысленне».

*17.02.2017*



Гуканне вясны.
25 сакавіка 1988 года



Падарожжа на св. Язафата, арганізаваная Юрыем Хадыкам. У цэнтры айцец Ян Матусевіч і Міхал Дубянецкі, побач Сяржук Абламейка. Баруны. 1989 год



Хрост Цзыўая Рафаэля Со, кітайскага архітэктара беларускай царквы ў Лондане. Айцец Аляксандр Надсан, Ірына-хросная, Рафаэль-хроснік, айцец Сяргей Стасевіч. Лондан, 2011 год.



Прэзентацыя Псалтыра ў перакладзе айца Аляксандра Надсана.
Караліна Мацкевіч, Ірына, Адам Мальдзіс. Цэнтр святога Язэпа. Менск, 2016 год



На IV свяце паэзіі памяці Тацяны Сапач. Маркава, 2014 год



Лекцыя «Алкаголь у сакральным ужытку» у кнігарні «ЛогвінаЎ». 2015 год




Маці. 2015 год



# Максім ЖБАНКОЎ

**Натуральна, жыццё кожнага з нас складаецца з мноства асабістых досведаў. Для вядомага культуролага, кінакрытыка і публіцыста Максіма Жбанкова яны пачаліся ў дзень народзінаў 19 студзеня 1958 года і працягваюцца па сёння — досведы трансфармацыі светапоглядаў.**

## Досвед пачатку

«Бацька, Расціслаў Георгіевіч, — фізік. Маці, Інэса Іванаўна, — філосаф. Па тых часах (мяжа шасцідзясятых і сямідзясятых гадоў мінулага стагоддзя) гэта было вельмі прэстыжна. Даволі паспяховая і ў пэўным сэнсе заможная савецкая сям'я.

Бабуля па лініі маці, Фаіна Архіпаўна Новікава, была адным з прадстаўнікоў Беларусі ў ААН. Памятаю, прывозіла адтуль нейкія кружэлкі, розныя фота. Быў яе здымак разам са славутым чарнаскурым спеваком Полем Робсанам.

Яе муж, Іван Васільевіч Яскевіч, выкладаў гісторыю партыі, пісаў адпаведныя кніжкі.

Мы жылі ў самым цэнтры Мінска, вуліца Свярдлова, 20. Месца вельмі цікавае. Насупраць — Галоўны паштамт. Крыху далей — кінатэатр «Цэнтральны». А нарадзіўся я ў раддоме побач з Рускім тэатрам і Пішчалаўскім замкам, што потым стаў турмой.

Маці расказвала: у той дзень, нягледзячы на сярэдзіну зімы, нечакана пачалася навальніца...

У дзяцінстве я менш за ўсё задумваўся пра свой жыццёвы шлях. Проста быў добрым хлопчыкам з добрага асяроддзя.

Пайшоў вучыцца ў 42-ю школу. Таксама прэстыжную — па наш дзень месціцца побач з Цэнтральнай кніжнай крамай, насупраць будынка КДБ. Дырэктарам тады быў спадар Клябанаў, які потым, здаецца, эміграваў у ЗША. Увогуле ж за мяжу выехаў шмат хто са знаёмых і равеснікаў. Напэўна, у нашага пакалення такі лёс...

У школе я вучыўся даволі добра, хоць і меў праблемы з некаторымі прадметамі. З той жа фізікай, напрыклад. Для многіх гэта здавалася абсалютным

нонсенсам — сын вучонага-фізіка ўсё ж такі... А вось чарчэнне любіў, нават прымаў удзел у адмысловых алімпіядах.

Маімі лепшымі сябрамі ў класе былі сын Ніла Гілевіча Сяргей і ўнук Аркадзя Куляшова Уладзімір Бербераў, які цяпер кіруе этнагуртом «Літвіны». Магчыма, мы нечым адрозніваліся ад усіх астатніх, таму «задзіралі насы». Рызыкну нават сказаць, што мы былі своеасаблівай элітай класа, цалкам «кніжнымі» хлопчыкамі. Рок-н-рол прыйдзе пазней, а тады быў пастаянны абмен кніжкамі. Нехта мне прыносіў Дзікенса, я некаму даваў пачытаць Майн Рыда, даставалі Конан Дойля, О'Генры і г. д.

Дарэчы, калі бацькі сварыліся, я браў кнігу і ішоў у цэнтральны кніжны магазін, дзе тады стаялі мяккія крэслы. Чытаў звычайна не менш за гадзіну — дастаткова звычайна, каб хатнія жарсці сціхлі.

Наша кампанія была не класічным «кніжным клубам», хутчэй прасунутай тусоўкай. Мы прыдумалі свой свет і камфортна ў ім жылі. Настолькі, што вырашылі выпускаць сваю газету.

Гэта была такая гульня. Газета па-ангельску звалася «Daily World», што літаральна азначае «штодзённы свет». Мы прыдумалі правінцыйны амерыканскі гарадок, дзе жылі пярэстыя героі і выдумлялі для іх розныя прыгоды.

Газета ўяўляла сабой вырваны з сшытка падвойны ліст паперы, які быў разбіты на калонкі. Па чарзе мы з яшчэ адным калегам, Аляксеем Тралле, рабілі наступны нумар: пісалі нейкія артыкулы, а потым давалі пачытаць самым блізкім аднакласнікам.

Актыўна гэтым займаліся, здаецца, амаль два гады. Хацелася жыць больш цікава, а цікавага жыцця яшчэ не было. Заставаліся фантазіі.

У кожнага — вельмі прыстойныя сем'і, дзе дзяцей берагалі ад любых «нечаканасцяў». Умовы былі цяплічнымі, а хацелася нейкага драйву, руху. Спачатку кніжкі, потым — тая рукапісная газета, а прыкладна з шостага класа — рок.

Можна сказаць, «тыповы» рамантычны набор савецкага падлетка.

З рок-н-ролам атрымалася даволі цікавая гісторыя.

Рок-музыку мы слухалі і раней. Але тады яна яшчэ не была нашай уласнасцю.

Неўзабаве бацьку прапанавалі доўгатэрміновую камандзіроўку ў Індыю. У Інстытуце фізікі Акадэміі навук ён быў на добрым рахунку: прафесар, сакратар партыйнай арганізацыі інстытута, загадчык лабараторыі з мноствам адкрыццяў ды патэнтаў. Карацей, ідэалагічна цалкам правільны і надзейны. Як і маці, дарэчы.

Нават сацыялістычная Балгарыя тады лічылася вялікім шчасцем, а тут — капіталістычная краіна! Бацька вырашыў асвоіць ангельскую мову.

Для гэтага купілі магнітафон «Камета»: драўляны кораб, вялікі па памерах і вельмі цяжкі.

Ангельскай тата так і не вывучыў. Аднак у мяне з'явілася магчымасць збіраць музыку.

У сябрука, што жыў побач са школай (тры кварталы па праспекце), былі стужкі «Бітлз», якія карцела перапісаць. Праблема палягала на тым, што я свой магнітафон паасобку падняць не мог.

Побач з нашым домам нешта будавалі. Мы знайшлі там кінутыя насілкі. Пагрузілі на іх «Камету». І паперліся так наўпрост па праспекце Леніна!

Толькі каб перапісаць паўгадзіны «бітлаў».

Цяпер гэта нават уявіць цяжка...

Так у маё жыццё прыйшоў рок-н-рол. І пачалося тое, што можна пазначыць «культурнай шызафрэніяй».

З аднаго боку, я быў узорным савецкім хлопчыкам: акцябронак, піянер, камсамолец, камсамольскі актывіст. Зрэшты, стасункі з афіцыйнай ідэалогіяй складваліся даволі дзіўна. Парадна-паказальна. Як вучняў адной з лепшых школ Мінска, нас даволі часта здымалі з заняткаў, пераапраналі ў аднолькавую спартовую форму і дрэсіравалі як масоўку нейкіх паказальных выступаў падчас святаў. Нават на партыйныя мерапрыемствы запрашалі. Хорам вітаць удзельнікаў.

З іншага — у жыццё ўваходзіла тое, што крытык Арцём Троіцкі вызначыў «музыкай бунту». Гітарны біт, дзіўныя вайбы, патлатыя джынсовыя героі... Усё афіцыйнае пераходзіла на другі план, станавілася негрунтоўным. Нават тыя ўлюбёныя кніжкі, якія ва ўсім свеце прачыталі дзесяцігоддзямі (а то і стагоддзямі) таму.

Калі кніжкі замежных аўтараў падаваліся чымсьці прамінулым, то рок-музыка — увасобленай сучаснасцю. У пэўным сэнсе мы былі сведкамі яе нараджэння. Чарговы «Led Zeppelin» альбо «Pink Floyd» траплялі на нашыя магнітныя стужкі і рабілі нас саўдзельнікамі цуду. Натуральна, слоў песняў амаль ніхто не разумеў, аднак спрацоўвала нешта больш істотнае: новыя эмоцыі, магія гуку, падключэнне да новай крыніцы энергіі. Інтэрвенцыя марсіян.

У нашых прыхільнасцях не было анічога дысідэнцкага, ніякага свядомага супрацьстаяння савецкай сістэме. Проста з'явілася нешта новае, прыгожае. Тое, што ў традыцыйную схему не ўкладвалася. Мы шчыра спрабавалі «любіць сваё»: вакальна-інструментальных хлапцоў з «Лейся, песня!», «Поющих гитар» і г. д. Шукалі легальную крыніцу падобнай энергетыкі.

Але не атрымлівалася. Прычэсаная, адцэнзураваная савецкая песня была зусім іншай. Нежывой.

У восьмым класе вырашылі зрабіць нешта сваё. Склалася брыгада аднадумцаў. Да ўзгаданага вышэй Уладзя Берберава далучыўся іншы аднакласнік — Сяргей Лапанькоў. Ён граў на гітары і нават нейкія мелодыі прыдумляў. Перыядычна нас разыгрываў. Браў, напрыклад, яшчэ тут невядомую песню Макартні і граў як сваю. Уладзь слухаў і бурчэў: «Папса, мала року!» Потым разам доўга смяяліся...

Я падвязаўся пісаць тэксцікі песняў, бо ў нас была неблагая хатняя бібліятэка: Пастэрнак, Цвятаева, Ахматава. Было дзе паляпшаць асабісты слоўнік.

Натуральна, не хапала музычных інструментаў, а сродкаў, каб іх набыць, не мелі. Аднойчы маці Уладзя прапанавала здаць пустыя бутэлькі, якія захламлялі балкон, а грошы пакінуць сабе. Так і зрабілі. Не ўзгадаю, дзе быў тады пункт прыёму шклатары, аднак памятаю, як мы цягнулі тую тару праз увесь цэнтр, а за грошы набылі адну з талерак для ўдарнай устаноўкі...

Чамусьці вырашылі, што для бас-гітары ідэальна пасуюць струны са старога піяніна з сутарэння нашай школы. З дапамогай пласкагубцаў дасталі і прынеслі дадому. Але высветлілася, што каб іх вытрымаць, грыф нашай бас-гітары мусіў быць у некалькі разоў больш мажным за ўжо зроблены.

Пад узмацняльнік гуку адаптавалі «рэквізаваны» ў маёй бабулі рарытэтны радыёпрымач.

Але нешта не склалася. Спробы зрабіцца поп-зоркамі скончыліся нічым.

# Досвед працягу

Дзякуючы дзіцячым захапленням адбыўся пераход са свету фантазій у свет рэальны. Захацелася і ў ім таксама нешта змяніць. Вучоба ў школе скончылася, трэба было некуды паступаць. Вышэйшая адукацыя ўспрымалася тады чымсьці натуральным, абавязковым.

Тата ўвесь час далікатна «падштурхоўваў» мяне на свой шлях: падсоўваў нейкія кніжкі па займальнай фізіцы, выпісваў адпаведныя часопісы. А маці адказвала за культурны складнік. Мы хадзілі ў кіно, на выставы ды канцэрты.

У яе быў тоўсты пачак сшыткаў, дзе ад рукі (ксераксаў і сеткавых файлаў тады, натуральна, не было) запісваліся розныя вершы і думкі, якія прыходзіліся даспадобы. З прэсы выразаліся цікавыя тэксты і таксама туды ўклейваліся.

Гэта быў своеасаблівы дайджэст, дасье разумнага, важнага і цікавага. Штосьці падобнае я пазней завёў і для сябе. Зразумела, ужо са сваімі аўтарамі, героямі, персанажамі.

Маці Уладзя Берберава сябравала са многімі літаратарамі, у тым ліку і з расійскімі. Памятаю, у палітэху на пачатку 1970-х улетку адбыўся паўлегальны выступ Андрэя Вазнясенскага. Яго прадстаўляў Рыгор Барадулін (паэты цесна

сябравалі), удзел у імпрэзе прымала акцёрка Таццяна Лаўрова. Не ведаю, якім чынам узнік гэты своеасаблівы творчы альянс, але дакладна бачыў (правяраў апасля па кніжках), як Вазнясенскі імправізацыйна перакручваў радкі некаторых сваіх вершаў — ці то гуляўся, ці папросту не помніў іх дакладна.

Словам, новыя крыніцы духоўнай энергетыкі падштурхоўвалі да змен у жыцці, жадання шукаць нешта новае, жыць актыўна. Але ж я быў савецкім хлопчыкам, і для мяне гэта асацыявалася перадусім з жыццём па сумленні і сваіх прынцыпах у межах савецкай матрыцы.

Канчаткова вырашыў ісці па матчынай лініі, абраў філасофію. І нечакана з першага разу не паступіў у БДУ.

Філасофія лічылася часткай ідэалагічнага забеспячэння сістэмы, таму вучыцца бралі людзей з жыццёвым досведам (для юнакоў звычайна гэта было войска), камуністаў альбо з рэкамендацыямі партыйных камітэтаў. Я ж туды палез выключна па рамантычнай наіўнасці.

Іспыты прайшоў добра. Але без шанцаў. Памятаю, як на апошнім уступе мяне літаральна «рэзалі», задавалі пытанні, што да тэмы мелі вельмі ўмоўнае дачыненне...

У выніку я недабраў палову бала і пайшоў на завочнае аддзяленне той жа філасофіі, што аўтаматычна азначала прызыў у войска. Пасля васьмі месяцаў работы лабарантам Інстытута філасофіі Акадэміі навук Беларусі ў 1976 годзе так і адбылося.

Спачатку накіравалі пад Рыгу ў вучэбку, потым — у Савецк, што ў Калінінградскай вобласці, колішні нямецкі Цільзіт. Там інжынерныя войскі, фактычна «мяккі» будбат. Толькі грошы за працу не плацілі. Цягам двух гадоў маёй службы акцэнт рабіўся не на баявую падрыхтоўку, а на розныя будаўнічыя работы. Пастаянныя камандзіроўкі.

Яшчэ ў вучэбцы адзін з маладых салдат скончыў жыццё самагубствам — не вытрымаў новых умоў жыцця. Пасля таго я трапіў пад пільную ўвагу нашага зампаліта. Доўга не мог зразумець — чаму. Высветлілася гэта ў размове з ім падчас прыезду бацькоў. Аказалася, я трапіў у спіс небяспечных ды схільных да суіцыду, бо «часта хадзіў у бібліятэку»...

Гэта — таксама новы досвед, досвед не кніжнага, а рэальнага жыцця.

Словам, калі ў 1978 годзе я зволіўся ў запас і аднавіўся на філасофскім (ужо не на завочным, а на дзённым) аддзяленні, у мяне за плячамі мелася шмат жыццёвага багажу. І перш за ўсё скептычныя адносіны да таго, што адбываецца вакол.

Унутрана я жыў на адной хвалі, а вонкавая была іншай. Пры гэтым разумеў, што так жывуць многія і да гэтай сітуацыі трэба неяк прыстасоўвацца,

бо інакш не будзе пэўных «рычагоў жыцця». Згодна з парадай маці яшчэ ў войску я ўступіў кандыдатам у партыю.

Зразумела, што, як толькі вучоба працягнулася, мяне зрабілі актывістам і абралі сакратаром камсамольскай арганізацыі нашага аддзялення. Цягнуў гэтую «лямку» аж да трэцяга курса, цэлых два гады. А потым адбылося тое, што нармальнаму чалавеку цяжка зразумець.

У нас па студэнцкім абмене вучылася група палякаў. І здарылася так, што якраз у той момант суполка маіх знаёмых з іншых курсаў распрацавала зварот да дэкана з прапановамі аптымізаваць вучэбны працэс — будучыя філосафы заўсёды лічыліся самымі прасунутымі. Як і іншыя, я спакойна падпісаў петыцыю, бо не бачыў нічога экстраардынарнага. Нічога антысавецкага і дысідэнцкага. Напрыклад, узяць прапанову дазволіць студэнтам самастойна абіраць спецкурсы — сёння гэта падаецца абсалютна нармальным, а тады расцанілі ледзь не бунтам. Маўляў, заўтрашнія ідэалагічныя работнікі павінны безагаворачна выконваць загады партыі.

Пра збор подпісаў нехта «стукнуў». І пачалося...

Мы ведалі, што на кожным курсе ёсць намеснік дэкана, які на самай справе з'яўляецца «асабістам». Аднак да гэтага моманту большасці яно не тычылася, а тут — скандал, змова. Вельмі хутка прыдумалі схему студэнцкага бунту.

Маўляў, палякі, звязаныя з «Салідарнасцю», падбухторылі нашых студэнтаў на нейкі антыдзяржаўны супраціў. Мяне тэрмінова выклікалі ў дэканат, абвінавацілі ў адсутнасці валодання сітуацыяй, прапанавалі правесці па курсах «тлумачальныя размовы». Не бачыў у гэтым ніякага сэнсу, аднак згодна з пасадай давялося нешта агучваць. Сумна і няёмка.

Урэшце ўсё скончылася літаральным цкаваннем арганізатараў збору подпісаў. Некалькіх чалавек прымусілі аператыўна сысці ў «акадэмічны адпачынак», а адзін хлопец, Алег Малашчук, уцёк у войска. Пасля службы ён спрабаваў аднавіцца (на што меў усе падставы), але нічога не атрымалася. Рэктарат адмовіў. Тады Малашчук выкінуўся з акна галоўнага корпуса БДУ. Акурат на сённяшнюю плошчу Незалежнасці.

Следчыя пэўны час спрабавалі знайсці прычыны, потым усё было «спушчана на тармазах». Гэта стала яшчэ адным штуршком да майго адыходу ад камуністычнай сістэмы.

## Досвед вальнадумства

БДУ я закончыў у 1983 годзе і меўся адразу ісці ў аспірантуру. Аднак, паколькі лічыўся на добрым рахунку, застаўся працаваць на сваёй кафедры з умовай, што праз пэўны час працягну вучобу.

Так пачаўся, як потым высветлілася, самы нецікавы ды марудны перыяд майго жыцця.

Як выкладчыку-пачаткоўцу часоў застою мне «навесілі» столькі курсаў навучання, што можна было заблытацца ў назвах. Тым больш, многія з іх, на мой погляд, былі абсалютна нікому непатрэбнымі.

Акрамя гэтага як бы па інерцыі праходзіла партыйнае жыццё. На партыйных сходах, дзе нехта чытаў кнігі і газеты, а нехта рашаў красворды, нас больш цікавілі асабістыя навіны, чым руціннае абмеркаванне «маральнага аблічча» чарговага калегі, які страціў партбілет.

Вакол віравала перабудова. Выходзячы з працы на плошчу перад Домам урада, мы бачылі шматтысячныя мітынгі, але асабіста мяне іх палітычныя лозунгі не моцна цікавілі. У маёй свядомасці працягвалася іншая перабудова. Перабудова маральных арыенціраў. У дзяцінстве гэта былі кнігі і рок-н-рол, зараз вальнадумства атрымлівала новыя рысы.

Надышоў перыяд галоснасці, і ў людзей узнікла моцнае жаданне пра нешта разважаць, гаварыць. Галоснасць — гэта перш за ўсё рэвалюцыя слова і адчуванне таго, што за яго цябе не пасадзяць у турму і не пачнуць «прэсаваць».

У жыццё важка прыходзіла раней недасягальнае іншаземнае кіно, лепшыя стужкі сусветнага кінематографа, якія мы не толькі глядзелі, але і разважалі над тым, што ўбачылі.

Пачалося ўсё з таго, што ў Палацы культуры прафсаюзаў светлай памяці Аляксандр Грыцанаў стварыў дыскусійны клуб. Там жа ўзнікла відэакафэ, дзе паказвалі фільмы з далейшым абмеркаваннем. На той час гэта — вельмі модна.

Абсалютна выпадкова далучыўся да працэсу і я. Прыйшоў на прагляд. І адразу, вядома ж, да дыскусіі, паколькі быў «бадлівым хлопцам».

Арганізатары клуба Сяргей Фененка і Георгій Глік мяне заўважылі і прапанавалі з імі папрацаваць. Такім чынам, на пачатку дзевяностых я стаў займацца нефармальным культурным асветніцтвам.

Пры дапамозе замежных амбасадаў мы пачалі прывозіць у Мінск якаснае аўтарскае кіно. Паказвалі яго спачатку ў малой зале палаца, потым — у вялікай. У лепшыя часы прыходзілі да сямісот чалавек.

Аднойчы, падчас паказу чарговай брытанскай праграмы, публіка вынесла шкляныя дзверы Белсаўпрафа. Сінхраніст-перакладчык глядзіць са сваёй кабінкі ўніз і з захапленнем кажа: «Крута, Макс! Гэта ж як на «Ролінг стоўнз»!» А я ў адказ: «Так, толькі яны могуць купіць новыя дзверы, а мы не...»

У той час мы былі даволі знакамітымі — нават пазнавалі ў метро. Потым я даведаўся, што праз нашы сеансы прайшло некалькі пакаленняў беларускіх

інтэлектуалаў, а дзяўчаты з філфака, што месціўся непадалёку, прыводзілі на іх сваіх патэнцыйных кавалераў. Тэставаць на прасунутасць. Калі хлопец «у тэме», то працяг стасункаў падаваўся магчымым.

Вясёлы тады быў час: галодны, безграшовы, але з вельмі моцнай энергетыкай. Той рок-н-рол, які мы слухалі на чужых касетах і не дайгралі ў школе, зноў выйшаў на сцэну. Толькі ў іншым фармаце — кінематаграфічным.

Так, у 1986 годзе я абараніў кандыдацкую дысертацыю з кучаравай тэмай «Мировозренческие основания стиля мышления нового времени». Так, чытаў студэнтам нейкія лекцыі. Але гэта ўжо не было галоўным у жыцці. Значна больш цікавымі сталі несістэмныя справы, спантанны культурны рух.

# Досвед сумленнасці

На родную кафедру я прыйшоў працаваць па запрашэнні яе кіраўніка Вячаслава Сямёнавіча Сцёпіна — харызматычнага мысляра, якога ў Беларусі банальна «з'елі»: не далі нармальна развівацца як навукоўцу і стаць акадэмікам, прымусілі з'ехаць у Маскву, дзе той потым быў рэктарам Інстытута філасофіі. Словам, хутка кіраўніцтва кафедры змянілася і вырашыла, што яму са мной «не по пути»...

Мяне акуратна пачалі выціскаць.

Шчыра кажучы, я не вельмі шкадаваў, бо ўжо меў добры досвед жыцця паза рамкамі дзяржаўнай сістэмы. У Беларусі пачаў працаваць фонд Сораса, які абвясціў пра вакансію чарговага каардынатара. Падаўся на гэты конкурс і атрымаў новую працу.

Упершыню ў жыцці я ніякім чынам не быў звязаны з дзяржструктурамі. Гэта абсалютна новае адчуванне, незразумелае сярэднестатыстычнаму савецкаму чалавеку, які прызвычаіўся да пэўных дзяржаўных гарантый і жорсткай падначаленасці. А тут праца з подыхам незвычайнай свабоды.

У фондзе Сораса падабралася моцная каманда пад начальствам амерыканскага ірландца Пітэра Берна. Там таксама дзейнічалі нейкія бюракратычныя правілы, але гэта была не кандовая савецкая, а гнуткая амерыканская бюракратыя.

У той час усё здавалася магчымым, а тое, што адбывалася вакол, выглядала чымсьці другасным, абсалютна неістотным. Калі абвясцілі рэферэндум 1995 года, амаль ніхто сур'ёзна не задумваўся над тым, што ў будучым ён будзе вызначаць наша жыццё на дзесяцігоддзі. Здавалася, што гэта датычыцца толькі тых, хто знаходзіцца пры ўладзе, і мае выключна часовы статус.

На жаль, шмат хто тады банальна памыляўся.

Ужо праз два гады маёй работы ў фондзе Сораса на нас «наехалі». Так, для Беларусі звычайная справа. Але калі не датычыцца канкрэтна цябе. Для мяне гэта быў яшчэ адзін жыццёвы досвед і чарговы імпульс дыстанцыявацца ад афіцыйнай сістэмы. Напэўна, жыццё зрабіла ўсё, каб я стаўся несістэмным чалавекам. Не таму, што гэтага хацеў. Проста не мелася іншага выйсця.

Фонд Сораса з Беларусі прымусілі сысці. У верасні 1997 года было канчаткова абвешчана пра наша закрыццё. Я застаўся не толькі без працы, але і без магчымасці ўладкавацца ў дзяржсектары.

Супрацоўнікі БФС фактычна сталі персонамі нон грата, трапілі пад негалосную забарону на прафесію. Дакладна як з «чорным спісам» музыкаў: ніхто яго не бачыў, але ўсе ведаюць, што ён ёсць...

Два гады я займаўся чым прыйдзецца. Спрабаваў пісаць для «Белорусской деловой газеты». Пачаў нешта рабіць для радыё «Свабода». Пасля па прапанове нябожчыка Сашы Міхальчука зачапіўся за «Беларускую газэту». Мо нехта памятае «Дыялогі пра кіно», якія мы рабілі разам з мастаком Андрэем Фядорчанкам? Вельмі файныя былі артыкулы. Шыкоўны досвед працы «ў дуэце». Потым Фядорчанка эміграваў у Швейцарыю, а я пайшоў загадчыкам аддзела культуры да майго лепшага рэдактара Пятра Марцава, у «Белорусскую деловую».

Напрыканцы 1999 года добрая знаёмая па сумеснай працы ў БДУ Ядзвіга Яскевіч запрасіла выкладаць на кафедры філасофіі і культуралогіі Рэспубліканскага інстытута вышэйшай школы. Я з радасцю пагадзіўся, аднак у выніку чарговых кадравых інтрыг зноў трапіў «на вылет». Экс-міністр адукацыі з дыпломам фізіка Дзямчук вырашыў, што яго як кіраўніка вабіць менавіта наша кафедра, і выціснуў адтуль усіх нелаяльных.

Як высветлілася, гэта была мая апошняя калабарацыя з дзяржаўнымі структурамі, бо з гэтага моманту я цалкам пераключыўся на нефармальныя праекты. Пераважна медыйныя, кіношныя і выкладчыцкія.

У 2007 годзе пачаўся «віленскі» перыяд. Еўрапейскі гуманітарны ўніверсітэт тады ўжо працаваў у Вільні. Па прапанове маіх колішніх студэнтаў з БДУ я стаў там выкладаць і працаваў аж да 2014 года.

Спачатку ўсё было нармальна. Трапіў у тое несістэмнае поле, да якога імкнуўся ўсё жыццё. Новая праца была звязаная з пастаяннымі камандзіроўкамі (амаль палову кожнага года праводзіў у Вільні) і стала яшчэ адным значным досведам.

Мабыць, для перыяду, калі ў Беларусі панавала палітычнае міжчассе, сацыяльная стагнацыя і адсутнасць рэальных жыццёвых перспектыў, гэта — выйсце. Аднак на восьмым годзе работы ў Вільні я нарваўся на канфлікт і там.

На жаль, нязменны кіраўнік ЕГУ акадэмік Міхайлаў вывез за мяжу Беларусі звычку цэнтралізаванага кіравання любымі працэсамі — жорсткага бюракратычнага адміністравання пры мінімальнай павазе да ўсяго, што завецца акадэмічнымі свабодамі. Такім чынам я ў чарговы раз трапіў на вайну.

Годам раней мяне абралі ў Сенат універсітэта. І новы склад Сената (мабыць, саманадзейна) вырашыў, што можа зрабіць жыццё лепшым і наладзіць яго адпаведна прынцыпам еўрапейскай вышэйшай адукацыі і павагі да базавых дэмакратычных каштоўнасцяў.

Аказалася, кіраўніцтва з намі не згодна.

Пачалося жорсткае супрацьстаянне з інфармацыйнай вайной, абвесткамі аб магчымым страйку выкладчыкаў, дыскусіямі і пікетамі, бюракратычнымі інтрыгамі і праверкамі на лаяльнасць адміністрацыі, адміністрацыйным ціскам на студэнтаў і выкладчыкаў.

Як і астатнія «бунтары» (тагачасны кіраўнік Сената Павел Церашковіч і большасць дэмакратычна абраных сенатараў), я вырашыў не здраджваць прынцыпам і кіравацца толькі сваім сумленнем. Як навучылі бацькі, якія заўсёды ставілі свае прынцыпы вышэй за кар'ерны рост.

Новы жыццёвы драйв, зноў нейкі рок-н-рол. У пэўным сэнсе гэта была наша Плошча: магчымасць дзейнічаць годна і потым ні аб чым не шкадаваць.

Сумна, але большасць «шараговых» калегаў (за чые інтарэсы мы і змагаліся) гэты рух не падтрымала. Яны нам дазволілі пайсці да канца і вылецець з сістэмы, а самі ціха пайшлі дамаўляцца з Міхайлавым. Напэўна, спрацаваў чыста савецкі інстынкт самазахавання. Цяпер, калі я сустракаю кагосьці з «ацалелых», хочацца не зайздросціць, а пашкадаваць. Іх, слабых ды нягеглых.

# Досвед беларускасці

З Алесем Анціпенкам мы пазнаёміліся ў 1996 годзе, калі я прыйшоў працаваць у фонд Сораса, і за два гады сумеснай работы сталі добрымі сябрамі-аднадумцамі. Ён ужо тады быў перакананым нацыяналістам і размаўляў толькі па-беларуску.

На жаль, так якасна і свабодна размаўляць на беларускай мове я не мог, бо меў толькі досвед савецкага школьнага курса мовы ды літаратуры, а гэтага, ясна, замала. Але праз Анціпенку я пазнаёміўся з выдатнымі беларускамоўнымі людзьмі. Такімі, як Валянцін Акудовіч, Ігар Бабкоў, Віктар Шалкевіч, Адам Глобус. У гэткім асяроддзі не захапіцца беларускасцю проста немагчыма.

Калі закрылі фонд Сораса, паўстала нефармальная адукацыйная ініцыятыва «Беларускі калегіюм», куды прыйшлі працаваць беларускамоўныя інтэлектуалы з асяроддзя Анціпенкі.

Галоўнай ідэяй праекта (простай, але не відавочнай) было стварэнне адукацыі еўрапейскага ўзору, з арыентацыяй на нацыянальныя каштоўнасці — у тым выглядзе, форме, фармаце, што тады ў публічным полі краіны цалкам адсутнічалі.

Спачатку я проста трапіў у гэта кола, потым пачаў размаўляць на беларускай мове сам. Гэта не было ідэйнай праграмай, маральным выбарам ці нейкай звышмэтай. Адбылася натуральная эвалюцыя самасвядомасці. Анціпенка казаў так: «Жбанкоў — стыхійны беларус».

Я сапраўды прыйшоў да беларушчыны не дзякуючы інтэлектуальным намаганням, не праз нейкую канцэптуальную работу. Праз чалавечыя стасункі, сімпатычнае і блізкае асяроддзе. Дзе хацелася быць сваім і дзякуючы якому на многія рэчы я пачаў глядзець па-іншаму.

На той час я меў дастатковы досвед журналісцкай працы і не надта цікавіўся традыцыйным філасофскім кірункам дзейнасці. Таму ў Беларускім калегіюме пачаў выкладаць тэорыю масавых камунікацый і тэорыю медыя.

Тут, дарэчы, спатрэбіўся і культурніцкі складнік маёй дзейнасці, бо мы выкладалі не проста тэорыю медыя, але і разбіралі змены культурніцкай сітуацыі ў сучасным беларускім кантэксце, аналізавалі магчымыя варыянты яе развіцця.

Разам з Алесем Анціпенкам распрацавалі навучальны курс «Медыі і камунікацыі». Выдалі адпаведную кнігу — першую ў Беларусі спробу комплекснага аналізу сучаснай інфармацыйнай прасторы.

Недзе ў сярэдзіне «нулявых» я пачаў актыўна працаваць на аддзяленні журналістыкі Беларускага калегіюма, а з 2013 года да зыходу ў 2015-м яго ўзначальваў.

Чаму сышоў? Першы кіраўнік праекта Алесь Анціпенка абраў заслужаны адпачынак і перадаў сваю пасаду паважанай доктарцы тэалогіі Ірыне Дубянецкай. Натуральна, з ёй прыйшла новая каманда, у тым ліку палітолаг Андрэй Казакевіч з «Палітычнай сферы». Сёння ён моцна ўплывае на дзейнасць Беларускага калегіюма. Можна нават сказаць — цалкам яе вызначае.

Праект пад яго фактычным (у адміністрацыйным сэнсе) кіраўніцтвам моцна змяніўся. Я зразумеў, што Беларускі калегіюм — больш не наша сумесная справа, не супольны праект, які можна рабіць на роўных. І не захацеў больш у гэтым удзельнічаць.

Апошнім часам я займаюся пераважна сеткавай журналістыкай. Дакладней, аналітычнай публіцыстыкай. Пішу тэксты, якія шмат каму не падабаюцца. Цікавая беларуская звычка — любую крытыку ўспрымаць, так бы мовіць, «у штыкі». Не спрачаюцца, а крыўдзяцца.

На мой погляд, крытыкаваць абсалютна нармальна. Павінны быць тыя, хто кажа нязручныя рэчы. Аргументавана, сістэмна і дакладна. Такога кшталту рэчы неабходныя. І неабходныя людзі, якія іх робяць.

Праблема ў тым, што ў нас іх вельмі мала. Як сказаў бы філосаф Уладзімір Мацкевіч, у беларускім грамадстве катастрафічна не стае крытычных інтэлектуалаў. Таму кожнае бескампраміснае, сур'ёзнае, энергетычна-шчырае выказванне ўспрымаецца як нейкі наезд. Людзі не разумеюць, што часам ёсць сэнс казаць нешта нязручнае. Ёсць сэнс рызыкаваць.

Як на мяне, пераважнай большасці сучасных беларускіх медыя жудасна не хапае менавіта рызыкі. Не фармальнай журналісцкай адпаведнасці фактам, а неардынарнасці мыслення, аўтарскай пазіцыі, унутранай энергетыкі. Таго рок-н-рола, да якога мы калісьці цягнулі груваcткую «Камету» па праспекце імя правадыра.

На мой погляд, захаваць тую энергетыку — хаця б на ўзроўні маленькай асабістай вайны з неспрыяльнымі абставінамі — самае галоўнае і важнае, што можа адбыцца ў жыцці.

Мой шлях — гэта практыкаванні ў свабодзе. І хай кажуць што хочуць».

*08.09.2017*



З сястрой Марынай і бацькам. 1965 год



Мінск. 1963 год





Студэнт. 1980 год



З сястрой пасля войска. 1978 год




Берлін. Тахелес. 2012 год



Вашынгтон. 2009 год



**З жонкай Дашай у Барселоне. 2017 год**



**Вашынгтон. Жывы падкаст. 2009 год**



З пісьменнікам Альгердам Бахарэвічам на здымках першага беларускага буктрэйлера



Фэст «Бульбамувi». 2012 год



Фотасесія. 2017 год



# Кася КАМОЦКАЯ

Калі гаворка ідзе пра гісторыю стварэння беларускага рока, нагадваюць яе прозвішча. І таму ёсць падставы. Кася Камоцкая не толькі стаяла ля вытокаў гэтай музычнай з'явы, яна і сёння з'яўляецца адным з прыкладаў таго, што сапраўдны спявак ніколі не бывае «былым».

## Песні дзяцінства

Магчыма, некаторым гэта падасца даволі спрэчным, але сама Кася Камоцкая прынцыпова лічыць, што чалавек спачатку пачынае спяваць, а потым размаўляць. І не толькі калі дзіця плача. Сапраўды, на свеце ёсць нямыя людзі, якія не могуць гаварыць, але могуць спяваць.

Яе першая «песня» прагучала 22 чэрвеня 1963 года ў адным з мінскіх раддамоў. Маці будучай спявачкі — Ада Яўгенаўна, а бацька — Альфрэд Васільевіч.

Пазнаёміліся яны яшчэ ў дзяцінстве. Сябравалі. Разам сталі абітурыентамі фізфака БДУ. Як кажуць, «за кампанію». Абое скончылі фізфак, дзе вучыліся разам са Станіславам Шушкевічам. Бацька потым увесь час з ім працаваў ва ўніверсітэце. Маці, калі зразумела, што фізіка — гэта не яе, перайшла на тэлебачанне. Спачатку вяла навукова-папулярныя перадачы, потым жаночыя. Працавала там доўга.

Прозвішча іх Чалей. Вельмі распаўсюджанае, перш за ўсё на Беласточчыне. Імя Кася з'яўляецца старажытным беларускім сінонімам Кацярыны.

Бацькоўскі дом Касі месціцца на галоўным праспекце беларускай сталіцы, насупраць цырка. Яго будавалі палонныя немцы. Раней там былі камуналкі.

З самага дзяцінства жыццёвыя прыярытэты Касі крыху змяшчаліся ў бок «моцнага полу». У футбол дзяўчынка не гуляла, аднак лялькі заўсёды разбірала на анатамічныя «запчасткі». Самай важнай гульнёй для яе былі «партызаны». Сутнасць у наступным. Дзеці лезлі пад стол. Стол накрывалі шчыльным абрусам. Гэта — «зямлянка». Туды ставілі амаль вядзёрны самавар вады, сальніцу з соллю і клалі акрайчык хлеба. Было ўяўленне нейкай партызаншчыны. Часам рабіліся вылазкі — паўзком да бліжэйшага акна. Мабыць, нешта ў гэтым адпавядала рэчаіснасці: маці Касі са сваімі бацькамі сапраўды

была ў партызанах, і, хутчэй за ўсё, за дзіцячай гульнёй стаялі ўспаміны.

У «партызаны» Кася гуляла толькі ўдзвюх з сяброўкай Кацяй. Дзяўчаткі нікога не палохалі цацачнай зброяй, не бралі ў палон. Проста сядзелі пад сталом і пілі ваду з хлебам. Яшчэ яны любілі коўзацца на каньках па паркеце (калідор доўгі-доўгі!), што ў іншых жыхароў камуналкі не выклікала ніякіх пытанняў. Так адбываецца заўсёды, калі нешта «нічыйнае».

Потым сярэдняя школа №24, якая спецыялізавалася на нямецкай. У Камоцкай гэтая мова і дагэтуль даволі не благая — настолькі, што дазваляе чытаць, не карыстаючыся слоўнікам. І ўвогуле, вучылася дзяўчынка ў школе даволі добра. У атэстаце толькі некалькі чацвёрак. Адна з іх па фізіцы, дарэчы. Настаўнік вельмі здзіўляўся: бацька з маці — фізікі, а дачка пайшла не ў іх. Пасля школы вырашыла паступаць на гістфак БДУ. Чаму? Адказ вельмі рацыянальны. Як тлумачыць сама Кася, на той час яна была вельмі хітрая. Прыйшла ў БДУ і паглядзела, куды трэба паступаць, каб ніякіх там лабараторных, кантрольных і г. д. Таму і абрала гістарычны факультэт. Маўляў, галоўнае вывучыць даты, а ўсё астатняе — «бла-бла-бла». Звычайная гаворка.

Пасля сканчэння ў 1985 годзе БДУ Кася Камоцкая (так яе сталі называць пасля вяселля) адразу ж перайшла ў аспірантуру ўніверсітэта, бо з трэцяга курса ў яе ўжо была іншая спецыялізацыя. Цяпер гэта называецца сацыялогіяй, а раней — навуковым камунізмам. Каб абаранілася, стала б кандыдатам філасофскіх навук. Але гэтага не адбылося — жыццё змянілася, і сэнсу ў навуковых ступенях на той час (другая палова 1980-х) амаль ніякага ўжо не было.

Ведаю, што многія ставяцца да навуковага камунізму вельмі скептычна. Маўляў, цяжка вывучаць навуку, якой не існуе. Не стану ні з кім спрачацца, адзначу толькі, што Касі вельмі пашанцавала з выкладчыкамі. На лекцыях навуковага камунізму яны расказвалі дзіўныя рэчы. Напрыклад, пра Кастуся Каліноўскага. А Адам Пятровіч Мельнікаў вельмі сур'ёзна ілюстраваў свае тэзісы прыкладамі з твораў Васіля Быкава, якія нават «беларуская нацыяналістка» Камоцкая на той час не чытала. Пасля аспірантуры (скончыла ў 1988 годзе) яе размеркавалі ў сацыялагічную лабараторыю пры БДУ, аднак працавала Кася там нядоўга.

Сваё ўзяў рок-н-рол.

## Першая князёўна

На гітары Кася Камоцкая навучылася граць яшчэ ў дзяцінстве. Самастойна. У музычную школу яе не прынялі. Сказалі — не падыходзіць. Пазней не раз дзякавала за гэта лёсу — шкада дзяцей, якія пасля заняткаў у звычайнай школе займаюцца яшчэ і «музыкай».

Пра ўсе акалічнасці яе знаёмства, вяселля і сумеснай творчасці з Алесем Камоцкім напісана шмат і даволі падрабязна, таму паўтараць яшчэ раз — няма сэнсу. Адзначу толькі, што сямейны дуэт доўга не пратрымаўся, бо ў іх зусім розныя галасы. І яшчэ. Ад гэтага шлюбу нарадзілася дачка. Таксама Кася.

Неўзабаве Кася Камоцкая (старэйшая) пачала спяваць адна. Каб зрабіць запіс на радыё, муж параіў ёй свайго гітарыста Лявона Шырына. Так пачалося «Новае неба», якое спачатку было цалкам акустычным — дзве гітары, віяланчэль і скрыпка. Потым з'явіліся і электрычныя інструменты.

Дэбютны альбом называўся «Дзеці чорнага горада». З'явіўся ён у 1991 годзе і хутка стаў класікай беларускай нацыянальнай песні.

У гэтым жа годзе распаўся шлюб Камоцкіх. Каб вярнуць дзявочае прозвішча, трэба зноў ісці ў ЗАГС, аднак зрабіць гэта яна тады проста забылася. А ў 2000 годзе, калі Кася другі раз выходзіла замуж — за рэжысёра дакументальнага кіно Віктара Корзуна, высветлілася, што яна афіцыйна не разведзена, бо адразу пасля разводу не атрымала пасведчанне аб скасаванні шлюбу...

У той час (як і цяпер) было немагчыма адначасова быць не прыдворным спеваком і працаваць у дзяржаўнай структуры. Нават у сацыялагічнай лабараторыі. Прыйшлося звальняцца па асабістым жаданні. Спачатку на «вольных хлябах», а потым пайшла працаваць у часопіс «Спадчына», дзе большай часткай займалася перакладамі з польскай мовы на беларускую.

Дарэчы, польскую яна нідзе не вывучала, тая прыйшла «сама па сабе». Вельмі дапамагаў Кастусь Тарасаў. Перакладала гістарычныя метрыкі.

Калектыў падабраўся проста цудоўны — Вячорка, Ракіцкі, Чаропка і г. д. Словам, усе свае.

Было гэта ў перыяд чарговай «адлігі», і неўзабаве яе разам з гуртом «Новае неба» запрасілі працаваць у «Белканцэрт» пры філармоніі. Адпаведны запіс захаваўся ў працоўнай кніжцы.

Так і запісана — салістка-вакалістка другой катэгорыі. Чаму не першай? Таму што без музычнай адукацыі. Каб падняцца вышэй — калі ласка, на атэстацыю. Чалавек па прыродзе не амбіцыйны, Кася з задавальненнем пагадзілася і на другую.

Мякка кажучы, гурт «Новае неба» не зусім адпавядаў «класічнаму» профілю «Белканцэрта», таму выступленняў у «музыкаў бунту» амаль не было. За што іх вельмі жорстка крытыкавалі.

Выратоўваў (царства яму нябеснае) аўтарытэтны Віктар Вуячыч. Заўжды падымаўся і з пафасам казаў: маладыя групы павінны знаходзіцца ў творчым пошуку. З «Новым небам» заключалі кантракт на наступны год... Пратрымалася Кася Камоцкая там даволі доўга, і нават калі прыйшоў Лукашэнка, яе адразу ж не звольнілі. У сённяшняй сітуацыі такое немагчыма наогул.

12 студзеня 1995 года ў мінскім Альтэрнатыўным тэатры адбылася першая «Рок-каранацыя». Ініцыявалі яе правядзенне музычны выдавец Юрый Цыбін і прадзюсар Генадзь Шульман. Менавіта там Кася Камоцкая і стала першай «Рок-князёўнай» Беларусі. Праз год яна атрымала карону зноў, а яшчэ праз год ад чарговай узнагароды прынцыпова адмовілася. Маўляў, на музычнай сцэне Беларусі ёсць і іншыя вартыя прэтэндэнткі. Выпадак для шоу-бізнесу амаль унікальны, бо добраахвотна адмаўляцца ад «медных трубаў» не прывыклі нідзе.

# Сыход, якога не было

У нейкім сэнсе «Новае неба» больш правільна называць агульным праектам, чым рок-гуртом, бо канстантай там была толькі Кася Камоцкая. Усе астатнія — «часовыя інгрэдыенты». Прыходзілі, гралі, сыходзілі, зноў вярталіся. У кожнага свая «нацыянальная кватэра» ў выглядзе вядомай каманды: «N.R.M» альбо «Уліс», напрыклад.

«Новае неба» — тыповая творчая лабараторыя. У сваіх калектывах музыкі вымушаны даволі жорстка прытрымлівацца пэўных рамак, а тут маглі цалкам «расслабіцца» і пачаць эксперыментаваць.

Словам, калі годам стварэння «Новага неба» дакладна можна лічыць 1991-ы, то вызначыцца з канкрэтным музычным кірункам, стылем іх дзейнасці вельмі цяжка: у розныя гады ён быў розным. Як і склады гурта. Адназначна сказаць можна толькі тое, што іх апошні альбом выйшаў у 1996 годзе.

Час ад часу прыходзіцца высвятляць у музыкаў агульную колькасць іх дыскаў. І даволі часта сутыкаемся з тым, што яны не могуць адразу назваць канкрэтную лічбу. Кася Камоцкая менавіта з гэтай катэгорыі. Калі прагучала падобнае пытанне, яна адказала так: «Не ведаю. Трэба паглядзець энцыклапедыю Падбярэзскага». І гэта не нейкая «рисовка». Сапраўдныя творцы менш за ўсё клапоцяцца пра колькасць медалёў на сваім строі.

Дзмітрый Падбярэзскі — мой калега, сусед і сябар, як адзін з лепшых музыкаведаў краіны аўтарытэтна сведчыць: у Касі Камоцкай восем альбомаў.

Гэта асабістых. Плюс удзел у чатырох «складанках», дзе асобна хочацца выдзеліць легендарны «Народны альбом», які ў 1997 годзе быў задуманы Міхалам Анемпадыставым.

Ёсць сэнс прыгадаць і альбом «Песні свабоды». Менавіта ў ім упершыню для шырокай грамадскасці прагучала адна з найбольш вядомых «візітак» Камоцкай — «Белая лебедзь». Цікава, што спачатку гэта песня не вельмі спадабалася Касі. Нескладаны матыўчык, простыя словы. Запісала яе толькі дзякуючы Зміцеру Вайцюшкевічу — прымусіў і ўсё! Ледзь не за руку прывёў у студыю гуказапісу і ў якасці акампанементу выканаў цудоўнае сола на флейце.

Гэта пра тое, што ў «музычным» свеце пануе не толькі жорсткая канкурэнцыя, але і шчырае, высакароднае.

Тое, што пачало адбывацца з ёю пасля 1996 года, знаёма шмат каму, але я вырашыў выкарыстаць першакрыніцу. Прыгадваю адну з нашых размоў:

*«Час ад часу працягвала выступаць, аднак ужо ў «скарочаным» складзе нашага гурта — гітарыст Слава Корань з ULIS і вядомая віяланчэлістка Юля Глушыцкая. Далей была пэўная стомленасць ад таго, што адбываецца навокал. Гэта не расчараванне. Гэта нейкая крыўда ад адсутнасці вынікаў. Б'ешся, б'ешся, а нічога не мяняецца.*

*Сёння па Фэйсбуку «гуляе» фраза Андрэя Макарэвіча: «Такое адчуванне, што жыццё пражытае дарма». Гэта вельмі балюча. Табе здаецца, што нейкім чынам атрымалася змяніць арыенціры, а на самай справе нічога рэальнага не адбылося.*

*Спачатку музыку трэба самавыяўляцца, прабівацца, а потым хочацца, каб цябе не толькі слухалі, але і ПАЧУЛІ. Тут і разумееш, што ў прынцыпе нічога не змянілася. Гэта і крыўдна.*

*Безумоўна, спеваку прыемна збіраць цэлыя стадыёны паклоннікаў, але потым прыходзіць час «ч», і ты разумееш, што ў людскіх душах нічога не змянілася. Гэта трэба пераэжыць.*

*Наколькі я ведаю, мае выступы не забаранілі афіцыйна. Навошта прыцягваць увагу, калі сабатаваць можна і па-іншаму. Напрыклад, даць дазвол на канцэрт за дзень да пачатку самога канцэрта. А без яго не тое што квіткі не прадасі — нават не маеш права рэкламу зрабіць».*

## Магія кіно

Другую палову «ліхіх дзевяностых» Кася Камоцкая фактычна нічым не займалася. Толькі журналістыкай. Працавала на радыё «101,2» і радыё «Рацыя», а потым «плаўна» перайшла да дакументальнага кіно. На яе погляд, даступнасць новых спосабаў фіксацыі рэчаіснасці зрабіла дакументалістыку вельмі актуальнай формай выражэння беларускасці. Яна з'яўляецца прадзюсарам большай часткі «сваіх» фільмаў і толькі ў некаторых выступае ў якасці сааўтара сцэнарыя. А яшчэ час ад часу працуе «ў кадры» журналістам. Паспрабавала быць рэжысёрам, але хутка зразумела, што гэта, як кажуць, не яе.

Як гэта ні дзіўна, для чалавека, які мае адносіны да журналістыкі, Кася Камоцкая вельмі не любіць нешта пісаць. Вось выпадак. Калі для тэлеканала «Белсат» рабіўся фільм пра Сяргея Вітушку, абавязковай умовай была наяўнасць сцэнарыя. Выкруціліся такім чынам: цалкам за свой кошт знялі фільм, зманціравалі яго, а потым напісалі сцэнарый... Так бы мовіць — пастфактум...

У сямейнай «фільматэцы» зараз сем стужак. Першы фільм выйшаў у 2004-м, праз год пасля смерці знакамітага пісьменніка, і называўся «Васіль Быкаў. Вяртанне». Дарэчы, ён — частка своеасаблівай трылогіі. Ёсць яшчэ карціны пра Уладзіміра Караткевіча і Рыгора Барадуліна. Нягледзячы на тое, што пра апошняга вельмі багата архіўнага матэрыялу, праца над карцінай доўжылася больш звычайнага — амаль два гады. Хацелася расказаць не столькі пра паэта, колькі пра чалавека. Дарэчы, працаваць над фільмам пачалі яшчэ да таго, як знайшліся першыя сродкі, «на свой страх і рызыку»...

Такім жа чынам пачыналіся ўсе астатнія праекты, і гэта вельмі ёмісты адказ тым, хто брэша пра апазіцыянераў. Маўляў, яны як сыр у масле плаваюць. На погляд аўтара, галоўным адрозненнем іншадумцаў ад тых, хто думае «правільна», якраз і ёсць творчая рызыка.

У сучасных беларускіх умовах работа прадзюсара не абмяжоўваецца пошукам сродкаў на здымкі. Самае галоўнае — пошук прывабнай ідэі і канкрэтнае разуменне таго, што ты хочаш зрабіць і для чаго.

У нейкім сэнсе прадзюсар — сааўтар фільма.

Адной з першых работ Касі Камоцкай была стужка пра Чарнобыль. Засталі яшчэ жывым загінулага пазней у аўтакатастрофе вядомага прафесара Нікітчанку. Падчас здымак ён так і казаў: «Кожны год у мяне выразаюць нейкую пухліну...»

Мабыць, гэтыя вельмі сумныя абставіны чалавечага жыцця прымушаюць стваральнікаў дакументальнага кіно ўвесь час моцна спяшацца.

А яшчэ патэнцыяльная канкурэнцыя.

Напрыклад, тэму фільма пра былых вязняў ГУЛАГа Камоцкая з Корзунам не толькі, як кажуць, «застолбили», але і пачалі працаваць над ёю яшчэ да таго, як атрымалі пэўную падтрымку. Гэта дазволіла стварыць сапраўдны партрэтны архіў людзей, якія прайшлі праз сталінскія катаванні. У тым ліку і тых, хто на момант афіцыйнага пачатку працы над фільмам ужо пайшоў з жыцця.

**Замест пастскрыптума**

***Калі гаворка заходзіць пра таленавітага чалавека, звычайна даводзіцца чуць шмат здагадак ды пагалосак. Не абышло гэта і Касю Камоцкую. Большасць размоў вакол яе датычылася настальгіі па сцэне, таму я вырашыў высветліць менавіта гэта. Адказ быў філасофскі:***

***— Настальгіі па мінулых аншлагах няма. Ёсць настальгія па чалавечых адносінах тых часоў.***

*30.07.2014*



Чарговы канцэрт



Першы народны альбом



З Рыгорам Барадуліным



З Віктарам Корзунам

# Алесь КАМОЦКІ



**У нейкім сэнсе гэты нарыс складаецца з дзвюх частак. Першая была зроблена больш за тры гады таму, другую мы запісалі цяпер. Паміж імі — некалькі сустрэч, размоў, і кожны раз я пераконваўся: Алесь Камоцкі жыве шчырасцю і гумарам. А яшчэ тым, што ніколі не спрабуе быць лепшым, чым ёсць на самай справе.**

## Першыя ноты

Пачну з распаўсюджанага жарту. Як і многім з нас, Алесю Камоцкаму пашанцавала нарадзіцца аж у мінулым стагоддзі. Адбылося гэта ў Барысаве 9 чэрвеня 1958 года. Там жа ён пайшоў у сярэднюю школу №1, якая была недалёка ад дома. У 1975 годзе бацькі адпусцілі будучага спевака-паэта-кампазітара «ў свет», і ён паехаў вучыцца ў музычную вучэльню ў Маладзечна. Нагадаю, што менавіта адтуль некалі выйшаў знакаміты Юрый Антонаў.

Ніякай адтэрміноўкі ад вайсковай службы там не было, і ўсяго праз год Алеся прызвалі «выконваць канстытуцыйны абавязак». Служыў ён у Варонежы і, дзякуючы вучобе ў музвучэльні, адразу трапіў у аркестр. Замест баявой падрыхтоўкі амаль увесь час яны гралі на пахаваннях вайскоўцаў. У савецкія часы ў Варонежы сялілася шмат адстаўнікоў, а вайсковых аркестраў было ўсяго два. Ёсць сэнс дадаць выкарыстоўванне ваеннага аркестра і падчас лістападаўскай альбо майскай дэманстрацыі. У суме ўсё гэта і склала два гады службы Алеся Камоцкага. У 1979 годзе ён вярнуўся з войска і вырашыў не працягваць музычную адукацыю. Хацелася вучыцца на больш высокім узроўні. Пра гэта Алесь думаў на працягу апошніх месяцаў у арміі. І «дадумаўся» да філасофскага аддзялення гістфака БДУ.

У адрозненне ад маці, упэўненасці наконт паступлення «з ходу» не было, таму на ўсялякі выпадак Алесь запісаўся яшчэ і на падрыхтоўчае аддзяленне. Хто памятае савецкія часы, ведае, што станоўчыя вынікі на ПА гарантавалі месца сярод студэнтаў. То бок Камоцкі рыхтаваўся да больш працяглага шляху, аднак яго мама параіла рызыкнуць і мела рацыю. На сваё здзіўленне, ён паступіў з першай спробы.

Маці будучага музыканта, Ніна Уладзіміраўна Пацэева (у дзявоцтве Казлоўская), захавала сваё прозвішча ад першага мужа, які загінуў у 1942 годзе. Яе бацька, Уладзімір Канстанцінавіч Казлоўскі, Алеся ў дзяцінстве і выхоўваў. На жаль, калі той пайшоў у другі клас, дзядуля памёр.

Бацьку Алеся звалі Верамей Герасімавіч Камоцкі. Родам з маленькай вёскі Разрыўка. Па цяперашняй геаграфіі гэта Барысаўскі раён. Лёс у яго быў складаным, але расказваць пра сябе не любіў. Шкада, але ўсе мы думаем, што бацькі будуць з намі заўсёды...

У 7-гадовым узросце Верамей Герасімавіч Камоцкі застаўся поўным сіратой і жыў у свайго  багатага дзядзькі. Ён разам са сваёй цёткай іграў на вяселлях. Як потым казаў — «іграў у скрыпачку». Яна, дарэчы, захавалася. На прафесійным узроўні граць так і не навучыўся, але некаторыя танцы мог «папіліць».

Верамей Герасімавіч працаваў на розных работах, у тым ліку і грузчыкам, але пастаянна за поясам была кніжка. Паціху-паціху вывучыўся на настаўніка, але пачалася вайна і папрацаваць яму не далі. Забралі ў зенітчыкі. Павагяваў не доўга. Толькі да канца 1941 года. На пазіцыю ўпала нямецкая бомба. Каго пазабівала, каго параніла. Бацьку Алеся пашанцавала. Застаўся жывы, але да канца вайны лячыўся ў розных шпіталях недзе ў Казахстане. Адна нага так і не стала працаваць нармальна. Да канца жыцця хадзіў «з кіёчкам», з чаго даволі часта жартаваў. Калі потым вярнуўся ў Магілёў (там працаваў да вайны), атрымалася так, што былая сям'я яго падтрымліваць не стала. Па сутнасці, застаўся адзін. А гадоў праз дзесяць «прыбіўся» да маці Алеся. Яго няма з 1987 года, але час ад часу Алесь Камоцкі заўважае за сабой ужыванне нейкіх бацькавых слоў і прыказак. Па жыцці гэта дапамагае вельмі істотна. Калі ў дзяцінстве павага да родных узнікае неяк падсвядома, то з часам яна становіцца нечым амаль адчувальным на фізічным узроўні.

Пасля сканчэння школы Алесь самастойна выбраў музвучэльню.

Дарэчы, яшчэ ў сярэдняй школе настаўнік спеваў сказаў, што ў хлопчыка цалкам адсутнічае музычны слых. Ніхто караць за «прагулы» не будзе, бо не стане іх нават фіксаваць. Гэтым Алесь і скарыстаўся. Адным з самых любімых быў настаўнік па батаніцы Сяргей Емяльянавіч Лісоўскі. Каля школы месціліся яго грады, дзе вырошчвалася розная расліна. Замест заняткаў па спевах Алесь мог разам з Сяргеем Емяльянавічам «пакапацца ў зямлі». Верамей Герасімавіч Камоцкі закрыўдаваў на ўсё гэта і сказаў: не можа быць, каб у майго сына адсутнічаў музычны слых і неяк «прыткнуў» у музычную школу. Хлопчык скончыў там клас акардэона, а праз пэўны час і сам троху «загарэўся» музыкай. Самастойна навучыўся граць на саксафоне.

# Партытура жыцця

Напэўна, у жыцці кожнага з нас бываюць моманты, калі чалавек аналізуе пройдзены шлях і (пры неабходнасці) карэкціруе далейшы рух. Момант гэта даволі далікатны, таму дам слова самому Алесю Камоцкаму:

*«Мае аднакурснікі па «філасофіі» БДУ сталі значнымі асобамі ў гэтай галіне — прарэктар, загадчык кафедры, нядрэнныя выкладчыкі. Неяк мы збіраліся «на каву» і адзін з іх кажа: «Здавалася б, у жыцці дабіўся вельмі многага да чаго ішоў, а часам зайздрыкі бяруць. Вось — Камоцкі. Яму ўжо пад «палціннік», а ён расказвае, што яшчэ ходзіць вучыцца да нейкага выкладчыка па вакале, будуе планы, хоча чагосьці новага». Дарэчы, першы раз да выкладчыка па вакале я сапраўды пайшоў у 49 гадоў...*

*Канешне, чуць такое прыемна, але ў той жа час я зразумеў, што буду жыць, пакуль буду вучыцца. А вучыцца ў жыцця ёсць чаму заўсёды. Пры неабходнасці вучоныя распавядуць, наколькі адсоткаў чалавек выкарыстоўвае свой фізічны і маральны рэсурс, але я ведаю, што гутарка там пра вельмі сціплыя лічбы. Ёсць нават тэорыя, што свет развіваецца дзякуючы чалавечай ляноце. Здаецца, Троцкі казаў: «Лень — двигатель прогресса».*

*Пакідаю магчымасць спрачацца ўсім «яйкагаловым», я ж хачу засяродзіць увагу на іншым — мы даволі неразумна, а часам і марнатраўна ставімся да таго, што адбываецца вакол. Часта не бачым тыя простыя рэчы, якім трэба шчыра радавацца. Напрыклад, змену пораў года. Мы святкуем Дзень шахцёра і амаль не заўважаем тыя моманты, калі дзень роўны ночы. Упэўнены, гэта значна бліжэй да нейкага цуду. У адрозненне ад нашых продкаў мы шмат аб чым не ведаем».*

Як лічыць сам Алесь, па-сапраўднаму «прабіла» яго толькі ў БДУ, хаця за плячамі ўжо была, можна сказаць, першапачатковая музычная адукацыя. Камоцкі пачаў пісаць вершы. Хаця ў школе не разумеў нават, навошта яны патрэбныя ўвогуле: размаўляеш нармальна, людзі цябе разумеюць — а тут нейкія рыфмы?..

Маецца на ўвазе, СВАЕ вершы, бо чужыя сталі яго песнямі значна раней.

Самая значная эмоцыя тых часоў — творчасць Караткевіча. У школе яго не выкладалі, даведацца пра творы Уладзіміра Сямёнавіча Алесь змог толькі ў больш сталым узросце. Спачатку захапілі дэтэктывы «Дзікае паляванне караля Стаха» і «Чорны замак Альшанскі», а калі прачытаў яго вершы, уразіла так моцна, што пачаў іх спяваць.

Дарэчы, у гэты ж момант у яго свядомасць прыйшоў і Уладзімір Жылка.

Праз пэўны час перастаў саромецца пісаць і сам.

Свой першы магнітаальбом ён запісаў у 1985 годзе. Тады гэта зрабіць было вельмі цяжка, бо прыватных студый яшчэ не існавала.

Пісаў на беларускім тэлебачанні, але не ў студыі, а на буфетным складзе. Вакол стаялі скрыні з пустымі шклянкамі. Музыкі зацягнулі туды пульт, паставілі мікрафоны і пісалі адразу на касетную дэку, бо ніякіх «раздзяленняў» там не было. Атрымаўся адносна някепскі запіс. На жаль, пасля ён недзе згубіўся. Копіі знайсці атрымалася, але гэта ўжо не тое, бо арыгінала не захавалася. Алесь Камоцкі назву даў яму даволі пафасную — «Першы сшытак».

На дадзены момант іх ужо 14 штук.

Лічбу па маёй просьбе назваў сам Алесь Камоцкі і пры гэтым агучыў фразу, якую ёсць сэнс працытаваць:

*«Бывае на канцэртах людзі просяць мяне праспяваць песню, якую сам зараз амаль не помню. Прыемна, што гэта нехта ведае дакладна».*

# Музыка лёсу

Гісторыя знаёмства і вяселля Алеся і Касі Камоцкіх такая цікавая і незвычайная, што я вырашыў зноў вярнуцца да ўспамінаў самога Алеся:

*«Граць на гітары пачаў яшчэ падчас універсітэцкай вучобы. Праз яе і пазнаёміўся з будучай жонкай Касяй Чалей. Яна таксама спявала песні пад гітару. Маленькая такая, худзенькая, але вельмі важная. Я нават падступіўся да яе не сам. Нас пазнаёмілі мае сябры. Паспрабавалі спяваць разам. Дуэт назвалі «Кася і Алесь». Не мы — іншыя. Менавіта такая назва была надрукавана ў адной з газет. Паспявалі-паспявалі, а потым яна зрабіла неяк так, што мы пажаніліся. Каталізатарам таго працэсу была Кася, бо я, як быў тады «цельпуком», «мядзведзем», так і застаўся ім па гэты дзень.*

*Вяселле згулялі ў 1982 годзе. Дакладней, у «класічным» выглядзе яго і не было. Адразу пасля таго, як мы ў загсе распісаліся і абмяняліся пярсцёнкамі, Касін бацька Альфрэд Васільевіч адвёз нас у аэрапорт, адкуль мы паляцелі ў Піцер, які тады называўся Ленінградам.*

*Гэта мая ініцыятыва. Яшчэ за два месяцы да роспісу папярэдзіў: ніякай п'янкі для нас дваіх не будзе, бо я купіў білеты на рэйс, што адбудзецца праз дзве гадзіны пасля роспісу. Больш за нядзелю мы «гойсалі» па Піцеры. Кася прыляцела туды ў шлюбнай сукенцы, з жывой кветкай у валасах. Так да ранней прызначанага месца «дыслакацыі» нас і прывёз таксіст.*

*Адразу адтуль патэлефанавалі ў Мінск. Калі вярнуліся дамоў, аднакурснікі не далі нам «зажаць мерапрыемства», і мы яшчэ месяц святкавалі. Кася вучылася таксама ў БДУ. Толькі на год пазней за мяне. Яна «ішла» па гісто-*

*рыі, а я, нагадаю, па філасофіі. Пасля сканчэння БДУ некаторы час працаваў у тэатры «Дзея» ў Міколы Трухана.*

*Фармальна мы пражылі разам з Касяй дзевяць гадоў і развяліся ў 1991 годзе. Абое вырашылі: колькі можна? Сябруем па гэты дзень. Толькі праз некалькі гадоў пасля разводу я па-сапраўднаму адчуў, што мы радня. Нейкім сваяком адчуваю нават яе цяперашняга мужа — свае людзі.*

*Наша агульная дачка (таксама Кася) ставіцца да ўсяго станоўча і разумее, што бацькі ў яе — «нармальныя пацаны». Нам гэта вельмі прыемна.*

*Пасля разводу з Касяй я ажаніўся зноў. Са сваімі песнямі».*

Зразумела, што за 23 гады, якія мінулі з таго часу, у жыцці Алеся Камоцкага адбылося шмат неардынарнага, але хочацца засяродзіць увагу на дзвюх падзеях, якія, на мой погляд, значна паўплывалі на лад і рытм яго жыцця.

15 гадоў таму ён «вынес з хаты тэлевізар». І зрабіў гэта вельмі прынцыпова. Маўляў, навошта ўвесь час глядзець на тое, як падманваюць або б'юцца.

У сапраўдных музыкаў шмат іншых спраў. Часу і так не хапае. Асабліва, калі ідзе праца над чарговым альбомам. Магчыма, ёсць людзі, якія ўключаюць яго раз на год, каб выслухаць навагодняе віншаванне. Алесь не такі. Тэлевізар працаваў у яго ў «фонавым» рэжыме, то бок быў уключаны амаль пастаянна і стабільна адцягваў увагу. Словам, ад гэтай халеры ён пазбавіўся рашуча і без нейкага шкадавання. І адбылося гэта якраз у той час, калі перастаў ужываць алкаголь, то бок «выпіў сваю «цыстэрну». Самакрытычна Камоцкі сцвярджае, што «зайшоў у гэтай справе даволі далёка, стаў амаль «прафесіяналам». Як і многім з нас, «кідаць» цалкам не хацелася — толькі для адпачынку арганізму. «Адпачывае» Алесь Камоцкі ўжо 19 гадоў.

## Штодзённыя акорды

Аднак вернемся да вучобы ў БДУ.

Пасля сканчэння філасофскага аддзялення гістфака БДУ Алеся Камоцкага па размеркаванні накіравалі на кафедру філасофіі Інстытута механізацыі сельскай гаспадаркі, дзе ён тры гады працаваў адміністратарам. На гэтым праца «па спецыяльнасці» скончылася, пачалося тое, што па-простаму называецца «кім прыйдзецца». Дыпламаваны філосаф «шабашыў» на будаўніцтве, а потым непрацяглы час вырабляў мэблю на адным прадпрыемстве.

Дыплом у Алеся захаваўся па наш дзень, і з нейкай нагоды яго можна паказаць, але ці будзе ў гэтым сэнс? Аднойчы Камоцкі хацеў здаць яго ў букіністычны магазін. Маўляў, Дыягену дыпломы былі не патрэбныя...

Зразумела, увесь гэты час ён пісаў свае песні, філасофія спачатку вельмі хутка адышла на другі план, а потым і канчаткова знікла з жыцця. Яе цалкам

замяніла музыка, аднак і з той праз некалькі гадоў таксама наступіў перыяд пэўнага застою.

Алесь усё дэпрэсіўна кінуў. У гэта цяжка паверыць, але доўгі час у яго не было нават гітары.

Вызваліцца ад адчування асабістай непатрэбнасці дапамог вядомы кампазітар Ігар Палівода, якога лічылі (і лічаць) адным з самых лепшых аранжыроўшчыкаў Беларусі. Менавіта ён пераканаў Алеся Камоцкага ў тым, што трэба працягваць творчасць і надалей. На жаль, у лютым 1996 года Ігара Ігаравіча не стала. У Алеся Камоцкага ёсць партытуры яго песняў, якія зрабіў Ігар Палівода. Пісаліся яны «па-дарасламу», то бок для цэлага аркестра, і з часам, магчыма, тыя творы ўсё ж такі прагучаць у тым выглядзе, у якім былі напісаны.

Але гэта — справа будучыні. Мінулае «прымусіла» Алеся Камоцкага звярнуцца па дапамогу да выканаўцаў, якія лічацца сапраўднымі прафесіяналамі. З падобнай пастаноўкай пытання можна не пагадзіцца, але сам Камоцкі лічыць сябе выканаўцам, калі сказаць вельмі мякка, далёкім ад дасканаласці.

*«Падчас таго «крызісу сярэдняга ўзросту» і каб у песнях было больш фарбаў, я вырашыўся на тое, каб на выкананне запрасіць сапраўдных музыкантаў. У новым фармаце быў запісаны новы альбом. Лічу, што з гэтага моманту ў маёй творчасці ўзнікла пэўная ўсвядомленасць.*

*Пачалося ўсё ў 2005 годзе, а скончылася — у 2006-м.*

*Шчыра кажучы, я толкам не ведаў за якую справу ўзяўся, думаў, спатрэбіцца некалькі месяцаў, дзеля прыгожай прыкметы перастаў галіцца і паабяцаў гукарэжысёру зрабіць гэта толькі тады, калі будзе зроблена ўся работа.*

*Я ж не ведаў, што адрасце такая барадзішча... Работа доўжылася больш як паўгода... Такі Будулай атрымаўся — мама дарагая...*

*У дзень, калі запіс быў гатовы, я публічна пагаліўся. Спецыяльна для гэтага запрасіў гасцей, усе селі за стол, а я схадзіў у ванну і там усё «пачыкаў». Пазбавіўся не толькі ад барады, але і ад вусоў.*

*Усе сказалі, што мінус трыццаць гадоў я атрымаў у той жа момант.*

*Пасля таго я вусы нашу, а бараду — ніколі. Не спадабалася. Надта там свярбіць... З таго часу ўсе альбомчыкі робяцца з музыкантамі, аднак цяпер наконт барады я ўжо ўсё ведаю... Калі не лічыць тое, што было да 2005 года, то іх ужо шэсць.*

*Назваць хочацца ўсіх музыкаў, якія мне дапамагалі. Але іх вельмі шмат і я баюся некага забыць, таму агучу толькі тыя прозвішчы, без якіх ну нічога! Гэта Алег Змушка, Саша Шувалаў, Андрэй Лабчэўскі. Гэта цудоўны барабаншчык Толік Каляда. Вельмі цікавая асоба Аляксандра Сазонава. На альбомчыках больш за астатніх змяняліся басісты — Валера Башкоў, Толік Лабанок, Алег Чыжык.*

*Былі музыкі, якія прыходзілі, каб дапамагчы запісаць толькі адну песню. Іна Перасецкая, напрыклад. У першым альбоме толькі яе музыка, а ў шостым яна нават спела са мной некалькі песняў.*

*Мне падабаецца мой сённяшні ўзрост — крыху больш за 50. Дарэчы, на канцэрце з нагоды «палцінніка» першы раз адчуў, што ў мяне ёсць нейкі ўзрост. Хапіла пра гэта думаць аднаго дня і зноў забыў». Так атрымліваецца, што з 50-ці да 60-ці (а каму пашанцуе, то і больш) у жыццё чалавека прыходзіць самы плённы перыяд — адразу здымаецца шмат праблем, якія былі дагэтуль. Канешне, пры ўмове, што Бог даў здароўе. Да пяцідзесяці ў чалавечай галаве шмат усякай дурноты, бо не хапае адпаведнага досведу. А тут ён ужо ёсць. Таму трэба вельмі цаніць, што маем такі плённы перыяд у жыцці, і вельмі правільна яго скарыстаць. Так я і імкнуся рабіць.*

*У маёй музыцы ўвесь час нешта мяняецца — немагчыма вызначыцца з канкрэтным стылем. Увесь час нейкія эксперыменты. Адну і тую ж песню можна сыграць па-рознаму. У розным рытме. Сёння гэта рэгі, а заўтра блюз. Часта я нават сам не ведаю, як яна прагучыць на канцэрце.*

*Раней гэта была «адтанцоўка» ад нейкай аўтарскай песні. Мабыць, трошкі кээспэшнай (у савецкія часы былі клубы самадзейнай песні (КСП). —* **Заўв. аўт**.*). Шмат хто называе іх бардамі, але мне гэта не падабаецца. Да слова «бард» я стаўлюся з вялікай павагай, бо яно вельмі сур'ёзнае. У пэўным сэнсе нават святое. «Кээспэшная» значна прасцей.*

*Аўтарскай песняй я займаўся толькі таму, што баяўся нешта рабіць з сапраўднымі музыкамі. А калі паспрабаваў, зразумеў — гэта маё.*

*Мне падабаецца рабіць у жыцці тое, што цікава».*

# Сучасныя мелодыі

Не палічыце нейкім пафасам, але таленавітыя людзі, сапраўды, нейкім чынам «прыцягваюцца» адзін да аднаго. Не ўсе ведаюць, што тэксты значнай часткі (каля сарака) песняў Зміцера Вайцюшкевіча напісаў менавіта Алесь Камоцкі. У тым ліку і для вядомых «японскага» і «італьянскага» альбомаў. Безумоўна, з гэтай нагоды японскую альбо італьянскую мову Камоцкі спецыяльна не вучыў. Падрабязны «падрадкоўнік» зрабіў прафесійны перакладчык.

Да падобных рэчаў ён ставіцца вельмі адказна, і таму заўсёды патрабуе зрабіць не толькі падрабязны пераклад, але і напісаць пра нейкі культурны кантэкст. Тлумачэнне геаграфічных назваў, напрыклад. Іх гісторыю. Так, на думку Алеся, лягчэй адчуць, што было на душы ў чалавека, які напісаў арыгінал. І адысці пры патрэбе ад некаторых слоў, бо тэкст песні ў спалучэнні з музыкай не толькі набор вершаваных радкоў, а яшчэ і асацыяцыі.

Да таго ж ён імкнецца, каб такіх «падрадкоўнікаў» было адразу некалькі і рабілі іх розныя людзі.

...Паўтаруся, уласныя вершы Камоцкі пачаў пісаць вельмі даўно, а калі пазнаёміўся з Рыгорам Барадуліным, адважыўся паказаць яму свае творы. Адзнака была някепскай і вельмі каштоўнай, бо прагучала з вуснаў лепшага беларускага паэта.

Творчае і чалавечае сяброўства ў іх працягвалася некалькі дзесяцігоддзяў.

*«Гэта было цалкам выпадковае знаёмства. Выступалі разам на нейкай сцэне. Разгаварыліся. Высветлілася, у нас шмат агульнага. Па-першае, абодва не ўжывалі гарэлку. Па-другое, абодва лічылі, што няма нармальнага беларускага раманса. Менавіта з гэтага і пачалося наша супрацоўніцтва. Ён іх пісаў, як мемуары, а я (скажам так), як мары. У цэлым атрымліваліся рамансы. Іх даволі шмат.*

*Так напрыканцы мінулага стагоддзя ўзнікла цэлая «рамансная» праграма і адпаведны альбом. Мінула ўжо больш як 15 гадоў. Абавязкова бліжэйшым часам яе перараблю.*

*На мой погляд, тады мы яе крыху не дапрацавалі з гітарыстам Уладзімірам Ткачэнкам. Хочацца ўсё зрабіць зноўку. Абавязкова!*

*Добры напамін будзе пра дзядзьку Рыгора.*

*Дарэчы, менавіта Рыгор Барадулін адным з першых радаваўся выхаду зборнікаў маіх вершаў. Пакуль іх толькі тры. Гэта, так сказаць, сваіх, бо было яшчэ шмат удзелу ў розных паэтычных анталогіях.*

*У 2012 годзе з'явіўся зборнік з назвай «Навошта было мінулае», а сёння ўжо амаль гатовы наступны. У 2013-м са мной нешта здарылася, і вельмі хутка напісалася шмат вершаў. Так бывае. Як бывае і іншае.*

*Напрыклад, паміж другім і трэцім зборнікамі прайшло пяць гадоў*».

**Замест** P.S.

Неяк на «Зорным рынгу» ў час традыцыйнай экспрэс-апытанкі ў Алеся Камоцкага спыталі наконт яго пажадання сучаснай моладзі. Адказ быў такі: «Не мітусіцца».

*«Гэтага ж жадаю і ўсім астатнім людзям, таму што за мітуснёй мы, бывае, не знаходзім нармальнага жыцця. Мы проста праглытваем тое, што нам прапануецца ў якасці жыцця звонку. Можа атрымацца так — час прайшоў, а мы яшчэ не жылі. Той, хто не мітусіцца, усё роўна ўсюды паспявае».*

*02.04.14*



**Сям'я: бацька — Верамей Герасімавіч, маці — Ніна Уладзіміраўна, старэйшы брат — Валерый**





**З маці**

# Іван
# КІРЧУК



Напэўна, гэта самы таямнічы чалавек беларускай этнічнай музыкі, аб чым наўпрост сведчыць яго сольны монаспектакль «Варажбіт». Але, на мой погляд, справа тут не ў нейкай іміджавай містыцы. Справа ва ўнікальным таленце. І жаданні вяртаць людзям тое, што яны страчваюць.

Рабочы кабінет Івана Іванавіча Кірчука — частка асабістага музея фальклору. З часам фальклор стаў ледзь не галоўным сэнсам жыцця МУЗЫКІ, таму кожны экспанат успрымаецца як нешта цудоўнае і чарадзейнае.

## Містэрыі старажытнага

«Думаю, з нагоды Калядных святаў лагічна пачаць менавіта з іх, бо калядныя абрады чымсьці нагадваюць жывыя батлеі. У розных кутках Беларусі людзі калядавалі па-living, таму вызначыць нейкую «ўніверсальную» колькасць масак немагчыма. Калі для гэтага збіраюцца розныя людзі, спачатку не ведаеш, колькі насамрэч будзе персанажаў. Напрыклад, ёсць варыянты, дзе калядуюць адразу некалькі гуртоў. Са студэнтамі мы распрацавалі розныя варыянты сцэн, а з завочнікамі нават знялі відэа, дзе на падворку гаспадара сустрэліся тры гурты. У кожнага з іх была свая «каза», і гучалі тры варыянты калядных напеваў. Так, тры розныя танцы і напевы аб'ядналіся ў адну вялікую сцэну.

У маёй калекцыі шмат масак. Акрамя «казы» ёсць, напрыклад, «дзед і баба», «цыган з цыганкай», «конь і салдат», «цар і царыца», «чорт і смерць», «анёлы» і ўспамін пра Смаргонскую акадэмію — «мядзведзь». У даўніну такія маскі рабілі толькі на святы, а потым іх спальвалі, бо для людзей, якія верылі ў Бога, захоўваць іх лічылася вялікім грахом. Не палілі толькі Калядную Зорку, таму што яна лічылася Віфлеемскай. Мае маскі зроблены прафесійным бутафорам тэатра імя М. Горкага Іванам Міцько.

Першую класічную батлейку я зладзіў у 1989 годзе. Быў такі майстар (на жаль, памёр ужо) Васіль Цішко. Яго каманда распрацавала вялікія (80 сантыметраў) лялькі для батлейкі, з якой можна выступаць на буйных пляцоўках горада. Менавіта тады я быў рэжысёрам гарадскіх свят на Машэрава, праводзіў там і «Купалле», і «Каляду», і іншыя мерапрыемствы.

На жаль, цяпер той батлейкі ў мяне няма. Прыйшлося яе пакінуць у Цэнтральным раёне, дзе мясціўся мой цэнтр этнаграфіі і фальклору «Каляндар». Але гэта стала своеасаблівым штуршком — пачаў збіраць адпаведныя матэрыялы, а ў наступным годзе (1990) паехаў да Алеся Лася, які ў той час жыў у Залессі каля Смаргоні. Ён вырабляў там музычныя інструменты і даў мне невялікую кансультацыю па ляльках.

Я зноў пачаў займацца стварэннем лялечнага тэатра і на гэты раз запрасіў майстра Анатоля Муравейку, які зрабіў прыгожую невялічкую батлейку (метр на метр), за якой мог працаваць толькі адзін чалавек. Яна была ў выглядзе царквы, трох'ярусная: «неба», «зямля» і «пекла». У час выступленняў змяняліся толькі крыжы (праваслаўныя і каталіцкія), таму што былі розныя фрагменты сцэнарыяў і розныя канцэрты, нават у храмах.

З гэтай батлейкай у 1999 годзе я праехаў амаль усю Боснію і Герцагавіну. Дзесяць гарадоў плюс тэатральны фестываль у Сараева. Выступаў пераважна ў школах, бальніцах і г. д., то бок у тых установах, якія толькі-толькі паспелі наладзіць сваю работу пасля вайны. Нягледзячы на тое, што ў іх краіне няма такой традыцыі, батлейку ўспрымалі добра.

Выключэннем стаў толькі выпадак у горадзе Мостар. Памятаю, як я пачаў раскладацца, дзяцей сабралася так шмат, што нават падумалася наконт мікрафона, і тут — нечаканы званок. Усе дзеці пабеглі ў класы. Потым высветлілася, што праблема была ў крыжах маёй батлейкі. Пад царкоўным крыжам падчас вайны расстралялі жонку і дзяцей дырэктара той школы. Прыйшлося тэрмінова замяніць батлейку на маскі і музычныя інструменты...

І наогул, рэлігійныя моманты для тых мясцін асабліва знакавыя. Уявіце: з аднаго боку рэчкі спаленыя праваслаўныя цэрквы, з другога — парушаныя мячэці. Значна дапамагло тое, што перакладчыкам у мяне працаваў мусульманін з яшчэ былой Югаславіі. Дзякуючы яму ўдалося зразумець шмат такіх нюансаў, і ад крыжоў у батлеі на той час я адмовіўся ўвогуле, бо людзей мала цікавіла, праваслаўныя яны альбо каталіцкія. Узнікалі іншыя эмоцыі...

Дарэчы, лялечныя тэатры ёсць у розных краінах Еўропы. У нас — «батлейка», у палякаў — «шопка», у рускіх — «вертеп».

Па маім прынцыповым перакананні, з духоўнай спадчынай продкаў заўсёды трэба абыходзіцца вельмі асцярожна. Асабліва з абрадамі. Цяпер яны ператварыліся ў нешта штучнае, але за кожным стаіць пэўны людскі досвед. Рэканструкцыяй абрадавых святаў я займаюся з 1983 года і лічу гэтую тэму для сябе самай балючай. Сумна глядзець, як памылкі становяцца правілам. Напрыклад, на купальскім вогнішчы спальваюць рэчы хворага, і ўсе цераз агонь скачуць, не разумеючы, што гэтага рабіць нельга ні ў якім разе!

Альбо возьмем вясельныя абрады. Ніколі не было ў нас традыцыі ўпрыгожваць вясельны транспарт паветранымі шарамі. Як трапна заўважыла адна мая студэнтка, атрымліваецца «надутое счастье». Не ўпрыгожвалі іх і лялькамі ў выглядзе немаўлят — своеасаблівыя манекены, імітацыі дзяцей. Гэта не нашы традыцыі. Нельга арыентавацца на натоўп. Людзей трэба прывучаць да правільнага разумення спадчыны продкаў з самага дзяцінства.

# Золак жыцця

Маё жыццё пачалося 14 верасня 1958 года ў горадзе Лідзе. Таму нейкі час нават літаратурным псеўданімам карыстаўся «Ян Ліда», але прыйшлося ад яго адмовіцца, бо падпісваць тыя ж навуковыя брашуры па фальклоры несапраўдным прозвішчам неяк няправільна.

Бацьку звалі Іван Казіміравіч, а маці завуць Гэлена Тамашаўна. Дзякуй Богу, яна жывая па наш дзень, хоць з прычыны цукровага дыябету ўжо тры гады нічога не бачыць. Яе даглядае сястра Ала, якая выкладае ў Лідскай музвучэльні «акардэон». Этнічна бацькі (як і многія ў нашых мясцінах) палякі, таму да шасці гадоў я не размаўляў ні на якой мове, акрамя польскай. Яны прыгожа спявалі ў касцёльным хоры ў час набажэнстваў і часта бралі мяне з сабой.

Словы песняў малы хлопчык, канешне ж, ведаць не мог, але, калі тыя паўтараюцца па некалькі дзясяткаў разоў на службах, іх запомніць любы. Вось я і пачаў спяваць усяго праз пару гадоў, як навучыўся хадзіць.

Калі хто памятае часы атэізму, пацвердзіць, што дзяржава тады ставілася да ўсяго рэлігійнага агрэсіўна-варожа. Нельга было хадзіць у касцёл, адзначаць святы. Ля ўвахода ў касцёл стаялі камсамольцы, якія запісвалі ўсіх дзяцей, якія туды ўваходзяць. Мяне таксама выклікалі да дырэктара і пачыналі пытацца, чаму я хаджу туды, дзе моляцца. Цяпер бы я адказаў «па поўнай», а тады (малы быў) проста маўчаў.

Першыя дзіцячыя ўражанні, безумоўна, звязаны з калляднымі і навагоднімі святамі, з падарункамі. Сёння знайсці цацкі для дзіцяці — не праблема, як кажуць — «абы грошы былі б», а раней на падарунак (не маючы адпаведных сувязяў) трэба было «нарвацца». Неяк наша суседка ў Маскве набыла алавяных салдацікаў, а потым аднаго з іх прэзентавала мне, вось гэта — ПАДЗЕЯ! Я ледзь не страціў прытомнасць... Памятаю, што было мне тады пяць гадоў.

Перад тым як мне трэба было ісці ў школу, да нас прыехала бабуля Кацярына з-пад Гародні. Яна таксама полька, але размаўляла ўжо на «трасянцы», то бок на той мове, якая патрэбная для школьнага навучання.

З гэтай прычыны яна і мая маці перыядычна спрачаліся, бо маці не вельмі хацела, каб яе дзеці размаўлялі менавіта так.

У хаце гучалі розныя песні — і польскія з беларускімі, і ўкраінскія з рускімі. І нават літоўскія, таму што мама нарадзілася ў Літве. Спявалі ўсё, што тады гучала. Ніякіх межаў не было. Акрамя, натуральна, тых народных песняў, якія ведалі толькі нашы бабулі і дзядулі. Дарэчы, бацька маці — дзед Тамаш — быў з даволі багатай сям'і, а яго браты выраблялі скрыпкі і акардэоны. Жыў ён у Варшаве, дзе меў уласны маёнтак, млын. Потым раскулачылі... У дзеда Тамаша і бабулі Паўліны было 14 дзяцей. Многія з іх добра спявалі, так што мае гены, напэўна, адтуль. Хаця і наконт бацькі таксама ёсць што ўспомніць. У нашай хаце заўсёды гучала радыёкропка. Да таго ж, бацька меў патэфон. Таму я з дзяцінства запомніў італьянскія песні ў выкананні РаберцінаЛарэці. Бацька быў зацятым збіральнікам запісаў, выдатна ведаў папулярныя аперэты, асобныя арыі мог праспяваць літаральна слова ў слова. У касцёльным хоры разам з маці ён праспяваў сорак гадоў.

Наша 11-я сярэдняя школа была без якіх-небудзь «ухілаў». Тады іх увогуле было няшмат. 1973 год. Як усе дзеці, у школе я крыху хуліганіў. Маці перад бацькоўскімі сходамі заўсёды піла таблеткі. Нечага надзвычай сур'ёзнага ў сэнсе «хуліганкі» не рабіў, бо баяўся бацькі. Ён вялікі, дужы. Вышэйшы за мяне. Пад два метры ростам.

Я скончыў восем класаў і вырашыў пайсці вучыцца на марака, таму што ім быў брат маці, які жыў у Рызе. Да таго ж мой стрыечны брат — таксама марак і на той момант знаходзіўся ў Японіі. Словам, зацікаўлены я быў вельмі моцна — нават рэчы сабраў. Хацелася паглядзець свет, але бацькі не зразумелі гэтае памкненне, моцна спужаліся і нікуды не пусцілі.

Мой бацька працаваў тады інжынерам будаўнічай арганізацыі, якая якраз будавала ў Лідзе першую музычную вучэльню, і параіў абраць менавіта яе. У тым узросце я яшчэ не мог яму супярэчыць, таму пагадзіўся без спрэчак...

Ніякай музычнай адукацыі ў мяне не было, але я вельмі добра спяваў. У той час у Гародні ладзілі музычны фестываль, які называўся «Вам наши песни» (потым у Мінску яго назвалі «Чырвоныя гваздзікі»). Я атрымаў узнагароду і быў накіраваны ў Саюз кампазітараў на праслухоўванне. Там і адбыўся канфуз — мутацыя голасу. Памятую, спяваў песню пра радзіму, калі ў маім голасе ўзнік «пеўнік». Спачатку спалохаўся, а потым больш дасведчаныя людзі патлумачылі, што нічога страшнага тут няма, трэба толькі крыху памаўчаць.

А як маўчаць, калі паступаю на харавое дырыжыраванне ў музычную вучэльню? На шчасце, там усё зразумелі і прынялі без адпаведных экзаменаў па спецыяльнасці. Першы год спяваў фальцэтам у жаночым хоры, бо сваім голасам спяваць было нельга.

Атрымлівалася амаль анекдатычна: адкрываецца сцэна, аб'яўляюць жаночы хор лідскай музвучэльні, і тут — у цэнтры я з «бабачкай»...

Яшчэ ў мяне ёсць дзве малодшыя сястры Ала і Марыя. Яны таксама пайшлі «музычным» шляхам. Ала абрала акардэон, а Марыя — цымбалы, праўда, цяпер яна працуе ў іншай галіне.

Падчас вучобы я, натуральна, атрымліваў адпаведныя веды, таму захацелася займацца музыкай. Музыкай сур'ёзнай, бо як і ў іншых (гэтым тады «хварэлі» ўсе), у мяне былі розныя гурты, з якімі гралі на танцах, але заўсёды марылася пра нешта большае. Мне падабаліся вершы Гётэ, Байрана, Шэкспіра, і я пачаў пісаць на іх мелодыі. Вельмі складаныя і вельмі прыгожыя. З цягам часу навучання стаў рабіць з іх нейкія харавыя партытуры, якія потым планаваў зрабіць кампазіцыямі. Некаторыя мае партытуры (напрыклад, у выкананні хору «Менка» пад кіраўніцтвам Уладзіміра Сінельніка) на 6—8 галасоў пазней усё ж такі прагучалі. Аднак лёс унёс у гэтыя планы пэўныя карэктывы. Пасля вучэльні я трапіў у армію, дзе ў чыгуначных войсках праслужыў з 1977 па 1979 год. Першы год — Яраслаўль. Там стварыў ВІА «Оловянный солдатик», але хутка атрымаў спагнанне за такую недарэчную назву. Тады мы назваліся «Гренадёры», і праблем больш не было. Я спяваў, граў на клавішах. Другі год службы праходзіў на БАМе — у тайзе валілі лес, будавалі дарогі, масты. Было зусім не да музыкі, таму «на гражданку» вярнуўся разгубленым. Не ведаў, што рабіць.

Потым крыху, як кажуць, агледзеўся і пачаў збіраць дакументы для паступлення ў кансерваторыю. Праслухоўваўся ў прафесара Віктара Роўды. Паказаў свае творы. Яму спадабалася. Параіў рыхтавацца да экзаменаў.

Але я тады трошкі спужаўся, таму што ў гэты час паступала «адзінаццацігодка». Усе хлопцы з выдатным слыхам, добрай музычнай адукацыяй. Пасля БАМа мне было неяк няёмка, мала падрыхтоўкі. У гэты ж час патэлефанаваў сваёй знаёмай, жонцы кампазітара Віктара Войцека — Святлане, якая, да таго як выйсці замуж, выкладала ў мяне ў музвучэльні. Тая і кажа: «Зараз працую ў Інстытуце культуры, у прафесара Станіслава Дробыша ёсць цікавыя задумкі наконт народна-харавых спеваў. Прыходзь да нас!»

Так і зрабіў. Праз некаторы час здаў усе ўступныя экзамены і стаў студэнтам Мінскага інстытута культуры, які цяпер перарабілі ва ўніверсітэт.

## Менестрэлі лёсу

У 1980 годзе ў Мінск прыехаў ансамбль Дзмітрыя Пакроўскага. Фальклорны калектыў, вельмі вядомы за межамі Беларусі. Але гэта не той рускі фальклор, які сёння паказваюць выканаўцы накшталт Бабкінай. Зусім іншы напрамак. Гэта людзі, якія па паўгода былі ў экспедыцыях. Праз песні яны паказалі Поўнач, Поўдзень Расіі, паказалі Байкал, казакаў і г. д.

Добра памятаю, што тады мяне вельмі здзівіла тое, што ўсе песні выкананыя ў розных манерах. Не ў той псеўдарускай, якую прапагандавалі Зыкіна, Мардасава, іншыя выканаўцы народных спеваў і шматлікія заводскія, фабрычныя альбо школьныя хоры, а заспявалі так, як гэта спяваюць у розных расійскіх рэгіёнах.

Менавіта тады я і вырашыў, што буду займацца фальклорам, таму што Беларусь таксама вельмі цікавая краіна. У нас — межы з Латвіяй, Літвой, Польшчай, Украінай, Расіяй, цудоўная культурная спадчына.

У 1982 годзе я перавёўся на завочнае аддзяленне і пайшоў працаваць у Мінскае культасветвучылішча. Дарэчы, там пачаў збіраць уласны этнаграфічны музей і зрабіў першыя запісы.

Першая (выбачайце таўталогію) экспедыцыя была ў вёску Сарачы Любанскага раёна Мінскай вобласці. Там Шмялёва Пелагея Міхайлаўна спявала мне з дзесяці гадзін раніцы да гадзіны ночы. Адзін раз толькі перарвалася «пакарміць курак».

Я запісаў 100 песняў. А потым яна кажа: «Гэта песні не мае». Я вельмі здзівіўся і спытаў: «Чаму?» Яна ў адказ: «Гэта песні маёй маці». Я здзівіўся яшчэ больш, бо сам ведаў толькі некалькі песняў сваёй маці, а тут — 100 штук.

Многія з іх увайшлі ў праграму фальклорнага калектыву «Дзіва», з якім я потым працаваў, частка — у сольныя праграмы, а некаторыя выкарыстаны падчас заняткаў са студэнтамі. Зараз гэтыя матэрыялы апрацоўвае «Троіца».

Так атрымалася, што ўжо з 1982 года пачаў выкладаць фальклор у нашым Мінскім культасветвучылішчы, пісаць праграмы і сцэнарыі фрагментаў пастановак абрадаў, свят, бо дагэтуль іх проста не існавала. Потым дзяржаўныя экзамены па рэканструкцыі абрадаў нават здымала беларускае тэлебачанне.

У 1985 годзе я пайшоў у аспірантуру да прафесара Канстанціна Кабашнікава, але скончыць яе не атрымалася, таму што было шмат гастроляў з фальклорным ансамблем «Дзіва». Тры гады прыносіў туды розныя матэрыялы, якія, мабыць, там і засталіся.

Так што сёння я маю пасаду дацэнта, але не маю нейкай навуковай ступені. Як і розных творчых званняў, дарэчы. Аднойчы гэта нават стала прычынай для даволі камічнай сітуацыі.

У 1996 годзе мы некалькі разоў ездзілі з канцэртамі гурта «Дзіва» на Кубань, дакладней, адбывалася гэта па запрашэнні Кубанскага казацкага хору, якім кіруе Віктар Захарчанка. Пасля чарговага выступу (чацвёртага, здаецца) ён спытаў, чаму ў Беларусі на мяне не звяртаюць увагу? Я патлумачыў тым, што з гэтай нагоды не грукаю ў дзверы кабінетаў чыноўнікаў Міністэрства культуры.

Тады яны (Захарчанка і пяць мясцовых прафесараў-музыкаў) напісалі адпаведны ліст беларускаму прэзідэнту. Дакладна ведаю, што той трапіў у рэзідэнцыю Аляксандра Лукашэнкі. ...Як і тое, што далей нічога не адбылося...

На жаль, за мяжой нас больш ведаюць, чым у самой Беларусі. Нават быў такі выпадак, калі пасля выступу ў беларускім санаторыі ў Сочы на сцэну падняўся чарговы беларускі міністр культуры і кажа: «Адкуль вы? Чаму я вас не ведаю?». І быў вельмі здзіўлены, што гурт з Мінска працуе ўжо дзесяць гадоў. Аказалася, ён нас ніколі не бачыў...

А нарадзілася «Троіца» так. У 1995 годзе я працаваў намеснікам дырэктара Нацыянальнага цэнтра дзяцей і моладзі на вуліцы Кірава. Там жа да мяне завіталі два знаёмыя музыкі Віталь Шкілёнак і мой колішні студэнт Зміцер Лук'янчык. Яны і прапанавалі зладзіць новы гурт.

Даводзілася чуць, што «Троіца» створана «ў піку» «Палацу». Гэта не зусім так. «Палац» граў электронную музыку. Мы абралі іншае — акустычнае, натуральнае гучанне музычных інструментаў. Разам зрабілі некалькі песняў, якія паказалі на імпрэзах, арганізаваных шэрагам замежных амбасад. Нашы песні вельмі спадабаліся дыпламатам. Яны казалі, што гэта надзвычай падобнае да іх родных песняў. Мы шчыра здзівіліся таму, што чыста беларускія кампазіцыі могуць быць такімі блізкімі французам альбо швейцарцам. Відаць, аранжыроўкі, гучанне народных інструментаў нагадалі ім нешта сваё, роднае.

Пасля такой пахвалы, натуральна, паверылі ў свае сілы, сталі больш працаваць. І нас запрасіў на рок-фестываль у Піцер Юрый Шаўчук. Зноў прыемна здзівіліся. Да паездкі ў Санкт-Пецярбург ён прапанаваў выступіць перад яго канцэртам у Мінску. І сам прадставіў нас цудоўнымі словамі: «Зараз выступяць музыкі, якія мне вельмі падабаюцца, але вы іх не ведаеце». Пасля паспяховага выступу ў Піцеры Стас Намін запрасіў на фестываль этнічнай музыкі на Краснай плошчы. Пра нас загаварылі. У тым ліку і ў Беларусі.

Мы аддалі касету з запісамі нашых песняў на беларускі конкурс «Уступи дорогу», а самі паехалі на гастролі за мяжу. Пакуль гастраліравалі, касета заваявала першае месца, і нам далі «гадзінкі» працы ў студыі. Гэта дазволіла зрабіць запіс першага дыска з назвай «Троіца».

З гэтага ўсё і пачалося.

У цэнтры дзяцей і моладзі я працаваў толькі два гады, а ўжо ў 1997-м стаў выкладаць на кафедры этналогіі і фалькларыстыкі Дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя Максіма Танка. Займаюся гэтым ужо больш як сямнаццаць гадоў.

Літаральна некалькі слоў пра асабістае. Я тройчы жанаты. Ад кожнага шлюбу па сыне. Са старэйшымі (33 гады і 26 гадоў), на жаль, ніякіх адносін няма. Чатырнаццаць гадоў жыў адзін. А некалькі гадоў таму на маім жыццё-

вым шляху сустрэлася Кацярына. Яна аспірантка і выкладчыца, таксама займаецца фальклорам. У мінулым годзе нарадзіла мне сына Стэфана.

# Аўтабаны фальклору

З «Троіцай» (у якасці гурта) мы аб'ехалі шмат краін. Фестывалі, імпрэзы, канцэрты. У пачатку 1999 года пачалося тое, што называюць творчым крызісам (асабіста мяне гэта не закранула), і мы вырашылі спыніць сумесную работу. Аднак у той момант я ўжо быў запрошаны на фестываль у Венгрыю і з лялечным тэатрам «Батлейка» ў Боснію. Вырашыў ехаць адзін.

Усё гэта ёсць у кнізе «Аўтабаны і менестрэлі».

Сольныя канцэрты і тэатральныя выступы прайшлі выдатна, пасля іх я быў амаль акрылены, і наш даўні (з 1996 года) сябар Марцін Ворбэй прапанаваў шэраг новых праектаў, у тым ліку і стварэнне новай «Троіцы».

Час, як кажуць, прыціскаў, таму спачатку я нават разгубіўся, але настойлівасць Марціна прымусіла «заварушыцца» па поўнай.

Бог зноў дапамог. Адзін з маіх студэнтаў, гітарыст Юрый Дзмітрыеў, пагадзіўся паспрабаваць. Атрымалася!

Тое ж самае я прапанаваў добраму знаёмаму Юрыю Паўлоўскаму, які працаваў у гурце «Князь Мышкін». Атрымалася і з ім.

Ужо праз месяц паехалі на буйны фестываль у Галандыю. Галандцы нам выдзелілі вялікі ангар, дзе мы развесілі ўсе экспанаты майго этнаграфічнага музея, устанавілі музычныя інструменты і батлейку. У дзень было па тры выступы — раніцай для дзяцей лялечны спектакль, потым днём і вечарам — канцэрты. І гэтак дзесяць дзён!!!

У 1999 годзе пачало працаваць этна-трыа «Троіца», якое на сённяшні дзень мае каля ста ўдзелаў у замежных фестывалях (ад Малайзіі да Партугаліі), саўндтрэкі да фільмаў і пяць кампакт-дыскаў.

На шчасце, сёння ўвага да фальклору крыху пабольшала. На тым жа фестывалі «Камяніца» было больш за сем тысяч гледачоў. Упэўнены, яны прыйшлі паслухаць не толькі нашага госця Алега Скрыпку з «Воплей Видоплясова». Людзі па-сапраўднаму пачалі гэтым цікавіцца.

А адбываецца ўсё, на мой погляд, па вельмі простай прычыне — ёсць глеба. Адных толькі тамоў серыі «Беларуская народная творчасць» ужо, напэўна, каля пяцідзесяці. Плюс сотні, а то і тысячы запісаў песняў бабулек, якія памятаюць сваё мінулае. Гэта плюсы. Мінусы ж у тым, што сёння фактычна няма пляцовак, дзе людзі маглі б паказваць сваю творчасць. Што такое дватры фестывалі на ўсю краіну? Дробязь. Напрыклад, у Канадзе на кожны год прыпадае некалькі сотняў (па розных кірунках) фальклорных фестываляў.

Альбо фестываль «Zeget» у Венгрыі . Там можна згубіцца. Сорак пляцовак працуюць цэлы тыдзень. Людзі па каталогах выбіраюць тое, што ім больш падабаецца.

У той жа Галандыі на розных фестывалях мы працавалі сем гадоў. І не толькі ў буйных гарадах. Фэсты праходзілі ў маленькіх вёсачках. Галандцам гэта надзвычай цікава. У фальклорным жанры ў заходніх краінах працуюць дзясяткі, сотні калектываў. А ў нас? Акрамя «Троіцы» — «Палац», «Крыві», Маша Яр... Чыста фальклорных гуртоў катастрафічна мала...

Зараз я даволі часта сустракаюся з тымі, хто ўжо шмат гадоў працуе ў гэтай галіне, то бок з кіраўнікамі творчых калектываў, і чую адно і тое ж. Яны могуць падрыхтаваць праграму, але не ведаюць, дзе яе можна паказаць.

Задаюць пытанні наконт нашага ўдзелу ў замежных фестывалях. Адказваю, што, як і ўсе, мы шукаем патрэбную інфармацыю ў Інтэрнэце альбо нешта знаходзім з дапамогай знаёмых.

Гэта сёння, а бывалі часы, калі мы рассылалі па фестывалях да 500 дыскаў з запісамі сваіх песняў і не атрымлівалі ніводнага станоўчага адказу. Былі прапановы «праезд за свой кошт», але такое дазволіць сабе могуць ніяк не этнічныя калектывы. Адзін толькі транспарт будзе каштаваць некалькі тысяч даляраў... А яшчэ трэба нешта есці, недзе жыць...

Падчас экспедыцый я аб'ехаў амаль усю Беларусь, адных толькі бабін (хто пажыў, ведае, што такое «магнітныя стужкі») з запісамі маю каля сотні, плюс касеты. Гэтаму хобі вельмі спрыяла тое, што я ездзіў з праверкамі практыкі нашых студэнтаў. Днём яны мне нешта паказвалі і расказвалі, а вечарамі з магнітафонам хадзіў па хатах мясцовых старажылаў, рабіў запісы.

Шмат матэрыялу прывозілі завочнікі.

Архіў у мяне велізарны яшчэ і па той прычыне, што я ўжо шмат гадоў сябрую з Таццянай Песнякевіч, якая працуе ў архіве рэспубліканскага радыё. Многае ўзялі ад іх.

Апошняя экспедыцыя «Троіцы» была гадоў пяць таму ў вёску Міхалкавічы Лагойскага раёна. На жаль, той бабулі ўжо няма на гэтым свеце. Тады ёй было 92 гады, але яна хадзіла спяваць песні, маліцца і чытала вершыкі, якія вучыла яшчэ ў школе.

З экспедыцый запомнілася нямала. У 1986 годзе, напрыклад, у вёсцы Гаўрычыцы Салігорскага раёна я запісаў выдатны мужчынскі спеў, які потым прывёз на рэспубліканскае радыё. Спявалі так, што ў мяне, як кажуць, ад захаплення валасы на галаве ўставалі дыбам. Цяпер гэта вядомы сямейны калектыў Бойкаў.

Не магу таксама не ўспомніць вёсачку Гоцк, што недалёка ад Гаўрычыц. Акрамя запісу песняў, я збіраў рэчы для музейнай калекцыі і розных абрадаў.

Зайшоў у адну хатку — дзве бабулькі, вельмі чысценька, усё саматканае. Уражаны, спытаў, як ім удалося зберагчы гэтую прыгажосць падчас вайны?

Расказалі, што вышываныя рэчы яны хавалі ў куфар і закопвалі, бо немцы рвалі ручнікі «на анучы»...

Паміж маімі экспедыцыямі (першай і апошняй) — больш як чвэрць стагоддзя і вельмі шмат змен. На жаль, не ў лепшы бок.

І не толькі таму, што пайшлі з жыцця цудоўныя выканаўцы беларускага фальклору. Вельмі моцна густ нашых людзей сапсавала тэлебачанне. Сапсавала перадачамі накшталт «Запрашаем на вячоркі» альбо «Спявай, душа». Людзей робяць аднолькавымі, перарабляюць шчырасць у відовішча, у шоу. Калі бабуля ў нацыянальным строі на сцэне «сядае на шпагат», то ніякага фальклору тут не можа быць і блізка. Мне здаецца, гэта не рэжысура нейкага свята, а здзекі з нашага мінулага.

Для таго, каб іх запрашалі на ТБ, калектывы становяцца падобнымі адзін да аднаго, а ўвесь фальклор абмяжоўваецца песнямі «Цячэ вада ў ярок» і «Ехаў Ясь на кані».

На мой погляд, галоўная праблема нашай краіны ў тым, што беларускае застаецца недзе ўбаку. Мы захапляемся культурамі іншых народаў (японскай альбо кітайскай, напрыклад) і не звяртаем увагі на сваё. Некаторыя на гэтай зацікаўленасці зарабляюць добрыя грошы. Падабаюцца сушы — процьма рэстаранаў і бараў. Мода на ёгу — маса адпаведных курсаў.

А чаму «сушы», а не «дранікі»?

І напрыканцы. У верасні 2014 года выйшла яшчэ адна мая кніжка «Гарыць свечка ля алтара...». У яе ўвайшлі мае сны, іх расшыфроўкі, вершы, складзеныя ў дарозе, трошкі прозы, успаміны пра наведванне святых мясцін, запісы, звязаныя з медытацыямі, духоўнымі практыкамі. Ёсць штосьці і аб «Троіцы», думкі пра продкаў, род, сям'ю, Беларусь. Ёсць там нават мае малюнкі.

Як вядома, попыт нараджае прапанову. Упэўнены, калі б зварот да культурнай спадчыны продкаў пачынаўся ў сям'і, умацоўваўся ў дзіцячым садку, школе, вышэйшых навучальных установах, вынікі былі б зусім іншымі».

*13.01.2015*


З бабуляй Кацяй. 1959 год


З бабуляй Кацяй у Лідзе
на Новы 1988 год


З бацькам. 1963 год


З мамай у Лідзе. 2009 год




Гурт «Дзіва». 1990 год



Выступленне ў адной са школ Босніі. 1999 год

# Артур КЛІНАЎ




**Мастака Артура Клінава (не без падстаў) называюць самым інтэлігентным «партызанам» Беларусі. Я б яшчэ дадаў — і самым крэатыўным. І не толькі таму, што ён рэдагуе альманах сучаснай беларускай культуры з прышпільнай назвай «pARTisan». З крэатыўных момантаў складаецца ўсё яго неардынарнае жыццё.**

## Першы выбар

Першыя крокі па зямлі ў Артура Клінава былі самымі звычайнымі, хаця і тут у кагосьці могуць узнікаць пытанні. Нарадзіўся ён у беларускай сталіцы ў 1965 годзе. Рэальна гэта адбылося 5 студзеня, а «па пашпарце» — 5 верасня. Звычайна рабілася наадварот і дыктавалася жаданнем больш хуткай пенсіі.

Яго маці, Валянціна Васільеўна, была праграмістам і працавала з электроннымі вылічальнымі машынамі, якія тады толькі-толькі з'явіліся ў Савецкім Саюзе. Гэта была новая і вельмі цікавая прафесія, таму Артур заўсёды з вялікім задавальненнем прыходзіў да яе на працу. Спачатку маці працавала на абутковай фабрыцы, а потым узначальвала адпаведны цэнтр на тонкасуконным камбінаце.

Гледзячы на сучасныя «персаналкі», вельмі цяжка ўявіць, што некалі падобная тэхніка была памерамі з вялікія шафы. Асабліва ў той шостай частцы свету, дзе будавалі камунізм.

Прынцыповай камуністкай засталася ў памяці і маці Артура. Але не ў сэнсе вернасці «запаветам Ільіча». У кампартыі заўсёды знаходзіліся людзі, якія дамінавалі на трыбунах. І тыя, хто рабіў «чарнавую справу». Менавіта да апошніх яна і адносілася. Сёння такіх называюць працаголікамі — з раніцы да позняга вечара прападала на рабоце.

А бацька Артура Клінава «загінуў на вайне». Але зноў жа не ў тым сэнсе, як гэта некалі сказаў пляскаючым у далоні ветэранам адзін усім вядомы персанаж. Апошні хацеў гэткім танным папулісцкім чынам спадабацца пэўнаму электарату. У Клінава прычына іншая. Так з крыўдай казала сыну маці, што даволі тыпова для жанчын, якія развіталіся з мужамі. Аляксандр Аляксеевіч з сям'і сышоў, калі сыну было толькі два гады.

Той быў вельмі неардынарным чалавекам, бо «сумяшчаў» у сабе званне майстра спорту па боксе і работу мастаком. Спалучэнне і на сённяшні дзень вельмі цікавае. Звычайна людзі абіраюць нешта адно: альбо «спартыўны мардабой», альбо захапленне жывапісам, аднак у той час гэта было нярэдкай з'явай. Напрыклад, у Клінава-старэйшага сябрам быў вядомы скульптар Канстанцін Сарока — майстар спорту па стральбе з лука. Словам, кола сяброў бацькі складалася з дзіўнага міксту мастакоў і спартсменаў, і жыў ён (у фінансавым сэнсе), мякка кажучы, няблага. Можна нават сказаць — прыгожа. Ён працаваў мастаком-афарміцелем. А замовы ад дзяржпрадпрыемстваў тады былі даволі важкімі. За афармленне «пад ключ» аднаго калгаса з поўнай нагляднай агітацыяй (стэлы, помнікі, дошкі гонару і г. д.) плацілі такія грошы, пра якія многія цяперашнія мастакі могуць толькі марыць.

Са сваім бацькам Артур па-сапраўднаму пазнаёміўся толькі ў сярэдзіне вучобы ў школе. Маці на той момант ужо расказала праўду, і ён ведаў, што з'яўляецца нашчадкам мастака. Таму з самага дзяцінства Артур Клінаў марыў стаць мастаком і сам. І справа не толькі ў тым, што пры першай сустрэчы бацька падарыў яму набор вельмі дарагіх (і па кошце, і па якасці) пэндзляў для малявання. Як казаў адзін з булгакаўскіх герояў — кроў. То бок — гены.

Артур Клінаў вучыўся адразу ў дзвюх школах. «Звычайнай» (сярэдняй агульнаадукацыйнай) была школа №61, што месціцца на бульвары Шаўчэнкі і стала цяпер гімназіяй №3. А «незвычайнай» (мастацкай) была школа №1, якая знаходзіцца на вуліцы Валадарскага. На шчасце, абедзве і сёння працуюць «па профілі».

Дзеля справядлівасці трэба назваць яшчэ і трэцюю навучальную ўстанову. Першыя чатыры гады Артур Клінаў адвучыўся ў школе №6, і толькі потым яны пераехалі на Старажоўку, якую раней усе ведалі па знакамітым птушыным рынку. Зараз там пабудаваны мемарыял у гонар герояў Першай сусветнай вайны. Ад былой Старажоўкі ўжо так мала засталося, што шмат у каго выклікае абурэнне. Ва ўсім свеце людзі спрабуюць захаваць элементы гарадской аўтэнтычнасці, а ў нас, наадварот, яе знішчаюць. Так звычайна бывае тады, калі кіраваць пачынаюць людзі з яўным дэфіцытам адукаванасці. Альбо тыя, хто не нарадзіўся ў тым месцы, аднак каму там выпала «руліць»...

Раён лічыўся «габрэйскім». Для Беларусі гэта было вельмі распаўсюджанай з'явай (колішняя мяжа аседласці), таму няма нічога дзіўнага, што большасць сяброў Артура мелі адпаведную «пятую графу». Як вядома, габрэі ў тыя часы вельмі крытычна ставіліся да камуністычнай ідэалогіі. «Антысаветчыкам» стаў і Артур Клінаў.

Як і яго бацька, дарэчы, які ненавідзеў камуністычны лад «усімі фібрамі душы».

Цікава, што за адной школьнай партай Артур сядзеў з вядомым спецыялістам па беларускай філалогіі Змітром Саўкам, якога і цяпер з павагай называе «акадэмікам». Прыблізна ў сёмым-восьмым класе яны пачалі адкрываць для сябе беларушчыну, што было падобным да набыцця новага свету. Таму няма нічога дзіўнага ў тым, што вельмі хутка іх сталі лічыць галоўнымі антысаветчыкамі класа. А потым і галоўнымі нацыяналістамі.

Пасля заканчэння школы Артур Клінаў падаў дакументы ў Беларускую мастацкую акадэмію, якая на той момант з'яўлялася яшчэ інстытутам. Але з першага разу не паступіў — Тэатральна-мастацкі інстытут лічыўся вельмі прэстыжным. Трапіць туды без пратэкцыі было амаль немагчыма.

# Першы перфоманс

Каб не губляць час, Клінаў год правучыўся на архітэктурным факультэце палітэха, плануючы потым паўтарыць спробу атрымаць мастацкую адукацыю. Аднак, як кажуць, «люди предполагают, а Бог располагает». Вучоба на архітэктурным так спадабалася Артуру, што наступным летам ён вырашыў нічога ў сваім жыцці не мяняць. І не паступаць зноў «на мастака», бо ім можна стаць і з архітэктурнай адукацыяй. Сумежныя сферы — відавочна.

Дарэчы, вучыўся ён у тым самым «Парусе», які ў савецкія часы быў своеасаблівай візіткай беларускай сталіцы і ўражваў усіх, хто прыязджаў у Мінск з боку Масквы. Новы корпус тады толькі-толькі пачаў працаваць.

Акрамя таго, што архітэктура ў нейкім сэнсе лічыцца галіной, якая стаіць даволі блізка да мастацтва, было яшчэ два важкія аргументы на карысць БПІ. Самы галоўны — наяўнасць у інстытуце ваеннай кафедры, што ў далейшым пазбаўляла ад тэрміновай вайсковай службы. Артур Клінаў на той момант ужо быў перакананым пацыфістам — зусім не дзіўна ў сувязі з прыходам у Савецкі Саюз ідэалогіі хіпі.

Напэўна, ён мог бы «закасіць», як гэта зрабілі некаторыя сябры, але ў тыя гады падобнае было не толькі нечым экстраардынарным, але і не зусім нармальным. Гэта цяпер «косяць» усе, хто не лянуецца, а раней усё наадварот! У грамадскай свядомасці тыя, хто не выканаў «священный долг», мякка кажучы, не карысталіся папулярнасцю. І ставіліся да гэтага вельмі сур'ёзна: каб «закасіць», трэба было (як мінімум) паляжаць у вар'ятні. Клінаву такое не пасавала.

Другі сур'ёзны аргумент «за» архітэктурны факультэт — «вольнае паветра», якое там панавала. Напэўна, гэта быў адзін з самых дэмакратычных факультэтаў Беларусі таго часу. Хаця і ішла перадфінальная стадыя развіцця СССР, але гэта быў САВЕЦКІ САЮЗ. З усімі ідэалагічнымі атрыбутамі і правіламі. Ніхто нават уявіць не мог, што ўсяму гэтаму праз дзесяць гадоў прыйдзе канец.

Яшчэ раз падкрэсліваю, што Артур Клінаў увесь час вучобы ў ВНУ марыў стаць мастаком і ніводнага дня не збіраўся працаваць па спецыяльнасці. Таму, калі яго размеркавалі ў Зэльву галоўным архітэктарам раёна, гэта ўспрынялося нейкай недарэчнасцю. Менавіта яна і стала глебай для першага ў жыцці перфомансу. Каб лепш перадаць усе дэталі гэтага прышпільнага эпізоду, перайду да расказу самога «первоисточника»:

*«Натуральна, што ў Зэльве ўжо быў свой галоўны архітэктар, таму маё паяўленне ў гэтым горадзе ўспрынялі, скажам так, без асаблівай радасці. Гэта было дарэчы, бо працаваць архітэктарам і не збіраўся.*

*Яшчэ ў школе я насіў даволі доўгія валасы, за што не раз меў праблемы. Хто жыў у той час, ведае, аб чым гаворка. Ідэалогія хіпі не пасавала да марксізму-ленінізму, таму мой «хаяр» турбаваў не толькі школьных настаўнікаў і міліцыянтаў. Часам гэта адбывалася нават на вуліцы. Нападнікамі былі звычайныя прахожыя. Калі дадаць яшчэ модныя тады клёшы і завушніцу, няцяжка ўявіць, што выгляд у мяне быў цалкам «антысавецкі».*

*У Зэльве я перасягнуў нават такі варыянт. Спецыяльна замест больш-менш прыстойнага «прыкіду» надзеў нейкія лахманы. Намаляваў сабе некалькі часовых татуіровак, на вуха — цыпель, ледзь не крыж на шыю павесіў. Словам, пачвара. Уявіце, у такім выглядзе заходжу ў кабінет галоўнага архітэктара Зэльвы і кажу: «Мяне па размеркаванні прызначылі на ваша месца, але працаваць тут не хачу!» У яго сківіца адвісла. Адмацаванне ён падмахнуў тут жа. Тое ж самае было і ў Гародні, у абласной установе. Маўляў, нам такія «кадры» не патрэбныя...»*

## Вольнае паветра

З таго часу Артур усё жыццё быў фрылансерам. Сёння — ёсць, заўтра (якое можа цягнуцца да месяца) — няма. Амаль адразу ён запакаваў кнігі, пэндзлі і г. д. і паехаў у Піцер, які тады называўся Ленінградам. Горад вельмі цікавы, Клінаў нават хацеў туды эмігрыраваць. Паехаў, што называецца, «у белы свет, як у капеечку». Маляваў, жыў у майстэрнях сяброў.

1987 год. З усіх гарадоў Савецкага Саюза Піцер быў самым прагрэсіўным. Пачалася перабудова. Нават паветра здавалася вольным. Сяброў у Артура там набралася вельмі шмат, аднак увесь час туляцца па нейкіх тусоўках — не ў кайф. Напэўна, калі б у Піцеры ў Клінава было нешта сваё, ён там бы і застаўся. А так — ні кала ні двара. Качэўна-багемнае жыццё хутка стаміла.

Праз паўгода Артур зразумеў, што трэба крыху «адпачыць», і вярнуўся ў Мінск. Канешне, Піцер яшчэ наведваў, але ўжо без спробы канчатковай эміграцыі. Такой ідэі больш не ўзнікала ў прынцыпе. І не толькі да Піцера. Калі

адкрыліся межы, шмат хто з'ехаў у Нямеччыну, Польшчу, Швецыю, але Клінаў зразумеў: лёсам яму наканавана толькі Беларусь.

Канец 80-х гадоў мінулага стагоддзя можна назваць фантастычным часам для ўсіх творчых людзей, а для мастакоў асабліва. Перабудова, што называецца, адчыніла ім усе дзверы. Мажлівасці з'явіліся неверагодныя.

Класічны жывапіс ніколі не цікавіў Артура Клінава. Яшчэ ў школе ён цвёрда вырашыў стаць авангардыстам, хоць уяўленне пра сутнасць гэтага слова меў даволі туманнае. Менавіта для нонканфармісцкага мастацтва наступіў тады свой «залаты век». Творчае жыццё літаральна бурліла. Падобнае бывае даволі рэдка. Напэўна, раз у сто гадоў.

У мастацкім асяроддзі панавала сапраўдная эйфарыя, якая, на жаль, для некаторых потым скончылася вялікім расчараваннем.

Цікавасць да «рускага авангарда» тады была проста неверагоднай. Прычым ва ўсім свеце. Замежныя калекцыянеры скуплялі ўсё, што рабілі мастакі гэтага кірунку. Нагадаю, яшчэ існаваў Савецкі Саюз, які ў замежных светапоглядах атаясамліваўся з Расіяй, таму нейкіх умоўных нацыянальных падзелаў не існавала. Усе былі «рускімі»... Словам, авангардысты тады мелі і грошы, і магчымасці ствараць. Дазваляць сабе большае, чым, напрыклад, савецкі мастак, які працуе на фабрыцы.

Бліжэй да сканчэння «авангарднага рэнесансу» ў грамадстве стала з'яўляцца новая хваля жыццёвых арыенціраў — уласны бізнес. Маладых і актыўных гэтая «хвароба» закранула асабліва. У тым ліку і Артура Клінава. Усе адкрывалі нейкія фірмы, кааператывы. На змену эйфарыі вярталіся рэаліі.

З сябрам, якога Клінаў прывёз у Мінск з Піцера, яны займаліся народнымі промысламі — гжэль, палех, хахлама, матрошкі і г. д. Нічым падобным у Беларусі ніхто тады не гандляваў, таму ў першых была ўнікальная магчымасць працаваць, як кажуць, з чыстага аркуша. Першым тады ўвогуле неверагодна шанцавала. Цяпер жа ўсім гэтым літаральна забіты кожны буйны магазін.

Кампаньён Клінава — Аляксандр Русанаў (графскае прозвішча). Артур так і называе яго: «граф Русанаў». Пазнаёміліся ў Піцеры. Клінаў перацягнуў яго да нас. Атрымалася «эміграцыя наадварот».

З нязменным поспехам яны наадкрывалі сваіх гандлёвых «кропак» амаль ва ўсіх топавых гатэлях Мінска («Планета», «Юбілейная», «Беларусь») і да моманту з'яўлення вялікай колькасці канкурэнтаў вельмі добра сябе адчувалі.

Калі нехта пытаецца, чым тагачасныя бізнесмены адрозніваюцца ад сучасных, адказваю: раней шукалі нешта сваё, эксклюзіўнае, новае, а цяпер — толькі «блізкасць да цела».

Эксклюзівам створанай Клінавым і яго сябрам фірмы сталі паўтараметровыя ядвабныя хусткі з ручным роспісам.

Калі спачатку бізнес і мастацтва можна было сумяшчаць, то потым узнікла патрэба выбару. У 1995 годзе Артур Клінаў аддаў перавагу мастацтву.

## Зачыстка свабоды

І ніколі пра гэта вяртанне ў культуру не пашкадаваў. Калі ён «агледзеўся», то зразумеў, што гадоў пяць у ёй адсутнічаў. Усё вакол змянілася. У тым ліку і ў мастацтве. Займацца (як раней) авангардным жывапісам ён не мог. Трэба рушыць наперад. Артур Клінаў абраў для сябе новы кірунак — канцэптуальныя праекты, бо зразумеў, што «нерв жыцця» ўжо там. Безумоўна, заняткі жывапісам працягваліся, але ў сэнсе «галоўнасці» адыходзілі на другі план.

Першым праектам, які быў на мяжы паміж жывапісам і канцэптуальным мастацтвам, стала знаная навагодняя паштоўка з прэзідэнтам. Яе запомнілі многія, бо нічога падобнага раней ніхто не рабіў і не бачыў. Далей былі чыста канцэптуальныя праекты — інсталяцыі, выкарыстанне розных аб'ектаў поп-арту, нечаканых матэрыялаў накшталт саломы, стварэнне перфомансаў і да т. п.

Потым для беларускай культуры наступілі змрочныя часы, калі тэрыторыя свабоды імкліва звужалася (для «чужых» мастакоў усе дзверы зачыніліся), і яму прыйшлося ад канцэптуальнага мастацтва рушыць у бок журналістыкі.

Для новай улады культура, якая прымушае чалавека думаць, рухацца, шукаць, — непатрэбная. «Новыя» імкнуліся як мага хутчэй закансерваваць грамадства, для чаго патрабавалася вярнуцца ў савецкія гады з іх «людзьмі працы» і застарэлымі «працоўнымі подзвігамі». У культурным асяроддзі ўзнікла амаль пустэльня. Эмігрыравала цэлая генерацыя мастакоў. Усё наватарскае рабілася маргінальным, падпольным, можна нават сказаць, партызанскім. Так у 2001 годзе і ўзнік альманах сучаснага мастацтва «pARTisan». У першым жа нумары дэкларавалася: ён стане трыбунай незалежнай «партызанскай» культуры. Дадзены арыенцір вытрымліваецца па наш час, што дае шанец — у будучым гэта мастацтва абавязкова замяніць тую савецкую культуру, якую сёння рэанімавалі тыя, хто пачаў «кіраваць» думкамі.

Новы арыенцір паявіўся і ў жыцці самога Артура Клінава. Ён стаў пісаць не толькі карціны, але і тэксты, што (па вялікім рахунку) цалкам лагічна. Канцэптуальны мастак больш працуе з ідэямі, чым з нейкімі матэрыяламі, а яны нязменна прыводзяць да разумення таго, што самай аптымальнай формай іх ажыццяўлення з'яўляецца вербальная, то бок слова.

Выданне «pARTisan'a» прымусіла Клінава часткова змяніць мальберт на аркуш паперы і па яшчэ адной вельмі трывіяльнай прычыне. Для любога новага часопіса (асабліва з такой спецыфікай), як вядома, заўсёды не хапае аўтараў, таму рэдактар проста вымушаны кампенсаваць гэты дэфіцыт уласнымі нама-

ганнямі. Як прызнаецца сам Артур Клінаў, спачатку было вельмі цяжка, але разуменне таго, што рабіць гэта проста няма каму, настойліва стымулявала новы від творчасці. Даволі хутка прыйшло разуменне: спыняцца нельга.

Трэці нумар альманаха цалкам прысвечаны Мінску. Для яго Артур і напісаў эсэ з назвай «Горад СОНца». А яшчэ раней пачаў збіраць фотаматэрыялы, якія ілюструюць унікальнасць беларускай сталіцы, бо планаваў зрабіць (для памятнага прэзента) альбом. «Пастаральна-савецкія» здымкі не перадавалі сапраўдны гарадскі каларыт, таму Клінаў вырашыў усё зрабіць сам і гадзінамі хадзіў па Мінску з фотаапаратам.

Спалучэнне эсэ для «pARTisan'a» і гэтых фота прывялі да з'яўлення ў 2005 годзе альбома «Горад СОНца. Візуальная паэма ў трох частках». Яго заўважылі, потым тэкст некалькі разоў перадрукавалі розныя выданні, а неўзабаве самога аўтара запрасілі ў Берлін, на літаратурны сімпозіум, прысвечаны Усходняй Еўропе, выступіць з лекцыяй. Менавіта там і ўзнікла ідэя зрабіць кнігу пра Мінск, цікавую нямецкім чытачам. Такі праект прапанавала рэдактар «Suhrkamp Verlag», аднаго з самых топавых выдавецтваў Старога Свету.

Некалькі месяцаў Артур Клінаў працаваў «на немцаў». Урэшце ў ФРГ выйшла кніга «Sonnenstadt der Träume», а потым выдавецтва «Логвінаў» надрукавала яе беларускамоўны варыянт «Малая падарожная кніжка па Горадзе Сонца», які затым выйшаў у Польшчы, Швецыі, Венгрыі, Расіі. І атрымаў вельмі станоўчую літаратурную крытыку. Потым з'явіўся альбом з назвай «Дванаццаць».

У 2011 годзе літаратурны шлях Артура Клінава працягнуў вядомы «Шалом. Ваенны раман». Кніга цікава расказвае пра духоўны бунт мастака і метафарычны шалом, якім ён абараніў сябе ад навакольнага свету і перш за ўсё ад шоу-бізнесу. Кніга была сярод верагодных прэтэндэнтаў на адну з самых галоўных літаратурных прэмій Беларусі — імя Ежы Гедройца.

Варта адзначыць і яшчэ адзін даволі паспяховы дэбют. Назва яму — кіно. У 2008 годзе сябра Артура Андрэй Кудзіненка прапанаваў яму стаць мастаком-пастаноўшчыкам фільма «Масакра», які планаваўся ў якасці першага беларускага хорара. Клінаў пагадзіўся і вельмі хутка «захварэў» магіяй кіно.

На жаль, у біяграфічным нарысе немагчыма прыгадаць усе акалічнасці тых здымкаў. Але ж галоўнае — фільм адбыўся. А калі ён не адпавядае нейкім чаканням, тое сведчыць толькі пра адно: мастак ніколі не можа задаволіць усе чаканні... Асабліва калі ў яго ёсць пэўныя абмежаванні...

Адразу пасля заканчэння працы над «Масакрай» «Беларусьфільм» прапанаваў Кудзіненку працягнуць работу над новай версіяй экранізацыі знакамітай кнігі Яна Баршчэўскага «Шляхціц Завальня, альбо Беларусь у фантастычных апавяданнях». Калісьці Віктар Тураў ужо ажыццявіў нешта падобнае, але гэта быў апошні фільм рэжысёра, яго вельмі цяжка назваць шэдэўрам...

Як аўтар сцэнарыя містыку Яна Баршчэўскага Артур Клінаў вырашыў творча аб'яднаць з гістарычнымі фактамі акалічнасцяў забойства расійскага імператара Аляксандра II, якое ажыццявіў тэрарыст Ігнат Грынявіцкі. Сцэнар паспяхова прайшоў экспертную Раду пры Міністэрстве культуры і нават быў гатовы для запуску, але потым яго раптам «замарозілі».

Палітычную падаплёку гэтага рашэння бачылі ўсе — падчас «інтэграцыі» нельга нагадваць пра тое, што рускага цара некалі забіў беларускі шляхціц. Калі спачатку яшчэ жылі нейкія надзеі на «размарозку», то пасля падзей 19 снежня 2010 года стала цалкам зразумела: пры сённяшняй уладзе ажыццяўленне праекта немагчыма.

Але вернемся зноў да літаратуры. Тыя, хто прачытаў новы раман Артура Клінава «Шклатара», скажуць, што менавіта сцэнар «Шляхціца Завальні» і лёг у аснову адной з сюжэтных ліній твора. Другой сталі падзеі, блізкія кожнаму з нас (19 снежня 2010 года) і вельмі гарманічна перапляліся з чарговым каханнем галоўнага героя, у якім многія пазнаюць самога аўтара.

Як і трэба было чакаць, рэакцыя на яго вельмі неадназначная. Адны ўбачылі ў кнізе сапраўдны бестселер. Другія даволі моцна пакрыўдзіліся. Чаго тут болей — пакажа час. Бясспрэчна толькі тое, што адносіны да любой творчасці не могуць быць адназначнымі па вызначэнні. Інакш яна перастае быць творчасцю...

Можа быць, менавіта па гэтай прычыне Артур Клінаў у нейкім сэнсе і падзяляе сучасную Беларусь на два праекты — палітычны і культурны. І прынцыпова лічыць апошні больш галоўным і значным, бо калі ён не адбудзецца, няма шанцаў на нейкія палітычныя зрухі. Змена ўлады не зменіць грамадства.

Пра планы Артура Клінава на бліжэйшую будучыню лепш за ўсё распавядзе сам Артур Клінаў, таму я зноў змяняю жанр нарыса на жывую мову героя:

*— Праектаў вельмі шмат. Перш за ўсё яны звязаны з актывізацыяй працы над нашым альманахам. Калі раней выходзілі нумар-два на год, то зараз іх будзе чатыры. Да таго ж, мы пачалі новы праект — «Калекцыя pARTisan». Для Беларусі ён унікальны, гэта серыя, якая складаецца з усяго самага выбітнага, яскравага, цікавага, што адбывалася ў беларускім культурным жыцці мінулага дзесяцігоддзя. Па нашай версіі, канешне.*

*Атрымаецца своеасаблівая энцыклапедыя сучаснага беларускага мастацтва ў 32 альбомах. Кожны мае сваю літару. 10 мы ўжо выдалі. Некаторыя з іх проста ўнікальныя. Напрыклад, «Беларускае мастацтва 80-х». Ніхто гэтую тэму тады не даследаваў.*

*Словам, работы — не на адзін год.*

*07.04.14*



# Андрэй КУДЗІНЕНКА

**Калі я ўпершыню ўбачыў фільм «Акупацыя. Містэрыі», то вельмі здзівіўся таму, як яго «праглядзела» сучасная беларуская цэнзура, бо там было зусім не тое, за што так дбае афіцыйная ідэалогія. Аказалася, ніхто нічога не прапускаў, і фільм 6 гадоў «ляжаў на паліцы». Калі ж пазнаёміўся з ці не лепшым маладым рэжысёрам беларускай сучаснасці Андрэем Кудзіненкам, то зразумеў, што па-іншаму ён і не мог зрабіць, бо сам жыве надзвычай неардынарна.**

## Першыя кадры

«У маім жыцці іх «знялі» ў Брэсце 20 кастрычніка 1971 года. Бацька, Анатоль Дзмітрыевіч, быў архітэктарам. На жаль, у 2010 годзе яго не стала. А маці, Галіна Данілаўна, слава Богу, па наш час жывая, некалі працавала таваразнаўцам. У мяне ёсць старэйшая на пяць гадоў сястра Таццяна. Яна не мае ніякага дачынення да мастацтва. Працуе ў Гародні эканамістам, падлічвае каштарысы для будаўніцтва. Ужо ёсць два пляменнікі.

Бацька быў у мясцовым універсітэце загадчыкам кафедры архітэктуры. Пачынаў у праектным бюро, а потым перайшоў у педагогіку, бо зразумеў: гэта тое, што трэба. На яго магіле і зараз можна сустрэць шмат студэнтаў. Яны яго вельмі любілі.

Вучыўся я ў школе №7 з паглыбленым вывучэннем нямецкай мовы.

Калі паступіў у Кіеўскі політэхнічны ўніверсітэт, сярод студэнтаў з тэхнічных ВНУ праходзіла рэспубліканская алімпіяда па нямецкай мове ў Харкаве. Нягледзячы на тое, што я збег датэрмінова (пасля першага тура), заняў на ёй пятае месца. Тлумачылася ўсё вельмі проста. Другі тур праходзіў на наступны дзень, а тады ў футбол у Кіеве гулялі «Спартак» і кіеўскае «Дынама» (расійскі клуб, на жаль, выйграў 4:1). Мне гэта было больш цікава. Таму і збег, а так стаў бы адным з першых.

Футболам я займаўся даволі даўно, нават хадзіў у спартыўную школу. Хоць у дзяцінстве бацькі забаранялі займацца спортам наогул. У мяне чулі «шумы ў сэрцы», што, мякка кажучы, небяспечна, таму трэніраваўся падпольна.

Два першыя класы гэта была вольная барацьба, бо бацькі падманулі наконт таго, што ў футбольную секцыю бяруць толькі з чацвёртага класа. Два гады я страціў.

Дарэчы, нягледзячы на лепшыя, чым у іншых паказчыкі, спартовыя дактары да розных спаборніцтваў не дапускалі. Мабыць, яны працавалі лепш і больш сумленна за калег з ваенкамата, дзе на шмат што «закрываюць вочы»...

У футболе часцей за ўсё я гуляў нападаючым альбо паўабаронцам. І вельмі рэдка — «чыстым» абаронцам. Падчас вучобы ва Украіне ўваходзіў у склад юнацкай каманды «Арсенал», якая лічыцца ў Кіеве другой пасля «Дынама».

Аднак хутка зразумеў, што футбол (у сэнсе кар'еры) — не самае галоўнае ў маім жыцці. Хоць дапамагаў ён даволі часта. Асабліва ў студэнцкіх атрадах. Для мясцовых хлопцаў я вельмі хутка станавіўся сваім.

Ды і ў час школьнай вучобы, калі дваровыя каманды гулялі «на интерес» (звычайна дзве скрыні піва альбо пяць вядзёр піва), за мяне ішла барацьба, бо наша каманда заўсёды перамагала.

Па характары я сацыяпат, то бок чалавек, якому не проста кантактаваць з іншымі. Цяпер гэта кампенсуе алкаголь, а тады не ўжываў ні кроплі. Так што «пераможнае» піва нават не каштаваў.

Бадай, адным з самых сумных успамінаў дзяцінства можна назваць нашы паездкі ў Славянск, адкуль родам мой бацька. Дворыка майго дзяцінства больш няма. Яго разбамбілі, а справакавалі гэта сепаратысты, якіх падтрымлівае імперскі сверб Расіі. Калісьці расіянам будзе сорамна за зробленае, але сёння яны не чуюць нікога. Як чалавек, які жыве ў Маскве, я гэта ведаю дакладна...

У 1988 годзе з сярэбраным медалём я скончыў сярэднюю школу. Часта пытаюцца, навошта было ехаць у Кіеў, калі палітэх ёсць і ў Беларусі? Тым больш, што яго скончылі і мая сястра, і мой бацька. Гэта сапраўды так.

Па нацыянальнасці бацька — украінец, але вырас у сям'і вайскоўца. Беларусь абраў, напэўна, таму, што гэта радзіма яго маці, таму і стаў тут студэнтам. Падчас вучобы ён і пазнаёміўся з маёй маці. Яна родам з Барысаўскага раёна, вучылася ў Мінску ў Гандлёвым тэхнікуме.

Калі я працаваў над сцэнарам фільма пра Лі Харві Освальда, пісаў менавіта пра тыя часы і месцы, дзе яны сустракаліся. Больш за тое, мая цётка разам працавала з той Марынай, з якой Освальд потым і ажаніўся.

А абраў Кіеў я па вельмі простай прычыне — гэта горад футбола, база клуба «Дынама». А палітэх таму, што мне лягчэй было здаваць уступныя экзамены па фізіцы і матэматыцы. Па матэматыцы ў нас настаўніцай была Роза Львоўна, якая «строила» так, што яе прадмет выдатна ведалі ўсе. І гэта яшчэ раз наглядна пацвярджае выснову — у педагогіцы многае залежыць ад АСОБЫ выкладчыка.

Шчыра кажучы, я думаў, вучыцца ў палітэху будзе прасцей, а высветлілася, што там шмат чарчэння, якое літаральна ненавідзеў. Чарцяжы банальна «стеклил», то бок праз шкло пераводзіў чужыя работы на паперу.

Хацеў кінуць вучобу ўжо на першым курсе, але «дацягнуў» да чацвёртага. А потым не вытрымаў.

Прыблізна ў сакавіку 1992 года перастаў хадзіць на заняткі і цвёрда захацеў змяніць жыццёвы накірунак. Вырашыў стаць сцэнарыстам і паступіць у знакаміты УДІК.

# Сцэнары юнацтва

Назваць з чаго пачалася мая цікавасць да кінематографа даволі цяжка. Напэўна, наканаванне.

Многія памятаюць, што ў савецкія часы пасля праграмы «Час» звычайна паказвалі нейкае добрае кіно. Стараўся заўсёды глядзець і я. Да таго ж у Брэсце «цягнула» польскае тэлебачанне, якое значна адрознівалася ад савецкага. Калі не было пільнага дагляду бацькоў, я глядзеў нават эротыку.

У канцы 80-х гадоў мінулага стагоддзя адкрыліся шлюзы паміж СССР і Захадам. Адкрылася новая літаратура, кіно.

Паўтаруся, нягледзячы на поспехі ў матэматыцы і фізіцы (нават гарадскія алімпіяды выйграваў), я ніколі не быў тэхнаром, аднак і «духоўных лідараў» накшталт славутага мінскага Кіма Хадзеева таксама не было.

Набірала абароты перабудова, і наша жыццё імгненна мянялася. У Кіеве з'явіўся новы тэлеканал, дзе кожны дзень сталі паказваць фільмы так званай новай хвалі — французскай, брытанскай. Усе афігевалі.

Пасля сыходу з палітэха, я займаўся самаадукацыяй. Менавіта ў той час з'яўлялася новая для савецкіх людзей літаратура — Велімір Хлебнікаў, Ніцшэ, Шапэнгаўэр і г. д.

Бібліятэка нашага ўніверсітэта (вучылася 13 тысяч чалавек) была адной з лепшых ва Украіне і набывала шмат навінак. Я чытаў запоем. Да таго ж кнігі можна было ўзяць на пракат. На кніжных «развалах» існавала такая паслуга. Пакідаеш за яе залог, і, калі праз суткі кнігу вяртаеш, забіраеш свае грошы.

У той час і адбыўся выпадак, які падштурхнуў да новых жыццёвых арыенціраў. Сябры з мяне захацелі пажартаваць, і адзін хлопец прапанаваў два квіткі ў кіно. Маўляў, добрае кіно, але без сваёй дзяўчыны, якая занятая іншымі справамі, ён не пойдзе. Я папрасіў скласці кампанію аднаго знаёмага, аднак у таго ў той час была трэніроўка. Прыйшлося пайсці аднаму.

Паказвалі фільм Сакурава «Дні зацьмення». Пазней высветлілася, што той хлопец ведаў: прыйдзецца глядзець «нейкую муць», таму квіткі банальна

«впарил». Фільм мяне вельмі ўразіў, я ледзь не звар'яцеў. Да гэтага ўжо даводзілася бачыць карціны Андрэя Таркоўскага, але гэта было некалькі гадоў таму і прайшло «міма», бо я іх банальна «праспаў».

Цікава, што праз шмат гадоў, калі ўжо вучыўся ў Віктара Турава, я перагледзеў гэты фільм і ён мне вельмі не спадабаўся...

Так атрымалася, што яшчэ год пасля сыходу з палітэха, я жыў у нашым інтэрнаце, бо вярнуцца ў родны Брэст не мог — моцна пасварыўся з роднымі, маці нават са мной не размаўляла з-за таго, што кінуў інстытут на чацвёртым курсе.

Бацька тайком уладкаваў у будатрад сваіх студэнтаў на лета ў Польшчу. Каб я зарабіў там грошы, якіх потым і хапала на жыццё. Калі хто памятае (1992 год), суадносіны рубля і даляра былі тады такімі «смешнымі», што я мог на 11 даляраў пражыць цэлы месяц. Хапала нават на тое, каб час ад часу выпіць гарэлкі...

Сусед па пакоі Вова Залескі з Сумаў, чый брат вучыўся «на актора» і расказваў нам (за «кілішкам» гарбаты) шмат цікавых гісторый пра норавы тэатральна-кіношнага жыцця, таксама хацеў пайсці яго шляхам і паступіць «на рэжысуру». Ён шмат чытаў кніжак гэтай тэматыкі, а потым перадаваў іх мне. Мы разам хадзілі на розныя прэм'еры, абмяркоўвалі фільмы.

Кінематаграфічны шлях мяне моцна зацікавіў. Я нават з'ездзіў у Маскву і пахадзіў па УДІКу. На рэжысёрскае аддзяленне патрабавалася прадставіць фотаработы, якіх у мяне не было, таму прыйшлося выбраць сцэнарнае.

Творчы конкурс я прайшоў без праблем, час ехаць на іспыты, аднак на той момант беларусы, як і ўсе іншаземцы, за вучобу павінны былі плаціць грошы. І немалыя для мяне.

У родным Брэсце я паспрабаваў знайсці спонсара, аднак даволі хутка высветлілася, што нешта падобнае на УДІК з'явілася і ў Мінску. Да таго ж у нас на рэжысуру (значны плюс) не патрабаваліся ніякія фатаграфіі. Толькі ўжо напісаныя літаратурныя работы.

Урэшце выбар змяніўся на Мінск. Усе ўступныя іспыты я паспяхова здаў і стаў студэнтам Тэатральна-мастацкай акадэміі. Дакладней, вучнем майстэрні аднаго з лепшых беларускіх рэжысёраў Віктара Цімафеевіча Турава.

1993 год.

# Містэрыі творчасці

Значная перавага нашай вучобы была ў тым, што мы амаль увесь час праводзілі на «Беларусьфільме», а ў акадэмію прыходзілі толькі на некаторыя заняткі, накшталт «Гісторыі тэатра».

У групе першапачаткова вучылася 12 чалавек. Потым адна дзяўчынка заўчасна памерла, аднаго хлопца выгналі...

І ўвогуле. З той студэнцкай групы кіно сталі прафесійна займацца толькі тры чалавекі — Ваня Паўлаў, Сашка Колбышаў (памёр 3 гады таму) і я.

У адрозненне ад маскоўскага УДІКа, дзе студэнты дзесяць гадоў нічога не здымалі, бо не мелі дзяржаўнага фінансавання, у нас яно было. Беларусь недарэмна называюць краінай, дзе «затрымаўся Савецкі Саюз»... Масквічы нам нават зайздросцілі...

Падчас вучобы кожны студэнт здымаў па некалькі кароткаметражак. У мяне гэта «Жарцік», які потым атрымліваў прызы на фестывалях, і дыпломная работа «Гульня ў хованкі». Дарэчы, гэта карціна вельмі спадабалася другому мэтру айчыннага кіно Міхаілу Пташуку: ён пасля смерці Віктара Турава хацеў узяць мяне ў свае наследнікі і прадаўжальнікі (тады яшчэ не набраў курс рэжысёраў).

Усе тыя работы — дзіцячыя гісторыі. Прычым гісторыі ў стылі рэтра, зробленыя па творах Фёдара Сулагуба і Міхала Кузьміна. Нешта старамоднае, павільённае, з добрым грымам і элементамі трылера, містыкі.

Пастаяннае знаходжанне на студыі дазваляла больш глыбока зразумець сутнасць і змест кінематаграфічнай вытворчасці, бо мы ўвесь час кантактавалі з мантажорамі, асвятляльнікамі і г. д. Да таго ж там пастаянна нешта здымалі (пераважна рэкламныя ролікі), і маглі назіраць, як кажуць, «працэс знутры».

Акрамя гэтага Тураў перыядычна зваў нас вучыць сваіх сяброў і знаёмых.

На жаль, мы сталі апошнімі вучнямі Віктара Цімафеевіча. Першы курс ён намі займаўся вельмі шчыльна, прыходзіў кожны дзень, потым паехаў здымаць «Шляхціца Завальню», і ўжо мы час ад часу ездзілі на здымачную пляцоўку.

Па пэўных прычынах ніякіх адзнак гэтай рабоце даваць не буду. Скажу так — Тураў ужо даволі моцна хварэў...

На жаль, у 1996 годзе яго не стала.

Да выпуску нас «давёў» Аляксандр Яфрэмаў, якога шмат хто ведае па фільмах і тэатральных работах. Трэба адзначыць, што студэнтамі ён займаўся зусім не халтурна. Наадварот, ставіўся да гэтай справы шчыра і зацікаўлена. Словам — усё як мае быць.

Сваю дыпломную работу я зрабіў задоўга да афіцыйнага сканчэння вучобы і адразу пачаў працаваць у «Белвідэацэнтры», часоў дырэктарства выдатнага рэжысёра Сяргея Лук'янчыкава.

Грошай там вялікіх ніколі не было, бо відэа — значна больш танная справа, чым звычайнае кіно, і, напэўна, менавіта па гэтай прычыне панавала атмас-

фера шчырасці і прыязнасці. Усе любілі адзін аднаго, сябравалі, ахвотна ішлі на эксперыменты і дапамагалі патэнцыйным канкурэнтам.

Там я зрабіў першы фільм «Сны Валянціна Вінаградава», які спадабаўся крытыкам розных кінафестываляў. Зрабіў таксама багата эксперыментальных ролікаў, музычных кліпаў.

На мой погляд, «Белвідэацэнтр» мог стаць пляцоўкай нейкіх творчых эксперыментаў, але гэтага, на жаль, не атрымалася. З часам яго аб'ядналі з «Беларусьфільмам». Адабралі будынак на Карла Маркса, як раней у Саюза кінематаграфістаў. Зразумела — цэнтр горада. Сёння гэта называецца «адджаць» нерухомасць...

Эксперыменты мне заўсёды былі даспадобы, але яны далёка не заўсёды добра ўспрымаліся кінематаграфічным начальствам. Пачаліся даволі сур'ёзныя праблемы.

У 1999 годзе быў зроблены кароткаметражны фільм «Баран». Намеснік міністра культуры, які курыраваў пытанні кіно, Цвяткоў, спачатку не хацеў яго прымаць, а потым прымусіў значна «парэзаць».

А «Планету XX» ён увогуле «закрыў». То бок «паклаў на паліцу». Потым я гэты фільм «цішком» вазіў на кінафестывалі, і ніхто ў ім не бачыў нічога крамольнага.

Больш за тое, Цвяткоў «сутыкнуў» мяне з аўтарам «Белых Рос» Ігарам Дабралюбавым. Маўляў, я выкарыстаў яго кадры. Дабралюбаў публічна (праз артыкул) абвінаваціў мяне ў крадзяжы...

Сапраўды, некалькі яго кадраў там было (46 СЕКУНД!!!), але ў цітрах напісалі і прозвішча майстра, і фільм, з якога я браў кадры. Калі я ўсё гэта паказаў і патлумачыў Ігару Міхайлавічу, больш ніякіх прэтэнзій да мяне не стала.

Словам, надышлі цяжкія часы, поўны вакуум — ні работы, ні перспектыў.

Памятаю, у кніжцы Козінцава «Чорныя дні» я прачытаў фразу: «пачаўся глухі павучы час». Быццам пра мяне...

У той атмасферы і пачаліся здымкі «Акупацыя. Містэрыі». Першую частку (26 хвілін) знялі яшчэ ў 2001 годзе. Яна называлася «Партызанская містэрыя» і шмат каму вельмі спадабалася. Менавіта тады і з'явілася ідэя зрабіць працяг.

У канцы ж 2002-га Ратэрдамскі кінафестываль выдзеліў мне невялікую дапамогу з умовай, што «Акупацыя. Містэрыі» ўпершыню будзе паказаны ў іх.

Увесь 2003 год праходзілі здымкі, фільм быў цалкам гатовы, але па ўмовах з прадзюсарамі мы паказалі яго толькі ў 2004 годзе.

У Ратэрдаме ўсе ў захапленні, а ў Беларусі фільм забаранілі. Афіцыйная прычына — газетная публікацыя Сяргея Маліноўскага ў «Камсамолцы». Справа ў тым, што фільм запрасілі на конкурс на прэстыжны (самы высокі

клас «А») Маскоўскі кінафестываль, і мы шукалі грошы, каб «перагнаць» яго на стужку — яшчэ адна ўмова ўдзелу ў конкурсе.

З раніцы мне тэлефануе Цвяткоў (фільму далі пракатны ДАЗВОЛ у час яго адпачынку) і раз'юшана крычыць: «Ты што, звар'яцеў?!» Аказалася, газета дала назву «Міхалкоў супраць Лукашэнкі».

У гэты ж дзень у нас банальна забралі «пракатнае пасведчанне» і па савецкай традыцыі фільм забаранілі. На доўгія шэсць гадоў.

А на імя Міхалкова прыйшоў ліст ад ветэранаў, за якіх падпісаўся нейкі генерал. Сутнасць: мы супраць фільма, які супраць Лукашэнкі, што абсалютны абсурд.

Дарэчы, фільм усё ж даехаў да фестывалю, але паказы праходзілі разам з пікетамі абураных бабулек. Тады такое яшчэ дазвалялі, бо Пуцін толькі-толькі прыйшоў да ўлады. Сёння падобнае кіно паказаць у Расіі немагчыма.

## Рэжысура жыцця

Разам з забаронай фільма «забаранілі» і мяне. Некаторы час я на чвэрць стаўкі выкладаў у інстытуце, потым па мастацкай праграме крыху пажыў і павучыўся ў Польшчы.

Асабліва цяжкім стаў 2006 год. У пошуках грошай я вырашыў папрацаваць у Расіі, дакладней у Цверы, дзе праходзілі здымкі другой часткі серыяла «Кадэцтва».

Серыялы, дарэчы, вельмі небяспечная ў сэнсе творчага развіцця рэч. Рэжысёр пачынае працаваць штампамі, за якія добра плацяць. Слава Богу, нягледзячы на тое, што ў 2006 годзе я зняў яшчэ і адну з серый (11-ю) «Оперы-2. Хронікі забойнага аддзела», атрымалася адысці ад гэтага канфармізму.

Праз некалькі месяцаў, дзякуючы Андрэю Курэйчыку, пашанцавала трапіць у майстэрню Паўла Лунгіна. Там зняў прэзентаваны ў 2008 годзе фільм «Розыгрыш». Некаторыя лічаць яго рэмейкам вядомага з савецкіх часоў фільма Уладзіміра Мяншова.

Скажу так — гэта абсалютна новая карціна, якая сапраўды створана па матывах зробленай раней...

У гэты ж час у Беларусі пачалося тое, што потым назавуць лібералізацыяй. Цікава, што тады «Беларусьфільмам» кіраваў сумна вядомы Замяталін, якога цяжка абвінаваціць у нейкай любові да дэмакратызацыі.

Але трэба ўмець трымаць «нос па ветру»...

Я прывёз у Мінск адразу тры сцэнары. Сам хацеў здымаць нешта жорстка-моладзевае, але ім гэтага дабра сто гадоў не трэба. Як і якой-небудзь відавочнай палітычнай крамолы, усё павінна быць сказана эзопавай мовай.

На мой погляд, ад гэтага «Масакра» пацярпела больш за ўсё.

Нагадаю, падзеі фільма адбываюцца пасля жорсткага падаўлення расійскімі войскамі паўстання Кастуся Каліноўскага. У беларускім грамадстве пануе атмасфера страху і разгубленасці. Усё гэта накладваецца на містычную гісторыю мядзведзя-пярэваратня з вытокамі ў старабеларускіх паданнях і навеле Праспера Мерымэ.

Яе жанр я вызначыў як «бульба-хорар».

Першапачаткова там было шмат «закадравага» тэксту, ад якога мяне потым вымусілі амаль цалкам адмовіцца. Спрацавала прымітыўная цэнзура. Выказванні пра грузінскага цара, напрыклад, «выразалі» толькі таму, што на той час ужо была вайна з Грузіяй...

Па прычыне наплявацельскіх адносін і нізкай кваліфікацыі «Беларусьфільм» не змог зрабіць ніводнага спецэфекту...

І ўвогуле. Праблемы з вытворчасцю былі жудаснымі.

Пачалося з таго, што групе не плацілі грошы некалькі месяцаў на падрыхтоўку здымачнай пляцоўкі, хоць адразу і абяцалі зрабіць для фільма асобны рахунак. Для айчыннага кінематографа гэта не ўласціва. Звычайна на фільм дзяржава выдзяляе грошы, іх «кідаюць у агульны кацёл» «Беларусьфільма», адкуль потым і «кормяцца» ўсе, каму не лянота. Самае сумнае, што непасрэдна тым, каму яны і выдзелены, сродкі прыходзіцца літаральна выпрошваць. І даходзяць тыя ў апошнюю чаргу, значна «схуднелымі».

Такая ў нас «эканоміка»...

Памятаю, як у міністэрстве культуры (пасля заканчэння работы над фільмам) здзіўляліся, чаму мы так шмат вярнулі грошай. Прыйшлося тлумачыць, што я да гэтага не маю ніякага дачынення.

У беларускай кінематаграфічнай сферы адбываецца незразумелае. Нейкі мікст старой савецкай сістэмы і спробаў быць сучаснымі. Адзін адміністратар з «Беларусьфільма» мне неяк хваліўся, што яго фільм зняты аж за 600 тысяч даляраў — рэкорд таннасці, а я адказаў, што за гэтыя грошы можна зрабіць дзясятак падобных карцін. А то і ўсе дваццаць, 2-3 з іх нават канкурэнтаздольнымі.

І грошы б трапілі на вытворчасць, а не на незразумелыя «студыйныя расходы», якія з'ядаюць вялікую частку бюджэту. Сутнасць гэтых самых «расходаў» нармальнаму чалавеку зразумець вельмі цяжка — «скарацілі» ўсіх творчых работнікаў, але захавалі ў поўным складзе бухгалтэрыю і планавы аддзел!!!

Не разумею, як можна «аптымізаваць вытворчасць» без звальнення тых, хто нічога не робіць, а зарплату (за кошт розных надбавак і каэфіцыентаў)

яны атрымліваюць нашмат вышэйшую за астатніх. Рэжысёры тады мелі па 300 даляраў, а «начальства» ў пяць разоў больш...

Калі я працаваў у Паўла Лунгіна, там у вытворчасці было тры фільмы. Тое ж самае адбывалася падчас майго вяртання на «Беларусьфільм». Толькі ў Лунгіна — адзін бухгалтар і адзін эканаміст-студэнт, а тут — аж дзясяткі чалавек.

Самае сумнае, што на барацьбу з гэтай бюракратыяй марнуецца ўся энергія. Ты, як кажуць, выходзіш з сябе, амаль вар'яцееш. Здаецца, нікому, акрамя цябе, ну яшчэ 2-3 чалавекам ды акцёрам, гэта непатрэбна. Для астатніх ты — вораг, бо яны працуюць не на камерцыйнай рабоце, дзе маглі б зарабіць значна больш.

Памятаю, напрыклад, выпадак, калі прама падчас здымак чарговага кадра, вадзіцель святлабазы выключаў святло, таму што яго змена скончылася...

Даходзіла амаль да бойкі. Для апошняга кадра «Масакры» мне быў патрэбны снег. Раптам «нябесная канцылярыя» пачула гэтую просьбу і ён паваліў. Проста казка! Але на той час працоўны дзень ужо быў фармальна скончаны. Прыйшлося некаму купляць каньяк, з некім сварыцца, запужваць і г. д.

Каб сёння была магчымасць усё вырашаць самому, а не гуляць па чужых правілах, то «Масакру» я б зняў зусім па-іншаму. І справа не толькі ў нейкіх эканамічных, арганізацыйных і ідэалагічных абмежаваннях — праблема ў падыходзе да справы.

Зноў прыклад. На студыі накупілі тэхнікі, якой банальна не ўмелі нармальна карыстацца. І ўсё таму, што там не разумеюць тэндэнцый сучаснасці. Ім здаецца, што сёння самае галоўнае — тэхніка.

Мякка кажучы, гэта не так. У свеце зараз самым галоўным лічыцца іншае — талент, здольнасці, людзі. Калі сказаць больш радыкальна — мазгі. «Жалеза» становіцца больш танным з кожным днём, і калі нехта лічыць, што з дапамогай нейкіх пакупак можна ўсё вырашыць, то ён глыбока памыляецца.

На нашых вачах адбываецца татальная тэхналагічная рэвалюцыя. Усё імгненна мяняецца. Зараз на камеру за 300 даляраў можна зняць з якасцю, раней даступнай толькі прафесіяналам з надзвычай дарагім абсталяваннем.

Абсурд! Яны закупілі новы праявачны цэх, хоць «на стужку» ўжо нічога не здымаецца. Усё лічбавае, з «лічбай» працуюць нават кінатэатры. Пытанне: навошта набывалі абсталяванне за сотні тысяч даляраў?

Афіцыйны адказ: «інакш цэх праяўкі стужкі трэба звальняць»... І тое, што закуплена састарэлае, не патрэбнае, нікога не хвалюе...

Правільна сказаў на сустрэчы з Лукашэнкам паспяховы расейскі прадзюсар Сяргей Сяльянаў: не тыя прыярытэты выбраны ў кінавытворчасці. Стаўку трэба рабіць не на тэхніку, а на людзей.

Памятаю, як закупілі новы карэктар колеру. Суперсучасны! Такога нават на «Масфільме» няма. Ніхто не ведаў, як з ім трэба працаваць. Адзін хлапец усяму навучыўся і... збег у Расію ў камерцыйную структуру, бо тут атрымліваў капейкі.

Такое ўражанне, што на «Беларусьфільме» супрацоўнікі «заточаны» на нейкае супрацьстаянне цвярозаму розуму. Фактаў, якія пацвярджаюць гэтую выснову, вельмі-вельмі багата.

Самыя абуральныя звязаныя з тэхнічнымі якасцямі здымачнага матэрыялу, калі, каб даказаць сваю праўду, мне прыйшлося зрабіць тую ж працу з тэстам у Маскве і толькі пасля гэтага ўдалося нечага дабіцца тут. І гукам, які наладжваць нашы «спяцы» адмаўляліся, бо на выклік майстра той фірмы, якая прадала абсталявання, у іх няма грошы. А далей высветлілася, што згодна з дамовай, такая паслуга для пакупніка не каштуе ўвогуле нічога і аказваецца за кошт прадаўца. То бок беларускія «начальнікі ад кіно» нават уважліва не прачыталі дамову, якую самі ж і падпісалі...

Замяталін яшчэ неяк мог (часта матам) нечага дабіцца, бо яго баяліся. Усе астатнія дырэктары «Беларусьфільма» — не.

На жаль, ён моцна захварэў, калі мяне з «Масакрай» даволі подла падманулі і сталі патрабаваць, каб «закрыў год».

Па існуючых нарматывах я мог у спакойным рэжыме здымаць яшчэ паўмесяца, але «ўламалі» ўсё фарсіраваць, каб завяршыць здымкі да канца года. Я здуру пагадзіўся, а калі працягнуў іх на адзін дзень, які быў вольным (у свой выхадны), і паўзмены разам з апаратарам і каскадзёрам здымаў сцэну пажару, яны пазбавілі прэміі нашу здымачную групу.

Пры гэтым усёй студыі, то бок самім сабе, заплацілі за выкананне гадавога плана студыі, які і зрабіла наша здымачная група... Абсурд і бязмежжа!

І прытым я «зэканоміў» некалькі здымачных тыдняў, даў ім магчымасць выпісаць вялікія прэміі самім сабе... Падобнае свінства нават уявіць цяжка...

Напэўна, у такіх людзей у крыві стэрэатып асабістай перавагі, вышыні над творцамі, лічаць тых, мякка кажучы, прыдуркамі. Такое ўражанне, што яны нас люта ненавідзяць.

Успамінаю, як адна з бухгалтараў (пасля шматлікіх просьбаў) «праз зубы» выдзяляла грошы на рэкламу майго фільма з майго ж бюджэту, які я зэканоміў. І пагадзілася крыху скараціць тое, што і так было вернутае ў мінкульт, як «зэканомленае». Там, дарэчы, ад гэтай «эканоміі» схапіліся за галаву...

Падобных выпадкаў было шмат, але адзін — поўны «абзац». Дама з планавага аддзела не пускала мяне на здымкі старажытнай капліцы ў Грушаўцы (Пружанскі раён), бо могілак і пад Мінскам хапае.

Аргумент пра старажытнасць, дарэчы, не перашкодзіў ёй мяне, як хлопчыка, адчытаць... Такі вось «узровень»...

# Творчы ракурс

Пасля «Масакры» мы яшчэ паспелі запусціцца са «Шляхціцам Завальняй», але, як вядома, у снежні 2010 года лібералізацыя скончылася. Фільм, дзе беларускі тэрарыст з «Народнай волі» Ігнацій Грынявіцкі забівае рускага цара Аляксандра II, адразу стаў «крамольным».

У маім жыцці змянілася амаль усё. Памёр бацька. Не стала найлепшага сябра Сашы Колбышава. Няпраўда, што ў 2012 годзе тагачасны гендырэктар «Беларусьфільма» Алег Сільвановіч не працягнуў са мной кантракт па сваёй ініцыятыве. Наадварот, яго настойліва «прасілі» падпісаць. Я сышоў сам, таму што атрымаў адмову («па прычыне адсутнасці сродкаў») працягнуць фінансаванне фільма. Фармальна «Шляхціц Завальня» па наш дзень «у запуску», толькі зараз на «кансервацыі».

Амаль адразу з'явілася шмат прапаноў наконт здымак камерцыйных серыялаў, што мне не цікава. З сябрамі мы паспрабавалі адкрыць у Маскве новую студыю, аднак хутка разышліся ў поглядах на кіно, а адзін інвестар «адкалоўся» ўвогуле.

Праз некаторы час я зняў фільм з Іванам Аляксеевым, хлопцам, які дэбютаваў у маім «Розыгрышы». Стужку можна аднесці да жанру псіхадэлічнага трылера, а называецца ён «Hard Reboot», што адпавядае назве аднаго з трэкаў гурта «Noize MC».

Сёння гэта даволі папулярны ў Расіі калектыў.

Тады ў іх былі, калі сказаць вельмі карэктна, не самыя лепшыя часы. Група знаходзілася на мяжы распаду, Іван пасварыўся з прадзюсарамі. Мы вырашылі зняць фільм за вельмі невялікія грошы.

Паехалі ў лес і пачалі працаваць. Спачатку была задума зрабіць нешта дакументальнае, каб падрабязна расказаць пра гурт, даць кожнаму выказацца, што магло стаць своеасаблівай псіхатэрапіяй.

Падчас здымак, дзе не было зробленага раней сцэнарыя, сталі ўзнікаць розныя сюжэты і атрымаўся паўнавартасны фільм. Хачу падкрэсліць: ён прызначаўся выключна для Інтэрнэту.

На жаль, кіраўніка гурта не засмуціла, што прынцып работы быў кардынальна іншы. Яму захацелася атрымаць прыбытак, патрафіць гледачу, крыху перарабіць зробленае і «пусціць» карціну ў кінатэатры. Папросту, «срубить бабло», сапсаваўшы галоўны канцэпт.

На гэтай глебе мы і разышліся...

Зараз у мяне новы праект, які прасоўваецца метадам дабрачынных ахвяраванняў, бо ў асноўным ён трымаецца на людскім энтузіязме. Унікальны праект! Вельмі добры! Называецца «Хронотопь». Гэта як бы палітра сучаснай беларускай міфалогіі.

Я называю яго твітар-серыял. Складаецца з вельмі кароткіх гісторый па 5-7 хвілін, якія абавязкова звязаны з нейкімі абрадамі альбо рытуаламі нашай штодзённасці. Па сутнасці, гэта сучасны фальклор — нейкія міфалагічныя гісторыі, парадоксы, выпадкі і нават «страшылкі».

Гэтую ідэю і ўдзел я прапанаваў многім пісьменнікам. Усім вельмі спадабалася. А некаторыя нават вырашылі выступіць і ў якасці рэжысёраў сваіх сюжэтаў. Па сутнасці, тут бессвядомы, інтэрактыўны міфалагічны каляндар сучаснага беларуса.

Праект, хаця і будзе выкананы на прафесійным узроўні, вельмі цяжка назваць нечым чыста камерцыйным. Гэта не «хлеб з маслам». Наадварот, мы ўкладаем свае грошы.

Матэрыяльны складнік, канешне ж, вельмі важны, але ён не можа дамінаваць над творчым. Інакш атрымаецца нешта банальнае, нуякаснае».

*13.08.2015*



**Бацькі. 1964 год**



**11 гадоў**



**З роднай сястрой Таццянай і стрыечнай сястрой Ганнай. Славянск, 1981 год**



**Выпускнік школы №7 у Брэсце. 1988 год**

**Са стрыечнай сястрой Ганнай і бацькам. Славянск. 1980 год**



З бацькам



З сябрам Лёнем Кавальчуком. Кіеў, 1994 год



**З сябрам Аляксандрам Колбышавым. Мінск, 2003 год**




**На здымках фільма «Акупацыя. Містэрыі». 2003 год**



# Андрэй КУРЭЙЧЫК

Напэўна, гэта самы малады ўдзельнік майго праекта, хаця біялагічны ўзрост чалавека далёка не заўсёды гаворыць пра жыццёвы шлях. Андрэй Курэйчык паспеў ужо зрабіць так шмат, што сапраўды вельмі цяжка паверыць у яго пашпартныя даныя. Некаторыя з зайздрасці на гэты конт нават распускаюць шматлікія плёткі, якія я пакіну «за дужкамі», а на безліч іх слоў адкажу адным сваім — талент.

## Дзіцячы пралог

«Я чалавек, які першую частку свайго жыцця правёў яшчэ ў СССР, таму маё дзяцінства цалкам «саюзнае». Нарадзіцца выпала ў беларускай сям'і, якая толькі ў першым пакаленні прыехала ў Мінск. Было гэта 14 студзеня 1980 года.

Амаль усе мае сваякі — з наваколля вёскі Смілавічы.

За некалькі кіламетраў побач знаходзіцца вёска Дукоршчына. Адтуль бацька Валянцін Сяргеевіч. Ён цяпер працуе ў кантрольным аддзеле БДУ, таму што ўсё жыццё быў фінансістам, бухгалтарам, рэвізорам. Раней рабіў рэвізіі ў сістэме Міністэрства ўнутраных спраў (тылавыя ўстановы, калоніі), а больш за дзесяць гадоў таму перайшоў у Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт. Займаецца ўнутраным аўдытам.

У дзяцінстве мне было даволі цяжка зразумець усе нюансы яго работы, а вось хобі бацькі заўсёды падавалася цалкам зразумелым і блізкім. Гаворка пра ўсходнія адзінаборствы.

Яшчэ да майго нараджэння, у 1979 годзе, калі каратэ афіцыйна дазволілі, ён быў чэмпіёнам Беларусі. У дзяцінстве я літаральна трызніў гэтай справай, займаўся ў розных школах. Дарэчы, сваю секцыю на сталічным стадыёне «Тарпеда» адкрыў і бацька.

А да гэтага ён кіраваў ваенна-патрыятычным клубам «Каскад», які аб'ядноўваў былых дэсантнікаў, каратыстаў, кунгфуістаў і г. д. Апроч гэтага бацька цікавіўся рознымі практыкамі (японскімі, кітайскімі, в'етнамскімі) і меў па іх розныя паясы.

Нейкі пояс меў нават я, калі ў адзінаццаць гадоў стаў чэмпіёнам Мінска і ўсёй Беларусі па паказе так званых ката. Дзецям не дазвалялі кантакты, таму мы паказвалі (як тыя манахі з кітайскіх манастыроў) розныя дзівосы, якія і называюцца ката.

Калі пайшла сур'ёзная вучоба, я быў вымушаны адмовіцца ад гэтага хобі. З цягам часу адышоў убок і мой бацька — работа. Ён напісаў па ўсходніх адзінаборствах некалькі кніг. Я па гэты дзень (і ў Маскве, і ў Мінску) сустракаю яго вучняў, якія ўжо маюць свае секцыі.

Напэўна, шмат хто будзе цікавіцца, адкуль у звычайнага бухгалтара-эканаміста такое захапленне, таму адразу адкажу — з арміі. Ён служыў у добра вядомай брыгадзе дэсанту ў Мар'інай Горцы і цудам не трапіў у Афганістан. Іншым пашанцавала менш... З наступнага прызыву «за рэчкай» загінулі фактычна ўсе...

Захапленне ўсходнімі адзінаборствамі адчувальна дапамагае будаваць характар. Перш за ўсё мудрасць (у дзяцінстве я шмат чытаў Лао-цзы, Канфуцыя, іншых кітайскіх і японскіх філосафаў) і пэўную патрабавальнасць — калі табе балюча, нельга плакаць, трэба заўсёды быць мужчынам.

Таксама з'яўляецца нейкая цяга да эстэтыкі. Добра памятаю, як у дзяцінстве мы шукалі падпольныя відэаклубы, дзе паказвалі адпаведныя фільмы, і як убачанае ўздзейнічала на дзіцячыя погляды.

Бацька прывіў характар байца, таму я не баюся прымаць выклікі, не баюся жорсткіх дыскусій. Тыя заняткі пазбавілі ад многіх страхаў.

А маці, Святлана Вячаславаўна, родам з саміх Смілавічаў. Яна была настаўніцай інфарматыкі, якая тады толькі-толькі прыходзіла ў школы і стала як бы другой часткай майго жыцця — бабіны, перфакарты, першыя камп'ютарныя гульні... Нават не верыцца, што прайшло ўсяго 25 гадоў... Тэхналагічная рэвалюцыя праляцела на маіх вачах, праляцела імгненна...

На жаль, маці ўжо няма на гэтым свеце. Мне было толькі дванаццаць, калі яна пайшла з жыцця — няшчасны выпадак. Успамінаю даволі часта, бо менавіта маці развіла творчы пачатак.

Нягледзячы на матэматычную адукацыю, што асацыюецца з сухой строгасцю і дакладнасцю, унутрана яна была вельмі творчым чалавекам. Займалася маім пазакласным жыццём, рознымі гурткамі, прывучыла шмат чытаць. Я цяпер столькі не чытаю, колькі чытаў у дзяцінстве, і тымі поспехамі, якія ёсць сёння, я абавязаны ў першую чаргу маці.

Мне пашанцавала застаць сваю прабабку Ганну. Калі не памыляюся, 1907 года нараджэння. Яна яшчэ памятала тых самых паноў, чый знакаміты палац захаваўся ў Смілавічах. Як і многія беларускія сяляне таго часу, у Ваньковічаў працавала служкай.

А свайго малодшага (на два гады) брата Аляксандра я заўсёды ўзгадваю з асаблівымі пачуццямі. Ён быў сапраўдным міліцыянтам, «операм», рэальна змагаўся са злачыннасцю, то бок лавіў наркадылераў, сядзеў у засадах, затрымліваў бандытаў і да т. п., аднак пайшоў у іншы свет зусім не ад гэтага. Памёр на аперацыйным стале...

Я не хачу нікога ні ў чым абвінавачваць. Проста нагадаю, што гэта здарылася ў Дзень міліцыі і ў шпіталі МУС нікога з сур'ёзных спецыялістаў тады не было... Ад падобных аперацый на падстраўнікавую залозу ва ўсім свеце амаль не паміраюць... 28 гадоў...

Ад другога шлюбу бацькі ў мяне ёсць яшчэ адзін брат, Яраслаў. Зараз ён вучыцца ў гандлёвым каледжы і, хутчэй за ўсё, па жыцці пойдзе фінансавым шляхам.

# Сцэны вучобы

Мае бацькі пазнаёміліся і пабраліся шлюбам яшчэ ў Смілавічах. Бацька паступіў у наргас, маці — у педагагічны.

Даводзілася чуць некаторыя сумневы на гэты конт, а я проста абагаўляю родны Аўтазаводскі раён. Лічу яго лепшым у Мінску.

Я пражыў там усё жыццё і жыву цяпер. Раён лічыцца «пралетарскім», бо з большасці там раней жылі работнікі МАЗа, аднак, на мой погляд, ён заўсёды быў амаль самым бяспечным у сталіцы.

Старыя «нямецкія» дамы, пабудаваныя палоннымі ў 50-х гадах мінулага стагоддзя...

Так, рабацягі пасля змены маглі крыху выпіць, але ў «ліхія дзевяностыя» ў нас (у адрозненне ад іншых мікрараёнаў) не было ніякай «шпаны». Таму што саракагадовыя мужыкі, якія прастаялі за станкамі па восем гадзін, маглі за адну хвіліну скруціць у бараноў рог любога хулігана. У нашым раёне заўсёды былі парадак, чысціня і спакой. Нават дзіцем я не баяўся адзін хадзіць па вуліцах.

Школа №25 спецыялізавалася на паглыбленым вывучэнні англійскай мовы і з часам стала гімназіяй. Напэўна, яна лічылася найлепшай навучальнай установай раёна, бо там заўсёды была проста цудоўная ангельская мова. Цяпер я шмат езджу па свеце, і нідзе не могуць дакладна вызначыць, з якой краіны мой нязначны акцэнт.

У нас былі, без перабольшванняў, выдатныя педагогі. Закладзеная імі база дазваляе мне без праблем разумець усе спектаклі, свабодна кантактаваць з людзьмі, прымаць актыўны ўдзел у дыскусіях, хоць пасля заканчэння школы ангельскую мову мэтанакіравана я нідзе не «давучваў».

Сёння школьны будынак стаіць на рэканструкцыі, але тая атмасфера адчуваецца на ўзроўні падсвядомасці. Я там нават зняў моладзевую стужку «Вышэй за неба». Працягваю любіць і ўспамінаць і школу, і педагогаў з вялікай цеплынёй. Гэта была МАЯ школа.

У школе я складаў вершы, пісаў расказы і нават фантастычны раман, але гэта адбывалася не дзякуючы нейкай вучобе, а дзякуючы вялізнай колькасці прачытаных самастойна кніг. Перачытаў усяго Талстога, Дастаеўскага, Чэхава, Купрына.

Не ведаю, адкуль гэта, але ў мяне тады да чытання была нейкая паталагічная цяга. У адрозненне ад брата, я вельмі рэдка далучаўся да дваровых кампаній. Маці і бацька працавалі, і я амаль увесь час заставаўся дома адзін. І ў гэтай сваёй адзіноце (не ведаю чаму) амаль маніякальна чытаў кнігі.

Калі браць за адлік сённяшні дзень, то ў нейкім сэнсе гэта можна лічыць мінусам, бо цяпер шмат чаго прыходзіцца перачытваць нанова. Становяцца бачнымі нюансы, якія дванаццацігадовы хлопчык не мог разумець у прынцыпе.

Чытанне стала глебай для пісання. У мяне не было любімых жанраў, а крытычны рэалізм без праблем спалучаўся з фантастыкай.

Чаму фантастыка? Усё вельмі проста — будзіла дзіцячую фантазію. Таму і пісаць пачаў менавіта пра космас.

Да таго ж знікла «жалезная заслона», і на экранах з'явілася амерыканскае фантастычнае кіно. З небывалымі для савецкага гледача спецэфектамі. У 1989 годзе на вялікім экране кінатэатра я ўпершыню ўбачыў «Зорныя войны» Джорджа Лукаса. Уражвае! Зусім не тое, што мы бачылі ў класіцы савецкага кінематографа — «Госці з будучыні» альбо «Масква — Касіяпея».

Пасля дзявятага класа я пайшоў у ліцэй. Дакладней, першыя паўгода не ў сам ліцэй, а ў яго філіял, які месціўся тады на вуліцы Жудро. Другой веткі метро яшчэ не было, таму кожную раніцу прыходзілася ездзіць праз увесь горад з трыма перасадкамі...

Менавіта там на маім жыццёвым шляху і сустрэўся цудоўны настаўнік беларускай літаратуры і мовы Сяргей Скурат. Чалавек, які першым улюбіў мяне ў прафесію, навучыў разумець літаратуру.

Прычым менавіта беларускую, бо раней я лічыў яе (калі сказаць вельмі мякка) нечым несур'ёзным. Тут жа руская і сусветныя літаратуры адышлі на другі план, і для мяне адкрыліся глыбіні літаратуры беларускай. Мы заўсёды называлі яго «спадар Серж». Цяпер ён час ад часу дае бардаўскія канцэрты, а таксама выступае з Касяй Камоцкай.

Другім настаўнікам, які прымусіў сур'ёзна паставіцца да маёй творчасці (дакладней — настаўніцай) стала Святлана Віктараўна Багранцава, якая

выкладала рускую мову і літаратуру, калі я перайшоў з філіяла ў асноўную ўстанову.

Настаўніца выдзялялася неверагодным сарказмам і страшэнна высмейвала ўсе мае літаратурныя «опусы». Магчыма, яна бачыла там талент і таму, напэўна, наўмысна абірала вельмі жорсткую іронію.

Раней, як любы графаман, я лічыў, што ўсё напісанае геніяльна.

Сапраўдны пісьменнік думае наадварот. Яго адрознівае ад усіх астатніх здольнасць крытычна паглядзець на свой твор, прыбраць лішняе, дадаткова папрацаваць над тэкстам.

Да гэтага нічога падобнага ў мяне не было. Пісаў, як пісалася, і ніколі нічога не перапрацоўваў.

Святлана Віктараўна навучыла іншаму падыходу да напісанага. Сутнасць яго ў крытычным сумневу. Трэба заўсёды ў нечым сумнявацца. У асабістай геніяльнасці, альбо ў геніяльнасці іншых, напрыклад. Цалкам правільны падыход. Інакш «забурэеш», «забранзавееш», страціш хватку. І проста не зразумееш, калі ў табе скончыцца літаратар, а пачнецца заштампаваны графаман. Безумоўна, гэта была надзвычай цяжкая навука. Я злаваўся і нават вар'яцеў ад таго, што нехта не прызнае зробленага. Я і так, я і сяк, а — не прызнаюць.

У выніку такая крытыка аказалася правільным шляхам і выратавала ад «зоркавай хваробы», бо прафесійную кар'еру я пачаў вельмі рана і ўжо на чацвёртым курсе БДУ меў пастаноўкі ў Маскоўскім мастацкім акадэмічным тэатры імя Чэхава. Такога ў гісторыі гэтага знакамітага тэатра не было ніколі.

Аднак усё па парадку.

Пасля заканчэння ліцэя я паступіў на паліталагічнае аддзяленне юрыдычнага факультэта БДУ, што і тлумачыць інтарэс да палітыкі. Напэўна, цяпер гэтага няма, але тады яшчэ можна было публічна прытрымлівацца адрозных ад афіцыйных поглядаў. Мы нават хадзілі наглядальнікамі на выбары і дазвалялі сабе потым вельмі крытычныя ацэнкі. Памятаю, адна з маіх курсавых нават мела доўгую назву, частка з якой гучала так: «Класіфікацыя і метадалогія дыктатур». І выкарыстаны для напісання быў менавіта беларускі досвед...

# Спектаклі жыцця

Пры «палітычным вальнадумстве» мы вельмі скрупулёзна вывучалі ўсё, што датычыцца непасрэдна юрыспрудэнцыі — крымінальнае, гаспадарчае, адміністрацыйнае права, працэс, тэорыю права і г. д. На мой погляд, спалучэнне нейкай «вольніцы» з юрыдычнай дакладнасцю і нават жорсткасцю дало даволі цікавы эфект.

Дысцыплінавала думкі і адначасова прывучала думаць самастойна. У мяне ўзнікла структураванасць мыслення, што вельмі важна для драматургіі, бо любая п'еса альбо кінасцэнар маюць канкрэтную структуру і дакладную логіку.

І ў той жа час дазволіла не «зашорыцца». У адрозненне ад іншых ВНУ, у БДУ тады не прымушалі жорстка крочыць услед афіцыйнай ідэалогіі.

Вучоба дазволіла захаваць пэўную (збольшага крытычную) свабоду мыслення наконт развіцця краіны. Не пайсці ў адкрытую апазіцыю і не пачаць служыць уладзе. Застацца вольным ад выразнай ідэалогіі, ва ўсім сумнявацца.

Адначасова з вучобай (пачынаючы з другога курса) я пачаў працаваць. Юрыстам адной з лепшых юрыдычных фірм нашай краіны «Власава і партнёры», якая (адна з нямногіх) убудавана ў сістэму міжнароднай юрыспрудэнцыі. Ёй рабілі заказы сусветна вядомыя канцэрны, накшталт «Макдональдса», нафтавыя карпарацыі, структуры Еўрасаюза і нават беларускі ўрад.

Мне пашанцавала два гады працаваць побач з самымі лепшымі юрыстамі Беларусі. Натуральна, што студэнту з большасці прыходзілася выконваць не самыя важныя функцыі. Напрыклад, я сядзеў у чэргах у райвыканкам, калі была патрэба зарэгістраваць фірму альбо зрабіць нешта іншае.

Дарэчы, з гэтай нагоды ўпершыню сутыкнуўся з Еўрапейскім гуманітарным універсітэтам і пазнаёміўся з тагачасным рэктарам Міхайлавым. Іх «юрыдычным суправаджэннем» займалася менавіта наша фірма.

Паралельна з гэтым развівалася творчае жыццё. Яшчэ на першым курсе я пайшоў у тэатр філфака БДУ. А паспрыяла такому выбару Ірына Камінская. З ёй мы пазнаёміліся яшчэ ў ліцэі, сядзелі за суседнімі партамі. Потым Іра паступіла на філалагічны факультэт універсітэта і запрасіла мяне ў тэатр.

Вечарамі хадзіў на іх рэпетыцыі, нават пачаў выконваць нейкія ролі. Зразумеў, як усё працуе і кіруецца, адчуў сувязь з публікай і, як кажуць, палюбіў сцэну. Менавіта там я і напісаў сваю першую п'есу, і сам (з акцёрамі студэнцкага тэатра) яе паставіў. Гэта быў сапраўдны фурор. Зала літаральна разрывалася ад апладысментаў. Мы яе ігралі разоў дзесяць. П'еса называлася «Споведзь Пілата» і атрымала станоўчую прэсу.

Я зразумеў, што магу і ўмею гэта рабіць.

Па сутнасці ў тэатры было два кіраўнікі — маці і сын. Былая жонка вядомага кампазітара Яўгена Глебава Людміла Ярмак і яго сын Сяргей Яўгенавіч Глебаў. На жаль, абаіх ужо няма на гэтым свеце. Спачатку (як і мой брат) на аперацыйным стале памёр ён. Маці гэта вельмі балюча перажывала і праз некалькі гадоў пайшла з жыцця сама.

Для мяне яны далі некалькі вельмі важных жыццёвых урокаў. Першы з якіх — дэбют у якасці драматурга.

Будучы глыбока праваслаўным, Сяргей Яўгенавіч адкрыў яшчэ невялікі тэатр пры Петрапаўлаўскай царкве. Гледачамі былі прыхаджане, а п'есы ставіліся выключна філасофска-рэлігійнага плана. Так у маёй творчасці ўпершыню ўзнікла тэма рэлігіі і духоўнасці.

Для чалавека, прызвычаенага да пастаяннага сумневу і сарказму, гэта было цалкам новым і значна пашырала светапогляд. З'явіліся адпаведныя п'есы. Напрыклад «Понцій Пілат», які потым быў пастаўлены ў тэатры беларускай драматургіі, альбо «П'ямонцкі звер», дзе фабулай стала жыццё манастыра.

Гэтую п'есу потым паставілі ў розных тэатрах СНД (больш за пятнаццаць). Па сутнасці, яна і зрабіла мяне вядомым ў Беларусі драматургам.

Такім чынам, адначасова супалі адразу чатыры пласты: свабода паліталогіі, жорсткая структураванасць юрыспрудэнцыі, нейкае заліхвацкае жыццё ў прасторы студэнцкага тэатра-лабараторыі і рэлігійны накірунак творчасці.

У рэшце рэшт з'явіўся шэраг п'ес, якія сталі своеасаблівым пераломным момантам майго жыцця. Было гэта ў 1999—2000 гадах.

Менавіта ў гэты час па пошце я паслаў свае творы ў розныя тэатры. Спачатку патэлефанавала памочніца Табакова, сказала, што іх тэатр мае намер паставіць маю п'есу, і запрасіла прыехаць у Маскву. Алег Паўлавіч са мной пагаварыў і даў «дабро».

Пасля той пастаноўкі па праграме атрымання другой вышэйшай адукацыі і па пратэкцыі САМОГА Табакова мне пашчасціла скончыць (пасля БДУ) Маскоўскі інстытут перападрыхтоўкі работнікаў мастацтва і культуры. Так я афіцыйна стаў рэжысёрам. У Маскве пражыў амаль год і мог бы без праблем застацца, але зразумеў — не мой горад. Масква — энергетычна вельмі цяжкі, жорсткі Вавілон, які прымушае людзей жыць па сваіх правілах, а я чалавек, які вельмі любіць свабоду.

Аднак вернемся да часоў маладосці. Паралельна з маскоўскім трыумфам яшчэ адну маю п'есу пачалі ставіць у Мінску, потым — у Гародні. Я зразумеў, што фармуецца новая прафесія і кінуў юрыспрудэнцыю (у сэнсе звальнення з работы ў фірме «Власава і партнёры»).

У 2002 годзе з чырвоным дыпломам я скончыў БДУ. Ужо ў той час працаваў у беларускім Саюзе тэатральных дзеячаў, таму патрэбы ў размеркаванні не было. Адразу паступіў у аспірантуру на тэатральную крытыку, то бок журналістыку.

На жаль, абараніцца не здолеў па той прычыне, што тэатр (фестывалі, п'есы, прэм'еры) хутка стаў асноўнай часткай майго жыцця, і ўжо праз год з аспірантуры «ганебна збег».

Хаця і паспеў даволі шмат напісаць — больш за трыста артыкулаў, у асноўным рэцэнзіі на спектаклі. Яны былі вельмі крытычнымі, таму ворагаў за той

год у мяне стала значна больш. Пасля таго як убачыў, што нічога не мяняецца (вакол адзін застой), перастаў пісаць увогуле.

Пра тое, што вырашыў развітацца з аспірантурай, я шчыра сказаў свайму навуковаму кіраўніку, вядомаму беларускаму крытыку Таццяне Дзмітрыеўне Арловай. Маўляў, не быць мне кандыдатам навук і дацэнтам. Не маё гэта.

На пачатак новага тысячагоддзя прыпадае яшчэ некалькі буйных праектаў, да якіх я меў самае непасрэднае дачыненне.

Першы звязаны са стварэннем тэлеканала АНТ. Дарэчы, задумваўся ён як часткова прыватны і часткова дзяржаўны і больш свабодны, чым афіцыйнае беларускае тэлебачанне.

Спачатку так яно і было. Прыйшла маладая каманда, дзе я быў галоўным рэдактарам тэлеканала і прыдумаў ток-шоу «Выбар», куды першым вядучым быў пакліканы палітолаг Уладзімір Мацкевіч. Потым яго звольнілі, а ўсіх прыватных інвестараў кіраўнік АНТ Рыгор Кісель проста «адсунуў». Канал пачаў ператварацца ў другое БТ, і я сышоў.

У 2003 годзе прапанаваў стварыць у Мінску Міжнародны тэатральны фестываль «Адкрыты фармат», стаў яго арт-дырэктарам, але і яго дзяржава даволі хутка ўзяла пад кантроль. Мяне выключылі са складу аргкамітэта, а сам фестываль перайменавалі ў «Панараму».

Паралельна мы спрабавалі адкрыць у Беларусі Цэнтр драматургіі і рэжысуры і нават рыхтавалі першы спектакль. Дзяржава спачатку ідэю падтрымала, а ў апошні момант зноў «кінула». На базе таго, што ўжо было створана, узнік «Свабодны тэатр».

Акрамя гэтага пэўны час я рэдагаваў газету «Веснік культуры», якую па наш дзень выпускае адзін са старэйшых пісьменніцкіх саюзаў «Полоцкая ветвь». Іх усяго 140—150 чалавек, таму і ўдалося захаваць пэўную творчую незалежнасць, што мне надзвычай падабалася.

Пасля таго, як газету «выкінулі» з кіёскаў, прыйшлося сысці, бо рэпутацыя незалежнага чалавека моцна ім шкодзіла.

## Кіно будучыні

У 2006 годзе ў маім жыцці адбыўся яшчэ адзін кардынальны паварот. Маецца на ўвазе кіно, дакладней «Любовь-морковь». Поспех быў ашаламляльным. Карціну паказалі амаль ва ўсіх кінатэатрах СНД. У звычайным тэатры такога не бывае, бо там толькі адна зала, а тут — тысячы экранаў.

Мяне гэта вельмі зацікавіла і захапіла. Пайшлі камедыі, дэтэктывы, ваенныя драмы і г. д. На сёння іх ужо больш як дваццаць.

Тры гады таму першы трыумф быў паўтораны «Елкамі», якія аказаліся суперпаспяховымі і запусцілі працэс. Зараз кожны новы год будзе нешта падобнае.

Хутка ўсё гэта (камерцыйны поспех) крыху надакучыла, бо я марыў, мару і буду марыць пра кіно нацыянальнае. Беларускае.

Напэўна, з гэтай нагоды я вельмі крытычна выказваўся ўжо тысячу разоў. У нас усё ёсць. Грошы, магчымасці, таленты. Няма палітычнай волі, цікавай тэмы, сапраўднай творчасці, то бок усяго, што можа «запусціць махавік».

На мой погляд, іх няма, таму айчынны кінематограф існуе толькі намінальна. Здымаем не самыя лепшыя расійскія серыялы, спрабуем займацца нейкай ідыёцкай прапагандай накшталт «Авеля», а нацыянальнага беларускага кіно няма. У Расіі — ёсць, у Польшчы — ёсць, а ў нас — няма.

Адзін Андрэй Кудзіненка, які арганізаваў мой акцёрскі дэбют у фільме «Акупацыя. Містэрыі», не можа за ўсіх цягнуць «воз» рэжысуры. Міхаіл Пташук загінуў і, на жаль, не пакінуў пасля сябе дастойных вучняў, якія маглі б працягваць яго справу. Новага моцнага (у гэтым сэнсе) пакалення пакуль не з'явілася, таму і добрай беларускай рэжысуры катастрафічна не хапае. Акрамя гэтага, не хапае творчай свабоды.

За «Вышэй за неба» я біўся як звер, бо прынцыпова лічу, што калі мы гаворым пра кіно як пра мастацтва, яно павінна быць смелым, цэласным, непадцэнзурным і г. д. У нейкім сэнсе, бітва была амаль крывавай. І я вельмі спадзяюся, што змог праз свой фільм паказаць: мы пабудавалі такую краіну, што свабодным у ёй можа быць толькі хворы на СНІД...

Паміж маім фільмам і кудзіненкаўскім «Акупацыя. Містэрыі» — дзесяцігадовы інтэрвал. Пасля «Вышэй за неба» ён наступіў зноў.

Дарэчы, той фільм Андрэй Кудзіненка зрабіў за вельмі невялікія грошы галандскага Фонду па падтрымцы кіно, таму і змог пазбегнуць беларускай цэнзуры.

Некаторы час я выкладаў ва ўніверсітэце культуры. Матэрыяльна гэта падобна на гуманітарную дапамогу, але галоўным было іншае. Як і казаў, Беларусі вельмі патрэбны свае сцэнарысты, рэжысёры. Трэба іх вучыць, а вучыць няма каму. Таму я і пагадзіўся, але выкладчыцкі перыяд быў вельмі кароткім. Ад мяне проста пазбавіліся.

Калі нехта лічыць, што беларускія ўлады станоўча ставяцца да Курэйчыка, то гэта абсалютная хлусня. Насамрэч мне не даюць тут ні зняць кіно, ні паставіць спектакль.

З апошняй буйной пастаноўкі («Пане Каханку») прайшло больш за тры гады, і нічога іншага рэалізаваць у Мінску ў мяне не атрымалася. Многія кажуць,

што (асабліва пасля выказванняў пра прэзідэнцкія выбары 2010 года) з маім прозвішчам «ёсць праблемы»...

Адзін плюс — я ў іх нічога не прашу. На мяне немагчыма «наехаць». Таму пастаянна і кажу рэчы, якія не падабаюцца беларускім уладам. Яны ўжо прызвычаіліся да таго, што ўсе вакол лісліва «глядзяць у рот», а тут Курэйчык са сваёй праўдай...

Добрыя п'есы, калі яны сапраўды таго вартыя, перажывуць усіх чыноўнікаў. Шэкспір напісаў свае п'есы чатыры стагоддзі таму, а «Гамлета» на розных сцэнах ставяць і сёння.

Спадзяюся, што і ў мяне ёсць нешта вартае для нашчадкаў...

А вось з кіно ўсё значна складаней.

Гэта мой боль. Кіно — калектыўнае мастацтва, аднаму (нават самаму таленавітаму) тут нічога не зрабіць. Каб атрымалася годна, трэба агульнае супадзенне высокай прафесійнасці — рэжысёр, сцэнарыст, аператар, акцёры, дэкаратары, здымачная група. Словам, патрэбны моцны калектыў.

Па гэтай прычыне я і імкнуся выкладаць — кінасцэнарыстыку ў ЕГУ і прыватнай мінскай школе. Кіно — гэта не толькі грошы. Пры жаданні яго можна зняць і на мабільнік, толькі трэба, каб здымачная пляцоўка літаральна бурліла ад ідэй.

На жаль, зараз у Беларусі на іх адчувальны крызіс. Такое ўражанне, што людзям сёння няма што сказаць, альбо яны баяцца рабіць гэта. Таму я не проста выкладаю. Я шукаю».

*10.12.2014*



**Вяселле бацькоў.1978 год**



**З маці**





З бацькам у Туапсэ.1986 год




З сынам. Лас-Вегас. 2009 год



# Гэнік ЛОЙКА

**Не ведаю, як іншым, а мне ўявіць скульптара Гэніка Лойку без бел-чырвона-белай стужкі на галаве вельмі цяжка, таму адно з першых пытанняў і было: «Навошта?» Аказалася, прычын дзве. Па-першае, так лягчэй спраўляцца з доўгімі валасамі, якія час ад часу «лезуць у вочы». Па-другое, так здалёку бачная яго прыналежнасць да беларускіх нацыяналістаў.**

## Пачатак бунтарства

«На мой погляд, пачынаць трэба не з пашпартнай даты народзінаў, то бок 9 сакавіка 1962 года, а з таго моманту, калі я стаў нацыяналістам, дзякуючы настаўніку Генадзю Генадзевічу Сакалову-Кубаю. Ён пачаў выкладаць у мастацкай школе, якую мы называлі «Парнатам», з 1977 года.

Генадзь Генадзевіч выкладаў гісторыю мастацтваў. У параўнанні з Кірылам Уладзіміравічам Зеляным (выхаванцам піцерскай мастацкай школы), які ўсё расказваў коратка і ясна, тут было нешта несістэмнае. Але з кожным выпускным класам ён займаўся пазаўрочна, прыходзіў па вечарах у майстэрню, і яны падоўгу пра нейкія рэчы размаўлялі. На трэці год настала чарга майго класа. З намі працаваў больш эфектыўна, бо ўжо меў досвед з ранейшымі выпускамі.

Урокі ў яго праходзілі вельмі арыгінальна.

Напрыклад, настаўнік піша на дошцы шэраг датаў накшталт 1410 ці 1514. Для нас гэта пустыя лічбы. Максімум, што маглі дапусціць: «Гэта звязана з Іванам Грозным?» Генадзь Генадзевіч загадкава пасмяяўся, а потым цэлы год вучыў: «Пaглядзіце, як вас абалваньваюць — у вашых галовах суцэльная Масква. Вам пастаянна талдычаць пра «русское». Калі чалавеку ўвесь час казаць, што ён свіння, то той зарохкае. Атрасіце з вушэй «развесистую клюкву». Урэшце вучні так уведалі родную гісторыю, што маглі назваць кожную харугву Грунвальдскай бітвы.

На многае раскрыў вочы. Бацькоў гэта крыху насцярожвала, але нашу прагу пошуку праўды было ўжо не спыніць.

У Парнаце мелася традыцыя. Тройчы вучням ладзілі вандроўныя паездкі — Кіеў, Масква, Ленінград. Паездкі арганізоўвалі ў храналагічным парадку,

таму для выпускнога класа «свяціла» вандроўка ў горад на Няве, аднак Сакалоў-Кубай нас павёз у Вільню, што значна бліжэй для беларусаў.

Расказаў там шмат цікавага, а калі нехта спытаў наконт валодання роднай мовай, без праблем пачаў размаўляць на ёй. Ды так прыгожа, што для многіх (па-добраму) гэта стала сапраўдным шокам. Асабліва таму, што гучала яна не з нейкага абстрактнага радыё, а з вуснаў жывога чалавека.

Менавіта тады ён сказаў, што летам у Вільні адбудзецца спеўны фэст, які праходзіць кожныя пяць гадоў. Мы паехалі і на яго і былі літаральна ўражаны колькасцю нацыянальных строяў і тым, што кожны абавязкова адрозніваецца ад іншых.

Аказалася, шмат тых строяў шылі ў Маладзечне, бо Літва не спраўлялася з замовамі.

Як гэта прыгожа! Людзі ідуць і спяваюць! І ніхто іх не прымушае!

На жаль, неўзабаве Генадзя Генадзевіча з выкладчыкаў «турнулі». Начальству не спадабалася яго шчырая любоў да ўсяго нацыянальнага.

Аднак крыху вернемся да дзяцінства.

Мае бацькі — простыя сяляне. Тату звалі Станіслававам Зыгмундавічам, а маму — Ганнай Міхайлаўнай Маўдук. Гэта яе дзявочае прозвішча.

Родная вёска — Мікелеўшчына Мастоўскага раёна Гарадзенскай вобласці. У нашай сям'і расло пяцёра дзяцей. Я — сярэдні. Ясь і Ядзя — старэйшыя. Валя і Стась — малодшыя.

Па пашпарце мяне таксама завуць Генадзем, але ў штодзённым жыцці — Гэнікам. Так гучыць больш па-нашаму.

Падчас вучобы ў школе ўсе дзеці вельмі добра малявалі. Брата Яся маці павезла паступаць у наш Парнат, але не атрымалася, і ён пайшоў у ПТВ будаўнікоў. Аднойчы брат убачыў, што пачаўся чарговы набор вучняў у Рэспубліканскую школу-інтэрнат па музыцы і выяўленчым мастацтве, прывёз дамоў іх афішу. І маці зноў павезла ў Мінск сына. На гэты раз — мяне.

У 1973 годзе я скончыў чатыры класы вясковай школы і з пятага па адзінаццаты вучыўся ўжо ў Парнаце.

Памятаю, як пасля ўступнага экзамену па матэматыцы прыбег да мамы і пачаў пытацца: «У канцы задачы я правільна напісаў «ответ»? Гэта «адказ»?»

Пашанцавала. Паступіў на аддзяленне скульптуры. Праз пэўны час у Парнаце апынулася і мая сястра Валя.

Дарэчы, калі мы ў 1980 годзе заканчвалі школу, дамовіліся ўсе выпускныя экзамены здаваць на беларускай мове.

Чаму Парнат? Гэтую назву прыдумалі самі вучні. Напэўна, так было прасцей, чым «інтэрнат». А можа, за аснову быў узяты знакаміты Парнас.

Цяпер да афіцыйнай назвы дадалі яшчэ і «імя Ахрэмчыка», але гэта, што называецца, «прыцягнутае за вушы», бо ён да нашай школы не мае ніякага дачынення. Пры жаданні можна назваць адразу некалькі прозвішчаў мастакоў, якія заслугоўваюць гэтага больш...

## Крокі сталення

Да паступлення ў Тэатральна-мастацкі інстытут я таксама рыхтаваўся выключна на беларускай мове. А яшчэ раней у Вільні пазнаёміўся з Вінцуком Вячоркам. Падчас новай вучобы кантакты з ім аднавіліся напоўніцу.

Як толькі я стаў студэнтам (зноў аддзялення скульптуры), мы (першакурснікі) пачалі шукаць моўных аднадумцаў.

Ужо падчас першай «бульбы», пачуўшы гутарку на беларускай мове, да нас падышоў Ігар Марачкін. Шчыра ўзрадаваліся — свой.

Аказалася, што сярод студэнтаў тыя, хто размаўляе на беларускай мове, ёсць яшчэ. Хутка ўсе пазнаёміліся. І былыя выпускнікі ўзгаданага раней Сакалова-Кубая, якія вучыліся ўжо на трэцім курсе, у сваёй майстэрні прапанавалі правесці агульную сустрэчу.

Сабраліся і дамовіліся, што нешта трэба рабіць і пакрыху адраджаць беларускую мову і культуру. Вырашылі пачаць з насценгазеты. Неўзабаве сабраліся яшчэ раз, і на сустрэчу прыйшлі два хлопцы, якія былі ў пэўным сэнсе дэлегатамі філалагічнага аддзялення БДУ — Сяргей Запруцкі і ўжо знаёмы Вінцук Вячорка. Узнікла прапанова нешта рабіць разам. Нягледзячы на размовы пра адсутнасць музычных талентаў, яны запрасілі нас на народныя спеўкі. Прыйшлі і ўбачылі, што вядзе гэтыя імпрэзы выпускніца нашай жа школы Ларыса Сімаковіч.

Напэўна, некаторыя рэчы пачаліся на год раней, але ясна і канкрэтна «Майстроўня» заявіла пра сябе менавіта позняй восенню 1980 года, а зімою 1980-1981 года мы ўпершыню праспявалі Уладзіміру Караткевічу калядныя песні.

Добра памятаю, як разгубілася міліцыя. Яны не ведалі, што трэба рабіць, як сябе з намі паводзіць, з якога боку падступіцца. А кадэбэшнікі эмацыянальна казалі, што іх «телефоны накалились докрасна». Указваючы на калядную зорку, патрабавалі: «Уберите солнышко!»

Пазней яны навучыліся з любым іншадумствам змагацца дубінкамі амапаўцаў...

Як вядома, моладзі заўсёды ўласцівы нейкі максімалізм, таму цалкам зразумела наша жаданне распаўсюдзіць беларушчыну як мага шырэй. Памятаю,

як адбываліся спрэчкі на гэты конт. Я прытрымліваўся плыні, якая лічыла, што ў гэтым кірунку трэба рухацца паступова і абмяжоўвацца крокамі накшталт калядных спеваў.

А, напрыклад, Віктар Івашкевіч заклікаў паўсюды ствараць Таварыствы беларускай школы, чыімі сябрамі (галоўнае) могуць быць ТОЛЬКІ тыя, хто размаўляе ТОЛЬКІ па-беларуску. Апошняя частка гэтай тэзы мне тады і падавалася непрымальнай.

Самае цікавае, што з часам мы як бы памяняліся месцамі.

У пачатку новага стагоддзя я стаў больш радыкальным, а ён, як адзін з кіраўнікоў БНФ, пачаў ставіцца да моўнай праблемы больш талерантна, бо ведаў, што ў тым жа рабочым асяродку немагчыма дабіцца нечага раптам, а трэба вырашаць усё паступова.

Калі 13 чэрвеня 1984 года адбыўся пікет супраць зносу першага беларускага тэатра, улады ўзяліся за «Майстроўню», як кажуць, напоўніцу. Супраць невялікай групы пратэснай моладзі была скарыстана ўся моц рэпрэсіўнага апарату савецкіх часоў, і ўжо восенню таго ж года «Майстроўня» спыніла сваё існаванне.

Нягледзячы на гэта, кадэбісты нас працягвалі «круціць». Кожнага паасобку. Закранула гэта і мяне. Я нават хацеў стаць «шцірліцам». Параіўся з Вячоркам. Ён сказаў: «Рабі, як хочаш сам, але, на маю думку, не трэба з д'яблам гуляць у гэтыя гульні, не сунь палец ім у пашчу — паглыне».

Вінцук — вельмі талерантны чалавек. Ён заўсёды агучвае максімальна дакладную асабістую ацэнку, але дае чалавеку зрабіць выбар самастойна. На мой погляд, менавіта за гэту якасць ён і кіраваў «Майстроўняй», а потым і БНФ.

Словам, нягледзячы на моцны ціск КДБ, прымітыўны шантаж, спробы запужаць, я так і не стаў іх сексотам. Больш за тое, атрымаў абяцанне вайсковай службы «на Крайняй Поўначы».

На шчасце, тая пагроза не спраўдзілася. Дзіва, але я трапіў служыць на сталічную вуліцу Каліноўскага, дакладней у батальён абслугоўвання вайсковага палітычнага вучылішча. Там рабілі новы вучэбны корпус, для афармлення якога і патрабаваліся мастакі. Адзін з нашых выпускнікоў рабіў па ім сваю дыпломную работу. Разам з ім і прызвалі яшчэ шасцёра.

Спачатку сямёра мастакоў жылі асобна ад астатніх салдат, проста на месцы працы. У казарму нас перавялі толькі пасля таго, як яе адрамантавалі.

А як выйшаў загад тагачаснага міністра абароны Язава ўсіх «блатных» накіраваць у месцы службы, што не менш за сто кіламетраў ад пункту прызыву, мяне накіравалі ў Гародню, гэта недалёка ад маёй вёскі.

Да «дэмбелю» заставалася ўсяго некалькі месяцаў, але звальнялі ўжо з блакітнымі пагонамі дэсантных войскаў. Хоць я нашу акуляры і не падобны да нейкага Рэмба...

Але вернемся да «Майстроўні». Яна скончылася, пачалася «Талака», бо прага да актыўных дзеянняў засталася. Спевы пад кіраўніцтвам Ларысы Сімаковіч працягваліся. Планы на гэты конт у яе былі даволі вялікімі. Вельмі хутка ўтварылася суполка «Дзянніца». Але адных песняў мала. Утварылі Таварыства беларускай школы і пачалі ладзіць у Траецкім прадмесці суботнікі.

Да ідэі вельмі хутка «прымазаўся» камсамол. Пра нас нават напісала маладзёвая «Чырвоная змена».

На адным з суботнікаў я спытаў хлопца, які ведаў літоўскую мову, як гэта называецца там. Ён адказаў — «талка». Вельмі ўзрадаваўся, бо ў нас таксама ёсць падобнае слова — «талака». Усім гэта надзвычай спадабалася, і хутка ўслед за мінскай «Талакой» пачалі ўзнікаць падобныя аб'яднанні па ўсёй Беларусі.

Неўзабаве ўтварылася Канфедэрацыя беларускіх суполак.

Так што ў «Талацэ» я паспеў пабыць яшчэ да вайсковай службы. А калі вярнуўся, убачыў, што ў краіне пачала актыўна развівацца гарбачоўская перабудова. Жыццё віравала. Узнік Беларускі народны фронт, і да ідэй нацыянальнага адраджэння падключыліся (не толькі маладыя рамантыкі) шмат знаных, знакавых людзей.

Як і многім, мне падалося, што ўсё тут будзе ў парадку, таму вырашыў крыху «адысці ўбок».

# Пясок памяці

Сярод жыццёвых арыенціраў грамадскае саступіла месца асабістаму.

Перад вайсковай службай мяне размеркавалі ў Бярэсце, але папрацаваць там не паспеў. Пасля арміі хацеў паехаць у Гародню, аднак з дапамогай аднаго з сяброў прапісаўся ў сталіцы і пачаў працаваць тут.

Дакладней, у музеі народнага дойлідства і побыту, што месціцца ў вёсцы Азярцо, побач з Мінскам. Праз хуткі час працаваў у такім жа музеі-запаведніку ў Заслаўі.

Потым на тры гады я пайшоў у тое, што мы называлі «азгурантурай», то бок стаў працаваць пад кіраўніцтвам Заіра Азгура ў Акадэмічных творчых майстэрнях.

У гэты ж перыяд (1983 год) я ажаніўся. Жонку завуць Алена Каравай. Яна мая аднакласніца па Парнаце, мастацкім інстытуце і поўная аднадумца.

Пачаў працаваць настаўнікам у родным Парнаце. Спачатку па сумяшчальніцтве з «азгурантурай», а потым на поўную стаўку. Працаваў даволі доўга. Спачатку завучам быў Валер Піменавіч Свістуноў. Пад яго «капалі» і хутка замянілі чалавекам, які нават маладзейшы за мяне, але «палітыку, разумее, як след».

Лукашэнка пачаў «закручваць гайкі», а рэжым паўсюды стаў як бы крышталізавацца. Сістэма падбірала людзей, якія будуць верна ёй служыць. Іншыя з яе пакрыху выцясняліся. У кожным кіруючым крэсле сёння сядзіць свой МАЛЕНЬКІ дыктатар, які не прымае іншых думак. А кіруе ўсімі імі самы ГАЛОЎНЫ дыктатар.

Пакуль Пеця Багданаў яшчэ не быў завучам, на праглядах любіў выбраць для сябе нейкую ахвяру і «разнесці» ў пух і прах. Я не вытрымаў і сышоў.

Адбылося гэта так.

У 1999 годзе ў мяне была вельмі цікавая практыка — скульптура з пяску. Сваіх вучняў я завёз у Заслаўе, і там на кар'еры з пяску выразалі скульптуры. Гэтую новую плынь, на мой погляд, трэба было падтрымаць, але Багданаў паставіўся варожа і на праглядзе ўчыніў такі разнос, што дырэктарка вымушана стала на яго бок.

Я вельмі раззлаваўся і ў 2000 годзе (тысячагоддзе з дня смерці Рагнеды) вырашыў правесці яшчэ адзін аналагічны пленэр. Вучняў пачаў падбіраць яшчэ зімой, а галоўным крытэрам адбору вызначыў валоданне беларускай мовай.

Так ім і сказаў: «Летам плануецца акцыя. Вельмі цікавая. Таму я ўжо зараз пачну прыслухоўвацца да таго, хто размаўляе па-беларуску, таго і вазьму».

Бліжэй да лета расказаў і тэму — зробім Рагнеду, якая будзе сорак метраў даўжынёй. Маўляў, можаце прыдумляць эскізы. Дзеці крыху разгубіліся, таму ўсё прыйшлося тлумачыць ім, як кажуць, на пальцах.

Не зусім яны зразумелі сутнасць маёй задумы і пасля прыезду на пясочны на кар'ер. І не толькі яны. Фатограф, які павінен быў здымаць усе этапы нашай работы, таксама нічога не разумеў.

Канешне, мне было лягчэй. У першую чаргу таму, што я ўжо ведаў тую мясцовасць і добра бачыў, што і як трэба рабіць. Убілі калочкі для арыенціраў, нацягнулі паміж імі адпаведныя стужкі, пачалі капаць.

Капалі трое сутак. Жылі ў намётах. Дзецям было вельмі цікава. З часам пясочная скульптура пачала вырысоўвацца.

У той жа час узнікла ідэя зрабіць у Магілёве «магілу льва», бо па легендзе гэты горад на ёй і паўстаў. Больш за тое, пачалі марыць каб зладзіць цэлую серыю пленэраў, назваць яе «Легенды з пяску», звязаць іх з беларускай гісторыяй і беларускімі паданнямі. Выключна!

У выніку пленэр цягнуўся дзесяць гадоў, і знойдзеная тады канцэпцыя з кожным разам станавілася ўсё больш яснай і бескампраміснай — БЕЛАРУШЧЫНА.

Неаднаразова даводзілася чуць, што мы не павінны «біць у лоб», што прасоўваць у грамадства ўсё беларускае трэба пастулова. Як мне казалі, «прыгажосць пясочных скульптураў і прывядзе дзяцей да беларускай мовы». Вельмі спрэчны тэзіс. А чаму не да оперы, напрыклад?

На мой прынцыповы погляд, да вырашэння гэтага пытання трэба падыходзіць НАДЗВЫЧАЙ прынцыпова і рашуча.

Дзесяць гадоў на пленэрах я пагаджаўся на нейкія моўныя кампрамісы. І што? Прывяла наша прыгожая скульптурная творчасць да росту цікавасці да беларускай мовы? Не. Тут няма аніякай залежнасці.

З 2001 года я не магу назбіраць на пленэр «Шлях з варагаў у грэкі» 30 «спартанцаў», то бок удзельнікаў з беларускага боку, бо ён плануецца, як нацыяналістычны, і аніводнага слова там не прагучыць на рускай мове.

## Бел-чырвона-белая будучыня

З Парната я звальняўся, як кажуць, «па асабістым жаданні».

Шчыра кажучы, адважыцца на такі крок складана. 14 гадоў педагагічнага стажу як-ніяк. Зразумела, што некаторыя творцы працуюць «на вольных хлябах», але асабіста мне гэта падавалася чымсьці некамфортным.

На шчасце, часу для сумневаў было няшмат. Амаль адразу запрасілі ў 185-ю школу, якая мае «мастацкі ўхіл». Працаваць давялося ўсяго некалькі гадоў. На гэты раз мяне звольнілі «за палітыку».

Калі ўдзел у выбарчай кампаніі Мілінкевіча яны яшчэ сцярпелі і абмежаваліся рэакцыяй на маю бел-чырвона-белую стужку (дырэктарка папрасіла яе зняць, бо тая «оскорбляет русскоязычных»), то тут не вытрымалі.

Справа ў тым, што на адным з заняткаў я заклікаў вучняў прыйсці на акцыю па святкаванні Дня Волі і раздаў ім адпаведныя ўлёткі. Мабыць, нехта ёй пахваліўся...

Мяне звольнілі за два месяцы да заканчэння вучэбнага года. Сыходзячы, я «грымнуў дзвярыма», гэта значыць, выказаўся ў прэсе. Некаторыя калегі па той рабоце казалі, што «так нельга, такім шляхам ісці не трэба».

Я таксама баюся. Страх мае ўласцівасць маляваць вельмі рэалістычную будучыню. Прадбачыш усе негатыўныя варыянты. А вось магчымых пазітыўных акалічнасцей нават не ўяўляеш. А яны былі. Самае цікавае, што восенню таго ж года Лукашэнка загадаў скасаваць «ухілы», і ўсіх «памяркоўных» мас-

такоў без шуму скарацілі. Выйшла так, што я змог выказаць нейкі пратэст, а ад іх пазбавіліся «ціхай сапай»...

Праз некаторы час прынялі на работу ў мастацкую вучэльню імя Глебава. Там якраз ішоў рамонт, магчыма, менавіта таму дырэктар і «прагледзеў», каго прымае на працу. Год я правучыў дзяцей без якіх-небудзь дысцыплінарных заўваг, аднак гэта не перашкодзіла зноў звольніць.

Напэўна, начальства зноў раздражняла бел-чырвона-белая стужка на галаве...

Дарэчы, калі адбылося чарговае звальненне, я напісаў на гэты конт ліст міністру культуры, дзе сярод прычын звальнення ўказаў патрабаванне да банка выдаць картку на беларускай мове, да настаўніцы беларускай мовы — размаўляць са мной па-беларуску, а то ёй за межамі ўрока «проще разговаривать по-русски», да дырэктара — патрабаванне перавесці навучанне на беларускую мову.

Потым я крыху вёў мастацкія гурткі, пару гадоў працаваў у «Белрэстаўрацыі», дзе, падчас афармлення новай прэзідэнцкай рэзідэнцыі, заробкі былі вельмі добрымі, а зараз — «вольны мастак».

Мабыць, асноўнай працай апошняга часу стаў выраб мемарыяльнай дошкі для дома ў Празе, дзе жыла Ларыса Геніюш. На жаль, яна не ўстаноўлена па наш дзень. Не ўмею я нешта «прабіваць»...

І ўвогуле. Зараз я лічу сябе больш не скульптарам, а беларускім нацыяналістам.

Нават «адсядзеў» пяць сутак за пікет пратэсту, які зладзіў каля «беларускамоўнай» гімназіі, дзе вучыцца мой сын. У дзяржаве знікае беларускамоўная адукацыя. Працэс незаўважны, ціхі. А я не захацеў, каб усё было ціха.

У мяне з Аленай трое дзяцей — Яраш (1994 г. н.), Кіра (1999 г. н.) і Любарт (2001 г. н.). Усе добра вучацца, выдатнікі. Размаўляем паміж сабой толькі на беларускай мове. Прынцыпова!»

*13.05.2015*



Аўтапартрэт




Удзельнік пацыфісцкага маршу па Лідчыне супраць савецкіх вайсковых базаў. 1988 год



Пачатак сям'і. З жонкай Алёнай і першым шчасцем — сынам Ярашам. 1995 год



**Траецкае прадмесце. Гуканне вясны. Сярэдзіна 80-х**



**Скульптурны пленэр «Lehienda z piasku». І са снегу.**



# Віктар МАРЦІНОВІЧ

У тым, што Марціновіч лічыцца адным з самых культавых маладых пісьменнікаў Беларусі, пераконваць нікога не трэба, але далёка не ўсе ўяўляюць, што за гэтым стаіць. Аўтар літаральна быў уражаны яго творчым нонканфармізмам, а ад таго, што з'яўляецца земляком Віктара, на паўтары гадзіны стаў «вышэйшы ростам».

## Ашмянскі далягляд

«9 верасня 1977 года я нарадзіўся ў родных для маёй маці Ашмянах, але пражыў там усяго некалькі месяцаў — бацькі перавезлі ў Мінск. Далей пачынаецца цікавая гісторыя, бо я быў упэўнены, што з таго часу жыў толькі ў Мінску. Літаральна год таму высветлілася, што гэта не так.

Мой бацька, Валерый Андрэевіч Марціновіч, родам з вёскі Барбарова Глускага раёна Магілёўскай вобласці. Гэта самая мяжа з Гомельшчынай.

Мне было ўжо 36 гадоў, калі мы ў чарговы раз прыехалі на яго «малую радзіму». Бацька стаў успамінаць маё дзяцінства і паведаміў, што першыя гады я жыў менавіта там.

Аказалася, у Мінску я прабыў толькі больш за тыдзень. Бацькі жылі на здымнай кватэры, не маглі мяне даглядаць і «заслалі» ў Барбарова, дзе жылі дзед з бабай. Так што першыя тры гады майго жыцця былі «вясковымі».

Гэта амаль не захавалася ў памяці.

Помню толькі адзін эпізод: маленькім хлопчыкам сяджу каля грубкі. Печка падаецца вельмі вялікай. Потым неаднаразова (і безвынікова) я спрабаваў зразумець, адкуль гэты дзіцячы ўспамін? Расповед бацькі ўсё лагічна растлумачыў.

Як вядома, Беларусь — гэта Захад і Усход. На захадзе — каталіцкія Ашмяны, на ўсходзе — руска-ўкраінскае праваслаўнае Барбарова.

Ва ўзросце некалькі тыдняў бабуля па кудзелі адвезла мяне ў Медзінінкай і пахрысціла ў каталіцкім касцёле. У Ашмянах гэтую вёску называюць Меднікамі, якой яна і была «за польскім часам», а сучасная літоўская назва — Медзінінкай.

Дзявочае прозвішча маці — Дыяна Іосіфаўна Гудзінская. Некалькі гадоў у Ашмянах яны жылі ў самым пачатку вуліцы Зарэчнай, чыя назва гаворыць пра сутнасць. Прыватны дом, даволі круты абрыў, а ўнізе рэчка Ашмянка. Потым пераехалі ў канец вуліцы Савецкай, якая раней называлася па-рознаму, але больш вядома мясцовым жыхарам, як Жупранская. Дарэчы, Савецкай яна стала адразу пасля акупацыйнай Вермахт-штрасэ.

Там ужо была кватэра з «усімі выгодамі» і балконам «на Літву». Нягледзячы на не вельмі добры (мякка кажучы) пах мясцовага мясакамбіната, далягляд адкрываўся цудоўны. Здавалася, што за тэлевізійнай вежай у вёсцы Стрэльчыкі ўжо пачынаюцца літоўскія землі, хоць пазней я даведаўся, што да іх яшчэ больш за пятнаццаць кіламетраў.

Напэўна, той далягляд з майго дзяцінства запомніўся больш за ўсё.

Я вельмі люблю Ашмяны. Асабліва тыя, што былі раней, з цудоўнай ліпавай алеяй на ўездзе ў горад з боку Смаргоняў. На жаль, перад прыездам на мяжу Лукашэнкі яе спілавалі і зрабілі старажытны горад падобным на звычайную калгасную сядзібу...

Ашмяны вельмі моцна адрозніваюцца ад Барбарова. Там усё «крыху папольску, крыху па-літоўску». Адчуваецца, што некалі мы жылі ў адной дзяржаве. Такая ментальнасць мне бліжэй.

Кожнае лета некалькі тыдняў я праводзіў у Ашмянах, а потым два месяцы ў Барбарове, дзе, як у любой вёсцы, даводзілася шмат працаваць. Пасвіць кароў, напрыклад, альбо праполваць буракі. Зразумела, Ашмяны я любіў больш. Горад усё ж такі.

А зараз пра вельмі сумнае.

Калі я нарадзіўся, маці вучылася на пятым курсе медінстытута, які потым і скончыла. Пасля родаў у яе дыягнаставалі рассеяны склероз. Хвароба каварная і бязлітасная. Яшчэ да гадоў пяці я бачыў, як яна хадзіла, а потым села ў інвалідны вазок і больш не паднялася на ногі.

Часы тады былі вельмі складанымі — пачатак дзевяностых гадоў мінулага стагоддзя. Многія зараблялі грашы. Пенсія па інваліднасці ў маці складала толькі некалькі даляраў. Здзек. Бацьку прыйшлося працаваць за дваіх.

Па адукацыі ён інжынер, але быў вымушаны заняцца дробным бізнесам. Тады мы жылі ў звычайнай «панэльцы» на сталічнай вуліцы Мірашнічэнкі. Бацька нешта «цягаў» з Польшчы і гандляваў на рынку. Так і выжылі.

Са страшнай хваробай маці пражыла 20 гадоў. Амаль у два разы больш звычайнага, што сведчыць пра вельмі добры догляд. Гэта камплімент майму бацьку! Ён вельмі кахаў маці і, нават калі сваякі прапаноўвалі яе кінуць і сысці разам са мной, не пагадзіўся.

Па натуры бацька — адналюб. Хаця ён зараз і жыве з іншай жанчынай, што цалкам нармальна і лагічна, афіцыйна не ажаніўся і сімвалічную вернасць маёй маме захаваў па наш дзень.

## «Дзе стаць пісьменнікам?»

Спачатку ў 171-й школе я вучыўся вельмі дрэнна. Да апошніх класаў, калі перабудова ператварылася ў сапраўднае адраджэнне. Памятаю, што самым цікавым прадметам стала гісторыя, таму што гісторык літаральна на вачах раптам змяніўся і пачаў расказваць дзіўныя рэчы. Напрыклад, пра ВКЛ. Гісторыя стала сапраўднай, і гэта вельмі спадабалася вучням.

Адбылася нейкая цудоўная метамарфоза. Той жа самы чалавек. Тыя ж самыя падручнікі. Напэўна час надышоў расказаць, як усё было на самай справе.

Менавіта тады я падышоў да бацькі і спытаў, куды пайсці вучыцца, каб потым стаць пісьменнікам? На той час я ўжо нешта (накшталт апавяданняў) пісаў. Бацька адказаў, што на філалагічны факультэт ісці не варта, бо там рыхтуюць выкладчыкаў літаратуры і мовы, і параіў стаць журналістам. Так я і зрабіў.

«Прайсці» атрымалася на платнае аддзяленне. Грошы ў бацькі былі толькі на тое, каб аплаціць першы курс, таму мне адразу давялося шукаць працу. Пажадана па будучай прафесіі.

Так, у 1995 годзе я трапіў у «Белорусскую деловую газету», дзе даволі хутка ўзначаліў палітычны аддзел. Там у мяне з'явіліся першыя сапраўдныя сябры. Аднаго з якіх я ведаў яшчэ са школы і прывёў у «БДГ» сам. Калісьці ён займаўся вырабам мэблі і паспеў пабываць пад крымінальнай справай за «наводку» аднаго крадзяжу. Пасля вяселля і нараджэння дачкі сябар пайшоў працаваць у «Советскую Белоруссию», і нашы кантакты абарваліся...

Добрая наступіла пара. Мне пашанцавала папрацаваць з Паўлам Шараметам. Гэта быў вельмі добры настаўнік, аднак вельмі строгі і нават суровы кіраўнік.

З другога курса на журфаку мяне перавялі на «бясплатнае», і грошы, якія я зарабляў, можна было траціць на кнігі. Я купіў усяго Чэхава.

Факультэт журналістыкі скончыў фактычна з чырвоным дыпломам і адразу паступіў (па размеркаванні) ва ўніверсітэцкую аспірантуру, займаўся там распрацоўкай тэмы віцебскай мастацкай школы.

Аддаў гэтай справе чатыры гады жыцця. Аднак абараніць сваю працу не здолеў. Ці то Марк Шагал быў непажаданым для таго часу, ці то нейкія мае

палітычныя публікацыі і выказванні прыйшліся не даспадобы, аднак дату абароны дысертацыі не прызначылі. І гэта пры тым, што працу рэкамендавалі да абароны. Усё «павісла» на ўзроўні рэктара БДУ...

Пасля заканчэння ў 2003 годзе аспірантуры на тэме я паставіў «кропку» і тры гады ў гэтым плане нічога не рабіў — толькі чытаў розныя кніжкі пра віцебскіх мастакоў.

У 2006 годзе, праз знаёмства з Альмірай Усманавай і Андрэем Горных, атрымаў прапанову прыехаць у Еўрапейскі гуманітарны ўніверсітэт (ЕГУ) і пачаць з імі супрацу. У Вільні скончыў нешта накшталт падрыхтоўчых курсаў, кшталту аспірантуры ЕГУ, здаў усе патрэбныя іспыты і ў 2008 годзе абараніў-такі зробленую яшчэ ў Беларусі аспіранцкую працу ў Вільнюскай акадэміі мастацтваў. Я стаў першым доктарам навук ЕГУ.

Праз семестр атрымаў дацэнта. У 2010 годзе прапанавалі ўзначаліць дэпартамент (па-нашаму — факультэт), і тры семестры кіраваў Дэпартаментам сацыяльных і палітычных навук ЕГУ. Потым было рашэнне аб'яднаць яго з іншым і значна скараціць колькасць тых, хто чытае лекцыі. Стала зразумела, што адміністрацыйная пасада — не маё, і я напісаў адпаведную заяву.

Працаваў звычайным, шараговым выкладчыкам. Зараз тыдзень на месяц жыву ў Вільні.

У восені 2014 года атрымаў вельмі вялікую і вельмі прэстыжную прапанову ад Венскага інстытута гуманітарных навук дапісаць кніжку пра Марка Шагала ў Віцебску. Правёў у Вене тры месяцы, скончыў працу.

У лістападзе яе прэзентавалі ў Вене. Прыйшло вельмі шмат людзей. У тым ліку і са знакамітай галерэі «Альберціна». На жаль, беларускамоўнага варыянта кнігі пакуль няма. Абіраем выдавецтва, таму што менавіта зараз з-за дэфіцыту фінансаў ЕГУ скарачае сваю выдавецкую праграму. Ёсць рызыка банальна не паспець... Манаграфія — вельмі спецыфічная рэч, гэта не навукова-папулярная літаратура. Па сутнасці, прыступка да прафесарскага статусу.

Спадзяюся, што кадравыя пературбацыі ЕГУ дазволяць захаваць арыенціры на беларушчыну, бо сёння гэта адзіны і апошні прытулак для ўсіх навукоўцаў, якія звязаныя з беларускай тэмай і не могуць увайсці ў якую-небудзь дзяржаўную ВНУ.

Асабіста ў мяне ёсць адчуванне, што выкладаць у БДУ мяне (пры сучаснай уладзе) не запросяць ніколі... Прычым нават не ведаю чаму, бо сказаць, што я быў нейкім рэвалюцыянерам або высоўваўся ў кандыдаты ў прэзідэнты нельга, аднак на маім прозвішчы ляжыць нейкая пячатка палітычнай нядобранадзейнасці. Я ўмоўна ў «чорных спісах». І такіх вельмі шмат. Ёсць выдатныя

гісторыкі, філосафы, тэарэтыкі, якім проста больш няма куды пайсці. ЕГУ для нас — апошні прытулак. Пакуль мы там ёсць і працуем (нават з амерыканскім кіраўніцтвам), гэтая ВНУ, на мой погляд, па сутнасці з'яўляецца беларускім асяродкам, таму што дзе яшчэ, напрыклад, можна сустрэць Генадзя Сагановіча альбо Сяргея Харэўскага? Дарэчы, з апошнім мы сустракаемся выключна ў ЕГУ. Унікальная біяграфія ў чалавека!

# Крыніца вандровак

Мабыць, гэта пачалося яшчэ ў дзяцінстве. Хто быў у Ашмянах, ведае, што там захаваліся руіны касцёла францысканцаў. Гэта мая ўлюбёная будыніна ў свеце. Мае вандроўкі, захапленне нейкай старажытнасцю пачаліся канкрэтна там.

Той касцёл я злазіў увесь і кожны раз, калі прыязджаю ў Ашмяны (мінімум раз на год), іду туды, каб запэўніцца, што цудоўны будынак яшчэ стаіць. У ім зеўраюць велізарныя дзіркі — бальшавікі безвынікова спрабавалі ўзарваць. Ёсць маленькая сцежка, якая праз масток вядзе да гэтага касцёла, — проста казка!

А першае дарослае падарожжа адбылося тады, калі я яшчэ быў студэнтам. З сябрам Міцем мы вырашылі аўтаспынам паехаць у Санкт-Пецярбург. Гэта адно з самых вар'яцкіх падарожжаў, таму што, як толькі мы выйшлі на трасу, адчулі сваю непадрыхтаванасць да такіх вандровак.

Сакавік. Але мы былі вельмі лёгка апранутыя. На жаль, амаль адразу «злавілі» фуру, якая падвезла да беларуска-расейскай мяжы. Выйшлі і напоўніцу ўсё адчулі — мінус тры, снег. У Міці няма нават шапкі. Першая гадзіна ночы.

Пешшу мы прайшлі 60 кіламетраў да Смаленска. Былі там толькі а шостай вечара... Ледзь выжылі...

Потым (ужо пасля вучобы) на доўгія травеньскія выхадныя я з'ездзіў у Арменію і зразумеў: гэта вельмі цікава і плённа. Праз такія падарожжы ўсведамляеш, што, не пабачыўшы свет, дагэтуль ты не цалкам разумеў сэнс некаторых базавых слоў. Накшталт дабра і зла, прыгажосці і галечы.

Пасля пачалася Азія. Пачалася з найгоршай краіны для пачаткоўца-падарожніка. Нікому не раю туды ехаць спачатку. Гэта — Індыя.

У Нью-Дэлі я ледзь не звар'яцеў ад першых уражанняў. Гэта горад для падрыхтаванага вандроўніка і вельмі складаны для «дзікага вандравання». Нават калі ты едзеш ад турфірмы, то бок як «пакетны турыст» з забраніраваным гатэлем, Нью-Дэлі такі mess, такі кірмаш розных рознасцяў, што галава пачынае кружыцца.

Памятаю свае першыя гадзіны. Калі ў пошуках гатэля я ішоў па вуліцы, то думаў, што трапіў у нейкі дрэнны квартал. Там не было не проста тратуараў, а ніякай розніцы паміж тым, дзе людзі ходзяць, дзе ездзяць матацыклы...

Ты ідзеш, а побач спяць людзі. Прычым не жабракі, а тыя, хто проста жыве на вуліцы. Бачыш нейкіх маладых мам, якія гуляюць з нейкімі «маленькімі малпамі»... Цалкам пакрытымі блохамі і пры гэтым вельмі шчаслівымі...

Становіцца страшна, бо ты разумееш асабістую неўтаймаванасць і неабсталяванасць. Разумееш, што гатэль, які ты замовіў праз Інтэрнэт, літаральна знаходзіцца на звалцы. Ён аточаны горамі бруду. Праз гадзіну разумееш, што звалкай з'яўляецца ўвесь Нью-Дэлі, таму што такой канцэпцыі, як сметніца, там няма ўвогуле. І ніколі не было.

Некалі англічане паспрабавалі патлумачыць, што гэта такое, але безвынікова. Індусы, як і раней, кідаюць усё пад ногі.

Прусакі (у тым ліку і вялікія трапічныя), пацукі, геконы і г. д. — увесь час вакол цябе.

Хадзіць па горадзе страшна яшчэ і таму, што ў любы момант цябе могуць абрабаваць. Любы (падкрэсліваю — любы), хто з табой загаворвае на вуліцах, з'яўляецца (як бы гэта мякчэй сказаць) крыху махляром. Калі ты высвятляеш па мапе, як прайсці да неабходнага аб'екта, і нехта бярэцца дапамагчы, ён гарантавана прывядзе ў іншае месца, у фірму, дзе цябе абавязкова падмануць.

Праз тыдзень у цябе наступае нервовы зрыў, яшчэ праз два тыдні ты атрымліваеш такое атручэнне, што думаеш — памру. А яшчэ праз тыдзень бачыш Гімалаі і разумееш, што нічога прыгажэйшага ў жыцці раней не бачыў і такіх прыгожых гор больш не пабачыш.

З Індыі пачаліся мае далёкія вандроўкі. Я спрабую мінімум раз на год месяц праводзіць у нейкім падарожжы. Гэта вельмі добрая разрадка. Я амаль не ўжываю алкаголь, не палю тытунь, таму «дрэнную» энергію, якая назапашваецца ў арганізме, выганяю ў падарожжах. Вандроўкі ў гэтым сэнсе надзвычай карысная рэч.

Не буду «грузіць» колькасцю сваіх падарожжаў, а проста пералічу краіны Паўднёва-Усходняй Азіі, дзе я быў — Індыя, Малайзія, В'етнам, Інданезія, М'янма, Камбоджа.

У Еўропе (на гэты момант) я быў усюды, акрамя Ліхтэнштэйна і Партугаліі. Днямі прыехаў з Вільні, куды вярнуўся з вялікага падарожжа па Іспаніі. Праехаў фактычна ўсю Іспанію аўтаспынам. Альбо на рэгіянальных цягніках.

Гэта было вельмі крута, але і вельмі складана, таму што Іспанія — краіна, дзе сапраўдны культ вопраткі, дзе вопратка з'яўляецца не эстэтычнай, а

этычнай катэгорыяй. Калі ты апрануты абы-як (як валацуга-вандроўнік), на цябе глядзяць надта дрэнна. Ты для іх — амаль што крымінальнік...

Спадзяюся, магчымасць павандраваць яшчэ будзе. Акрамя Егіпта, я пакуль не быў нідзе ў Афрыцы і не наведаў ніводную краіну Лацінскай Амерыкі, адпаведна для чаго планую вывучыць іспанскую мову. Сёння, акрамя беларускай, рускай моў, ведаю яшчэ англійскую і французскую, якую вывучыў за два гады.

Даволі часта ў мяне пытаюцца наконт грошай. Адкажу яшчэ раз: шмат іх не трэба. Чым іх менш, тым лепш, таму што іх адсутнасць вымушае цябе кантактаваць з людзьмі. А гэта самае каштоўнае ў любой вандроўцы.

У вандроўцы ні грошы, ні картка нічога не могуць гарантаваць. У той жа Індыі наяўнасць кэшу павышае верагоднасць, што цябе банальна абрабуюць, ты страціш усё, што маеш, і праз дзень станеш тым валацугам, якога цікавіць толькі самае простае — ежа і ложак.

Вандроўкі — вельмі важны складнік майго жыцця.

Калі шмат грошай, ты можаш замовіць праз Інтэрнэт гатэль, сесці ў самалёт і прыляцець у любую патрэбную табе кропку свету. Калі грошай мала, гэта вымушае думаць, кантактаваць, чакаць, часам нават прасіць.

Фактычна любая вандроўка ў Паўднёвую Азію — гэта кошт квіткоў туды і назад. Напрыклад, у В'етнаме вячэра каштуе 2—3 даляры, а добры гатэль — 10 даляраў. У Індыі яшчэ меней, таму грошай асабліва не патрэбна, а той досвед, які ты атрымліваеш у замен, цябе кардынальна мяняе.

Будысты кажуць пра тое, што варта жыць «тут і цяпер», што наш розум — гэта розум істот, якія ўвесь час шукаюць сабе праблем. Кошка, напрыклад, ніколі не думае, што здарыцца, калі гаспадар яе заўтра не пакорміць, а чалавеку гэта ўласціва. Асноўная наша задача думаць толькі пра дадзены момант, пра тое, што цябе атачае цяпер. Любая вандроўка вяртае цябе на зямлю ў існы момант. У гэтым уся прыгажосць, бо ён заўсёды непаўторны.

Бывае, ты ідзеш па спякоце, з цяжкім плецаком за плячыма і не ведаеш, дзе будзеш сёння начаваць. Ідзеш 13 км да гатэля, дзе хутчэй за ўсё не будзе месцаў, бо ён пабудаваны на беразе мора.

Хочацца піць, а вады нідзе няма. Яе наўмысна не прадаюць. Толькі кактэйлі, кошт якіх складае дзённы бюджэт...

Жыць «тут і цяпер» — каштоўная рыса. Праз 3-5 дзён такой практыкі ты прывязваешся да новага ладу і крыху па-іншаму пачынаеш жыць. Гэта не праходзіць адразу. Ты вяртаешся ў Мінск, застаешся ваяром, які проста ідзе ў апошні шлях і пражывае кожны дзень, як апошні ў сваім жыцці. Дзеля гэтага варта вандраваць.

Час ад часу я пішу для сайта «Будзьма беларусамі!». Але пераважна толькі пасля падарожжаў, бо так страчваецца нейкая навізна. Калі ты напішаш тэкст, то не зможаш потым так жа прыгожа расказаць пра гэта сябрам.

Шмат што залежыць і ад Інтэрнэту. З М'янмы, напрыклад, я прыслаў для іх толькі два тэксты за цэлы месяц. Там не было сотавай сувязі, а галоўная старонка mail.ru «грузілася» больш за гадзіну. Увайсці ў сваю пошту так і не атрымалася — праз 30 хвілін у мяне лопнула цярпенне.

У вандроўках многія рэчы пачынаеш разумець глыбей. Той жа іслам, напрыклад. У Інданезіі, калі я дабраўся да маленькай выспы Тарнада і вельмі пасябраваў з адной мусульманскай сям'ёй, яны мне растлумачылі існую сутнасць ісламу. Да гэтага я вельмі шмат чытаў і нават у турэцкай Блакітнай мячэці меў працяглую размову з мясцовым муфціем, але ў Інданезіі ўсё зразумеў лепш.

Трэба не паводзіць сябе нахабна, умець паважаць іншых. У Егіпце ваххабіты так мне пачалі давяраць і так ацанілі маю цікавасць да ісламу, што на другі дзень знаёмства прапанавалі набыць аўтамат АК-47, а потым прывялі да суфійскага ведзьмака. І гэта пры тым, што суфізм — самая закрытая частка іх веры.

Усё залежыць ад чалавека. Калі ты нармальны, ніхто (акрамя «адмарозкаў») калечыць цябе за рэлігійныя перакананні не будзе.

Не так даўно я задумаўся над тым, што ў вандроўках запомнілася больш за ўсё. Хутчэй за ўсё, гэта гук будысцкіх званочкаў у Леху. Як і самі Гімалаі, дарэчы, бо калі ты ляціш на вышыні 10 тысяч км і бачыш побач з самалётам вяршыні гор — гэта ЦУД! Калі я быў у М'янме, запомніўся ўзыход сонца над Мандалаем. Запомніўся Шведагон — самы вялікі будысцкі храм у свеце, што крыты ліставым золатам. Дзед, які мне ў індыйскім Чынгігары растлумачыў сутнасць чалавечай кармы. Не забуду кіроўцу лодкі ў в'етнамскім Хуяне. Калісьці ён быў будысцкім манахам і падрабязна расказаў мне пра сутнасць гэтай веры...

Спіс можна працягваць яшчэ доўга. Калі сёння азіраешся назад і ўсё пачынаеш аналізаваць, то разумееш, што жыццё атрымалася цікавым ужо да гэтага моманту, а колькі цікавага яшчэ чакае наперадзе..

Аднак, з іншага боку, ёсць адчуванне, што пабачыўшы так шмат, вельмі цяжка нечаму здзіўляцца. Адчуванне страты вастрыні ўспрымання. Здаецца, што яна згублена назаўсёды, і ты пачынаеш шукаць не столькі кропкі, якія цябе могуць уразіць, колькі таго сябе, які яшчэ можа гэтым уражвацца.

Самы запамінальны эпізод жыцця заўсёды залежыць ад той кропкі ў жыцці, з якой ты аглядаешся назад. У мяне было шмат дзівосаў падчас вандро-

вак па Паўднёва-Усходняй Азіі, але зараз, падчас вяртання на радзіму пасля вельмі доўгай адсутнасці, прыгадваецца нешта, звязанае менавіта з Беларуссю. Першая паездка на ровары ў Зялёным Лузе, шапаткі сырадой, якім частавала бабуля, паўкрыжак, поўны ўюноў — дзівоснай палескай рыбкі, якую не каштаваў з дзяцінства.

## Шляхам літаратуры

У 2008 годзе ў мяне здарылася адна гісторыя, якая натхніла напісаць пра каханне звычайнага (хоць і інтэлектуала) хлопца з дзяўчынай, якая набліжаная да вузкага колу людзей, што маюць усё. Гэткая прынцэса, «залатая моладзь».

Я пачаў гісторыю распрацоўваць, атачаць яе падрабязнасцямі. Прычым гэта было як нейкае насланне... Я ўвесь час пра гэта думаў і не мог спыніцца...

Я думаў пра тое, як цікава было напісаць раман пра каханне двух маладых людзей, расказанае праз пратаколы праслухоўкі КДБ.

У той момант працаваў намеснікам галоўнага рэдактара «Беларускай газеты», якая тады была даволі лагодная да ўлады, і нават не збіраўся нічога пісаць. Хадзіў з гэтым год, дакладней 10 месяцаў. Потым пачаў рабіць нататкі на маім мабільным тэлефоне, дзе ўсё вельмі проста. Запісаў некалькі дыялогаў паміж галоўнымі героямі і сам не заўважыў, як праз даволі кароткі час сеў і напісаў раман «Параноя».

Тэкст даслаў свайму сябру Антону Кашнікаву, які толькі-толькі выдаўся ў вядомым расійскім выдавецтве АСТ. Той яго пераслаў рэдактару. Кніжку пагадзіліся выдаць. Яна выйшла.

І яе адразу забаранілі...

Дарэчы, як толькі яе знялі з продажу, мяне адразу пачалі папракаць, што такім чынам я нібыта піяру сваю кнігу. Гэта крыўдна, але самае сумнае, што асноўным маім пачуццём у той момант быў страх. Я не меў ніякага досведу супрацьстаяння дзяржаве і не хацеў гэтага.

Удакладню: кніжку выдалі ў Расіі, а забаранілі тут. Яна прадавалася ў гандлёвых кропках кшталту кніжнага рынку на ВДНГ. І прадавалася ВЕЛЬМІ няблага. Ёю нават гандляваў папулярны інтэрнэт-сайт OZ.BY.

Пасля забароны інтэрнэтчыкі напісалі такі радок: «Продажа этого товара больше не планируется». Людзі, якія паспелі яе замовіць, пачалі пісаць у сеціве пра сваё абурэнне.

Словам, з «Паранояй» адбылася тыповая параноя...

З той пары я даволі працяглы час (два гады) нічога не пісаў, а ў 2001 годзе выдаў першы свой вялікі тэкст на беларускай мове, то бок раман «Студзёны вырай».

Па наш дзень некаторыя гавораць, што гэта пакуль самая лепшая мая кніга... Магчыма...

Аднак самае цікавае ў тым, што тады я нават гаварыць па-беларуску не ўмеў. Задача напісаць раман на беларускай мове выглядала недасягальнай, але я гэта зрабіў.

Пасля быў «Сфагнум», напісаны зноў па-расійску, таму што мне тады здавалася — напісаць раман пра «гопнікаў», хлопцаў з мікрараёнаў немагчыма па вызначэнні. Што іх дыялогі будуць выглядаць ненатуральна. Але калі паэт Віталь Рыжкоў пераклаў гэта на беларускую мову, і яе выдалі ў «Логвінаве», зразумеў — у нашым жыцці магчыма ўсё...

Год таму выйшла «Мова». Кніга, якая была цалкам абазнанай. Калі яе рабіў, то больш не адчуваў нейкіх складанасцяў з беларускай мовай, а проста сеў і напісаў. Лілося так, як звычайна льецца з рускай мовай, і я адчуў, што «моўнага пытання» для мяне больш не існуе.

Зараз паўстала другое пытанне — пісаць па-руску альбо па-беларуску. Я — двухмоўны пісьменнік. Палова маіх тэкстаў напісана па-беларуску, палова — па-руску. Пры гэтым мне здаецца, што чалавек, які піша па-руску ў Беларусі, рускім ні разу не з'яўляецца. Не так даўно гэта зразумеў і ПЭН-цэнтр, які ўвёў адмысловую прэмію для рускіх і беларускіх твораў.

Зацыклівацца на гэтым больш няма сэнсу. Усё, што я хацеў сказаць наконт беларускай мовы, я сказаў у кнізе «Мова». Значна больш важна зразумець, як жывуць людзі. І чаму яны так жывуць.

Аднак вернемся да «Параноі». У Расеі яе не забаранялі, але ўсе тамтэйшыя выдаўцы маюць вельмі вострае вуха. Хутка яны зразумелі, што я нейкі забаронены пісьменнік і стасавацца са мной не варта, таму што можна назаўсёды згубіць свае дамовы ў беларускіх выдавецтвах і друкарскіх дамах. Палова кніжак таго ж АСТ друкуецца ў Беларускім Доме друку.

Расейскі рынак у пэўным сэнсе для мяне закрыўся. А два—тры гады таму я і сам зразумеў, што больш не хачу туды сунуцца. Калі цябе друкуюць там, то для іх ты — хлопчык з правінцыі, які спрабуе рэалізавацца ў вялікай рускай культуры.

Мне ж здаецца, што наша задача палягае ў тым, каб падымаць, уздымаць і адраджаць менавіта культуру і літаратуру беларускую, якая пасля Быкава, Караткевіча, Адамовіча крыху «прасела» праз тое, што да яе няма цікавасці. Трэба вяртаць тое, што было здабытым і амаль згубленым. На рускім рынку я хачу прысутнічаць як замежнік, а не як суайчыннік-правінцыял.

Паралельна з гэтымі працэсамі адбывалася даволі актыўная «движуха» на Захадзе, таму што «Параною» набыло англамоўнае выдавецтва North Western University Press з Ілінойскага ўніверсітэта. Яе пераклала прафесар

Карнуэльскага ўніверсітэта славістыкі, якая перакладала Пушкіна, Дастаеўскага, Чэхава, і мы атрымалі вельмі добрую крытыку.

Пра «Параною» напісалі ў New York Times Review of books. Як паведамілі мне выдаўцы, толькі 2 адсоткі кніг, якія выходзяць у Амерыцы, атрымліваюць хаця б адзін водгук у New York Times Review of books. У нас станоўчыя рэцэнзіі было дзве. Гэта вельмі вялікі поспех.

З мінулага года пачалася мая гісторыя ў Нямеччыне. Гісторыя, якая вельмі натхняе і нараджае шмат надзеяў, таму што гэта вельмі буйны рынак і таму што там людзі крыху іншыя. Калі ты ў Нямеччыне на чытанне збіраеш 100 чалавек, гэта значыць, што яны заўсёды будуць цікавіцца тваёй творчасцю і заўсёды будуць прыходзіць на творчыя сустрэчы.

Пачалося ўсё з таго, што выдавецтва «Voland und Quist» набыло правы на «Параною». Пасля гэтага яны пачыталі «Сфагнум», набылі правы і на яго. А літаральна месяца паўтара таму яны, пачуўшы пра «Мову», набылі і яе. Цікава, што правы на апошнюю кнігу яны набылі без расійскіх і шведскіх пасярэднікаў, якія палічылі яе «надта спецыфічнай».

Нямецкія выдаўцы вельмі апантаныя гэтай кніжкай. Яна запланавана на восень 2016 года. Спадзяюся на поспех. У выдавецкім бізнесе (менавіта ў мастацкай літаратуры) ёсць алгарытм, пра які ўсе кажуць: першая кніжка — звычайна «не страляе», другую крыху заўважаюць, трэцяя — самае галоўнае. Мы вельмі моцна «выбухнулі» з «Паранояй», якая ў Нямеччыне выйшла ў кастрычніку мінулага года. Пра яе напісалі ўсе тамтэйшыя буйныя медыя. У тым ліку і «Франкфуртэр альгемайне цайтунг» — асноўная газета для нямецкай літаратуры, таму што менавіта ў гэтым горадзе месціцца найбуйнейшы ў свеце кніжны кірмаш. Праз месяц пасля выхаду была дадрукоўка тыражу, што для першай кніжкі вельмі вялікі поспех.

Хаця пра поспех мне казаць зарана. Сапраўдны поспех — гэта тое, што мы сёння бачым з творчасцю Святланы Алексіевіч.

Хутка выйдзе «Сфагнум», бо няпісаным правілам выдаваць у год больш за адну кнігу рызыкоўна.

У Нямеччыне ў мяне ёсць шанец. Ёсць такое адчуванне, што нямецкі кніжны рынак не менш важны за беларускі, таму што беларусы гістарычна цікавяцца тымі, хто нечага дасягнуў за мяжой.

У красавіку я быў у літаратурным турнэ (другім па ліку) па Нямеччыне і Еўропе, якое зладзіў мой нямецкі выдавец. Сярод іншага быў маленькі нямецкі гарадок Грайфсвальд.

Хадзіў па вуліцах і раптам пазнаваў Ашмяны. Адзінае, што ёсць там, але няма ў Ашмянах — выхад да мора. Усё астатняе — амаль копія. У мяне дах «выбухаў».

Высветлілася: там нарадзіўся вельмі дзіўны і цікавы мастак Каспар Давід Фрыдрых, які быў рамантыкам і ўсё жыццё маляваў паўстаўшыя з мроі караблі-паруснікі.

Менавіта там я зразумеў, што такое пісьменніцкі драйв.

Ты прыязджаеш у горад, пра які ніколі нічога не чуў і нават не ведаў, што ён ёсць, прыходзіш на сустрэчу з чытачамі і бачыш — поўную залю. І гэта так КРУТА!»

*13.07.2015*

**Замест пасляслоўя**

***Пасля нашай размовы Віктар Марціновіч напісаў яшчэ два раманы «Мову» і «Возера радасці». Адзін зрабіўся вельмі папулярным, а другі ён лічыць найбольш дасканалым. Абодва яшчэ раз гавораць пра талент аўтара. І пра тое, што я яшчэ раз ганаруся сваім земляком!***



# Дзмітрый ПАДБЯРЭЗСКІ

**На жаль, мы мала расказваем пра калегаў па журналісцкім цэху, што, на мой погляд, цалкам няправільна. Сярод нас шмат тых, каму ёсць што ўспомніць. Мой сённяшні госць менавіта такі — Дзмітрый Падбярэзскі.**

## Шлях у жыццё

«Так атрымліваецца, што я мінчук у трэцім пакаленні. Нарадзіўся ў радзільні на былой вуліцы імя Валадарскага 20 жніўня 1952 года. Жыў з бацькамі ў доме, што ля будынка пажарнай каманды. Крыху пазней, як мой дзед па лініі маці пачаў займаць розныя даволі высокія пасады (дый бабуля ў абкаме партыі працавала), усёй сям'ёй уехалі ў вялікую 4-пакаёвую кватэру на рагу праспекта і Урыцкага.

Бацьку я памятаю даволі дрэнна. Ведаю, што Альберт Дзмітрыевіч потым ажаніўся другі раз, у той сям'і таксама нарадзіўся хлопчык Сяргей Новікаў, цяпер — вядомы тэлеаператар. Так што мы з ім — абодва Альбертавічы.

Неяк так сталася, што бацькаву сястру — цётку Рэню — я нават не распытваў пра лёс Альберта, з якім, дарэчы, мы нарадзіліся ў адзін дзень. Ведаю толькі, што здарылася з ім нейкая цьмяная дрэнная гісторыя. Нібыта яго сябрукі падставілі, і атрымаў бацька тэрмін за крадзеж. Недзе яшчэ ляжаць ягоныя лісты мне з уральскай зоны. Калі ён выйшаў на волю, мы бачыліся з ім хіба пару разоў. А ў 1975 годзе, калі я працаваў у вясковай школе, даведаўся, што бацькі ўжо няма. Зноў жа — цьмяная гісторыя: памёр нібыта не сваёй смерцю, здаецца, тыя ж сябрукі дапамаглі...

Тым не менш на ўласны дзень нараджэння ў думках чокаюся і з бацькам: з днём народзінаў! Не часта, але бываю на ягонай магіле.

Маці пасля іх разводу выйшла замуж у другі раз. Айчымам маім стаў Уладзімір Жыжэнка, у свой час вядомы, аўтарытэтны рэдактар, чые лепшыя часы прыпалі на часопіс «Нёман». З ім жылося добра, хоць і любіў ён ужываць гарэліцу, што было звычайнай практыкай у рэдакцыйных калектывах часопісаў.

Ён даў мне шмат з таго, што потым спатрэбілася ў жыцці: маю на ўвазе працу са словам, як беларускім, так і рускім. І вудзіць рыбу навучыў...

Ад шлюбу мамы з Жыжэнкам нарадзілася мая сястра Алена (цяпер — Літвіновіч). Скончыла біяфак, працуе ў выдавецтве рэдактарам. Яе дачка Насця — мастачка, як і яе муж Лёша, які, акрамя таго што распісвае храмы, яшчэ і музыка.

Ад бацькоў застаўся «маёнтак» у Лепельскім раёне, дзе люблю бываць штогод.

Маці доўга хварэла, я гады з чатыры штораніцы ехаў да яе, каб накарміць. Глядзеў на яе, як яна ляжала ў ложку, і не мог паверыць, што ў свой час тая выдатна плавала, займалася стральбой (у яе нават быў імянны пісталет!). Не мог зразумець, як і чаму гады гэтак мяняюць людзей. У свой час яна насіла мяне на руках, а тут — я яе нашу, нямоглую...

Двойчы на год абавязкова наведваю сваіх дзядоў.

Не магу не сказаць колькі слоў пра іх. Дзед з боку бацькі, Дзмітрый Васільевіч Варыёнчык, ваяваў, быў падпалкоўнікам у адстаўцы. Бывала, калі я прыязджаў да яго, ён браў уласны кавалерыйскі карабін-мялкашку з аптычным прыцэлам, і мы ішлі ў Лошыцкі парк. Менавіта гэты дзед прывучыў мяне, як абыходзіцца са зброяй, і потым з ёй праблем ужо не было. На вайсковых зборах ці ў якім ціры — атрымлівалася добра.

Дзед па лініі маці, Пётр Сцяпанавіч Падбярэзскі, у свой час кіраваў кінахронікай, быў старшынёй радыёкамітэта, нават месяцы тры — намеснікам міністра культуры, курыраваў кінематограф.

Ды ў нейкай вёсцы здарылася трагедыя: падчас кінасеансу згарэў з людзьмі вясковы клуб, і дзед мой, зразумела, аказаўся крайнім, з-за чаго і зляцеў з пасады. Тым не менш адзін час у дзеда быў персанальны аўтамабіль маркі «Шкода», а летам мы адпачывалі на міністэрскіх дачах у Гарадзішчы.

Дзеда там ведалі ўсе, бо ніхто, акрамя яго, не мог выплысці на цэнтр возера, легчы на спіну, раскінуўшы ногі і рукі, і так заснуць на гадзіну—паўтары. Пры гэтым гучна храпці. Хвароба ў яго такая была: у прэзідыумах ён хвілін праз 15 гэтак жа засынаў з тым самым знакамітым храпам.

А бабуля Фядора Іванаўна працавала ў партыйных органах і асабіста была знаёмая з Машэравым. Паэт Антон Бялевіч неяк стаяў перад ёй на каленях і гразіўся напісаць пра яе паэму.

Жыццё ў кватэры на праспекце (імя многіх каго) мне запомнілася вельмі добра. У нашым пад'ездзе жылі самыя знакамітасці: гросмайстар Баляслаўскі, акторы-купалаўцы Рахленка і Ржэцкая, дыктар радыё Анціпаў. У суседніх — Андрэй Тур, Андрэй Саннікаў. Першыя чатыры класы вучыўся ў 42-й школе, дзе аднойчы атрымаў нездавальняючую адзнаку па паводзінах, калі на ўроку спеваў праспяваў «Союз нерушимый свалился с машины»...

Двор, канешне, быў яшчэ той! Хоць хуліганілі мы, так бы мовіць, інтэлігентна. Ну, залазілі летам на плот ля радзільні і падглядалі, як на свет з'яўляюцца дзеці. Ну, знайшлі недзе шыну ад задняга кола трактара, разагналі яе ўніз па Урыцкага, а там якраз трамвай заварочваў на Інтэрнацыянальную. І тая шына добра так упляжыла ў вагон.

Яшчэ на тым павароце часта клалі гільзачкі ад патронаў з запалкамі, і яны гэтак гучна стралялі пад коламі вагонаў.

Быў у двары за высокім плотам нейкі загадкавы аб'ект. Як мы скемілі, нешта накшталт радыёстанцыі, але не звычайнай, а вайсковай. Там у кантэйнерах для смецця заўсёды ляжалі рознага калібру радыёлямпы, якія адслужылі сваё. Некаторыя былі вельмі вялікія, а таму цаніліся найбольш. Мы забіраліся ў гэтыя кантэйнеры, набіралі лямп, каб потым апусціць іх у вадасцёкавыя трубы на даху нашага дома. Лямпы, калі даляталі амаль да зямлі, з грукатам лопаліся на згібе трубы, чаму мы, падлеткі, дзіка радаваліся, зважаючы на рэакцыю мінакоў.

Яшчэ добра запомніў пажар у будынку рускага тэатра. Пасля пажару ў двары найдаражэйшым абменным матэрыялам былі крышталікі ад люстры, якая ў час пажару абвалілася долу. Сябравалі мы і з кінамеханікамі «Цэнтральнага», дзе часта глядзелі фільмы з апаратнай. Наведвалі таксама і збудаваны немцамі ў час вайны драўляны кінатэатр «Першы», які стаяў у двары цяперашняга гатэля «Мінск».

## Шлях у слова

У першым класе навучыўся паліць. Куплялі нейкім чынам папіроскі «Огонёк», а калі грошай не было, палілі сухое лісце альбо вату. Аднойчы, забраўшыся пад каналізацыйны люк, напаліліся той ватай так, што не маглі адсунуць люк і выбрацца на паветра. Ды неяк атрымалася выратавацца, і з таго часу я ўжо не паліў. Ажно да першага студэнцкага года...

Кватэра нашая была насамрэч вялікая — ажно чатыры пакоі з цёмным дадатковым, дзе жыла нянька. У вялікім вуглавым пакоі стаяў кабінетны раяль, на якім дзед часцяком разам з сябрамі (кампазітары, пісьменнікі) распісваў прэферанс.

Мяне маці спрабавала вывучыць музыцы, дзеля чаго нанялі хатнюю настаўніцу, але аніякай ахвоты займацца на раялі ў мяне не было, пра што цяпер дзіка шкадую.

Калі прыходзіла настаўніца, я хаваўся пад ложак, адкуль мяне выкалупвалі ўсёй сям'ёй. Тым не менш цягам года такіх «заняткаў» я вывучыўся дзвюма рукамі выконваць «Петушок, погромче пой...»

Куды больш мяне прыцягвала радыёла з зялёным вочкам, якая стаяла ў пакоі дзядзькі. Калі ён сыходзіў на працу, я забіраўся ў пакой, уключаў радыёлу і з захапленнем слухаў розныя незразумелыя галасы, а таксама музыку. Гэтая кватэра, радыёла прысутнічаюць у маім апавяданні «Дзень добры, Бабуля Яга!»

У школьныя гады ў сувязі з разменам кватэр я памяняў тры школы.

5-8 класы — гэта СШ №73. Жылі на вуліцы Чарнышэўскага ў доме, збудаваным для пісьменнікаў, працаўнікоў выдавецтваў. З тых часоў ведаю і Адама Глобуса, і Толю Кашапарава, і Дзіму Філімонава.

9-10 класы — гэта СШ №23. Там мне вельмі пашанцавала на выкладчыкаў беларускай і рускай літаратур.

Пасля заканчэння школы з двух 10-х класаў ажно шэсць чалавек паступілі на філалогію, у тым ліку і я. Ужо ў школе пачаў шмат слухаць музыку, прычым самую розную, дзякуючы маці з'явіліся першыя «фірмовыя» вінілы — груп «Omega Red Star», «Czerwone gitary». Там жа нешта пачалі пісаць, калектыўна і сольна, а паколькі з дакладнымі навукамі ў мяне былі праблемы, выбар беларускага аддзялення філфака БДУ вырашыўся сам сабой.

Студэнцтва, як, бадай, і ва ўсіх, было вірлівым і захапляльным. З 114 чалавек беларускага аддзялення хлопцаў было недзе 14 чалавек, а гарадскіх — і таго меней.

Так склалася, што амаль адразу пасябраваў з вядомым цяпер фалькларыстам Валодзем Васілевічам, цяперашнім рэдактарам Георгіем Кісялёвым, даўно ўжо масквічом Сяргеем Палітыкам, які прамяняў кансерваторыю на філфак і дзякуючы якому я быў сведкам бунту мінскай моладзі каля кінатэатра «Новости дня».

На другі ці трэці дзень вучобы на філфаку, які тады месціўся на Чырвонаармейскай, здарылася патрапіць на канцэрт Марылі Радовіч, якая выступала проста ў нашай актавай зале. Выпускалі насценную газету «Слово филолога», вучылі латынь, а таксама нейкія зусім не патрэбныя навукі кшталту навуковага камунізму, ладзілі «Славянские вечера», гулялі ў КВЗ.

Запомнілася, як разам з групай падтрымкі ад Чырвонаармейскай па цэнтры вуліцы Кірава ішлі ў галоўны корпус на фінальную гульню. Ішлі з крыкамі, барабанамі, нейкімі дудкамі, плакатамі. Цяпер, канешне, за такое былі б, міліцэйскай моваю кажучы, «забратыя».

На філфаку пачаў актыўна гуляць у баскетбол, чаго не кідаю і цяпер. Актыўна наведваў Клуб турыстаў і альпіністаў. У горы неяк не вельмі цягнула, хоць і там пабываў, а вось у турпаходы хадзіў рэгулярна, пешыя і лыжныя, ездзіў на турзлёты.

Тры гады выязджаў у будаўнічыя атрады, пераважна з фізікамі, з многімі і цяпер сябрую. З-за таго, што быў у будаўнічым атрадзе, прапусціў мінскія канцэрты аркестра Дзюка Элінгтана.

Вучыўся ад пачатку добра, ужо на першым курсе пачаў атрымліваць стыпендыю. Сабраныя грошы ўклаў у набыццё магнітафона «Чайка», пра што не прамінуў пахваліцца перад сугрупнікамі. За што і паплаціўся: нехта «стукнуў» у дэканат, маўляў, нам вунь на ежу не хапае, а ён магнітафон купіў. І з мяне на паўгода знялі стыпендыю.

Выкладчыкі былі розныя. З Барысам Норманам і Уладзімірам Карпавым і ў баскетбол гулялі, і КВЗ ладзілі, з многімі іншымі трымаліся на дыстанцыі. Латынь да 80-гадовага Пільмана хадзіў здаваць 7 разоў, і яшчэ лёгка выблытаўся...

Нам таксама выкладалі Адам Супрун і Мікалай Паўленка. Алесь Адамовіч чытаў рускую класічную літаратуру. Здаецца, за ім ніхто не мог канспектаваць. А як тое зрабіць, калі ён на памяць цытаваў дзённікі Дастаеўскага?!

Я, дарэчы, тады сябраваў з ягонай дачкой Наталляй, бываў у іх дома, што мне не дапамагло, калі Наташын бацька адправіў мяне з экзамену перачытаць легенду пра Вялікага інквізітара. Зрэшты, з другога разу свае чатыры балы я атрымаў...

Два разы мяне адпраўлялі з экзаменаў.

Другі раз — з беларускай мовы. Выкладчык (як пазней сказаў) проста не хацеў мне псаваць залікоўку. Прызнацца, у час навучання беларускай мовай амаль не карыстаўся, дый па сканчэнні ўніверсітэта два гады выкладаў у вясковых школах рускую мову і літаратуру.

Памятаю, як у Волме (цяперашні Сокал) зладзіў літаратурную вечарыну, на якую здолеў прывезці Алега Лойку і Рыгора Барадуліна. Для ўсёй вёскі гэта была сапраўдная падзея: паўнюткая зала вучняў і іх бацькоў!

# Шлях у іншадумства

Дыплом аб заканчэнні ўніверсітэта — гэта, бадай, адзіны ў мяне дакумент на бацькава прозвішча. Ад 1974 года я ўзяў прозвішча маці — Падбярэзскі. Як высветлілася, гэты род вядзе адлік ад княства Друцкага, ад XIV стагоддзя.

Адбыўшы на вёсцы два гады (пра што, дарэчы, аніяк не шкадую), паступіў на працу адміністратарам на кінахроніку «Беларусьфільма», дзе чакаў вызвалення рэдактарскай пасады. Ды не дачакаўся і пайшоў працаваць у літаратурна-драматычную рэдакцыю БТ, куды прымаў мяне асабіста Генадзь Бураўкін.

Працаваў у эфіры шмат, у тым ліку і ў жывым, але пераважна на маладзёжную («Тэледыскатэка») і музычную («Сустрэнемся пасля 11-ці») рэдакцыі. У літдраме ж быў у асноўным рэдактарам на тэлеспектаклях. У 1982 годзе атрымалася адзняць тэлеспектакль па паэме Купалы «На Куццю», якая да гэтага года была забароненая. Арыгінал Купалавага зборніка «Шляхам жыцця» — галоўная кніга ў маім кнігазборы.

А ў канцы 1982 года мяне пачалі актыўна сватаць у рэдакцыю часопіса «Мастацтва Беларусі», якую збіраў Міхась Раманюк. Я доўга ўпарціўся, бо пакідаць тэлебачанне (тэлебачанне!) не бачыў сэнсу, аднак Алесь Гаўрон мяне «дадушыў», сказаўшы нешта накшталт: тэлебачанне — вар'яцкі дом, а штомесячнік — гэта ж санаторый. І так я апынуўся ў часопісе, дзе адпрацаваў амаль 20 гадоў рэдактарам аддзела музыкі і намеснікам (пры Аляксею Дудараве) галоўнага рэдактара.

І зноў суцэльная сымболіка: маю пасаду скарацілі ў 2002 годзе. Загад быў падпісаны акурат у дзень майго 50-годдзя. А я ўжо спадзяваўся атрымаць значок «Выдатнік друку», асадку з пазалочаным пяром і хрустальную вазу. Але...

Праўду кажучы, рэдакцыю банальна разагналі пад маскай аптымізацыі рэдакцыйнага штату: надта ўжо шмат фронды трапляла на старонкі часопіса, надта смела «Мастацтва» пакусвала гаспадара — Мінкульт. Таму сабаку альбо на ланцуг, альбо вон са двара...

Варта сказаць, што ў журналістыку я трапіў збольшага выпадкова. Тое, што яшчэ ў школе мелася цалкам асэнсаваная ахвота пісаць, безумоўна. У студэнцкія гады, займаючыся плаваннем, напісаў ва ўніверсітэцкую газету колькі заметак пра спаборніцтвы, пісаў і для філфакаўскай насценнай газеты.

Пісаў вершы на рускай мове, а калі паспрабаваў па-беларуску, колькі з іх праз айчыма перадаў на прагляд Уладзіміру Караткевічу. З ягонага водгуку зразумеў, што паэзія не мая справа, але спадар Уладзімір, скарыстаўшы два радкі з майго верша, напісаў свой, і гэты аўтограф для мяне цяпер вельмі дарагі.

Аднойчы разам з сябрам проста на вуліцы пазнаёміўся з Яўгенам Будзінасам, які разам з Сяргеем Ваганавым набіраў курс аддзялення журналістыкі на факультэце грамадскіх прафесій БПІ.

Там я правучыўся два гады і ўжо актыўна пачаў пісаць для «Знамени юности», потым і для іншых выданняў — «Рабочая смена» («Парус»), «ЛіМ», «Беларусь» і г. д.

Як ужо згадваў, трапіў у рэдакцыю часопіса «Мастацтва», дзе прафесіі магутна вучыў нас Алесь Траяноўскі. Пазней ён пісаў для «Белорусской деловой

газеты», газеты «Имя», рэдагаваў тыднёвік «Бездельник» — усё ўжо і складана згадаць.

Пераканаўся, што своечасова сказанае, да месца і добра аргументаванае слова здольнае хоць крыху, ды змяніць жыццё да лепшага.

# Шлях у музыку

Паколькі яшчэ са школьных гадоў цікавіўся музыкай, асноўнай тэмай маёй журналісцкай практыкі яна і зрабілася. Памятаю, як з-за маёй цалкам бязвіннай, выключна інфарматыўнай нататкі пра ансамбль «ABBA» меў вялікія праблемы галоўрэд «Знамя юности».

Калі пачаў пісаць для «Рабочей смены», ужо чытаў польскую музычную прэсу.

Вывучаў, у якой стылістыцы ў Польшчы пішуцца музычныя матэрыялы, шмат чаго пераняў і ўвасобіў у беларускай прэсе.

Прыкладам, для той жа «Рабочей смены» прыдумаў рубрыку адказаў на лісты чытачоў пад назвай «С мира по нотке». Там жа, хіба ўпершыню ў СССР, артыкул пра групу «Queen» суправадзіў дыскаграфіяй калектыву.

У «Мастацтве» ўпершыню ў беларускай прэсе пачаў рэцэнзаваць новыя пласцінкі беларускіх выканаўцаў. Мне проста было цікава падаваць матэрыялы так, як да мяне гэтага ніхто не рабіў, з той толькі мэтай, каб чытачы атрымлівалі найбольш інфармацыі. Прыкладна тое ж здарылася і тады, калі я супрацоўнічаў з беларускай службай радыё «Свабода».

Мая першая аўтарская праграма называлася «Мэлёдыя дня». Гэта значыць, кожны дзень ранішні эфір радыё закрывала праграма, да якой я пісаў падводку недзе на 40 секунд, пасля чаго гучала песня ў выкананні нейкага айчыннага саліста альбо групы.

Памятаю, як Аляксандр Лукашук пасля паўгода існавання праграмы запытаўся, ці здолею я пратрымацца да канца года. Я запэўніў: пратрымаюся і магу яшчэ выйсці на другі год. Канешне, даводзілася пабегаць у пошуках фанаграм, але ж у мяне па-беларуску і Кабзон спяваў пра Нёман!

Сёлета гэтую праграму паўторна запусцілі ў эфір. Прыемна. Значыць, нядрэнна было прыдумана і зроблена...

Сваю энцыклапедыю беларускай папулярнай музыкі задумаў недзе ў 2000 годзе.

Звярнуў увагу на тое, што ў афіцыйныя энцыклапедычныя выданні трапляюць толькі тыя выканаўцы, якія маюць нейкія званні. Але ж па-за бортам застаюцца дзясяткі музыкаў, чый унёсак у беларускую музыку калі не большы,

дык аніяк не меншы за «заслужаных». Тым не менш, ідуць гады, і пра многіх з іх проста забываюцца.

Адзначыць тое, што яшчэ магчыма, і было мэтай маёй працы, на якую я аддаў амаль 8 гадоў, зафіксаваўшы для гісторыі многіх тых, звестак пра якіх цяпер адшукаць амаль ужо немагчыма. Адным словам, лічу, што невялічкі помнік яшчэ пры жыцці я сабе паставіў.

Калі агульна характарызаваць цяперашні стан беларускай папулярнай музыкі, дык мушу сказаць: у гэтым сэнсе я, хутчэй, песіміст, чым аптыміст. Так, у нас хапае вельмі таленавітых, спраўных выканаўцаў, але толькі не ў галіне таго, што называюць «эстрадай».

Тут — поўны заняпад. Здаецца, і хапае добра падрыхтаваных спевакоў, але практычна аніхто з іх не мае патэнцыялу выйсці па-за межы краіны. Прычыны тлумачыць не буду.

У той жа час у галіне, умоўна кажучы, «неафіцыйнай» музыкі адбываецца шмат цікавага і сучаснага, аднак, не маючы магчымасці жыць выключна з уласнае творчасці, гэтыя выканаўцы і калектывы свой патэнцыял, за рэдкім выключэннем, рэалізаваць не ў стане.

І ўсё ў рэшце рэшт прыходзіць да таго, што музыка для гэтых выканаўцаў робіцца хобі, а таму ні пра якую прафесійную дзейнасць казаць ужо не даводзіцца. Толькі як пра мастацкую самадзейнасць...

## Шлях вяртання

Мінулай восенню здарылася нечаканае. Мне патэлефанавала Люда Грамыка, з якой мы былі ў першым наборы часопіса «Мастацтва», і прапанавала вярнуцца ў рэдакцыю на пасаду намесніка галоўнага. Я прыдушыў у сабе ўспамін, як мяне адтуль турнулі, і пагадзіўся. Аднак неўзабаве з Людай кантракт не працягнулі, 12-ы нумар за 2014 год я па сутнасці выпускаў як галоўны, але ад гэтай пасады адмовіўся.

Не ведаю, колькі там пратрымаюся, бо праца ў дзяржаўнай прэсе пасля 12 гадоў вольнага разгуляева даецца ў знакі, але шчыра імкнуся да таго, каб «Мастацтва» зрабіць, наколькі тое магчыма ў цяперашніх умовах, больш-менш сучасным выданнем.

Канешне ж, каб была мая воля, запрасіў бы яшчэ пару-тройку крэатыўных прыдумшчыкаў-аўтараў, і тады б мы разам зрабілі не часопіс, а цукерку, які б чыталі многія...

Што да гісторыі «Мастацтва», дык згадваю, калі нам упершыню дазволілі надрукаваць артыкул аб прыездзе ў Мінск Забэйды-Суміцкага. Мы змясцілі ў

макет нумара ягонае фота з беларускімі пісьменнікамі, а калі часопіс выйшаў з друку, убачылі: на фота чалавек — восем, а ног — дзевяць пар. Адна галава яўна адсутнічала. І зроблена тое было ў друкарні, дакладна. Прыйшлі да высновы: «бдячыя органы» прыбралі адзін твар са здымка, каб не рассакрэціць свайго...

Маё знаёмства з будучай жонкай Таццянай адбылося ў Мінску, хоць яна тады разам з бацькамі жыла ў Запарожжы, але вучылася ў Мінску на журфаку. Дзявочае прозвішча Шаварская, з былой польскай шляхты, яе бабуля жыла на Валыні зусім недалёка ад мяжы з Польшчай. Пазнаёміліся ў кавярні «Рамонак», калі яна ўжо скончыла журфак і ад'ехала потым у Запарожжа ў рэдакцыю мясцовай камсамольскай газеты. Яна мне адразу спадабалася: прыгожая (само сабой!), упэўненая ў выказваннях. Перапісваліся, пасля чаго, здаецца, па тэлефоне зрабіў ёй прапанову. Атрымаў адлуп, але не адступіў. І потым неяк прыйшлі да згоды, як раптам, калі ўсё было нібыта вырашана, яна зноў адказала «не». І я раззлаваўся: што такое?! І тут жа кінуўся ў Запарожжа. Квіткоў на самалёт не было, паляцеў да Днепрапятроўска, адтуль «Ракетай» да Запарожжа — і такі ліквідаваў няпэўнасць.

Вяселле нашае, дарэчы, адбывалася ў Доме літаратара, тамадой быў Алесь Камароўскі, які проста бліскуча адпрацаваў! Музыку рабілі хлопцы з дыскатэкі кавярні «Сузор'е», фатаграфаваў мой зводны брат Сяргей Новікаў.

У выніку жывем разам дагэтуль, часам няпроста, бо мая спагадлівасць нярэдка канфліктуе з той самай запарожскай упэўненасцю ў тым, што «я ведаю, як тое павінна быць». У выніку два хлопцы-падбярозавікі: Пётра і Даніла, названыя ў гонар нашых дзядоў, а ўжо і ўнук Іван Падбярэзскі маецца. Род працягваецца, дзякуй!

Хлопцы, якія, як і я, не надта сябравалі з дакладнымі навукамі, паступалі на італьянскую мову філфака БДУ. Памятаю, як у час апошняга экзамену ў двары БДУ сустрэў Андрэя Тура. Той пацікавіўся, што я тут раблю. Патлумачыў. Андрэй, які быў у складзе заліковай камісіі, запэўніў: — паступяць. Як жа: 40 дзяўчат і ўсяго тры хлопцы-прэтэндэнты. Але потым аказалася: адзін з маіх хлопцаў не дабраў 0,5 бала, і калі камісія на чале з Аляксандрам Казуліным разглядала тую сітуацыю, Казулін запытаўся: «Падбярэзскія? Гэта іх бацька ў «Имени» друкуецца?», на што, са слоў Тура, той пацвердзіў: так. І аказалася, што пры паступленні ў ВНУ дзейнічае тое ж правіла, што і ў войску: блізняты павінны быць разам. Так і паступілі мае хлопцы ў БДУ.

Дзеці цяпер, абодва, працуюць на тэлебачанні, і так атрымліваецца, што дынастыя Падбярэзскіх на БТ — самая значная. То бок калі мой дзед кіра-

ваў Дзяржкамітэтам радыё, мой айчым там працаваў рэдактарам, я працаваў на БТ, мая жонка (музычная, спартовая рэдакцыі), а цяпер дзеці, то хто яшчэ больш? Засмуціла тое, што ў музеі Белтэлерадыёкампаніі да нядаўняга часу не было фота майго дзеда, але, здаецца, гэтую памылку выправілі».

*02.11.2015*



**Акампануе Марылі Радовіч падчас запісу перадачы на тэлебачанні**



**Тэлебачанне. Размова з Давідам Тухманавым. Пачатак 80-х гадоў**



**Шэсце ў раёне вакзала.
Разам з харцістамі Алегам Бябеніным,
Зміцерам Бандарэнкам, Мікалаем Халезіным**



**Дзень вяселля —
25 ліпеня 1980 года**




**Аддзел культуры газеты «Імя». Дзмітрый Падбярэзскі з Сяргеем Шапранам. 1996 год**



Прэзентацыя песень Алеся Камоцкага на вершы Рыгора Барадуліна. 2000 год



Літва. Фестываль. Горад Бірштанас. 2014 год




Цырымонія ўручэння прызоў сайту experty.by. 2011 год




Зборная філфака БДУ па баскетболе. Пачатак 80-х гадоў

# Алесь ПАШКЕВІЧ




Фразу пра тое, што «на пачатку было слова», ведаюць нават тыя, хто не лічыць сябе рэлігійнымі людзьмі, а для пісьменнікаў яе і ўвогуле можна лічыць ледзь ці не творчым дэвізам. Жыццёвы шлях Алеся Пашкевіча красамоўна пацвярджае, што за слова (калі яно сапраўды шчырае) трэба змагацца.

## Першыя словы

«Дзяцінства, яго непаўторнасць і незваротнасць бачыцца на жыццёвай адлегласці. Ад самага прыйсця... Калі я зазбіраўся з'явіцца на свет, мама выбірала бульбу. На агародзе, пад высокай чырвонай грушай... Пахла спеласцю, сонцам, тлустай зямлёй, жоўтымі вяргінямі, макрацом і чаканнем. «Прыперчваў» усё тое аскомісты смак падсохлага бульбоўніку. Мне ўпершыню стала цесна і няўтульна. У баразну да выаранай бульбы падалі саспелыя чырвоныя грушы (рэдкі гатунак), а ў мамы забалеў жывот. Яе адвезлі ў бальніцу ў Слуцк, дзе яна, збіраючы сілы, нават змагла паспаць. А вечарам 11 верасня 1972 года і з'явіўся я. І закрычаў. Мне хацелася сонца і малака...

Маёй першай зямной «прапіскай» стала вёска Набушава старадаўняй Случчыны. У XIX стагоддзі гэта — сціплы шляхецкі засценак. Прадзед Мітрафан Пашкевіч працаваў на зямлі і разводзіў коней. З дзябёлай кабылкай патрапіў у Пецярбург на выставу — і заняў прызавое месца. Атрымаў узнагароду царскімі залатоўкамі — і прыкупіў некалькі валокаў зямлі, падзяліў іх паміж пяццю дзецьмі. Золата здаў у «таргсін» — і тое выратавала ад Сібіры, калі да яго прыйшлі «ўпаўнаважаныя». «Вось адпаведная даведка, — сказаў, — а золата цяпер — гэтая зямля»...

А затым Случчына стала «нейтральнай» зонай паміж польскім войскам і Чырвонай арміяй. Распачаўся антыбальшавіцкі Слуцкі збройны чын. Малодшы сын Мітрафана — Іван, бацька майго бацькі Аляксандра, — быў у 1941 годзе мабілізаваны на фронт (у хаце з жонкай Марыяй засталіся два сыны — трохгадовы і паўтарагадовы) і загінуў па адных звестках пад сценамі Кёнігсберга-Караляўца, па іншых — у Чэхаславакіі. Другі мой дзед па матчынай лініі Іван Пятровіч Аку-

ліч партызаніў, ваяваў у дзеючай арміі і вярнуўся жывым, і праз два гады пасля перамогі з маёй бабуляй Соф'яй нарадзіў дачку Зою — маю маму.

Мама працавала ў вясковай краме прадаўцом, бацька сачыў за «меліярацыяй»: абкошваў на колішніх балотах канавы. «Гадаваў» мяне дзед Іван, які жыў у нашай хаце. У шэсць гадоў ён навучыў мяне спраўна касіць, адмыслова асадзіўшы дзеля гэтага пад мой рост касільна і «лучок». «Хоць генералам будзь, а касіць умей», — паўтараў шматкроць.

З шасці гадоў я сябе і памятаю. З незвычайнай на той узрост прыгоды: у мяне дзень народзінаў, у краме сабраліся вясковыя жанчыны — і ўгаварылі маму адзначыць мой «юбілей» савецкім «Савіньёнам». З 50 грамаў нейкім чынам дасталося і мне — і я з песнямі, трымаючыся за плот, ледзь даклыпаў да хаты — нейкіх сто метраў. Сядзеў на ганку варывенькі і спяваў: «Балэ-балэ-балэ...». «А галава, як у нягеглага пеўня, на плячо падала», — успамінаў дзед.

А далей — лес, грыбы, кар'ер-копанка, рыба, сябры, кнігі. І — школа. У Вясейскую школу мусіў дабірацца за шэсць кіламетраў. Але тыя гады ўзгадваюцца сонечна: добрыя настаўнікі, новыя ўражанні; вучоба, якая давалася лёгка. Памятаю ўсе прачытаныя ў той час кнігі. У старэйшых класах ездзіў у Слуцк — на заняткі школы юных рабселькараў пры рэдакцыі раёнкі «Шлях Ільіча».

У 1989 годзе з залатым медалём скончыў школу і вырашыў паступаць у БДУ. Меркаваў — на журфак, але старэйшы (і адзіны) брат Віктар, на той час сам студэнт-журфакавец, адгаварыў, і дакументы мы падалі на філалагічны факультэт. Здаў першы экзамен на «выдатна» — і быў залічаны студэнтам. Чаму менавіта такі выбар? Атрымлівалася, да прыкладу, і з хіміяй (удзельнічаў у абласных алімпіядах), але цягнула да слова. Да беларускага слова.

# Вучоба слову

Тагачасны філфак БДУ — акадэмія з найславутымі выкладчыкамі-славістамі: прафесары Супрун, Шакун, Бурак... Першы ў жыцці студэнцкі экзамен — па гісторыі КПСС — здаваў дэкану Ваўку, а праз тры гады тая партыя апынулася пад забаронай... Хацеў (на першым курсе) пасля ўніверсітэта паступаць у Вышэйшую партыйную школу, а на чацвёртым курсе ўжо вучыўся ў ейных сценах дома 31 па вуліцы Карла Маркса, куды пераехаў-перабраўся філалагічны факультэт БДУ на чале са сваім новым дэканам — прафесарам і пісьменнікам Алегам Антонавічам Лойкам. Мой першы дэкан на першай лекцыі хваліўся, што прачытаў поўны збор твораў Леніна, а дэкан Лойка першую лекцыю пачаў з прызнання, што прачытаў усе старабеларускія летапісы і хронікі... Ён — Алег Лойка — стаў маім «хросным» апекуном: кіраўніком дыпломнай, навуковым кі-

раўніком кандыдацкай, навуковым кансультантам доктарскай дысертацый. І аўтарам прадмовы да майго першага зборніка паэзіі «Нябесная сірвента», якая выйшла ў «Мастацкай літаратуры», калі я быў яшчэ студэнтам.

Тагачасны філфак універсітэта вучыў мяне не толькі думаць, чытаць і пісаць, але і вязаць ды скірдаваць снапы аршанскага лёну (восеньская «практыка»), падвязваць вінаграднікі ды палоць тытунь (крымскі будатрад, камандзірам якога мяне прызначылі). А яшчэ — хадзіць на шматтысячныя апазіцыйныя мітынгі. І... піць моцныя напоі. 3 год я жыў у студэнцкім інтэрнаце на Кастрычніцкай у адным пакоі з кіраўніком паўночна-карэйскага зямляцтва-студэнцтва Анам Дон Чэрам. Стыпендыю-заробак на той час ён атрымліваў нечувалую — 600 рублёў (думаю, і рэктар столькі не меў). Ан — шчыры і кампанейскі чалавек — ладзіў сустрэчы з землякамі (і гуманітарыямі, і курсантамі-лётчыкамі), умеў смачна кухарыць-гатаваць, а ў ягоным вялікім халадзільніку заўсёды чакалі скрыня гарэлкі і скрыня «шампанскага». Аднак найбольш ён паважаў родную гарэлку, якую перадавалі з маскоўскага дыппасольства, — жаўтаваты спірытус у трохкутнай бутэльцы са змейкай унутры... Гэта таксама была адмысловая «практыка», асабліва калі назаўтра зранку ва ўніверсітэце цябе чакаў экзамен па нямецкай мове. Даўшы мне, першакурсніку, паспаць з паўгадзіны, адказны Ан будзіў і перад іспытам даваў тоўсты, з вялікі палец, корань лекавага жэньшэню — і пасля яго не толькі спаць некалькі дзён не хацелася, але і пачынаў пачуваць сябе немцам з баварскім вымаўленнем, і экзамен здаваўся на выдатна.

Аднак жэньшэнь не здолеў уратаваць паўночных карэйцаў (і тых, хто вучыўся расійскай мове, і тых, хто штудыяваў лётную справу) ад гарбачоўскай перабудовы... Пачасцелі праверкі, падчас якіх мае карэйскія сябры дэманстратыўна чаплялі на пінжакі «камсамольскія» значкі з выявай Кім Ір Сэна, а праз месяц іх усіх спешна вывезлі на радзіму — каб не «набраліся дэмакратычнай заразы». 3 Анам перад развітаннем мы абмяняліся хатнімі адрасамі, але ані слова ад яго не прыйшло... Была ў маім студэнцтве яшчэ і вайсковая кафедра, і зборы, і прысяга на пляцы пад бел-чырвона-белым сцягам, і запіс у ваенным білеце: камандзір узвода мотапяхоты...

Шмат у чым спрыяла мне і літаратурнае аб'яднанне «Крыніцы» пры газеце «Чырвоная змена», і падтрымка ягонага нястомнага літкансультанта Алеся Герасімавіча Масарэнкі. Літаратурная моладзь «у разгар дэмакратыі» (пачатак 90-х) заснавала і выдавала на грошы дзяржавы свой штомесячны часопіс «Першацвет», і я — студэнтам — працаваў намеснікам галоўнага рэдактара. А яшчэ — і кіраўніком згаданага літаб'яднання «Крыніцы».

Філфаку я абавязаны сваёй жонкай Вольгай, з якой пяць гадоў адвучыўся ў адной групе. А затым «напісалі» з ёй дачку Алесю і сына Багдана...

Закончыў БДУ з чырвоным дыпломам, паступіў і на выдатна адвучыўся ў аспірантуры. Абараніў кандыдацкую «Феномен узвышэнства ў беларускай паэзіі ХХ стагоддзя», стаў выкладаць у альма-матэр. Падрыхтаваў і абараніў (у трыццаць гадоў) доктарскую — ужо па прозе. Яе тэма — «Канцэпцыя нацыянальнага быцця ў прозе беларускага замежжа ХХ стагоддзя».

## Захапленне словам

Як стаў пісьменнікам — не ведаю. Згадваюцца нейкія нявызначаныя памкненні, адчуванне радаснай і бадзёрай узлётнасці — не раўнуючы, як пасля ўжывання карэйскага жэньшэню. Мноствам спасціглых кніг пахваліцца не магу. Найбольш уразілі ў школьніцтве з прозы Янка Маўр, Іван Мележ, Якуб Колас, Міхаіл Лермантаў, Барыс Васільеў, у паэзіі — Максім Багдановіч, Максім Танк, Пімен Панчанка, Аркадзь Куляшоў. Пазней да іх з беларусаў дадаліся Кузьма Чорны, Андрэй Мрый, Вацлаў Ластоўскі, Уладзіміры Жылка і Дубоўка... Помню, штосьці сам рыфмаваў яшчэ з чацвёртага класа. Выдатна атрымліваліся сачыненні. Але зацікаўленасць у сваім «пісьменніцтве» выразна адчуў з пятага класа — падчас ліставання са сваім стрыечным дзядзькам Анатолем з Асіповічаў (унукам майго прадзеда Мітрафана): мой «рэспандэнт» радаваўся маім беларускамоўным лістам і прасіў пісаць часцей...

Напачатку 1995 года я — як аўтар паэтычнага зборніка — быў прыняты ў Саюз пісьменнікаў Беларусі (пасля таго, як па змененым заканадаўстве назву краіны было забаронена ўжываць у назвах недзяржаўных арганізацый, ён быў пераназваны ў Саюз беларускіх пісьменнікаў). Апублікаваў раман-дакумент пра Слуцкі збройны чын і трагічную гісторыю БНР «Пляц волі», дзве літаратуразнаўчыя манаграфіі. У 2002-м таемным галасаваннем быў абраны старшынёй адзінага на той час пісьменніцкага Саюза. У 2006-м пераабраны на другі тэрмін. Крыху працягваў пісаць, друкавацца. Вершы і проза перакладаліся на расійскую, украінскую, польскую, літоўскую, балгарскую, славацкую, ангельскую і шведскую мовы...

Быццё — быццём, а проза — прозай. У звязку з гэтым, думаецца, я прайшоў яшчэ і «дактарантуру» па вывучэнні дзяржаўнага механізму, чалавечай двудушнасці, паклёпніцтва, чыноўніцкай хцівасці. «Стажыраваўся» і ў высокіх кабінетах Адміністрацыі Прэзідэнта, і ў альма-матэр, і ў «апартаментах» Вышэйшай атэстацыйнай камісіі, і яшчэ шмат дзе. За некалькі дзён да з'езда Саюза пісьменнікаў (2002 год) тагачасны памочнік прэзідэнта і начальнік галоўнага ідэалагічнага ўпраўлення настойліва ўгаворваў мяне зняць кандыдатуру перад галасаваннем, прапаноўваў «пабыць» намеснікам старшыні, уважліва распытваў пра працу — і акуратна запісаў тэму маёй доктарскай у

свой блакноцік з дзяржаўнымі сімваламі на вокладцы. «Вы ж разумны чалавек, вам жыць далей...» — падрахаваў. «Пераможцаў не судзяць», — занадта ўпэўнена, адмаўляючыся ад ягонай прапановы, я сказаў яму перад адкрыццём перавыбарнага з'езда. І памыліўся: у нас судзяць усіх. І, у прыватнасці, трыццацігадовага доктара філалагічных навук, старшыню Саюза пісьменнікаў. Рашэнне Вучонага савета БДУ па прысуджэнні мне навуковай доктарскай ступені двойчы зацвярджалася на спецыялізаваным Экспертным савеце Вышэйшай атэстацыйнай камісіі, аднак ягоны прэзідыум нястомна (два гады!) шукаў «чорнага» рэцэнзента, які б напісаў адмоўны водзыў. Такога ў Беларусі не знайшлося, і «ідэолагі» пайшлі апошнім апрабаваным шляхам: аўтарэферат дысертацыі «случайно попал» у рукі групы генералаў, палкоўнікаў, ветэранаў вайны. Яны і «даслалі» прэзідэнту ды ў іншыя інстанцыі свой калектыўны абураны «водзыў», у якім амаль кожны радок аўтарэферата называўся «опошлением белорусской национальной идеи, внутренней и внешней политики Республики Беларусь», а сама праца — «хорошо продуманной и организованной политической и идеологической акцией, маскируемой под науку», «попыткой националистов и их зарубежных покровителей украсть у белорусского и других народов бывшего Советского Союза Победу» і «антигосударственной, антипатриотической, национал-предательской диверсией». Ні больш — ні менш... Вышэйзгаданыя генералы-ветэраны (не паверыце, але сярод іх былі і тыя, хто некалі пісаў паклёпы на Васіля Быкава) у згаданым лісце прасілі кіраўніка дзяржавы «защитить идеологию современного белорусского государства, защитить белорусскую науку от перевёртышей, карьеристов и политических проходимцев». Як разумееце, пасля такой «рэцэнзіі» мне і не выдалі «корачку»-пасведчанне... А наўздагон тым жа высокім адрасатам пайшлі даносы на майго навуковага кансультанта і мяне — за некаторымі подпісамі калег-кафедралаў. Словам, анічога новага пад небам...

## Слова пра пасады і кнігі

Так, анічога. І напісанае Грыбаедавым дзвесце гадоў таму «Служить бы рад, прислуживаться тошно» застаецца, на жаль, актуальным і сёння. Званні, прэміі, пасады...

Думаю, яны творцам перашкаджаюць, і прыклады можна пералічваць доўга. Наогул для чалавека, як для не зусім дасканалай істоты, пасада — гэта своеасаблівы сацыяльны наркотык. І чым вышэйшая пасада, тым мацнейшая «інтаксікацыя». Аднак у ідэале ў творцы адзінай пасадай павінна быць літаратура. Ну і сям'я, калі атрымаецца... Тым не менш я 10 гадоў быў, як пісалі некаторыя журналісты, самым галоўным у Саюзе беларускіх пісьмен-

нікаў, пяць — першым намеснікам, сёлета на пяць гадоў зноў абраны Радай першым намеснікам. Ну... быў некалі кабінет з прыёмнай у Доме літаратара метраў з дзвесце квадратных... Ну прыходзілі ў яго цыбатыя фельд'егеры з урадавай ці прэзідэнцкай поштай... І была ўрадавая «вяртушка» (мабільная сувязь на той час яшчэ не перамагла, і нават кіраўнікі Адміністрацыі Прэзідэнта праз секунду-другую ўласнаручна падымалі слухаўку)... Але ўсё ж гэта была не пасада. Хутчэй — «патэльня». І я з таварышамі-калегамі пачуваліся ў тых кабінетах «уюнамі». Праўда, і «з'есці» сябе не далі. Я бачыў, напрыклад, як пішчыць ды круціцца-сквірчыць на вясковай патэльні вылаўлены ўюн... Мяне ж не «лавілі» і не «смажылі». Нерваў, безумоўна, папсавалі... Але ж рашэнне пайсці на тое я прымаў сам, як кажуць, у поўнай свядомасці. Ды і па сёння аб тым не шкадую, бо крыху ведаю гісторыю, у прыватнасці — беларускай літаратуры. Якая там «патэльня»?.. Ну было некалькі пагражальных начных званкоў... Ну аднойчы на лабавое шкло маёй машыны (калі заязджаў да пад'езда) упала цагліна... Ну пагаварыў аднойчы ласкава «асабіст»... Ну некалькі даносаў «на самы верх» на мяне напісалі... Яшчэ тое-сёе... Але ж мы ўсведамляем: дзе мы і як мы. Не Калыма, не Курапаты... Мне пашчасціла яшчэ ў студэнцкія гады пазнаёміцца і «пасябраваць» з былымі рэпрэсаванымі выдатнымі паэтамі і людзьмі Алесем Звонакам і Паўлам Пруднікавым. Вось яны ды іхняе пакаленне зведала сапраўднае пекла ды «патэльні».

А галоўнымі ў Саюзе беларускіх пісьменнікаў у час майго старшынства былі ўсё ж Народныя пісьменнікі і паэты (ды і дасюль непераўзыдзеныя творцы) Васіль Быкаў, Янка Брыль, Іван Шамякін, Іван Навуменка, Рыгор Барадулін, Ніл Гілевіч, а таксама роўныя ім Анатоль Вярцінскі, Анатоль Кудравец, Генадзь Бураўкін, Алесь Жук, Уладзімір Някляеў, Вольга Іпатава, Святлана Алексіевіч, Уладзімір Арлоў, а таксама заставаліся дзясяткі і сотні найлепшых сучасных нацыянальных літаратараў, якія дзве кадэнцыі (па статуце нашай арганізацыі, як, зрэшты, і па Канстытуцыі дзяржавы, больш заставацца пры ўладзе недапушчальна) галасавалі за мяне, падтрымлівалі і дапамагалі. Дапамагалі і журналісты, і праваабаронцы, і замежныя дыпламаты, зрэдку — і высокапастаўленыя чыноўнікі (Латыпаў, Падгайны, Князеў, Якубовіч).

У час майго старшынства давялося прайсці і суд па ліквідацыі-забароне Саюза пісьменнікаў, і перажыць ягоны раскол (стварэнне новай пісьменніцкай арганізацыі). Зрэшты, найперш трэба гаварыць не пра раскол, а пра «раскольнікаў»: тых, хто пры ўладнай падтрымцы хацеў заняць пэўны кабінет, займець заробак і фінансаванне з дзяржбюджэту (якіх мудры Іван Пятровіч Шамякін назваў творчымі імпатэнтамі)... Ва ўсе ўстановы (школы, ВНУ, бібліятэкі), дзе працавалі нашы літаратары, «спусцілі» дырэктыву: ці «няправільны» піша заяву аб выхадзе з апальнага Саюза і пераходзіць у новы «пра-

вільны», ці хай піша заяву аб звальненні. Колькі дзяржвысілкаў патрацілі! А колькі нерваў творцам спалілі?.. Вось і мусіла частка з іх «ратавацца». Ну а некалькі дзясяткаў перайшлі ў новастворааны пісьменніцкі Саюз самохаць. Усіх разам — каля сотні. Аднак праз некалькі гадоў найбольш вядомыя і таленавітыя з іх вярнуліся назад. І цяпер у арганізацыі сітуацыя стабільная: таварыства аднадумцаў.

Адносіны сапраўднага творцы і дзяржавы заўсёды складаныя. Але гэта гледзячы, якая дзяржава-краіна. У некаторых улады падтрымліваюць творцаў (не «на паперы»), у некаторых — высылаюць ці знішчаюць. Аднак ва ўсіх выпадках адносіны няпростыя. У ідэале творца — сам сабе дзяржава.

Ці спрабавалі мяне купіць ці запалохаць? Купіць — не, а вось апошняе — здаралася...

«Здарылася» ў тым часе і яшчэ некалькі маіх кніг: раман-біяграфія «Круг» пра найталенавітага нацыянальнага паэта Беларусі Уладзіміра Дубоўку, якога Купала называў беларускім Пушкіным і які 28 (!) гадоў правёў у сталінскім зняволенні — і не скарыўся, вытрымаў. Затым была кніга «Сімъ победиши», а яшчэ — з дзясятак эсэ ды нізка вершаў. Ну і кніга (аповесць пра Нобеля) «Рух».

# Вера ў слова

Жыццёвае крэда з літаратурным супадаюць: «Быць». Быць з вялікай літары. Ну а незвычайнае жаданне... Над беларускай літаратурай другой паловы XX стагоддзя рэфрэнам гучаў сімвал «сена на асфальце» (апавяданне Міхася Стральцова). Вяскоўцы, якія ішлі ў літаратуру, асядалі ў горадзе, жылі ў настальгіі, ім мроілася і сена вясковае, і падабаўся урбаністычны асфальт. Яны імкнуліся ў творчасці спалучыць вёску і горад.

У Стакгольме на адной з цэнтральных вуліц, якая вядзе да каралеўскага палаца, пасярод асфальту замест дарожнай разметкі вылітыя словы класіка шведскай літаратуры Стрындберга. І вось аднойчы мне захацелася бачыць на адной з цэнтральных вуліц Менска (нават і месца выбраў — цяперашняя вуліца Карла Маркса) вылітыя выказванні нашых літаратурных класікаў. Можа, тады і будзе што ўспомніць не толькі старэйшынам нашай літаратуры і спакайней уздыхнуць, але і сённяшнім маладзейшым — не толькі літаратарам, мастакам, музыкам, спевакам, але і тым людзям, якія патрапяць у нашую сталіцу ды пройдуцца яе вулкамі, у якіх не толькі будуць умураваныя беларускамоўныя тэксты, але і на якіх будзе гучаць годна і ўзнёсла беларуская мова?..

Хобі — анічым не займацца. Проста па-японску сузіраць. А яшчэ захапляюць машыны, дарога, горы, мора (апошняга не ставала на маёй «роўнай» Случчыне).

Пра веру ж некалькімі сказамі не распавесці... Веру ў зямлю і неба над ёй. Не ў Зямлю як частку космасу, а ў той лапік, на якім упершыню стаў на ногі, у той куток Случчыны, абжыты, тысячы разоў пераараны ды ўтаптаны маімі дзядамі-прадзедамі.

Веру высокім, моцным дрэвам, якія звязваюць маю зямлю з небам. Веру найперш вязу і грабу.

Веру восеньскаму верасню, у які прыйшоў на свет: у ягоную шчодрасць ды сімвалічную выніковасць.

Веру сабакам і катам. З мільярдаў людзей веру адзінкам (ды і тое, баюся, часова). З людскога царства найбольш веру нябожчыкам: яны не баяцца, не хлусяць і не зайздросцяць.

Веру ў каханне — як у адзінае, што трымае і лякуе.

Веру ў слова, у ягоную найвялікую моцу — і сонечную, і чорную. У ягоную першаснасць і першапрычыннасць.

Нарэшце, веру ў мудрага Стваральніка ўсяго вышэйназванага, у ягоную дабрыню і цярплівасць.

Мог бы паверыць у матэматычна-фізічныя формулы ды тэарэмы, але як верыць нежываму? (Нябожчыкі — выключэнне...) Я нават не веру ў тое, што 2 + 2 = 4, бо трымаюся першаснасці і абсалюту тварэння. Тварыць — гэта значыць называць, супастаўляць, ксьціць словам. Назаві хтосьці першым чацвёрку пяцёркай, і 2 + 2 было б 5...

І яшчэ паэтычна хачу верыць у тое,
што не зрокся і ўнук зямлі:
узараўшы нябёсы болем,
на чырвоным арле-кані
праімчуся бялюткім полем;
што не вечны ў грудзях кашчэй,
што ў нябыт павядуць не першым,
што чарніла святых начэй
яшчэ хопіць
на дзесяць
вершаў...

Перакананы, што пытанне «У што я веру?» мусіць паўставаць першым у кожнага творцы. Так сталася, што традыцыйна нашыя літаратары зазвычай адказваюць на пытанне «Што рабіць?». А першым пытаннем сапраўднага літаратара павінна быць — «У што я веру?». А потым ужо мусім думаць, што рабіць, каб тую веру не страціць і як яе пашырыць».

*05.09.2017*

той, бо яго бацьку, майго дзеда Зіновія Міхайлавіча, за сувязь з партызанамі расстралялі немцы. На тамтэйшай чыгунцы ён ладзіў «тэракты».

Калі пасля вайны афармляліся дакументы, «Жорж» стаў «Георгіем», так што мяне дзеля жарту можна называць Алегам Жоржавічам.

Браніслаў — вялікая і вельмі заможная вёска, што па наш дзень заўважна ў тых мясцінах. Мае продкі калісьці набылі там шмат зямлі. Потым, канешне, уся яна стала дзяржаўнай маёмасцю, аднак некаторыя рэчы яшчэ нагадваюць пра тыя часы. У мінулым годзе я нават зрабіў фота мясцовых краявідаў. Праглядаецца зробленая тады пад'язная алея, захавалася некалькі яблыняў, якім ужо гадоў восемдзясят. Напэўна, калісьці абавязкова напішу кнігу пра свае карані. Яны даволі знатныя, нават дваранскія.

...Бацька тэрміновую службу праходзіў у войсках сувязі. Пасля арміі ў Жыткавічах, дзе выпраўлялі пашпарт, яму прапанавалі пайсці ў міліцыю. Там не хапала людзей, бо, як паведамілі яму, сельсавет спалілі «антысавецкія элементы». І гэта 1964 год! Але бацька паехаў да свайго старэйшага брата Міхаіла ў Мінск. Дзядзька Міхась быў міліцыянтам, у 80-х даслужыўся да палкоўніка. Ён і падказаў уладкавацца на МАЗ, туды бацька пайшоў працаваць токарам.

Маці, Марыя Іосіфаўна, родам са Стаўбцоўшчыны, з вёскі Шашкі. Па-расейску сказалі б — Хорькі. Вельмі люблю той старажытны край, асабліва лясы, адчуваю ў іх сябе абсалютна бяспечна.

Яна пасварылася са сваёй маці (маёй бабуляй, якую ў вёсцы звалі Катра, хоць насамрэч яна Кацярына) і ўцякла ў Мінск. Маёй маме тады было чатырнаццаць ці пятнаццаць гадоў, працавала хатняй работніцай у сям'і савецкага афіцэра. Ён і дапамог па паўналецці зрабіць пашпарт. Працавала нянечкай у дзіцячым садку, а потым прыбіральшчыцай, дворнікам.

Такім чынам, я сын токара і прыбіральшчыцы. А пазнаёміліся яны ў інтэрнаце. У 1969 годзе нарадзілася мая сястра Аксана. Цяпер мае некалькі вышэйшых адукацый. Працуе на МАЗе, а дакладней — на іх прадпрыемстве «МАЗ-Купава». У дзіцячыя садкі мы не хадзілі, не хапала месцаў. Бацькі — на працы, а мы сядзелі дома. Можна сказаць, самавыхаваліся. Хатнія дзеці.

Абое схільныя да музыкі. Абое хадзілі ў музычную школу. А перад гэтым я яшчэ хадзіў у музычны гурток пры звычайнай школе, дзе граў на акардэоне. Напэўна, у маіх школах можна заблытацца, бо нейкі час іх было адразу тры — звычайная (агульнаадукацыйная), музычная, мастацкая і яшчэ спартовая секцыя, якая чамусьці звалася «школа». Плюс розныя гурткі. Дарэчы, бывала, што хобі прыходзілася абіраць з улікам выдаткаў на яго. У той жа музычнай школе, калі я туды прыйшоў, набор быў толькі ў класы трамбона і фагота. Фагот тады каштаваў 700 рублёў, а трамбон 180—200. Такім чынам я стаў трамбаністам...

У дзяцінстве часу хапае на неверагодную колькасць рэчаў. На гандбол і футбол, напрыклад. Вялікае футбольнае поле месцілася якраз там, дзе зараз пабудавалі «Чыжоўка-арэну». Дваровы футбол у нас быў на даволі высокім узроўні. Хоць я ў дваровай камандзе лічыўся не лепшым футбалістам, падрыхтоўкі хапіла, каб потым за зборную Інстытута культуры пару разоў згуляць.

# Палац «Палаца»

Зараз ужо амаль нічога не засталося, а ў дзяцінстве я вельмі любіў бегаць на чыжоўскае замчышча. Там рэшткі нейкіх муроў. Потым Антон Астаповіч (старшыня Таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры. — **Заўв**. **аўт**.) пацвердзіў маю здагадку пра старажытнае капішча. Энергетыка вельмі моцная. Нават больш глыбінная, чым, скажам, у Лошыцкім парку.

Пра школу памятаю больш настаўнікаў, чым нейкае асабістае стаўленне да прадметаў. Вельмі цікавыя настаўнікі гісторыі, хіміі, нямецкай і беларускай моваў. Вучыўся я ў 117-й, а потым увесь клас перавялі ў 43-ю новазбудаваную школу, і ў яе прыйшлі, на мой погляд, даволі прафесійныя педагогі.

Канешне, у нейкім сэнсе яны на мяне вельмі моцна паўплывалі. Асабліва настаўніца беларускай мовы Людміла Канстанцінаўна Дзядзюля і класны кіраўнік Юрый Уладзіміравіч Гармаш.

Розныя часткі нашага мікрараёна ставіліся адна да адной варожа, што для савецкіх часоў было звыклай з'явай. Памятаю, калі трэба было з адной часткі Чыжоўкі трапіць у іншую (з першай у другую, напрыклад), наўмысна бралі з сабой дзяўчыну, бо так не чапалі. Маглі абразіць, але не білі.

Бывала, біліся з Серабранкай. Адзін раз зімой нават на лёдзе Чыжоўскага вадасховішча. Памятаю, міліцэйскі «казёл» выскачыў прама на лёд.

Словам, звычайнае дзяцінства — разбітыя насы, гульні «ў вайну». На маёй галаве захаваліся шрамы тых часоў.

Не ведаю, як гэта правільна назваць, але перад Алімпіядай 1980 года таксама здарылася нейкая «лібералізацыя».

Над кожным пад'ездам чыжоўскіх пяціпавярховак звычайна ёсць такі казырок. Замовіць рэстаран, каб адсвяткаваць вяселле, тады было вельмі цяжка. Святкавалі ў кватэрах, а на тых казырках месціліся ансамблі, якія гралі такія «оўпэн-эйр» танцы. І да тых пад'ездаў сыходзілася вельмі шмат людзей, паслухаць ансамбль ці, як часам ужо казалі, групу.

Па гэты дзень памятаю назву аднаго з такіх ансамбляў — «Шторм». Гралі не толькі нейкія полечкі ды «Мясаедаўскую», але, пад вечар ужо, і пару песняў «Бітлз», «Слэйд», «Смокі». Потым гэтую з'яву заадміністравалі і скасавалі.

Зразумела, тое вельмі прываблівала юнакоў. І мы збіраліся разам, нешта ігралі. Не ведаю як, але тады ў Чыжоўцы ўся моладзь перапісвала табулатуры. У музычных школах гэта пачалі вывучаць значна пазней, а ў нас ужо тады.

Словам, у грамадскай свядомасці ўзнік нейкі музычны бум. Я нават сабе не прызнаваўся, што хачу быць артыстам, марыў стаць музыкантам. І не больш.

У 1984 годзе паступіў у Інстытут культуры. Чаму менавіта такі выбар?

Адказаў на гэта пытанне шмат.

Самы галоўны — запусціў матэматыку, а па музыцы ў мяне ўсё ішло вельмі добра. У Інстытуце культуры не трэба здаваць ні алгебру, ні геаметрыю. Так атрымалася, што ў траўні я скончыў музычную школу, а ў чэрвені ўжо час паступаць. Нягледзячы на тое, што ў мяне не было спецыяльнай музычнай адукацыі ў выглядзе музвучылішча, нешта я мог сыграць. Скажам так на «троечку».

Каб конкурс быў вялікі, канкурэнцыі не вытрымаў бы, а тут — пашанцавала. У тым годзе на духавыя не тое што быў недабор — было безліч «двоек» па сачыненні. Такім чынам, узялі ўсіх, хто атрымаў станоўчыя адзнакі на экзаменах. І мяне ў тым ліку. Лёс.

Яшчэ падчас вучобы стаў граць на вяселлях. Аднак сур'ёзна пачаў займацца гэтым ужо пасля вяртання з арміі ў 1987 годзе, змушаны пэўнымі матэрыяльнымі абставінамі. Канешне, нам як студэнтам дзённага факультэта выплачвалі стыпендыю, але 40 рублёў для маладых людзей — недастаткова. Хацелася прыстойна апрануцца, схадзіць да дзяўчат, павыпендрывацца ў рэстаране і г. д. А за некалькі дзён вяселля я мог зарабіць 120 рублёў. Калі ў месяц вяселляў было некалькі, то сума па тых часах атрымлівалася вельмі добрая. Больш, чым мой бацька зарабляў на МАЗе. На вяселлях, дарэчы, і з'явілася тое, што потым стане музычным падмуркам «Палаца», бо гісторыя гурта пачыналася менавіта тады. Маю на ўвазе фальклор.

На свой сорам, мы не ведалі, што ў беларускіх вёсках спяваюць так шмат вельмі цікавых і прыгожых песняў. Памятаю, на пачатку кар'еры «вясельных музыкаў» мы не здолелі падыграць знакамітыя «Сто лят», проста не чулі раней гэту песню. Першы раз сыгралі яе ў мінору, чым выклікалі ў слухачоў абурэнне. Пасля таго «праколу» пачалі ўсё запісваць, ствараць асабістую калекцыю.

...З Юрам Выдронкам і Юрам Беляковым мы вучыліся ў адной інстытуцкай групе — 16-я, эстрадна-духавая. З Выдронкам нейкі час гралі ў гурце з назвай «Парадокс», які афіцыйна быў прапісаны на заводзе «Інтэграл». А з тым жа Беляковым я сябрую ўжо больш за чвэрць стагоддзя, з восені 1987 года. Салідны кавалак жыцця, праўда?..

У 1988 годзе да нас далучыўся і Зміцер Карабач, які вучыўся на харавым.

Якраз тады адбылася прэм'ера знакамітага фільма «Кабарэ» з Лайзай Мінэлі. Вельмі спадабалася стылістыка музычнага тэатра кабарэ. Нешта па-

добнае калісьці рабіў суперскі аркестр Эдзі Рознера. Дарэчы, не ўсе ведаюць, што ў легендарнай «Карнавальнай ночы» здымаліся менавіта яны. Потым савецкія ўлады аркестр разагналі, але той дух у музыкаў-духавікоў застаўся.

Вось і нам хацелася стварыць нешта падобнае. Палац музыкі своеасаблівы. Напэўна, так і ўзнікла ў свядомасці гэтае слова. На ўсіх еўрапейскіх мовах яно гучыць амаль аднолькава і мае аднолькавае значэнне.

Жартавалі мы таксама і наконт Палаца кукурузных палачак. Чаму? Па-першае — смачна. Па-другое, акрамя іх і рагоў з капытамі на паліцах тагачасных магазінаў нічога не было. Быў такі сумны жарт: савецкіх кароў на бойні забіваюць дынамітам, і нічога, акрамя рагоў і капытоў, ад іх не застаецца... Інакш цяжка патлумачыць, чаму ў магазінах капытоў было вельмі багата, а мяса пры гэтым адсутнічала ўвогуле...

На жаль, з часам змянілася сутнасць слова «палац» у нас (палацы піянераў, пенсіянераў, прафсаюзнікаў, воднага спорту і г. д.) і на Захадзе (Palace — гатэлі альбо казіно). Насамрэч жа «палац» — гэта такі ўласны храм для жыцця, які хочацца пакінуць нашчадкам і ў якім ёсць нешта велічнае, чыстае, боскае.

Канешне, жарты пра кукурузныя палачкі адышлі, але калі мы ў 1992 годзе стваралі новую фолк-групу, узнікла пытанне пра назву. Я і кажу: «Калі мы да вечара нічога не прыдумаем, то гурт будзе называцца «Палац».

Так і атрымалася. Потым усе ўпадабалі.

## Палац іншадумства

У тыя часы мы не баяліся марыць. Не было ніякіх абмежаванняў. Адбывалася татальная пераацэнка каштоўнасцей і арыенціраў. На ўсе рэчы глядзелі з пазіцый юнацкага максімалізму і былі абсалютна ўпэўненымі, што Беларусь пачне размаўляць па-беларуску, адменяць візы, мы пасяхова выйдзем на еўрапейскі музычны рынак. На жаль, наіўна памыляліся...

Праз пэўны час стала відавочна, што высокае начальства цураецца мовы продкаў. Памятаю, як Шушкевіч пачаў у парламенце размаўляць на беларускай. Гэта была прыкмета перамен, новага мыслення. Падчас святкавання 50-годдзя Перамогі, у 95-м, прыйшло адчуванне, што ўсё спынілася і імгненна вярнулася да савецкага мінулага. У тыя часы мы адносна крытычна выказаліся на гэты конт у розных інтэрв'ю.

З гэтага моманту «Палац» трапіў у няміласць, аб чым мне пазней расказалі паважаныя людзі. Нас пачалі падціскаць. Гэта не была забарона. Гэта быў ціск. Але ў той час на такія рэчы яшчэ мала хто звяртаў увагу. Асабліва мы. «Палац» цалкам паглыбляўся ў свае праекты. Збольшага ўсе яны былі звязаныя з еўрапейскімі фестывалямі. З тымі ж ангельскімі прадзюсарамі. Тады англічане пе-

рарабілі пад еўрапейскі рынак адну нашу вядомую кампазіцыю, і калі б мы там з'явіліся, гэты твор мог выцягнуць камерцыйны альбом і праграму.

Але... Па-першае, нам не далі візаў. Па-другое, увесь склад «Палаца» там не чакалі. Па-трэцяе, тагачасная палітычная напружанасць (пасля рэферэндуму 1996 года) унесла значныя змены. І, скажам так, змяшала ўсе карты.

Цікавасць да постсавецкага мастацтва скончылася даволі хутка. Праз некалькі гадоў Захад зразумеў, што ў былым СССР па сутнасці нічога не змянілася. Надышло расчараванне. Гэта стала вельмі заўважна на мяжы стагоддзяў.

Так атрымалася, што аднойчы спатрэбілася хутка знайсці замену аркестру Фінберга на «Экспа-2000» у Гановеры. Нічога прыстойнага чыноўнікі ад культуры не знайшлі, і для «Палаца» зноў наступіла адліга.

Нас нават узялі ў склад філармоніі, дакладней, створанага пры ёй «Белканцэрта». Словам, у маёй працоўнай кніжцы з'явіўся адпаведны запіс.

Менавіта ў гэты час і ўзнікла непрыемнае адчуванне ад таго, што рушыліся ўсе нашы камерцыйныя праекты. І не толькі нашы. Людзі, якія рэальна самастойна працавалі (у якасці тых жа прадпрымальнікаў, напрыклад) і зараблялі грошы асабістай актыўнасцю, адышлі па заробках у нейкі цень. А чыноўнікі, што сядзелі ў кабінетах дзяржаўных установ, імгненна сталі «гаспадарамі жыцця»...

Падкрэсліваю, ішоў 2002 год. Менавіта тады ў краіну прыплылі запазычаныя грошы, многія пачалі кідаць прадпрымальніцтва і ўладкоўвацца на пасады дзяржаўных установ. Адна справа дзеля стадоларавага заробку лётаць на рынкі Кітая, іншая — «пасядзець у кабінеце» і атрымаць у два-тры разы болей...

У людской свядомасці зноў пачалі змяняцца арыенціры. Прычым у бок Расіі. Новае пакаленне накіроўвалася на Усход. Там зарабляліся значна большыя грошы, чым на Захадзе. І мы, як і ўсе, сталі даволі часта выступаць у Маскве, з'ездзілі нават у Сібір.

Пратрымацца пад дзяржаўным «дахам» атрымалася да 2004 года, калі прайшло дзесяць гадоў ад першых прэзідэнцкіх выбараў і «наверсе» ўзнікла жаданне змяніць Канстытуцыю, каб пазбавіцца ад «двух тэрмінаў».

Тады мы зрабілі абсалютна прынцыповы крок — выступілі супраць. Якім бы добрым ні быў бы прэзідэнт, калі ён ведае, што яго ніхто не зменіць, то ён абавязкова ператвараецца ў дыктатара. Ад гэтай спакусы не застрахаваны ніхто.

Пра гэта мы адносна гучна выказаліся на апазіцыйным мерапрыемстве. «Стукнулі» на нас добра, і ў той жа дзень усіх музыкаў «Палаца» (дзе б хто ні працаваў) звольнілі без тлумачэння прычын. Хоць прычына і так была вядомая...

Самае цікавае, што па дакументах (начальнікі прыкрывалі адно месца) усіх нас «звольнілі» за гадзіну да таго, як мы прыйшлі на плошчу Бангалор. Беларускія дзівосы, так бы мовіць... Адным словам — беспрацоўныя. Плюс фактычная забарона на канцэртную дзейнасць у Беларусі.

У той момант я сказаў сваім хлопцам, што «Палац» пераходзіць у стан дадатковай працы, то бок кожны павінен адшукаць іншую магчымасць зарабляць на хлеб. Асабіста я пайшоў здзяйсняць даўнішнюю задуму — паступіў у аспірантуру на культуралогію.

Не скажу, што было зусім проста, бо нейкая насцярожанасць да мяне адчувалася, але амаль без праблем. Усё вырашылі выдатныя адзнакі на іспытах, і ў трыццаць сем гадоў я зноў пачаў вучыцца.

«Разбаранілі» нас толькі ў 2009 годзе, за год да чарговых прэзідэнцкіх выбараў. Зноўку пачалася так званая лібералізацыя. Адным з першых крокаў стала запрашэнне ў адміністрацыю прэзідэнта. Чагосьці экстраардынарнага я тут не ўбачыў. Нас сабралі, каб паведаміць: ёсць рашэнне ўсім «забароненым» зноў дазволіць выступаць. Усё астатняе — «выслухалі», «прапанавалі», «пагадзіліся», «здраднікі» — было пустым аздабленнем, якое шалёна пачалі абмяркоўваць розныя СМІ.

Як вядома, адліга доўжылася нядоўга. На тых выбарах я быў наглядальнікам і на свае вочы ўбачыў, што такое выбары, што такое «голаСУванне» ў нашых умовах...

Праз паўтара года мы цудам адыгралі канцэрт «20 год гурту «ПАЛАЦ» па квітках у Мінску. Гэта асобная гісторыя, якая яшчэ чакае свайго часу.

Мінула пару месяцаў пасля знакамітага пытання Віталя Зыблюка да прэзідэнта, і «чорныя спісы» значна скараціліся. З нас зноў знялі забарону на выступы...

## Палац культуры

Сёння «Палац» — восем паплечнікаў, гукаапэратар і сем музыкаў. Плюс сябры, якія дапамагаюць вырашыць нейкія адміністрацыйныя пытанні.

У 2007 годзе я скончыў аспірантуру. Дысертацыю напісаў, але пакуль не абараніў — няма часу.

Так склаліся абставіны, што пачаў працаваць на кафедры менеджменту культурнай дзейнасці, потым рэжысуры эстрады. Выкладаю курсы «Тэхналогіі прадзюсавання», «Арганізацыя шоу-бізнесу». Да таго ж пэўны час вёў аўтарскія праграмы на «Аўтарадыё» і «Радыё «Рацыя».

Часам гавару, што я беларускі культуртрэгер. Некалі да мяне патрапіў артыкул «Культуртрэгерства — адмоўны і станоўчы сэнс», які зачапіў. Здаецца,

нешта такое я насамрэч і раблю. Бо да філосафа, якім мяне некаторыя лічаць, я, канешне, не дацягваю. Як не дацягваў да музыканта, бо маё выканаўчае майстэрства, мякка кажучы, даволі сціплае (катэгарычна не згодны. — **Заўв. аўт**.). Прафесійны музыкант павінен быць вельмі добрым выканаўцам. З тэхнікай, з мелодыкай, з бездакорным валоданнем інструментам. Усяго гэтага ў мяне няма. Я магу граць, спяваць як артыст. Але ўзровень артыста — не ёсць узровень музыканта. Канешне, пішу тэксты, а не вершы, і як кампазітар музыку, але гэта больш песні, чым творы. Ды і мая дзейнасць, звязаная з папулярызацыяй традыцыйнага фальклору, беларускай казкі, удзел у арганізацыі фестываляў, праца мадэратара-вядучага на розных імпрэзах — што гэта адным словам? Я вырашыў — культуртрэгерства.

У расейскай мове гэтае слова ўжываецца з нейкім іранічна-грэблівым адценнем. Відавочна спалучэнне «беларускі культуртрэгер», то бок чалавек, які для беларускай культуры «захоплівае жыццёвую прастору» і лічыць яе лепшай у свеце, гучыць крыху штучна-смешна, але ў гэтым нешта ёсць. Мне прыкольна прадстаўляцца менавіта так.

У дачыненні да фальклорнай музыкі нельга гаварыць пра нейкую канкурэнцыю. Паміж «Палацам» і «Троіцай» або «Старым Ольсам». Гэта не канкурэнцыя, а даўняе сяброўства «місіянераў».

Іван Кірчук стаў асобай, якая дала мне дадатковае асэнсаванне таго, як можа быць прадстаўлены сцэнічны аўтэнтычны фальклор. У 1989 годзе я пабачыў яго малавядомы гурт на сцэне ДК прафсаюзаў. Гэта было вельмі важна ў тыя часы, калі мы стваралі «Палац». Тое — дадатковы аргумент на карысць абранага кірунку.

Гэта ж самае датычыцца гурта «Стары Ольса». Менавіта пасля першых выступаў Зміцера Сасноўскага я пачаў аналізаваць гармонію і рытміку еўрапейскай сярэднявечнай музыкі — вельмі дапамагло асабіста мне ў вынаходстве прынцыпу электроннай аранжыроўкі.

Я думаю, што дзякуючы ў тым ліку і «палацаўскім» хітам беларускі шараговы слухач больш лёгка і прыязна пачаў прымаць няпростую музыку «Ольсы» і «Троіцы». Таму, хто прызвычаіўся слухаць адных, прасцей зразумець іншых. Усе мы валанцёры беларускай культуры. Хіба паміж такімі валанцёрамі бывае канкурэнцыя?»

*28.02.2015*



З маці і сястрычкай Аксанай. 1977 год



4 клас.
1978 год



9 клас. 1982 год



Армія. 1986 год

На гастролях у Францыі. 1999 год



Роль князя ў калядным музычным фільме «Снежны завулак 2010»




**Каляднае шоу. «Палацу» — 25**



**З Таццянай Мархель. 2013 год**



**З Юрыем Беляковым**



**З Генадзем Бураўкіным. 2012 год**





**«Палац» на фестывалі ў Кракаве. 2008 год**



# Сяргей ХАРЭЎСКІ

**Вядомы беларускі мастак, літаратар, культуролаг і мастацтвазнаўца Сяргей Харэўскі — шчаслівы чалавек. Ён верыць і, у адрозненне ад шматлікіх песімістаў, лічыць: нягледзячы на неспрыяльныя ўмовы, БЕЛАРУШЧЫНА ў рэшце рэшт пераможа, а сучасны перыяд не самы горшы ў беларускай гісторыі.**

## Наканаванае шчасце

«Пачну з продкаў. З XVIII стагоддзя ўсе мае продкі (па абедзвюх лініях) жылі каля Мінска, дакладней у засценку Астравы, што каля Міханавічаў. Зараз гэта ўжо амаль 10 кіламетраў ад сталіцы. Яны арандавалі зямлю ў Мінскага кляштара бернардзінак, дзе цяпер знаходзіцца праваслаўны Кафедральны сабор.

Калі я да яго падыходжу, разумею, што ў гэтых мурах (не ў пераносным сэнсе, а ў прамым) — плён працы пакаленняў маіх продкаў, таму знітаванасць да мінскай зямлі зусім не абстрактная.

Адзін з прапрадзедаў меў прозвішча Хмялеўскі, бо некалі для цяперашняга завода «Аліварыя» пачаў вырошчваць хмель. Гэта было яшчэ за часамі графа Чапскага. А яго нашчадак, мой дзед, Аркадзь Паўлавіч Баркоўскі, быў старшынёй калгаса. Яшчэ да вайны. Яго не раз арыштоўвалі, аднак, дзякуючы ганаровай грамаце, падпісанай самім Сталіным, выпускалі — за ўнёсак у сельскую гаспадарку і хмеляводства. Дзедава насенне куплялі нават чэхі, якіх лічаць аднымі з найлепшых піваваpаў у свеце. За гэта дзеда пасля вайны прызначылі галоўным хмеляводам Мінскага раёна.

Усе сваякі, якія потым давучвацца перабраліся ў Мінск, былі родам з вакольных вёсак, таму пытанне беларушчыны для мяне падавалася цалкам натуральным. Калі яны ехалі да бацькоўскіх хатаў на электрычцы, паміж сабой размаўлялі выключна на роднай мове. Мае бабкі іншых моў і не ведалі нават. Расейскую чулі, канешне, але не карысталіся. Чытанне на ёй іх стамляла...

Так што ў мяне не было нейкага «пошуку каранёў». Я іх ніколі не страчваў...

Дарэчы, цалкам не згодны з тымі, хто лічыць наш час — самым цяжкім для Беларушчыны. Сваім студэнтам на гэты конт я кажу: «Не грашыце Богу!

Зараз ёсць хоць які выбар, а ў мяне яго не было. Дзіцячыя садкі — толькі рускамоўныя. І школы ў Мінску працавалі выключна на рускай мове».

Мне пашанцавала. Па настойлівых просьбах настаўнікаў на базе школы №26 стварылі «мастацкі ўхіл», і я трапіў у новую плынь.

Як педагог, сёння я разумею, што эксперымент тады быў проста бліскучым. Восем гадоў мне пашчасціла быць сярод будучай мастацкай эліты краіны.

Па наш дзень добрым словам успамінаю сваіх настаўнікаў — Абрама Львовіча Куцікава, Лідзію Маісееўну Хайфіну, Яўгена Мікалаевіча Саковіча і шмат каго яшчэ. Дарэчы, менавіта Саковіч мяне і адкрыў як патэнцыйнага мастака. Ён прыйшоў у наш дзіцячы садок і ўбачыў намаляваныя мной чырвоныя макі. Малюнак так уразіў, што Яўген Мікалаевіч адразу патэлефанаваў бацькам і настаяў на мастацкай школе. Мне наогул ВЕЛЬМІ шанцавала з людзьмі, якія сустракаліся на жыццёвай дарозе. Так што ўсе лепшыя якасці, усё, што ўдалося здзейсніць, — адсюль. Яны былі як бы наканаваныя лёсам. На жаль, так бывае не заўсёды, таму я вельмі ўдзячны за гэта лёсу і Госпаду. Ад таго, хто знаходзіцца побач, часта залежыць, кім мы вырастаем.

А зараз наконт майго «новазеландскага» паходжання... Канешне, гэта жарт пісьменніка Уладзіміра Арлова, чые кнігі (як і яго жонкі паэткі Валянціны Аксак) я некалі афармляў, але жарт, які мае пад сабой рэальную глебу. Адзін з маіх продкаў прымаў удзел у паўстанні 1863 года, а потым схаваўся ад пераследу ў Новай Зеландыі. Я ніколі там не быў, хоць далёкіх сваякоў на зямлі, дзе здымалі «Уладара пярсцёнкаў», пэўна маю.

# Генетычнае шчасце

І ўвогуле. У мяне вельмі шмат сваякоў, аднак лагічна пачаць з самых блізкіх. Бацька, Васіль Якаўлевіч Харэўскі, — доктар эканамічных навук, географ і сацыёлаг, працаваў у навукова-даследчым інстытуце горадабудаўніцтва. Ён займаўся пытаннямі ўрбанізацыі, таму ў мяне з дзяцінства асяроддзем былі яго калегі па рабоце. Маці завуць Людміла Аркадзьеўна Харэўская, у дзявоцтве — Баркоўская. Унікальны чалавек, тонкі педагог і псіхолаг! У яе вельмі развітая схільнасць да самааналізу, псіхалогіі і аб'ектыўнага погляду на сітуацыю. Напэўна, яна магла б стаць вядомай артысткай альбо некім яшчэ, аднак цалкам ахвяравала сябе сям'і. У нас заўсёды было трохразовае харчаванне, абед складаўся з трох страў. Маці — бліскучы кулінар.

Яна вельмі ганарылася маімі і бацькавымі поспехамі, таму імкнулася стварыць дома адпаведную атмасферу. У бацькі заўсёды былі накрухмаленыя кашулі і чыстыя гальштукі. Маці не шкадавала часу і шукала для нас найлепшых у Мінску цырульнікаў.

Па адукацыі яна — эканаміст, скончыла сталічны фінансава-эканамічны тэхнікум. Цікава, што тады ён месціўся ў тым самым будынку, дзе пазней вучыўся я, то бок была мастацкая вучэльня. Працавала ў Беларускім дзяржаўным інстытуце інжынерных пошукаў, дзе яе начальнікам быў дзед Глеба Лабадзенкі. Усе жыццёвыя лёсы цудоўным чынам пераплецены...

Сястра Таццяна, старэйшая за мяне на пяць гадоў. Яна скончыла геафак БДУ, працавала завучам у школе, зараз выкладае ў архітэктурна-будаўнічым каледжы. Нягледзячы на розніцу ва ўзросце, мы заўсёды сябравалі, чым я вельмі ганаруся. Для мяне гэта надзвычай важна і каштоўна.

У сям'і ніколі не было, так бы мовіць, розначытанняў. Ва ўсіх пачынаннях мяне заўсёды падтрымлівалі. Ні ў чым не было адмовы, калі што датычылася творчасці ці вучобы. Бацька прыносіў алоўкі, фламастары, вялікую колькасць паперы. Бацькі давалі мне неабмежаваную колькасць пластыліну і ніякім чынам не абмяжоўвалі творчасць. Я адчуваў гэта з самага маленства і з вышыні пражытых гадоў разумею, як мудра яны зрабілі, калі не сталі збіваць з панталыку і рабіць з мяне таго, кім я не быў...

Спачатку мы жылі на сталічнай вуліцы Гая, а калі мне споўнілася пяць гадоў, перабраліся на Пуліхава. Адзін паверх у нашым доме займалі нямецкія дыпламаты, другі — польскія. Пазней я зразумеў сутнасць сацыяльнай няроўнасці і прычыны зайздрасці бацькоў аднакласнікаў, а тады...

Дарэчы, наша сям'я таксама «ўзнікла не з космасу», у тым сэнсе, што ўсе сваякі прайшлі цяжкі жыццёвы шлях. Мой бацька не ведаў свайго бацьку — вайна. Бабуля па мячы была шаптухай, траўніцай, нонканфарміcткай. Моцна не любіла бальшавікоў і нават партрэт Сталіна зневажала. Даравалі толькі таму, што яна была ўдавой, якая адна выхоўвала шэсць дзяцей... Напэўна, яе яршысты характар перадаўся і мне. Дзявочае прозвішча ў яе Адамовіч. Мы не сваякі знакамітаму пісьменніку, аднак усе Адамовічы пайшлі ад аднаго продка, які калісь з Каўказа, праз Малдову, пераехаў на «Літву». Усе маюць (калі ўважліва разглядаць фотаздымкі) трохі падобныя каўказоідныя рысы, усе з норавам.

Шмат каго з нашых сваякоў у сталінскія часы рэпрэсіравалі, некаторыя трапілі ў Курапаты, таму можна толькі ўявіць, як цяжка было майму бацьку дасягаць у жыцці пэўных перамог. Як кажуць, прарывацца ў людзі.

Адзін бацькаў брат-блізнюк памёр ад голаду, а другі брат Пётр у 1944 годзе быў прызваны ў савецкае войска і амаль адразу загінуў пад Ломжай, што ў Польшчы. Майму бацьку з маленства прыйшлося стаць сярод дзяцей адказным лідарам.

У час вайны бацькаў характар не аднойчы праходзіў выпрабаванні на трываласць і ўпартасць. Калі Пятра ўжо прызвалі ў войска, прыйшлі савецкія партызаны, каб забраць... ягоныя боты!

Натуральна, пра «подзвігі партызанаў» у нашай сям'і, скажам так, непараднае меркаванне...

Партызаны хацелі чамусьці таксама спаліць і хату. Бацька скраў ад яе ключы — наіўна думаў, што так перашкодзіць бядзе. Адзін з партызанаў злавіў яго на вуліцы і ў кроў збіў шомпалам. Прайшлі гады, бацька вырас і адпомсціў яму напоўніцу... Такі ў нас характар...

Да слова, я не разумею тых, хто негатыўна ставіцца да ўсёй так званай наменклатуры і адносіць да яе ўсіх, хто ў савецкія часы займаў нейкія кіруючыя пасады. Што датычыцца маіх сваякоў, то яны станавіліся добрымі спецыялістамі дзякуючы асабістай, настойлівай, а часам і вельмі нялёгкай працы. І ніколі ад яе не адвыкалі. Ніхто не бачыў у мазалях нічога заганнага.

Возьмем таго ж бацьку майго стрыечнага брата, вядомага журналіста Андрэя Лапцёнка. Гэты мой дзядзька, Уладзімір Ільіч Лапцёнак, займаў пасаду намесніка старшыні Дзяржкамвыда, а калі трапляў у вёску і яму не ставалася канкрэтнай «сялянскай працы», прама на нашых вачах адной сякерай мог без цвікоў зрабіць лавы і стол.

# Вандроўніцкае шчасце

На сёння краіны, дзе я вандраваў, вылічваюцца ўжо дзясяткамі, аднак самая першая прыпадае на час вучобы ў мастацкай вучэльні. Тады з эцюднікамі мы двойчы аб'ездзілі ўсю Беларусь, і з сябрамі (Віктар Корзун, цяпер рэжысёр-дакументаліст, Цімафей Ізотаў, цяпер вядомы мастак і фатограф, які ўжо каля дзесяці гадоў стала жыве ў Маскве, Таццяна Цыпейнікава, Святлана Вярцінская, якая пераехала ўжо даўно ў Парыж, і я) вырашылі «пашырыць геаграфію вандровак» і «аўтаспынам» паехаць на Каўказ. Зусім дзеці, паўналетнімі былі толькі дзяўчаты. Я звярнуўся да бацькоў па грошы. Яны, канешне, маглі даць, але зрабілі інакш — прапанавалі дапамагчы іх зарабіць, 16 гадоў усё ж...

Прыладзілі на хлебазавод да бацькавай сястры, якая там працавала загадчыцай лабараторыі. Так у мяне з'явілася працоўная кніжка і першы запіс у ёй — машыніст трэцяга разраду цестараздзелачных машын здобасушачнага цэха завода-аўтамат нумар адзін аб'яднання «Мінскхлеб».

Я рваўся зарабіць як мага больш грошай і прасіўся ў начныя змены. За іх плацілі ў два разы больш, але гэта было парушэннем працоўнага заканадаўства. Для непаўналетніх такая работа забаронена юрыдычна. Цётка пытанне нейкім чынам вырашыла, і я пачаў працаваць у пекле, пра якое ведаюць толькі хлебапёкі.

Сутарэнні XIX стагоддзя, ніякай санітарыі, у цэху — плюс 50, за змену я спальваў па тры пары пальчатак. Сушкі ці булкі спачатку абпальваліся парай

(пад 200 градусаў), пасля ішлі ў печ (пад 100 градусаў), а потым грузіліся рукамі ў машыны. Кашмар! Для мяне гэта стала сапраўднай школай жыцця — цяпер ведаю, як на стале з'яўляецца гарачы хлябок... За тры тыдні работы на хлебазаводзе я схуднеў так, быццам бы пабываў на вугальнай шахце часоў сярэднявечча... Так сваімі мазалямі і апечанымі ў начныя змены рукамі я зарабіў на вандроўку. Бацькі далі грошы на тэлеграмы, каб ведаць, дзе ў дадзены момант я знаходжуся і як сябе адчуваю. Яно і зразумела — мабільнікаў і Інтэрнэту тады не было. Сястра нават называла маю ідэю вар'яцтвам.

Але ўсё скончыліся вельмі добра. Мы аб'ехалі Заходні Каўказ: ад Анапы, Новарасійска, усю Абхазію, Грузію да турэцкай мяжы, потым паблукалі па Асеціі і Кабардзе ды вярнуліся ў Мінск, мурзатыя, зашмальцаваныя, але шчаслівыя і чорныя ад загару.

Увогуле ж мае падарожжы пачаліся яшчэ ў дзяцінстве. Бацькі ніколі не шкадавалі на іх грошай, лічылі больш важнымі, чым свае аўта. А потым «ген» вандроўніка стаў рысай характару. Я аб'ездзіў абшары ад Паміра да Паўночнай Афрыкі. Адных толькі сплаваў па рэках Беларусі было аж 23.

Такое ніколі ў жыцці не забываецца!

## Трывожнае шчасце

Нягледзячы на тое, што мы жылі на вельмі прэстыжнай у савецкія часы вуліцы Пуліхава, я не рабіў з гэтага нечага незвычайнага, экстраардынарнага і ставіўся да жытла не больш, чым да жытла. Да таго ж, сярод сваякоў былі і абсалютна простыя людзі — калгаснікі, будаўнікі, шафёры...

Цяжкую сялянскую працу я бачыў на прыкладзе маіх бабуляў і дзеда. І дзякуючы педагагічнаму таленту маіх бацькоў, з маленства да яе прызвычаіўся, навучыўся касіць, хадзіць за канём. Канешне, пільнай патрэбы ў гэтым не было, але ўсіх дзяцей прывучалі да такой работы асэнсавана. Каб ведалі, што як робіцца і адкуль што бярэцца, адчувалі пах роднай зямлі...

Менавіта такім чынам я запомніў свайго дзеда, Аркадзія Паўлавіча Баркоўскага. Ён быў аж з 1887 года нараджэння і ўжо напярэдадні Першай сусветнай вайны сабраў сабе дрэва на хату. Звычайна гэта бывала так. Дзед будзіў мяне (яшчэ дашкольніка) з узыходам сонца і прымушаў яму дапамагаць. Нейкую трэсачку паднесці альбо разам нешта папілаваць. Канешне, карысці ад такой дапамогі было няшмат, але выхавальніцкі эфект — унікальны.

Памятаю, асабліва любіў глядзець, як дзед плёў кашалі і аб нечым са мной размаўляў. Потым уставала бабка, даіла карову і збірала нам сняданак. Паснедаўшы, дзед сыходзіў па сваіх калгасных справах, аднак тыя пару гадзін — усё, што я пра яго помню.

Нас ніколі не аберагалі ад сялянскасці. Наадварот. Працаваць разам з усімі астатнімі сваякамі было нормай. Таму зайздрасць да нашага мінскага жытла была мне незразумелай...

На мой погляд, менавіта ў тыя гады і нараджаўся нейкі алгарытм пратэсту, супраціву. Хацелася ўсё рабіць не так, як патрабуюць, а так, як трэба.

У школе я вучыўся добра, але не вызначаўся ўзорнымі паводзінамі. Знаходжанне за партай страшна напружвала, таму хацелася як мага хутчэй сысці ў мастацкую вучэльню. Паступіў адразу пасля восьмага класа. Абраў педагагічнае аддзяленне, бо там была самая лепшая падрыхтоўка, да таго ж чатыры гады вучобы залічваліся ў працоўны стаж. Я марыў стаць мастаком-графікам.

Асобная размова — нашы педагагічныя практыкі: шаснаццацігадовы настаўнік выкладае дванаццацігадовым вучням урокі малявання і чарчэння. Калі ты здольны прыцягнуць іх увагу, то надалей будзеш спраўляцца з любой аўдыторыяй. Вельмі цікавымі былі і мастакоўскія практыкі, калі нас на месяц звозілі ў які-небудзь раён і вызначалі заліковую колькасць пейзажаў і нацюрмортаў.

Падчас майго паступлення «дыплом» рабіў Тодар Кашкурэвіч, які заўсёды размаўляў толькі па-беларуску, а ўжо вучыліся Міхал Анемпадыстаў, Ігар Варашкевіч, Лявон Вольскі з усёй будучай «Мрояй», Уладзімір Давыдоўскі, Алег Дзямідовіч, заядлы нацыяналіст Юрась Мурашка і шмат хто іншы. У чарговы раз мне пашанцавала сустрэць на жыццёвым шляху добрых паплечнікаў.

У вучэльні, апроч іншага, я быў яшчэ ды-джэем амаль на ўсіх дыскатэках. Як вынік — шматлікія бойкі са сталічнымі пэтэвэшнікамі, «мясцовымі» на «бульбе», вельмі цяжкія траўмы, што потым ператварылася ў «годны да нестраявой службы». Ганаруся, што выпала правесці першыя ў краіне дыскатэкі на беларускай мове.

Я вырас у вельмі дэмакратычнай і адукаванай сям'і, дзе цаніліся веды (амаль ва ўсіх сваякоў былі добрыя бібліятэкі), цанілася беларускае слова, народныя песні, таму арыентацыя на беларушчыну была цалкам натуральнай. Мастацкая вучэльня толькі дадала да яе новых рысаў. Побач вучыліся людзі з усёй Беларусі, і мне, як чалавеку камунікабельнаму, які не ведаў «гарадской фанабэрыі», кампанію аднадумцаў было знайсці не цяжка.

І таму цалкам зразумела, чаму Міхал Анемпадыстаў прывёў нас у «Майстроўню», дзе я пазнаёміўся з Вінцуком Вячоркам, Сяргеем Дубаўцом, а потым, калі на базе «Майстроўні» стваралася «Талака», з Алесем Сушам і светлай памяці Віктарам Івашкевічам. Усе яны былі значна старэйшыя, але адразу прынялі ў сваё асяроддзе. Зноўку — пашчасціла.

Хутка ў мастацкай вучэльні вакол мяне пачалі гуртавацца аднадумцы, неафіцыйна сфарміравалася сябрына прыхільнікаў нацыянальнага адраджэння. Гэта і адыграла драматычную ролю ў наступных падзеях.

Мы сустракаліся, падоўгу размаўлялі пра беларускую гісторыю, але далей размоў не ішло. І тады мае сябры вырашылі гэта выправіць. У дзень Савецкай Канстытуцыі над мастацкай вучэльняй з'явіліся бел-чырвона-белыя сцягі. Больш за тое. Хлопцы сарвалі два сцягі СССР. Адзін выкінулі ў сметніцу, другі паклалі замест анучы на ўваходзе — каб усе выціралі ногі...

Тры выхадныя дні ніхто гэтага не заўважаў. У панядзелак усё і пачалося. Калі на новыя сцягі, не ведаючы, што гэта такое, не звярталі ўвагі, то анучу пад нагамі ўбачылі. Імгненна дзверы вучэльні закрылі. Нікога не выпускалі. Настаўнікі рабілі выгляд, што нічога не адбываецца, але выйсці было немагчыма.

1985 год. Андропаўскія часы скончыліся толькі намінальна. Асабліва ў Беларусі... Адразу распачалося следства. Падзея выпала на мой дзень нараджэння — 5 кастрычніка. Я нават не ведаў, што хлопцы вырашылі зрабіць такі падарунак, але гэта не выратавала. Хутка выявілі ўсіх нацыяналістаў і «нядобранадзейных», сярод якіх я быў лідарам. Пасля ў КДБ мяне знаёмілі з даносамі. Прачытаць, хто і што пра цябе сказаў, было каласальным узрушэннем. Атрымаць такі досвед у 17 гадоў — вельмі драматычна.

Шчыра скажу, было страшна. Асабліва, калі прыйшлі на работу да маці, паказалі «корачкі» і папрасілі вызваліць памяшканне «для беседы с Хоревской о её сыне»... Уяўляю, колькі сівых валасоў тады дадалося... Хаця насамрэч ніякага злачынства з майго боку фактычна не было, бо ў гэтай акцыі я ўдзелу не прымаў... Але яны «раскрылі змову». Маўляў, «пасля заняткаў я вёў нацыяналістычныя размовы, распаўсюджваў нацыяналістычную літаратуру, прыносіў малітоўнікі і г. д.». Сёння гэта гучыць смешна, а тады было не да смеху. На допыты ў КДБ хадзіў некалькі месяцаў...

## У пошуках шчасця

З камсамола мяне выключылі. З вучылішча таксама, бо акадэмічны адпачынак, у які я быццам бы пайшоў па сваёй волі, быў фактычнай спробай адвесці «каток рэпрэсій». Я сышоў, каб адчапіліся ад астатніх.

Пасля каля года працаваў у выдавецтве «Беларуская энцыклапедыя імя Пятруся Броўкі». Маючы афіцыйна адукацыю ў восем класаў, я быў рэдактарам аддзела каляровай ілюстрацыі. У мае непасрэдныя абавязкі ўваходзілі рэтушаванне і рэдактура фотаздымкаў і малюнкаў пяцітомнай энцыклапедыі па гісторыі мастацтва і культуры.

Моцна гэтым захапіўся і пераглядзеў на слайдах (тады вельмі дарагое задавальненне. — **Заўв**. **аўт**.) усе беларускія помнікі. Прычым не проста прагледзеў, а вывучыў пад лупай кожны міліметр выявы кожнага помніка Беларусі. Пагадзіцеся, пра такое можна толькі марыць.

Там жа пазнаёміўся з унікальнай кампаніяй фатографаў-нонканфармістаў на чале з Георгіем Ліхтаровічам, якім заказвалі аздабленне кніжак нашага выдавецтва фота. Яны аб'ездзілі ўсю Беларусь і крытычна расказвалі шмат чаго цікавага. У краіне пачынала віраваць перабудова, і ў пачатку 1986 года я аднавіўся ў сваёй мастацкай вучэльні.

Праз некалькі месяцаў здарылася аварыя ў Чарнобылі. Нас тэрмінова «пашыхтавалі» і прымусілі даць прысягу, сутнасць якой палягала ў гатоўнасці паехаць па размеркаванні ў любую кропку БССР. Многіх гэта здзівіла, бо раней такога не было. З урачамі зразумела, бо ў іх ёсць клятва Гіпакрата, а тут — мастакі... Вызваляліся ад прымусовага размеркавання толькі тыя, хто працягваў вучобу далей.

Я здаў усе экзамены на выдатна і збіраўся паступаць у Тэатральна-мастацкі інстытут. Усіх, хто такой (альбо нейкай іншай) магчымасці не меў, размеркавалі ў Чарнобыльскую зону.

У час працы ў энцыклапедыі я пазнаёміўся са светлым чалавекам Міхасём Раманюком, якога, на жаль, ужо няма сярод жывых. Ён быў выкладчыкам у Тэатральна-мастацкім інстытуце і вельмі хацеў бачыць мяне сярод студэнтаў толькі-толькі створанага факультэта тэорыі і гісторыі мастацтва.

Два першыя ўступныя экзамены я здаў на выдатна, а трэці (пісьмовы і вусны) па гісторыі Беларусі на «тройку». Калі я даведаўся пра гэта і пачаў абскарджваць, скандаліць (маўляў, не можа быць), мяне выклікаў Раманюк і па-сяброўску сказаў, што з КДБ яго начальству быў званок...

Я вельмі яму ўдзячны за шчырасць і параду не губляць час. Працэс паступлення быў спынены, і я па размеркаванні паехаў у Краснапольскі раён.

З Міхасём мы потым доўга сябравалі, а яго сын Дзяніс Раманюк — хросны бацька маёй дачкі.

У Краснаполлі высветлілася, што вёска, куды мяне размеркавалі, ужо выселеная, а ўсе будынкі закапаныя, але адпускаць не сталі. Каб не было «текучки кадров». Маўляў, мяне накіравалі да раённага аддзела адукацыі, а не да канкрэтнай школы. Сказалі: «Будзеш нам тут насценгазеты рабіць».

Прапанавалі выбраць любую хату, бо траціна Краснаполля ўжо з'ехала, але я абраў гасцініцу, дзе адразу заклікалі «не гадзіць пад вокнамі», бо «выгоды» там былі на вуліцы... Праз некалькі месяцаў міністэрства сярэдняй адукацыі ліквідавалі і мяне «адмацавалі».

У Мінску ўладкаваўся ў Інстытут гісторыі Акадэміі навук, дзе на той момант дырэктарам быў Георгій Штыхаў. Праз паўгода адбылося «скарачэнне штату» і зноўку наконт мяне прагучаў «званок з КДБ»...

Натуральна, «скарацілі». Міхась Чарняўскі, з якім мне пашанцавала пазнаёміцца, парупіўся прыладзіць у інстытут «Белспецпраектрэстаўрацыя».

Тыя, хто непасрэдна займаўся жывапісам, мяне браць не сталі. Пагадзіўся археалагічны аддзел, і на пяць гадоў маім непасрэдным начальнікам стаў Алег Трусаў. Алег Анатольевіч — вельмі дысцыплінаваны, патрабавальны, прынцыповы чалавек. Працаголік сам і патрабуе гэтага ад іншых.

Новая работа мне вельмі падабалася. Я працаваў тэхнікам-мастаком, то бок фіксаваў усе знаходкі, чарціў планы раскопак і г. д. Гэта цяпер у археолагаў ёсць лічбавыя фотаапараты і ксераксы, а раней усё рабілася асабіста, то бок — рукамі.

Дарэчы, тое, што я ўмею маляваць, адыграла значную ролю. Алесь Краўцэвіч гэта ўбачыў і прапанаваў афарміць вокладку яго кнігі «Стары гарадзенскі замак». З гэтага і пачалося маё супрацоўніцтва з рознымі выдавецтвамі. Я афарміў каля трох дзясяткаў кніг. У тым ліку і масавы школьны варыянт знакамітай «Песні пра зубра» Гусоўскага.

У 1988 годзе паступіў у Ленінград, на завочнае аддзяленне Інстытута жывапісу, скульптуры і архітэктуры імя І. Рэпіна Акадэміі мастацтваў СССР, дзе нікому не было справы да маёй каляпалітычнай дзейнасці і нейкіх анкет.

Нягледзячы на конкурс у 20 чалавек на месца, я прайшоў. Гэта нешта накшталт магістратуры. Акадэмія мела спецыфічны, асобы статус. Вучыліся там пяць гадоў. Нам чыталі лекцыі найлепшыя вучоныя і знакамітасці Савецкага Саюза (акадэмік Дзмітрый Ліхачоў, літаратуразнаўца і культуролаг Юрый Лотман, пісьменніца Таццяна Талстая, напрыклад) і вядомыя палітыкі, накшталт кіраўніка «Дэмплатформы» Юрыя Афанасьева.

А сам Анатоль Сабчак быў шчырым прыхільнікам і ледзь не мецэнатам мастацтва. Яго дачку Ксюшу я памятаю яшчэ маленькай дзяўчынкай.

Год паступлення стаў апошнім годам так званай ленінградскай эрзацнасці, потым быў — «бандыцкі Пецярбург». Усё разваліласся літаральна на вачах, асабліва «бытавуха». Ніхто не вывозіў смецце. Паявіліся чэргі. З паліц крамаў зніклі прадукты. Памятаю, як у лютым на 30-градусным марозе, у завею, мы стаялі ў чарзе. Для таго, каб па талончыку, які нам далі ў акадэміі, студэнцкім квітку і пашпарце купіць сваю палову буханкі хлеба... Як у блакаду...

Мая вучоба скончылася ў 1992 годзе. Цікава, год таму сярод нашых прадметаў быў навуковы атэізм, а на апошнім курсе ён ператварыўся ў гісторыю рэлігіі. Ледзь не ў закон Божы. Чытаў курс айцец Аляксандр, які потым стаў кіраўніком маёй дыпломнай работы. Менавіта ў час вучобы нам давялося перажыць «паўлаўскую рэформу» і распад Савецкага Саюза.

Паралельна ў мяне яшчэ было і «беларускае жыццё». Сяргей Дубавец (з якім мы сябравалі і часта кантактавалі, бо жылі побач на Пуліхава) прапанаваў мне ў якасці мастацкага рэдактара заняцца газетай «Свабода», якую ён потым перадаў Ігару Герменчуку.

Друкаваліся мы ў Магілёве. 19 жніўня 1991 года я здаваў чарговы нумар і прама ў друкарні даведаўся, што адбыўся путч. Пазваніў Герменчуку, вырашылі тэрмінова перарабіць першую паласу.

Дарэчы, усе вакол былі заадно з намі — друкары, начальнікі, міліцыянты. Напэўна, тысячу нумароў рабочыя выцягнулі, як кажуць, «з-пад станка». Думкі ў людзей ужо былі іншымі, таму, на мой погляд, ёсць сэнс вярнуцца да 1989 года, калі ў Вільні адбыўся ўстаноўчы з'езд Беларускага Народнага Фронту. Я там быў дэлегатам, таму галасаваў за ўсе пастановы. На рабоце многія цесна кантактавалі з Зянонам Пазьняком, таму наш актыўны ўдзел ва ўстаноўчым з'ездзе цалкам лагічны. Да слова, я таксама меў адносіны да «Тутэйшых», але гэта асобная тэма. Таксама быў і кур'ерам ад Дубаўца да Міколы Статкевіча. Сяргей тады рэдагаваў статут Беларускага згуртавання вайскоўцаў.

А потым Дубавец прапанаваў пераехаць у Вільню і адрадзіць «Нашу Ніву» там, дзе яна і пачалася. Пяць гадоў майго жыцця сталі «віленскімі». У тым ліку і звязаныя з крывавым штурмам тэлевежы. У тыя часы было шмат цікавых падзей, пра якія ёсць сэнс расказаць асобна, аднак зараз, карыстаючыся выпадкам, я хачу добрым словам узгадаць светлай памяці Таццяну Дубавец, якую многія ведаюць па дзявочым прозвішчы Сапач. Зямля пухам мужнай і прыгожай ЖАНЧЫНЕ!

У 1996 годзе рэдакцыя пераехала ў Мінск, і праз пэўны час Сяргей Дубавец перадаў кіраванне Андрэю Дынько. Я пакрысе дыстанцыянаваўся, бо заставаўся яшчэ ў Вільні.

У 2003 годзе амерыканцы пачалі «вызваляць» Ірак. Курс літа да даляра ўзмацніўся ў чатыры разы. Я скарыстаўся сітуацыяй, прадаў усю літоўскую маёмасць і вярнуўся ў Мінск. Скончыў тут аспірантуру Акадэміі мастацтваў (былы Тэатральна-мастацкі інстытут) і там жа (каб не страціць кваліфікацыю) крыху выкладаў. Заробкі, натуральна, былі мізэрныя...

Асобна хачу падзякаваць за падтрымку ў гэты няпросты момант майго жыцця сябру Адаму Глобусу, які прыцягнуў мяне да выдавецкіх справаў і напісання кніг, ды сябрам-філосафам Алесю Анціпенку з Валянцінам Акудовічам, якія прапанавалі чытаць лекцыі ў Беларускім калегіюме.

Потым пісьменнік Ігар Бабкоў сагітаваў папрацаваць у ЕГУ, то бок зноў вярнуцца ў Літву. Супрацоўнічаю там з імі і сёння.

Закончу рэфрэнам, які прайшоў праз усю гэтую размову: архіважна, якіх людзей ты сустрэнеш на жыццёвым шляху. Мне пашчасціла сустрэць НАЙЛЕПШЫХ!»

*16.10.2014*



З маці. Еўпаторыя.
8 сакавіка 1980 года



Дзед — Аркадзь Паўлавіч Баркоўскі,
здымак 1910-х гадоў.



Маляваў, колькі сябе
помніць. 1973 год



Анапа. 1973 год



З бабуляй Анастасіяй Кірылаўнай Харэўскай, пач. 1970-х



У школу з сястрою Таняй. 2 клас. 1 верасня 1974 года



**З дачкой Евай. 2009 год**




**Мітынг супраць будаўніцтва метро ў Верхнім горадзе. 1988 год**


На гары Ай-Петры. Крым. 2005 год


Па дарозе ў Камянец-Падольскі. 28 верасня 2008 года

У гарах Паміра, савецка-афганская мяжа, Горны Бадахшан. 1989 год

# Юлія ЧАРНЯЎСКАЯ



**Ёсць катэгорыя людзей, размаўляючы з якімі не звяртаеш увагу на час. Вядомы культуролаг Юля Чарняўская менавіта з такіх. Мы размаўлялі з ёй амаль пяць гадзін. Высветлілася, што і гэтага мала. Так бывае заўсёды, калі размаўляеш з цікавымі і добрымі людзьмі. А яшчэ я зноў пераканаўся: у гэтым жыцці значных поспехаў дабіваюцца толькі тыя, хто шмат працуе і не шкадуе сябе.**

## Незвычайны радавод

«Канешне, калі нехта стане лічыць, што табе 47, а не 54, гэта будзе вельмі прыемна, аднак я прынцыпова ніколі не скрываю год і дзень сваіх народзінаў — 5 жніўня 1962 года. Я з'явілася на свет у знакамітым радзільным доме «на Валадарцы».

Калі ў мамы пачаліся «схваткі», бацькі ўсю ноч сядзелі на кухні кватэры на вуліцы Карла Маркса і травілі анекдоты, а раніцай разам пешку пайшлі ў раддом. Пра тое, каб выклікаць таксі, нават ніхто і не падумаў... Ісці было недалёка, але зрабіць гэта з болем «схватак» вельмі нялёгка...

Мама ў мяне стоік. Яе завуць Аляксандра Рыгораўна, а бацька — Вісарыён Цімафеевіч. Тады проста Саша і Віля. Абое — маладыя ўрачы.

Як расказвалі, я нарадзілася каля дзесяці вечара. Цікава, што праз чвэрць стагоддзя гэтак жа зрабіла мая дачка Жэня. Як спяваюць у адной папулярнай песні — «на тым жа месцы, у тую ж гадзіну». Толькі я ў жніўні, а яна — 24 лістапада. Такое вось супадзенне!

Маці паходзіць з даволі своеасаблівай сям'і, у тым сэнсе, што яе бацька меў «звычку» шмат разоў жаніцца і кожнай жонцы пакідаць дзяцей... Пра многіх сваякоў я даведалася толькі ў 48 гадоў праз праграму «Чакай мяне».

У мяне шмат родных, але, каб нікога не заблытаць, пачну з таго, што пасля заканчэння вайны бабуля па кудзелі апынулася ў Кёнігсбергу, які ў 1946 годзе стаў Калінінградам, і дзе па вядомых прычынах вызвалілася шмат жытла. Туды хутка прыехаў з вайны яе муж, але яны літаральна з парога разышліся.

У Калінінградзе бабуля кіравала дзіцячым домам. Яе звалі Эда, у гонар Эды Габлер з п'есы Ібсэна. Чарняўская — ад яе.

На жаль, у 37 гадоў маладая жанчына памерла ад раку, і мая мама пасля двух гадоў назірання за трагедыяй і клопату паехала паступаць у Смаленск у медінстытут. Аднак, нягледзячы на тое, што раней вучылася на медсястру, не паступіла. Ёй было тады 18 гадоў. Затое праз год адбылося паступленне ў Мінскі медінстытут, дзе мае бацькі і пазнаёміліся.

Па бацькавай лініі сітуацыя склалася кардынальна інакш. У дзеда Цімафея Васільевіча было двое братоў і дзве сястры. Ён быў старэйшым. Малодшы Аляксей хутка памёр, а ўсе астатнія пайшлі па жыцці рознымі шляхамі. Барыс прайшоў вайну, стаў ваенным, а дзедава любімая малодшая сястра цётка Тася — настаўніцай. Яна пражыла доўга, памерла ў 2012 годзе ў роднай вёсцы Езлічы, што на Случчыне. Светлая, добрая працаўніца. Гэта быў апошні чалавек у маім жыцці, які называў дзядулю Цімашком.

Цімафей Васільевіч яшчэ са школы вельмі пісьменна пісаў і на рускай і на беларускай мовах і без праблем паступіў у Бабруйскую прафтэхшколу. У гэты ж час пачаў пісаць вершы, на паэтычнай глебе знайшоў аднадумцаў, і яны сталі друкавацца ў бабруйскай шматтыражцы. Потым пераезд у Мінск, дзе ў маладога паэта Цімафея Крысько (вядомы псеўданім Васіль Вітка паявіўся ў час вайны, у 1943 годзе) выйшлі дзве першыя кнігі. У 1935 годзе адбылося яго знаёмства з будучай жонкай — Вольгай Рыгораўнай Лерман. Тады многія беларускія пісьменнікі жаніліся з габрэйкамі: Міхась Лынькоў, Мікола Федаровіч, Рыгор Суніца-Лынькоў. Так пачаўся габрэйскі складнік майго радавода.

Бабуля Вольга была вельмі добрай, з непаўторным этнічным тэмпераментам. Часам гэта выражалася даволі забаўна. Помню, як не раз пасля таго, як доўга ўгаворвала мяне надзець паліто, крычала: «Не, гэтае дзіця мяне загубіць! Не хочаш надзяваць? Ну, і не надзявай. Вось прастудзішся і здохнеш пад плотам, шкадаваць не буду. Куды?! Неадкладна надзень паліто... Не, гэтае дзіця мяне заб'е!».

Парадокс: мой беларускі дзед ставіўся талерантна не толькі да габрэяў, але і да Ізраіля. А вось бабуля вельмі не любіла Ізраіль. Яна казала: «Гэта з-за таго, што яны туды з'язджаюць, да нас тут такая нянавісць».

## Жыццёвыя катаклізмы

Бабуля Вольга, дачка шаўца, пераехала з Гомеля, дзе выступала ў мастацкай самадзейнасці, у Мінск і пайшла ў тэатр працоўнай моладзі «Трам», адкуль выйшла шмат прафесійных актораў. Яна іграла там характарныя ролі.

Аднойчы ў іх быў нейкі канцэрт. Бабуля выбегла на сцэну і надзвычай эмацыйна пачала чытаць вершы Купалы і Маякоўскага. Вельмі прыгожая, стройная, чорныя кудры.

Як кажуць, дзеда гэта «паразіла», і ў іх пачаўся раман. У 1936 годзе маладыя пабраліся шлюбам, а ў 1937-м на свет з'явіўся мой бацька. Дзед Цімафей даў яму імя Вісарыён, бо вельмі любіў Бялінскага. Усё жыццё бацька адчуваў складанасці з імем, якое некаторыя не маглі нават вымавіць. Тое ж самае адчуваю і я, толькі цяпер гаворка ідзе пра імя па бацьку...

У 1939 годзе ў іх нарадзілася дачка Наталля.

Дзед сябраваў з братамі Лынькровымі, з Міхасём і малодшым Рыгорам. Вельмі таленавіты быў паэт. Каб яго не блыталі з братам, узяў псеўданім — Рыгор Суніца. Аднойчы дзед пазнаёміў яго з малодшай (і самай прыгожай) сястрой маёй бабулі (яго жонкі) Геняй. Пачалося каханне, адбыўся шлюб, і хутка нарадзілася дачка Алёнка.

У самым пачатку вайны фашысты расстралялі іх у Старых Дарогах, разам з першай жонкай Міхася Лынькова Ганнай Абрамаўнай і яго сынам Марыкам. Гені было дваццаць, а яе дачцэ Алёнцы — толькі два годзікі...

Я не ў курсе, ведаў альбо не пра гэта Рыгор, бо ён таксама загінуў на фронце ў 1941 годзе.

Аднак вернемся ў перадваенныя часы.

У 1937 годзе дзед быў адказным сакратаром адной з газет, сябраваў з тым, каго потым назвалі «ворагам народа» і «забралі». На партыйным сходзе дзеда сур'ёзна «прапясочылі» за тое, што не данёс. Звычайна гэта заканчвалася хуткім арыштам.

Мая бабуля заўсёды была «ценем мужа». Дзед — галоўны, гаспадар, а яна, як і належыць габрэйскай жонцы, «на доме, кухні і дзецях». Але ў экстрэмальных сітуацыях бабуля імгненна ператваралася ў надзвычай валявую жанчыну і выратоўвала ўсіх. Тады яна цвёрда сказала: «Мы з'язджаем з Мінска і будзем недзе хавацца».

Так яны апынуліся ў Пухавічах, дзе дзед два гады працаваў вартаўніком мясцовага Дома культуры. Потым (у нашым доме пра гэта ніколі не расказвалі — я даведалася аб усім з дзедавых успамінаў і лістоў) апала была знятая, і нехта ўспомніў пра маладога, таленавітага журналіста.

Дзеда накіравалі ў Беласток працаваць сакратаром Беластоцкага аддзялення Саюза пісьменнікаў. Там іх і застала вайна.

Яны хутка паехалі ў Гомель, дзед пабег у ваенкамат, дзе яго «зарубілі па зроку» і адразу ж накіравалі ў Маскву працаваць у беларускіх выданнях. Яны тады размінуліся і сустрэліся толькі напрыканцы вайны...

А бабуля пешшу (з двума маленькімі дзецьмі на руках) пайшла з Гомеля ў Оршу, а потым — дабралася да Смаленска, дзе ёй удалося сесці ў цягнік. Так яна апынулася ў Кургане, у эвакуацыі. Вось цытата з ліста (мова, стыль і арфаграфія з большасці захаваныя) бабулі ад 12.09.44 года:

*«Пшеничное поле...*

*Самым страшным этапом для меня было пройти это поле. Обойти его было невозможным, это значило вернуться назад. Нас просто согнала с дороги колонна танков. К нам обращался военный, который кричал в черный рупор: «Сверните граждане с дороги, дайте пройти войскам». Это продолжалось до самого вечера. Многие ушли в обход. Нас осталось человек 20. Запомнилась мне одна женщина. Она почему-то была в черной шапке железнодорожника, несмотря на жару и пыль, и еще один горбатый парень, он все время плакал. Он первый зашел в поле пшеницы и лег. Мы думали, что он умер. Женщина в шапке подошла к нему, а он спит. Она нам сказала: заночуем в поле. Мы решили заночевать в поле, недалеко от Орши. Эта ночь была тем же страшным днем, с грохотом, страшными криками и воплями, а дети спали крепко. Оршу бомбили утром, но эту часть дороги не бомбили. Когда Виля проснулся, первое, что он сказал: «Какой лес!», он первый раз видел поле, а пшеница была высокая, выше человеческого роста, и принял поле за лес. Вот этот «лес» пройти с ними было самым трудным, что было в моей жизни. Рука у Вилика еще не окрепла после Белостока, а плестись за мной по полю ему было очень трудно, он попросился на руки. Я ему вру про какое-то дерево, до которого мы скоро дойдем, и я его возьму. Когда я его посадила на плечи, он все время спрашивал о том дереве. Мне даже легче стало, он мне не мешал плачем, только слюни его стекали по моему носу. Сын на плечах, дочь на руках. К халату прикрепила узел, где хранила самый ценный для нас спаситель — пуховое розовое (которое превратилось в серое) одеяло. До сортировочной под Смоленском, со стороны Орши, мы добирались больше 2-х суток с перерывами. Помню, что в какой-то деревне меня и детей кормила старуха и рыжий дядька дал на дорогу хлеба. Я его очень просила поговорить с начальством, чтобы я осталась в деревне, но он сказал, что сами скоро оставляют дом и уходят.*

*Я опять смешалась с толпой и так до сортировочной...*

*5 июля (1941 года) на сортировочном вокзале Смоленска нас погрузили в товарный вагон, где яблоку упасть негде было. Недалеко от нас стоял пассажирский поезд, прибывший из Москвы. Мы диву давались и завидовали. Люди были хорошо одеты, дети бегали и жевали печенья, булку, значит, их эвакуировали организованно и дали возможность взять с собой нужное. Нас к тому поезду не допускали, также как их к нашему.*

*В нашем эшелоне я встретила людей из западных городов: Баранович, Гродно. Они, как и я, вышли голые и босые. Если что и было у меня, я побросала в Орше. Уже на ходу нам бросили несколько булок хлеба и еще что-то, и мы делили уже это когда ехали».*

А вось — фрагмент аднаго з лістоў дзядулі 1942 года:

*«Помнишь ли ты один из летних вечеров в Пуховичах, когда наши детки уже спали, а мы вышли с тобой и сидели на скамеечке возле клумб, потом долго ходили. Кажется, в этот вечер не было нами ничего особого сказано, но он останется в моей душе на всю жизнь. Я физически ощущаю его. Я всегда, когда о нем вспоминаю, чувствую свежий запах метиолы. Метиола! Почему я пишу о ней, думаю? Потому что я вообще не знал, что есть на свете такой цветок. Это ты открыла его название, его тайну, что он радуется своему счастью только ночью, когда никто не видит. Он тоже похож на нас, мы тоже с тобой никогда не любили показывать, бравировать, щеголять, хвалиться. Вот почему я навсегда запомнил эту ночь. Я тогда не сказал тебе этого, потому что понял все это позже и, может быть, понастоящему — сейчас. Но тогда, в ту ночь, я знал, что ты именно думаешь о том, что и я. Вот мы уже родители, спят наши дети. Но какое счастье любить и понимать, что тебя любят, и нам тоже хотелось, как наивным, беззаботным подросткам, вновь и вновь переживать, перечувствовать юность, которая всегда живет и будет жить в душе человека, как самое заветное — первое счастье. Моя любимая, ты прости мне, что в такой суровый час пишу тебе о своих чувствах, которыми сыт, согрет и обут не будешь. Милая, родная, в этом — мое несчастье. В мирное время писать о войне. Помнишь «Балладу про солдата»? А во время войны жить и радоваться воспоминаниями о метиоле».*

У нашым доме так і не палюбілі «показывать, бравировать, щеголять, хвалиться». Грошы ад ганарараў патрэбныя былі толькі для таго, каб для некага з дзяцей вырашыць нейкае пытанне. Гаспадарку бабуля вяла выключна на дзедаву пенсію.

Усе яго зберажэнні захоўваліся на ашчаднай кніжцы і «зніклі» разам з Савецкім Саюзам. Ён не паслухаў парадаў майго мужа Юры, бо ў нашым доме не прынята было размаўляць на «меркантыльныя» тэмы...

Напэўна, дзед быў вельмі засмучаны гэтым, але выгляду не падаў, бо моцна хвалявацца наконт грошай, на ягоны погляд, было не інтэлігентна. Грошы ўспрымаліся толькі як сродак. Ніколі не як мэта.

Калі на дзень народзінаў дзеда, 16 мая, я дарыла яму агромністы букет бэзу альбо півоняў, кожны раз прыходзілася тлумачыць, што гэта «не панскія замашкі» і каштуе вельмі сціплыя грошы.

Пры гэтым дзед не быў сквапным і ніколі іх не шкадаваў на тэрміновую дапамогу дзецям. Не эканомілі на добрыя фрукты і на паездкі ў Крым, дзе ў Кактэбелі быў Дом творчасці пісьменнікаў СССР і дзе я адчула ўсю прыгажосць шматкультурнасці, атрымала добрую «прышчэпку» ад ваяўнічага фа-

шыствуючага пачатку. Бабуля цалкам падтрымлівала спартанскі лад жыцця дзеда. Яны жылі эканомна, але калі нейкая рэч куплялася, яна была якасная. Напрыклад, адна і тая ж мэбля ў іх кватэры прастаяла шмат дзесяцігоддзяў, потым яе пераліцавалі і тая стала, як новая.

Яны не любілі ані хрусталю, ні «багемскага шкла», ні дываноў, ні іншых савецкіх роскашаў, як у некаторых суседзяў. Нічога такога ў нас не было.

# Першыя крокі

Увогуле, пра шык у доме на Карла Маркса, 36 не вельмі шмат хто думаў. Галоўным заўсёды было ўтульнае асяроддзе, камфортныя атачэнне, атмасфера. У нашым пад'ездзе жыў толькі адзін нейкі генерал «з боку», астатнія — пісьменнікі. У кватэры пад намі жылі Клімковічы, над — Гілевічы, насупраць іх — Навуменкі, насупраць нас — «Глебчыха» з дачкой Ларысай, мужам і двума сынамі. А вышэй (час ад часу змяняючы адзін аднаго) — Шамякіны, Скрыганы, Брылі і дзядзька Уладзя Караткевіч, якога я любіла больш за ўсіх. У суседнім пад'ездзе жыў Янка Маўр. Побач — сябар дзеда Усевалад Краўчанка, які пры таемных абставінах пайшоў з жыцця ў Парыжы, калі абодва знаходзіліся ў творчай камандзіроўцы. Дачка Краўчанкі Вольга і сёння спрабуе разгадаць гэтую тайну. Тады ёй быў годзік, а мне — тры месяцы. Тату яна не памятае... Вось дзе трагедыя. Дарэчы, калі ў вядомым доме на Карла Маркса, 38 знаходзілася ЦК КПБ, ніхто там нікога не лавіў і ні за кім не сачыў... Нават можна было наўпрост хадзіць праз іх газон... Я так бегала на філфак...

А тады, у 1963 годзе дзядуля прыехаў з Парыжа ўзрушаны. Зайшоў у пакой маіх бацькоў і ў пераносным сэнсе адтуль не выйшаў, бо палюбіў мяне на ўсё жыццё. Нават, калі пачаліся «цяжкасці пераходнага ўзросту»... З тых часоў ён праводзіў са мной гадзіны напралёт. Літаральна забіраў і нёс у свой пакой. Маці нават крыўдзілася, што аддаваў ёй дзіця толькі, каб пакарміць...

Бацька скончыў медычны інстытут на год раней за маці, бо тая ў сувязі з маім нараджэннем брала «акадэмку». Яго размеркавалі ў горад Завіцінск. Гэта чыгуначная станцыя Завітая, што паміж Чытой і Благавешчанскам, Амурскі край.

Дзіцячыя ўспаміны таго часу вельмі сціплыя.

Памятаю: горы вугалю, шмат гасцей у нашым доме, бо туды размеркавалі шмат маладых дактароў, бацька на плячах нясе мяне з дзіцячага садка і спявае франтавую песню пра агарачак свечкі. Я і сёння яе люблю.

Потым ён неяк успамінаў: «Аднойчы я затрымаўся на прыёме ў паліклініцы, і, як заўсёды, Юльку на маю работу прывяла з дзіцячага садка выхавальніца — добрая душа. На двары было слотна і гідка, цямнела. Я ўзгрувасціў

дачку на плечы і пабег дадому. Каля аднаго двара мяне спыніла пажылая балбатлівая пацыентка, я спусціў Юльку на зямлю і загаварыў з ёй. Раптам мы пачулі радасны Юльчын голас:

— Тата, глядзі, ён мяне не баіцца!

Я паглядзеў і ледзь не сеў у лужыну: Юлька пралезла ў дзірку плота, падышла да велізарнага ланцуговага сабакі, лупіць яго па мордзе кулачкамі і вельмі задаволеная. Сабака адварочваецца і віляе хвастом. Удваіх з жанчынай мы адцягнулі сабаку і выцягнулі незадаволеную Юльку».

Я вельмі люблю жывёл. Нават кніжку напісала «Хлопчык і сабака». Чаму я тады яго лупіла? Можа гладзіла? Аднак на гэта адказаць ужо няма каму...

Так атрымалася, што мясцовы клімат мне «не пайшоў». Пастаянныя ангіны і ўрэшце рэўматызм сталі прычынай таго, што мяне ў трохгадовым узросце прыйшлося адвезці ў Беларусь. А бацькі вярнуліся ў Завіцінск адпрацоўваць размеркаванне. Да дзевяці гадоў я жыла ў дзеда Цімафея і бабулі Вольгі. Вывучыла на памяць процьму вершаў на беларускай і рускай мове і нават цалкам «Казку пра цара Салтана», каб паказаць сваім бацькам, калі яны вернуцца, якая харошая ў іх расце дачка. Канешне, у гэтым заслуга перш за ўсё дзеда, бо літаратура, пісьменніцкае асяроддзе для мяне было нечым натуральным. Як паветра, напрыклад. Першыя вершы Барыса Пастэрнака, якога ён вельмі любіў, я пачула ў тры гады і памятаю па наш дзень.

Дзед пастаянна знаходзіўся побач, нават браў мяне з сабой на работу. А кожны дзень у парку, якому потым прысвоілі імя Янкі Купалы, у любую пару года адбываліся своеасаблівыя пісьменніцкія праменады. Па набярэжнай ракі Свіслач прагульваліся зоркі беларускай літаратуры (адны мужчыны) і маленькая дзяўчынка, якую трымаў за руку дзіцячы пісьменнік Васіль Вітка.

Ён сапраўды быў ДЗІЦЯЧЫМ. Кожны дзень яму прыходзілі дзясяткі лістоў ад дзяцей. І на кожны з іх дзед адказваў. Бывала, на дзіцячыя лісты ён адказваў хутчэй, чым на пошту знаных вучоных. А яшчэ для яго было нормай напісаць спачатку чарнавік ліста і толькі потым зрабіць чыставік. Гэта норма датычылася ўсіх — дзяўчынкі з малой вёскі, і знакамітага акадэміка Зміцера Ліхачова.

# Выбар шляху

Калі вярнуліся мае бацькі, яны ўбачылі, што ў іх вырасла дачка з абвостраным пачуццём справядлівасці і спагады да чужой бяды. Нешта ад грынаўскай Асоль. Нешта ад герояў Дзікенса.

Напрыклад, я магла заплакаць перад сном ад таго, што «галадаюць дзеці Мазамбіка», і бабулі прыходзілася супакойваць тым, што так адбываецца далёка не паўсюды, што мы абавязкова дашлем ім пасылку.

Па прыездзе бацькі вельмі хутка пачалі разводзіцца. Калі гэта адбылося, маці паспрабавала забраць мяне на здымную кватэру, але высветлілася, што гэта вельмі складана (яе праца на паўтары стаўкі і мае частыя хваробы кепска суадносіліся), і ёй прыйшлося вярнуць дачку да дзеда з бабуляй.

Зразумела, што там жыў і мой бацька. Ён, канешне ж, мяне любіў, аднак у той час быў цалкам «захоплены» напісаннем сваёй дысертацыі і, як я разумею цяпер, ратаваннем свайго сэрца: ён вельмі кахаў маму. Тады на мяне ў яго банальна не хапала часу і душэўных сіл. Пасля таго, як мэта была дасягнутая, дысертацыя абароненая, ён ні з кім не стаў змагацца за «месца пад сонцам», а з Інстытута траўматалогіі і артапедыі пайшоў працаваць у звычайную паліклініку да дзяцей, якіх выдатна лячыў. Ён вельмі любіў сваю працу. Ёсць нават запіскі пра яго пацыентаў. Напрыклад, такая:

«У трохгадовага хлопчыка пасля прыёму маці спытала:

— Што трэба сказаць доктару?

Малыш моўчкі працягнуў мне надкусаную цукерку «Мішка на Поўначы».

Гэта было найлепшым падарункам для мяне ў маім жыцці».

Гэта быў тыповы ідэаліст-шасцідзясятнік, які ніколі за сваю работу не браў «удзячнасці». Нават каробкі цукерак альбо бутэлькі каньяку... Вось, можа, толькі гэтую цукерку...

Зноў ажаніўся ён толькі праз дзесяць гадоў. Яго новая жонка толькі на 16 гадоў за мяне старэйшая, таму больш успрымалася, як сястра, і моцна паспрыяла майму збліжэнню з бацькам. На жаль, пражыў ён зусім не шмат, у 72 гады сышоў ад цяжкай формы дыябету.

Як мае быць, у сем гадоў я пайшла ў школу №2 і адвучылася там два класы. Потым яе расфарміравалі, і працягваць вучобу я была павінна ў чацвёртай школе, аднак тут мама атрымала кватэру і забрала мяне ў Серабранку.

Надышлі цяжкія часы. Раён толькі-толькі будаваўся. Школы раслі, як грыбы пасля дажджу, і таму вучні ўвесь час мяняліся. Да таго ж «кантынгент» вучняў там быў зусім не такі, як у цэнтры горада. Добрая настаўніца літаратуры, Марыя Міхайлаўна Субач, раіла: «Будзь прасцей». «Быць прасцей» не атрымлівалася, таму з большасці мяне банальна «травілі».

Цяпер я разумею, чаму так атрымлівалася. Я для іх была чужая. Я не разумела — за што: я заўсёды дзялілася і не драла ні перад кім носа. Але я проста была — «не наша». Гаварыла доўгімі сказамі, пісала вершы, з трэцяга класа друкавалася ў газетах. Ужо з дзевяці гадоў я збіралася паступаць на журфак і мела шмат публікацый у «Зорцы», «Знамени юности», «Парусе», «Комсомольской правде». Але паступіла на філфак. На журфаку ж была нейкі час толькі ў якасці выкладчыцы. У мамы не было дзіцячай бібліятэкі. Толькі дарослая. Яе я і чытала. Напрыклад, у 9 гадоў я ўжо прачытала Рэмарка.

З кнігамі тады і значна пазней было вельмі цяжка. Акрамя самвыдату мне нешта трапляла з «тамвыдату». Успаміны Надзеі Якаўлеўны Мандэльштам праз мяжу знаёмыя правезлі, прабачце, у трусах.

Увогуле, з кнігамі адбываліся «дзіўныя» рэчы. Некаторыя з іх траплялі ў Мінск «праездам». Памятаю, у 12 гадзін ночы прывезлі Платонава. Я прыехала на вакзал грамадскім транспартам, забрала. А аддаваць кнігу трэба было ўжо праз чатыры гадзіны, у гэты час яе зноў вывозілі на іншым цягніку. Прыйшлося ісці пешшу. Ноч. Мінск. Дзяўчыне 18 гадоў. Ідзе — а душа пяе! Я прачытала «Катлаван»! Аднак гэта было ўжо пазней.

У час, калі жыла ў Серабранцы, у мяне было два вялікія шчасці. Першае звязана са студыяй Васілія Фёдаравіча Сумярава, куды я трапіла, таму што крыху малявала тушам. Другім шчасцем быў Дом творчасці беларускіх пісьменнікаў у Каралішавічах. Там мяне паважалі і любілі. І там, і там я была «сваёй». У старэйшых класах мы з Серабранкі зноў пераехалі ў цэнтр горада, і я пайшла ў 19-ю школу. Больш праблем з аднакласнікамі не было.

# Шлях у сучаснае

Пра тое, чаму ўрэшце я трапіла не на журфак, а на філфак — асобная гісторыя. Зараз проста канстатую толькі факт — восенню 1979 года я стала студэнткай філалагічнага факультэта БДУ. Скажу шчыра, нягледзячы на тое, што вучылася я добра, я была не самай узорнай студэнткай і бывала там даволі мала.

Наступствы даволі цяжкіх дзіцячых хвароб яшчэ адбіваліся, яны дазвалялі вольнае наведванне лекцый, і я ім карысталася напоўніцу. Хадзіла толькі туды, дзе мне было цікава, а большасць экзаменаў здавала экстэрнам.

У мяне было сваё асяроддзе.

Перш за ўсё — аўтарская песня. Спачатку — клуб «Купалінка», які хутка развалізуся. Потым кватэра знакамітай дысідэнткі Надзі Круп, удавы барда Арыка Крупа; затым мы напаўпадпольна збіраліся ў нейкім падвальчыку на вуліцы Альшэўскага — спявалі, чыталі вершы, сумесна працавалі над словам.

Дарэчы, голас у мяне быў, хоць і не самы моцны, але прыгожы. На ўсіх фестывалях я не заставалася без прызоў. Часцей за ўсё імі адзначаліся тэксты маіх песняў і сімпатыі слухачоў.

На другім курсе філфака я першы раз «выскачыла замуж». Міша вучыўся ў наргасе, які тады не быў прэстыжнай ВНУ. Наадварот. Ён шмат вандраваў, як звычайны турыст. Захапляўся альпінізмам. Любіў турысцкія песні. Сам не спяваў, слухаў іншых. У адным з паходаў мы і пазнаёміліся. З часам я ўбачыла ў ім сапраўднага мужчыну, джэнтльмена, культурнага, далікатнага, добра

выхаванага. Дзед у яго быў прафесар, маці — кандыдат хімічных навук. Цудоўная жанчына! З Мішам мы пражылі разам чатыры з паловай гады. Потым я ад яго сышла, бо зразумела, што гэта трэба зрабіць. Розныя людзі, розныя захапленні, прыярытэты. Пасля разводу мы захавалі прыязныя адносіны. Я б нават сказала — сяброўскія.

Парадокс, але свайго другога мужа Юру я паказала менавіта ёй першай, і цётка Таня яго ўхваліла. Мы з ёй сябравалі да самай яе смерці, і хавалі разам з Мішам і яго другой жонкай Ларысай.

Аднак вернемся да філфака БДУ. Пасля заканчэння вучобы (1984 год) мяне размеркавалі ў звычайную школу, чаго ўсе астатнія баяліся, і чаму я была вельмі рада. Мяне «кінулі» ў 91-ю школу. Яна фактычна месцілася ў цэнтры Мінска, але ўсе іншыя школы таго раёна былі спецыялізаванымі, а яна — не. Таму там вучылася шмат дзяцей з сем'яў, якім было «ўсё роўна». І дзеці там былі вох якія розныя... Але мне даволі хутка ўдалося наладзіць кантакты з няпростымі вучнямі. У школе я прапрацавала два гады, арганізавала хор, тэатр. Зразумела, гэта многім не спадабалася і мяне банальна «з'елі». Цкаванне было параўнальным з дзіцячымі гадамі і мне прыйшлося сысці.

Некалькі месяцаў я была беспрацоўнай. Пачалася дэпрэсія. Каб не перарываць працоўны стаж, часова ўладкавалася ў кінатэатр «Перамога», які чакаў хуткі рамонт. Там я была маладзейшай за ўсіх, і да мяне ставіліся, як да агульнай дачкі. Напрыклад, дырэктар Рыгор Рыгоравіч, калі заўважыў, што я нешта машынальна малюю падчас «пяціхвілінкі», наступным ранкам паклаў на стол чыстыя аркушы мелаванай паперы і фламастары. Адна супрацоўніца смажыла мне катлеты, другая прапанавала «пагаварыць пра Мандэльштама»...

Якраз у гэты час у маім жыцці з'явіўся Юра. Мы пазнаёміліся 2 мая 1986 года. Я прыехала ў Львоў з сябрамі на «майскія». Паехалі на пікнік пагаманіць, паспяваць. Юра не захапляўся бардаўскай песняй, а ў нашу тусоўку трапіў дзякуючы свайму сябру. Амаль выпадкова. Ён больш любіў джаз. Што не перашкодзіла яму падысці да мяне і спытаць: «Дзе ты навучылася так спяваць?» Гэта і стала нагодай для знаёмства. А потым ён навучыў мяне любіць джаз.

Бацькі Юры збіраліся эмігрыраваць у ЗША, аднак з-за мяне ён адмовіўся ад гэтага, і іх сям'я засталася ў Львове. Калі праз шмат гадоў яго маці памерла, я доўга адчувала віну. Напэўна, у Амерыцы яна б пражыла даўжэй: усё ж такі якасць жыцця і медыцына там непараўнальныя з нашымі...

А тады... Праз тыдзень ён быў ужо ў Мінску. Праз паўтара месяца мы разышліся з Мішам, а яшчэ праз два месяцы я пераехала ў Львоў.

З тых часоў я пачала пакрысе станавіцца сабой — жонкай, маці, выкладчыкам, прафесаркай, стваральніцай артыкулаў і перадач, аўтаркай кніг і п'ес... Але гэта ўжо іншая гісторыя, іншае і доўгае жыццё...

# Імгненні лёсу

Калі нехта спытае, якіх людзей у свеце больш — добрых альбо злых, напэўна, я абяру другі эпітэт (можа, няшчасных ці шчаслівых) і дадам, што дабрыні ў свеце менш, але яна стварае значна больш, чым зло. Таму да любой дабрыні трэба ставіцца, як да цуду, і берагчы яе, як адзіную каштоўнасць, якая можа апраўдаць наша жыццё, наш лёс. Асабліва — дабрыні, якая выпадкова праліваецца на нас ад незнаёмцаў. Як срэбны дождж.

27 гадоў я працую настаўніцай — школа, тэхнікум, альтэрнатыўны тэатр, універсітэт. Я бачу дынаміку адносінаў моладзі да жыцця, і яна, шчыра кажучы, крыху засмучае. Не, яны мне падабаюцца. Яны больш вясёлыя, лёгкія, чым мы. На жаль, іх інтэлектуальная планка з кожным годам апускаецца ўсё ніжэй і ніжэй. Але, можа, іх «подзвіг» яшчэ наперадзе?

І потым, справа не толькі ў моладзі, а ў нейкіх канкрэтных персонах. Уладную сістэму стварыў не адзін чалавек, а грамадства. Дакладней, тая яго частка, якая «ўманціравана» ў гэтую сістэму.

Майго дзеда не стала 7 ліпеня 1996 года, практычна праз год пасля сумна вядомага рэферэндуму аб змене нацыянальнай сімволікі. Добра памятаю дзень, калі над будынкам прэзідэнцкай адміністрацыі мяняўся сцяг. Калі я ішла да дзеда, яшчэ лунаў адзін, а вярталася — вісеў іншы.

Дзед напісаў пра гэта верш. І яго імгненна перасталі друкаваць. Больш за тое, калі ён памёр, нават месца на могілках раптам «не стала», а беларускае тэлебачанне не сказала пра сумную падзею ні слова. Я доўга не магла зразумець прычыну, а потым мне патлумачылі, што яна якраз у тым вершы.

Спрабавалі «прабіць» мемарыяльную дошку на яго доме: усё ж класік дзіцячай беларускай літаратуры, стваральнік першага ў нас дзіцячага часопіса «Вясёлка», аўтар «Роднага слова», па якім мове і літаратуры навучаліся некалькі генерацый беларусаў. Але, відаць, памяць пра верш для кагосьці аказалася доўгай і больш значнай. Можа, з нейкага Божага погляду, так і патрэбна: каб памяць пра вершы трымалася столькі гадоў... Але ўсё роўна крыўдна і неяк непрыстойна. Такая дробная помста нябожчыку...

Дзень пахавання дзеда супаў з юбілеем Уладзіміра Някляева, які тады быў абласканы ўладай. Як бы там ні было, я заўсёды буду ўдзячная Уладзіміру Пракопавічу за тое, што ў дзень свайго пяцідзесяцігоддзя ён разам з Васілём Уладзіміравічам Быкавым стаяў ля труны майго дзеда...

У часы юнацтва я часта ездзіла ў Маскву, сустракалася з літаратарамі, чытала ім свае вершы. Аднойчы мне пашанцавала ўсю ноч размаўляць з Бэлай Ахмадулінай. Мне тады было толькі 16 гадоў, я заканчвала школу, і Бэла Ахатаўна адгаварыла мяне ад паступлення ў Літаратурны інстытут. Уражанне ад

яе было неверагодна прыемным. Чароўны, фантастычны чалавек. Галоўная якасць добрай «роковой женщины» — рабіць так, быццам бы для яе, акрамя цябе, нікога ў свеце не існуе. У мяне тады было менавіта такое адчуванне.

Яна звярталася да мяне «на вы». Другая ў маім жыцці. Першым быў у Кактэбелі Веніямін Аляксандравіч Каверын, з чыімі ўнучкамі Кацяй і Ірышай я сябравала. Мне тады ўвогуле было 14...

Ахмадуліна сказала: «Юлечка, не варта вучыцца ў Літінстытуце. Я вучылася. Вас там толькі сапсуюць... Паверце, вам гэта не трэба...»

...Са Святланай Аляксандраўнай Алексіевіч мы знаёмыя вельмі даўно, яшчэ з тых часоў, калі яна не магла надрукаваць сваю знакамітую «У вайны не жаночы твар», і з гэтай нагоды з ёй сустракаўся мой дзед. Ён заўсёды ахвотна дапамагаў маладым творцам. У нас былі першыя кнігі Законнікава, Някляева, Разанава, і вось сярод іх з'явіўся рукапіс, які прынесла маладая, сціпла адзетая журналістка. Я тады для яе стала Юляй, яна для мяне — Светай.

Дзеду рукапіс вельмі спадабаўся. Памятаю, як ён тады сказаў: «Света — падзвіжніца». Потым яна стала вядомай пісьменніцай, потым знакамітай, потым яе пачалі перакладаць на іншыя мовы. А наша знаёмства ўзяло паўзу на некалькі дзесяцігоддзяў.

Ведаеце, я не вельмі ўмею камунікаваць са знакамітасцямі. Мне няёмка навязваць сябе людзям, якія дасягнулі пэўных вяршыняў. Тым больш я ніколі не буду выкарыстоўваць асабістае знаёмства ў нейкіх сваіх мэтах.

Другі «этап» нашага знаёмства адбыўся, калі TUT.BY існаваў ужо дзевяць гадоў і займеў сваё тэлебачанне. Я вяла перадачу «Без адказаў». Гэта была студыйная перадача. Напярэдадні я сустракалася з кожным яе ўдзельнікам. Размаўляла, рыхтавалася да наўпроставага эфіру сама і рыхтавала іншых.

Чарговы выпуск быў прысвечаны інтэлігенцыі. Маўляў, патрэбна яна для Беларусі або не? Адразу вырашыла, што адным будзе Валянцін Акудовіч. Юрый Дракахруст параіў мне Святлану Алексіевіч, якая на той час была ў Мінску. Патэлефанавала, прадставілася, сказала, пра што будзе праграма. Святлана Аляксандраўна згадзілася. Мы дамовіліся, што я заеду па яе на таксі. І тады нечакана для мяне яна пазнала ўва мне, дарослай жанчыне, тую самую дзяўчынку, унучку Віталя Віткі.

Гэта я да таго, што каштоўнасць кожнага з нас не вырашаецца тым, з кім мы сябруем, альбо нашымі сваякамі.

## Жонка TUT.BY

І яшчэ крыху пра каханне. Але не толькі пра яго. Вернемся зноў у 1986-ы. Юра браў мяне «зморам», бо пераходзіць з аднаго замужжа ў другое надта не

хацелася. Няёмка было, неяк непрыгожа. Каб было больш зразумела, трэба азначыць: у тыя часы блізкія адносіны не пачыналіся адразу.

Па непрыемных этнічных абставінах Юра працягваў сваю львоўскую вучобу ў Ленінградзе і ў час чарговай паездкі на сесію на некалькі дзён прыехаў у Мінск і спыніўся ў нашага сябра Вадзіма Казначэева.

Дарэчы, менавіта з ім праз некалькі гадоў у Маскве я трапіла на разагнаны пікет Валерыі Навадворскай, і мы разам — Валерыя Ільінічна, Вадзім і я — спрабавалі спыніць міліцэйскую «газель», куды запіхнулі актывістаў Дэмакратычнага Саюза. Нічога на выйшла, але дубінкай па нырках атрымала. Я ж з тых, хто вечна набярэ сабе клопату на галаву.

Ну вось, пасяліўся ў Вадзіма і пачаў мяне ўгаворваць. І ўгаварыў... на летні адпачынак прыехаць у Львоў. Там высветлілася, што я ўжо ўладкавана на работу адразу ў два тэхнікумы, што для нас зняты пакой у невялікай кватэры, што мяне кахаюць больш за жыццё. Так і выйшла, што той «летні адпачынак» цягнецца трыццаць другі год...

У Львове Юра быў жывой легендай толькі-толькі ўзнікаючай IT-сферы. Пра яго геніяльнасць ведалі амаль усе, а выкладчыкі пачыналі дрыжаць, калі на занятках ён падымаў руку для пытання.

Нягледзячы на гэта, ён ставіўся да мяне, як да нейкай іконы. Для яго мае вершы былі значна вышэй за новыя тэхналогіі. Я чытала, прыкладна так ставіўся акадэмік Андрэй Дзмітрыевіч Сахараў да сваёй жонкі Алены Мікалаеўны Бонэр. «Што — я, вось Люся колькі вершаў ведае», — так ён казаў.

Львоў — цудоўны горад. У мяне там было шмат сяброў па аўтарскай песні. Мне было там добра. Але такога антысемітызму, як у тым савецкім Львове, я не бачыла нідзе... Я не магла чуць, як абражаюць майго мужа... проста нават на вуліцы, ці суседзі.

Мне ўсё больш хацелася ў Мінск, і праз год мы вярнуліся — ён, я і дачка Жэня ў маім жываце. Як сказаў тады Юра, у Беларусі ён трапіў у рай, бо «жыдоўскай мордай» тут амаль не называлі.

Але тут ужо мне прыйшлося сутыкнуцца з другой хібай — непрадуманай, залішне паспешнай «беларусізацыяй». Зразумела, мне, выхаванай у шанаванні мовы, сама па сабе гэтая плынь падабалася, я нават у БНФ збіралася, таму што Курапаты і іншыя рэчы такога жудаснага кшталту, як попел Клааса, «білі мяне ў сэрца». І дачку мы аддалі ў беларускамоўны дзіцячы садок. Бяда ў тым, што насамрэч выхавацелькі мовы не ведалі, апроч «добрай раніцы» і «да пабачэння». Тады гэта рабілася для «галачкі»! Як праз некалькі гадоў — дзеля «той жа галачкі» зусім адваротнае.

У нас у краіне і тады, і цяпер шмат чаго даводзіцца да абсурду. Тады мне, напрыклад, прапанавалі змяніць тэму кандыдацкай дысертацыі. Я хацела

працягнуць тэму ўніверсітэцкай дыпломнай работы «Уплыў Чэхава на заходні тэатр абсурду», а мне параілі змяніць Чэхава на Кандрата Крапіву, бо «Чэхаў не наш»...

Вось цяперашняя беларусізацыя, якая ідзе павольна, натуральна, сіламі і энергіяй супольнасці, інтэлектуальнай часткі грамадства — яна зусім іншага кшталту. Калі б такое было тады, то сёння ў нас было б фактычнае, а не юрыдычнае двухмоўе...

Слава Богу, такіх выпадкаў было не шмат, але яны былі.

Вяртанне ў Мінск суправаджалася не толькі падобнымі казусамі.

Жэня нарадзілася вельмі хваравітым дзіцем, а аднойчы і ўвогуле ледзь не памерла, пра што, дарэчы, ёсць фрагмент у кнізе Святланы Алексіевіч «Час сэканд хэнд». Спачатку працаваць я не магла па гэтай прычыне, потым па прычыне, якая ўжо абазначана.

Зразумела, пераход на беларускія арыенціры для ўнучкі вядомага беларускага пісьменніка быў бы беспраблемным, але ён не адбыўся зусім не з нейкіх «прынцыпаў». Мне не хацелася кан'юнктуры, тады мяне цікавілі тэмы, якія знаходзяцца НАД этнічнымі нюансамі. Калі б я тады ведала, што этнічнай тэме, у прыватнасці беларускай этнічнасці, я аддам дваццаць гадоў жыцця — я б вельмі здзівілася. Але ўсё здарылася менавіта такім чынам.

Першыя сем гадоў жыцця дачкі я выкладала вельмі мала. Той, хто ведае, што такое «ліхія дзевяностыя», добра памятае, як тады жылі людзі. Мы былі такімі ж беднымі, як усе. Здымалі «хрушчоўку» на Залатой Горцы, з якой нас перыядычна спрабавалі выгнаць, але абмяжоўваліся пад'ёмам платы. Муж працаваў у Бараўлянах праграмістам, атрымліваў 160 руб., плюс мае 35 руб. «дэкрэтных», мінус 45 руб. аплаты за жытло... Каляска, магазіны, купоны... Адно слова — галеча...

Потым Юра «вахтавым метадам» уладкаваўся працаваць на Поўнач, у кааператыў горада Лангепаса, што знаходзіцца ў Ханты-Мансійскай аўтаномнай акрузе. Гэта Цюменская вобласць, недалёка ад Ніжнявартаўска.

Ён з'язджаў на паўгода. Я заставалася з дзіцем адна. Хапалася за любую работу. Памятаю, клеіла аплікатары для векаў, распісвала месцы на канцэртных квітках (тады гэта рабілі ўручную) і г. д. Але па начах пачала пісаць прозу. Вельмі хацелася пісаць! Прычым пра дзяцінства і юнацтва.

Майго заробку не хапала нават на ежу, аднак Юра, слава Богу, пачаў нармальна зарабляць, і праз два гады (з матэрыяльнай дапамогай усіх сваякоў) мы купілі першую асабістую кватэру. Заводскі раён, вуліца Васняцова, 42 квадратныя метры, «распашонка».

Але мы здаваліся сабе багачамі. Таму давалі прытулак шмат каму: тым, каму было горш за нас. Хто там толькі не жыў... Некаторыя гадамі... Кім Ха-

дзееў кожны тыдзень прападаў у нас з пятніцы па панядзелак, і я кожны раз старалася да гэтай сустрэчы нешта напісаць, каб было што абмяркоўваць. Я ведала: да пятніцы трэба як мінімум 20 старонак тэксту, з якім мы маглі працаваць. І пры гэтым я чытала лекцыі, вяла семінары, шмат студэнтаў тады хадзіла да нас у госці — дыскутавалі, абмяркоўвалі кіно і кнігі, пелі песні, разважалі наконт нейкіх экзістэнцыяльных пытанняў... Было хораша і весела. Час надзей.

Як кажуць, жыццё пачало наладжвацца. Дачка падрасла, я ўладкавалася на пастаянную работу ў Інстытут сучасных ведаў, мы нават пачалі ездзіць адпачываць у Палангу, Крым альбо ў Балгарыю ў танны пансіянат, і ў гэты момант фірма мужа «Надзейныя праграмы» збанкруцілася.

У пэўным сэнсе «Надзейныя праграмы» — няўдалы папярэднік партала TUT.BY. Узнікла гэтая ідэя ў Лангепасе, дзе, паўтаруся, Юра працаваў у кааператыве, які абслугоўваў мясцовы банк. Паўтаруся таксама, што ён быў геніяльным праграмістам. Чэргі па заробкі ў банках тады расцягваліся на гадзіны, а то і дні. Юра прыдумаў камп'ютарную праграму, якая рабіла ўсе банкаўскія аперацыі за 35 секунд.

Парадокс, але дырэктар кааператыва адмовіўся ад яе распаўсюду, і тады Юра прапанаваў іншым банкам сваю распрацоўку. У рэшце рэшт амаль траціна банкаўскіх устаноў былога Савецкага Саюза пагадзілася на інавацыю.

Фірма, якая пачыналася з маленькага пакоя нашай «распашонкі», дзе сядзеў камп'ютаршчык Дзіма, а Юра са сваёй «персаналкай» сыходзіў да маіх дзядулі і бабулі. Фірма, дзе, акрамя іх дваіх, быў яшчэ бухгалтар — дастаткова хутка ператварылася ў калектыў з пяцідзесяці супрацоўнікаў.

У 1996-м усё гэта рухнула з пачаткам банкаўскага крызісу. Жыццё зноў ператварылася ў паўтара года пекла. Мы былі вінныя ўсім. Здавалася, усё вакол складаецца толькі з пазыкаў. Людзі не могуць працаваць без заробкаў, і фірма зноў «скукожылася» да некалькіх чалавек.

Я круцілася, як магла. Працавала ў дзвюх ВНУ, раз на тыдзень выкладала ў школе, пісала артыкулы для часопіса «Здароўе і поспех». А ўлетку займалася звычайным каміваяжорствам, гандлявала касметыкай Swiss Formula.

Наколькі гэта прыніжае чалавека, зразумее кожны, хто на дзвярах розных фірмаў бачыў надпіс «Гандлёвым агентам уваход забаронены»...

Потым нам пашанцавала, нечакана паступіў заказ, які пакрыў усе запазычанасці. А праз некалькі гадоў узнікла ідэя стварэння TUT.BY.

Калі парталу споўнілася два гады і мы «выйшлі на самаакупнасць», журналісты пачалі пытацца пра стартавы капітал. Зразумела, яны намякалі на нейкія гранты. На самай жа справе гэта былі грошы, сабраныя на набыццё большай кватэры. Юра ўклаў іх у новую справу, і мы яшчэ сем гадоў жылі ў

«распашонцы»... Я ні хвіліны не была супраць, хоць, шчыра кажучы, не верыла ў тое, што беларуская электронная пошта будзе камусьці патрэбная. Ужо былі і Yahoo, і mail.ru, і г. д. Але ж тыя грошы зарабіў менавіта мой муж, і ён меў права карыстацца імі як заўгодна.

Удалую назву TUT.BY прыдумаў мой сябра Мікола Раманоўскі — рэдактар, перакладчык і паэт, унук нашага класіка Кузьмы Чорнага.

Вось такім складаным шляхам мы ішлі...

На мой погляд, жанчына не павінна станавіцца вядомай проста як «другая палова» свайго мужа. Адна знаёмая мяне некалі цікава прадставіла свайму спадарожніку. Кажа: «А гэта жонка TUT.BY». Быць «жонкай шэфа» мне заўсёды было і будзе агідна. Таму я доўга і свядома дыстанцыянавалася ад партала, займаючыся сваімі справамі: кнігамі, п'есамі, артыкуламі, дысертацыямі, выкладаннем. А цяпер і літаратурным клубам GRAPHO. На партале я пачала паяўляцца, калі ён існаваў ужо дзевяць гадоў. Я там мала каго ведаю. Пішу артыкулы, дасылаю рэдактару. Калі рабіла перадачы — з'яўлялася менавіта на іх.

Даволі часта пытаюцца, навошта мне ўсё гэта трэба, навошта пры такім загрузе «за капейкі» выкладаць ва ўніверсітэце культуры?

Адказваю: мне цікава быць патрэбнай. Упэўнена, наша краіна падымецца не дзякуючы нейкім апазіцыйным асобам, а дзякуючы ўсёй грамадзянскай супольнасці. Яна ўжо ёсць. Існуе сярод тых, хто займаецца дабрачыннасцю, хто адважваецца на стартапы, рызыку і г. д. Мне падабаецца дапамагаць такім людзям, быць ім карыснай. Падабаецца быць мостам паміж АСОБАМІ, плакаць з-за «галодных дзяцей Мазамбіка». Гэта мой лёс».

**Замест пасляслоўя**

***Калі развіталіся, высветлілася, што за час такой доўгай размовы мы не закранулі тэмы яе творчых поспехаў. Пажартавалі, што будзе нагода для новай сустрэчы. І мне чамусьці ўспомніўся адзін яе ўспамін.***

***Нядаўна Юля Чарняўская АСАБІСТА папрасіла прабачэння ў тых, каго некалі пакрыўдзіла. Нават у дзяцінстве. І дала зарок — ніколі гэтага не рабіць у будучыні. Так можа зрабіць толькі па-сапраўднаму ІНТЭЛІГЕНТНЫ чалавек. І вельмі НЕАРДЫНАРНЫ!***

*18.06.2017*

# Васіль ШАРАНГОВІЧ



Калі ў 1953 годзе Васіля Шаранговіча прымалі ў камсамол, то спыталіся: «У каго верыш — у Леніна альбо Бога?» Вася адказаў: «У Леніна і Бога». У тыя часы такі адказ мог каштаваць вельмі дорага, а прыгадаў я гэта для таго, каб падкрэсліць, што ў нашым жыцці не бывае толькі чорна-белых колераў... Некалі В.П. Шаранговіч прэзентаваў мне кнігу ўспамінаў «Ген жыцця», якую нядаўна мы дапоўнілі гэтай размовай.

## Ген мастацтва

«Мяне хрысцілі 14 студзеня 1939 года. Бацькі, асабліва мама, хацелі назваць Генадзем. Царква ж знаходзілася ў вёсцы Мікасецк, што за шэсць кіламетраў ад родных Качаноў. Кумы, дзядзька Пётра і цётка Ганна, па дарозе забыліся незвычайнае для нашых мясцін імя. Што рабіць? Не вяртацца ж назад у такую сцюжу, а айцец Пятро Пароменскі параіў даць мне імя Васіль, бо 14 студзеня па царкоўным календары лічыцца днём святога Васіля Вялікага. Так і стаў Васілём, хоць у народзе кажуць, што прозвішча даюць родныя, а імя трэба рабіць самому.

У школе вучыўся на выдатна, з незвычайнай лёгкасцю. Напрыклад, ніколі дома не вучыў на памяць вершы. Да нашай сямігодкі ад дому было паўтара кіламетра, і пакуль ішоў, то, напрыклад, прачытаю па дарозе тое ж «Беразіно» і на ўроку магу расказаць яго на памяць. Ведаў амаль усю «Новую зямлю» Я. Коласа, чытаў яе са школьнай сцэны, а таксама аднавяскоўцам.

Маляваць пачаў недзе з пятага класа, і першым настаўнікам была мама. Яна сама малявала ў вольны час, закончыла шэсць класаў польскай школы і ў юнацтве марыла стаць мастаком. Таму зусім натуральна, што ўсяляк падштурхоўвала маю схільнасць да малявання. Бацька быў слынным кавалём, а таксама сталяром і слесарам, аб чым меў дыплом, атрыманы ў Вільні. Ён і мяне прывучаў да рамесніцкай працы, што ў далейшым жыцці вельмі спатрэбілася.

Думаю, генетычная аснова — амаль галоўны складнік чалавечага лёсу. Гэта я адчуў на сабе, бо многае перадалося ад бацькоў, а можа і ад дзядоў.

Закончыўшы сем класаў з пахвальным лістом, захацелася прадоўжыць вучобу. А для гэтага трэба было ехаць у наш раённы цэнтр Мядзел, да якога трынаццаць кіламетраў. Бацькам клопат: трэба здымаць кватэру, даваць хоць нейкі харч. Сяляне ж пасля вайны жылі вельмі бедна, і таму з далёкіх вёсак рэдка якія дзеці вучыліся ў раённай сярэдняй школе.

Бацька дамовіўся з мядзельскай гаспадыняй, што я буду год кватараваць за пабудаваную ёй веранду, а далей знаходзіў новыя магчымасці сваёй працай аплачваць выдаткі за кватараванне. Бо грошай аніякіх у сям'і не было. Я і сёння ўдзячны бацькам, што, нягледзячы на цяжкія ўмовы, яны ўсімі сіламі падтрымлівалі маё імкненне да вучобы.

А тым часам цяга да малявання пачала памалу знікаць, і я стаў больш думаць аб матэматыцы, якую таксама любіў і якая мне лёгка давалася. Але ў сярэдзіне навучальнага года ў наш клас зайшоў нейкі высокі смуглявы настаўнік і сказаў: «Арганізоўваю гурток малявання, жадаючыя могуць прыходзіць». Гэта быў Генадзь Ігнатавіч Астроўскі, як я потым даведаўся — настаўнік матэматыкі, які адыграў лёсавызначальную ролю ў маім жыцці.

На першыя заняткі гуртка прыйшло чалавек дваццаць, на другія — я і Міша Чарняўскі (у далейшым знакаміты гісторык-археолаг), на трэція — толькі я адзін. З Астроўскім паўгода мы пастаянна малявалі, сустракаліся пасля заняткаў амаль кожны дзень, і ён, убачыўшы мае поспехі, параіў паспрабаваць паступіць у Мінскае мастацкае вучылішча.

Крыху пра Г. І. Астроўскага. Гэта была асоба неардынарная, з тонкім пачуццём гумару, энергічны і добразычлівы чалавек. Акрамя захаплення мастацтвам, ён прыгожа граў на баяне і гармоні, добра ведаў нотную грамату. У школе ўсе здзіўляліся, што ён са мной, вучнем 8-га класа, вітаецца за руку.

# Ген настойлівасці

Закончыўшы восем класаў, я рашыўся падаць дакументы для паступлення ў Мінскую мастацкую вучэльню. Натуральна, ні капейкі ў бацькоў не было, але Астроўскі ўзяў усе выдаткі на сябе, і мы паехалі ў сталіцу. Такі вялікі горад я ўбачыў упершыню. Здалі дакументы і пайшлі ў мастацкую галерэю (Мастацкага музея тады не было), якая месцілася ў доме на плошчы Свабоды, дзе цяпер знаходзяцца розныя прафсаюзы. Наведалі салон-магазін, дзе Астроўскі накупіў фарбаў і пэндзляў, дайшлі да аўтавакзала і паехалі дадому.

Потым, зноў жа з дапамогай майго настаўніка, я прыехаў у Мінск здаваць уступныя экзамены. Спачатку маляваў так, як умеў, але заўважыў, што паступаючыя малююць штрыхамі, і наступны малюнак паспрабаваў зрабіць гэтаксама, але, натуральна, нічога слушнага не атрымалася, бо за яго я атрымаў

«тройку», і зразумела, што паступленне не ўдалося.

Але гэта няўдача ніколькі не засмуціла, і ўвесь наступны навучальны год я працаваў упарта. Зноў падаў дакументы ў вучэльню, выдатна вытрымаў уступныя экзамены. Паколькі я быў выдатнікам у школе, то астатнія экзамены здаваць не трэба было, і дырэктар мастацкага вучылішча сказаў — пакуй чамадан.

А ў каго ў вёсцы мог быць чамадан? Бацька змайстраваў нешта з тоненькіх дошак, з гэтым «самапалам» я і прыехаў у Мінск. Апрануты быў, думаю, таксама вельмі экзатычна: зялёны фрэнч, сінія галіфэ (бацькі танна купілі ў вайскоўца), вышываная маці кашуля, зробленыя бацькам боты. Гэта быў 1955 год. Бацькі далі 100 рублёў (пасля рэформы 1961 года гэта ўсяго 10. — **Заўв**. **аўт**.). У «чамадане» — кавалак сала, некалькі яек. Інтэрната ў мастацкай вучэльні не было, патрэбна было шукаць кватэру ці хоць бы вугал для жыцця.

Перад ад'ездам бацька сказаў мне: «Вася, ты накіроўваешся ў вялікую дарогу, дык жыві з людзьмі і сярод людзей». Яго словы я запомніў на ўсё жыццё і прытрымліваўся гэтага наказу. А яшчэ ён дадаў, што калі нічога не атрымаецца, то каб вяртаўся дадому працаваць разам у кузні.

Два дні я прабавіў у пошуках кватэры. Спаў на вакзале ці на якой-небудзь лаўцы. Так нічога не знайшоўшы, думаў ужо ад'язджаць дадому. І тут пашанцавала. Каля нашай вучэльні, што месцілася тады ў будынку Опернага тэатра, сустрэў двух хлопцаў, з якімі разам паступаў. Яны якраз знайшлі кватэру і шукалі «трэцяга», якім я і аказаўся.

Калі пачаў вучыцца, то высветлілася, што на першы курс набраны дзве групы: адна з тых, хто закончыў сем класаў, другая — з сярэдняй адукацыяй. Прыйшлося разам з віцебскім хлопцам Васем Ціханенкам ісці ў вячэрнюю школу, каб атрымаць агульную сярэднюю адукацыю.

Днём вучыўся маляваць, а вечарам ішоў у дзявятую вячэрнюю школу, што месцілася на Юбілейнай плошчы. Наступілі сапраўдныя галодныя гады, і я часам на вуліцы страчваў прытомнасць ад малакроўя. Бывала, падаў проста на асфальт.

Настаўнікі вячэрняй школы, як і ў Мядзельскай, зноў раілі мне кідаць маляванне і заняцца сур'ёзна матэматыкай. Я гэтага не зрабіў, але неяк непрыкметна захапіўся шахматамі. А праз нейкі час, ужо будучы студэнтам другога курса, пачаў займацца ў гуртку пад кіраўніцтвам міжнароднага майстра Шагаловіча.

Аднойчы я сыграў з ім унічыю, што стала сенсацыяй. Майстар Шагаловіч пачаў мяне ўгаворваць кінуць мастацкае вучылішча і сур'ёзна заняцца шахматамі, бачачы ў маёй юнацкай асобе будучага гросмайстра.

Тым часам стаў заўважаць, што цяга да шахмат мацнела, і ў вучылішча я браў эцюднік і шахматную дошку. І што дзіўна, калі глядзеў на «натуру», мне

мроіліся клетачкі, на якіх бегаюць шахматныя фігуркі.

Я зразумеў, што трэба займацца нечым адным, і праз некалькі дзён, раненька прыйшоўшы да навучальных майстэрань, што непадалёку ад Круглай плошчы, спусціўся да Свіслачы і з моста кінуў у ваду шахматы, развітаўшыся з імі назаўсёды.

## Ген выпадковасці

Мастацкае вучылішча скончыў у 1960 годзе. Як выдатніку, мне павінны былі выдаць чырвоны дыплом, але нешта пераблыталі і выпісалі сіні. Па маёй як бы «віне» ўсе выпускнікі павінны былі чакаць два дні да атрымання дыпломаў.

У той час выдатнікі мастацкага вучылішча мелі права паступаць у інстытут па сваім жаданні, лепшыя ж павінны былі атрымаць накіраванне Міністэрства адукацыі. Я вырашыў не паступаць у інстытут, а паехаць працаваць у Брэст па размеркаванні. Справа ў тым, што акрамя мяне ў сям'і было яшчэ трое малодшых дзяцей (два браты і сястра), якія таксама хацелі вучыцца і якім трэба было дапамагаць.

Але тут здарылася нечаканае. Выклікаюць у ваенкамат, каб прызваць у армію, і падстрыгаюць «пад нуль». Я і забыўся, што падчас вучобы была адтэрміноўка. Мне аднакурснікі параілі паступаць у інстытут, бо там ёсць ваенная кафедра.

Паехаў дадому ў свае Качаны, каб параіцца з бацькамі. З мястэчка Мядзел прыйшоў дахаты толькі ноччу, пагрукаў у акно і напалохаў маці, якая ўбачыла на двары нейкага лысага юнака. Бацькі мне сказалі, што лепш вучыцца ў інстытуце, чым тры гады «аддаваць доўг радзіме» невядома за што.

Словам, падаў заяву ў Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут за гадзіну да заканчэння прыёму дакументаў. Да гэтага да мяне падышоў аднакурснік па вучылішчы Пеця Свентахоўскі і запытаў, на якое аддзяленне я збіраюся паступаць. Пачуўшы, што на жывапіс, ён стаў упрошваць падаць заяву на графіку, бо ўсе, хто меў права паступаць у інстытут, падалі заявы на жывапіс, і ніхто — на графіку. А паступіўшы на графіку, я потым змагу перавесціся на жывапіс, але затое не буду пры паступленні замінаць іншым.

Пагадзіўшыся з такім довадам, перапісаў заяву і паступіў на графічнае аддзяленне. Мне так спадабалася графіка, што я ў далейшым ніколі нават не думаў, каб перавесціся на аддзяленне жывапісу. Вось так выпадкова вырашыўся кірунак маёй далейшай творчай дзейнасці.

Ды і з будучай жонкай я таксама, можна лічыць, сустрэўся выпадкова, хоць тая сустрэча стала «выключэннем на ўсё жыццё». Адбылося гэта 8 мая

1960 года. Мой сябра, будучы пісьменнік, Адольф Варановіч (на жаль, ужо нябожчык) ніяк не мог пазнаёміцца з якой-небудзь дзяўчынай, тым больш саромеўся свайго імя (вядома ж, водгук вайны). Ён папрасіў мяне пайсці з ім на танцы ў парк Горкага, бо тады існавала такая мода, што дзяўчаты і хлопцы прыходзілі на танцы «парамі». Мне не хацелася, але трэба ж было дапамагчы сябру. І вось на гэтых танцах я пазнаёміўся з Галяй, як высветлілася пазней, студэнткай філфака БДУ. У далейшым мы сталі сустракацца, а ў 1962 годзе пажаніліся і ўжо 48 гадоў ідзём па жыцці поруч. Жонка жыла ў Віцебску, а я тут, у Мінску, да заканчэння інстытута. А гэта чатыры гады.

Падчас вучобы я многа працаваў у выдавецтве «Беларусь», афармляў і ілюстраваў кнігі, працаваў для часопісаў «Маладосць» і «Вясёлка». Дарэчы, будучы студэнтам, праілюстраваў 13 выданняў, некаторыя былі адзначаны дыпломамі рэспубліканскага конкурсу мастацтва кнігі.

Закончыўшы тэатральна-мастацкі інстытут, абараніў дыпломную работу «Ілюстрацыі да паэм Я. Купалы» на выдатна. А перад абаронай было абавязковае размеркаванне. Мне хацелася ехаць у Віцебск на выкладчыцкую працу ў педінстытут: там жыла мая жонка, цесць быў значным партыйным начальнікам, і ён, напэўна, дапамог бы атрымаць нейкую кватэру. Гэта пытанне вельмі турбавала, бо я з 13 гадоў туляўся па розных чужых кватэрах і інтэрнатах. У Мінску ж не бачыў ніякіх шанцаў хоць на нейкае сваё жытло.

Аднак старшыня камітэта па друку Р. Канавалаў прапанаваў мне застацца ў сталіцы мастацкім рэдактарам у выдавецтве «Беларусь», паабяцаўшы за год даць кватэру. І я застаўся ў Мінску.

Праз год мяне запрасілі ў свой жа родны тэатральна-мастацкі інстытут на выкладчыцкую працу, і я звярнуўся да таго ж Канавалава, каб ён адпусціў мяне з работы, бо я працаваў па накіраванні.

Для мяне пачалася новая старонка жыцця. Я адчуваў складанасць выкладчыцкай працы: адна справа — нешта ўмець самому, другая — вучыць іншых. Сам актыўна працаваў творча, мяне ўжо заўважылі, уступіў у Саюз мастакоў, а зараз з усёй адказнасцю ўзяўся за выкладчыцкую працу.

Хутка мяне абралі старшым выкладчыкам, а ў 1972 годзе — загадчыкам кафедры графікі. І гэта ў 33 гады, ды, як кажуць, пры жывым прафесары П. Любамудраве. Такога ў інстытуце яшчэ не было.

Кафедру прыйшлося арганізоўваць практычна з нуля, паколькі ў свой час яна была закрытая, а цяпер адноўленая. Творчую работу не запусціў, а, можна сказаць, стаў працаваць з яшчэ большым імпэтам. На чарговым з'ездзе Саюза мастакоў мяне выбралі старшынёй рэвізійнай камісіі, а праз пяць гадоў — сакратаром Саюза мастакоў і старшынёй камісіі па рабоце з моладдзю, хоць сам я быў яшчэ зусім малады. Гэта грамадская дзейнасць накладвала

на мяне яшчэ большую адказнасць. Працаваць давялося вельмі многа, так што сям'і і асабліва маленькай дачцэ мала ўдзяляў увагі. Сыходзіў з дому, калі яна яшчэ спала, і вяртаўся, калі ўжо засынала.

Дзеля праўды трэба сказаць, што мае высілкі на творчым і педагагічным шляху былі належным чынам адзначаны. У 1975 годзе мне прысвоілі званне дацэнта, у 1978 — званне заслужанага дзеяча мастацтваў, а ў 1981 годзе я стаў прафесарам, зноў жа самым маладым у гісторыі нашага інстытута.

70—80-я гады былі самымі плённымі ў творчай працы. Я прадоўжыў работу над паэмамі Я. Купалы, і ў 1978-м выйшаў зборнік яго паэм з 26-ю каляровымі аўталітаграфіямі, а ў 1980 годзе асобным выданнем — «Адвечная песня» Я. Купалы. Па матывах верша «А хто там ідзе» я выканаў манументальную аўталітаграфію.

Доўга і настойліва працаваў над станковай серыяй «Памяці вогненных вёсак». Гэта тэма мяне даўно трывожыла, бо ў маленстве давялося бачыць жахі спалення вёсак. Серыя складаецца з 9-і каляровых аўталітаграфій. Яна мела вялікі поспех, многа і часта экспанавалася як у Беларусі, так і далёка за яе межамі. Асобныя лісты серыі знаходзяцца ў калекцыях многіх музеяў. Дарэчы, серыя «Памяці вогненных вёсак» адзначана Дзяржаўнай прэміяй.

Хочацца ўзгадаць і вялікую серыю ілюстрацый да паэмы А. Міцкевіча «Пан Тадэвуш», якая складаецца з 25 акварэльных малюнкаў. За афармленне гэтай тэмы польскі ўрад прысвоіў мне ганаровае званне «Заслужаны дзеяч польскай культуры».

# Ген непакорнасці

Тым часам у тэатральна-мастацкім інстытуце разгортваліся свае падзеі. У 1984 годзе вымушана была пайсці з пасады рэктара Э.П. Герасімовіч, а на яе месца нечакана быў пастаўлены загадчык кафедры гісторыі і тэорыі мастацтва А.В. Сабалеўскі.

Справы ў інстытуце пагоршыліся, калектыў стаў развальвацца проста на вачах, і гэта не засталося незаўважаным у «вярхах». Небезвядомы І.І. Антановіч, загадчык аддзела культуры ЦК КПБ, пабачыў памылку ў прызначэнні і прапанаваў мне стаць першым прарэктарам (прарэктарам па навучальнай рабоце). Я, напэўна, з паўгода думаў. Угаворвалі як калегі, так і Антановіч. Усё ж такі згадзіўся і на пачатку 1986 года быў прызначаны прарэктарам. І вось цяпер увесь груз выпраўлення становішча ў інстытуце лёг на мяне. Творчая работа адышла на другі план і, як потым высветлілася, вельмі надоўга.

У 1989 годзе рэктар А. Сабалеўскі быў звольнены з пасады, а выконваючым абавязкі рэктара інстытута міністр культуры прызначыў мяне. У гэты

самы час уступіла ў дзеянне новае дэмакратычнае правіла — рэктары ВНУ не назначаюцца, а выбіраюцца калектывам, уключаючы студэнтаў, а дакладней прадстаўнікамі прафесарска-выкладчыцкага складу і студэнтаў. Яны ж у сваю чаргу выбіраюцца ўсімі падраздзяленнямі ВНУ. У першым туры выбараў тайным галасаваннем з сямі прэтэндэнтаў больш як 50% галасоў набраў адзін я і ў другім туры быў выбраны аднагалосна.

Трэба сказаць, што я стаў першым і апошнім рэктарам, якога выбраў калектыў, бо потым гэта правіла было адменена. Думаю, што выбары кіраўнікоў калектываў адыгрывалі станоўчую ролю. Бо ў такім разе кіраўнік адчувае абвостраную адказнасць перад даверам калектыву, а не перад рознага рангу чыноўнікамі. Усё гэта я адчуў на сабе.

Падчас свайго рэктарства, а 90-я гады былі вельмі складанымі як у эканамічным, так і ў палітычным плане, мне ўдалося правесці шэраг рэформаў. Першае — гэта ў 1991 годзе рэарганізаваць тэатральна-мастацкі інстытут у Беларускую акадэмію мастацтваў. Першапачатковая назва аніяк не адпавядала сутнасці інстытута — была адкрыта падрыхтоўка спецыялістаў кіна-, тэлемастацтва, ужо існаваў факультэт дызайну.

За заслугі перад мастацтвам і мастацкай адукацыяй у 1991 годзе мне прысвоілі ганаровае званне «Народны мастак Беларусі».

Паступова акадэмія мастацтваў пераходзіла на беларускую мову навучання. Усё справаводства перавялі на яе адразу з маім прыходам на пасаду рэктара. У навучальныя планы былі ўведзены беларуская мова і літаратура, беларуская гісторыя. Увесь калектыў акадэміі не прымусова, а натуральна пачаў карыстацца беларускай мовай.

У 1995 годзе акадэмія шырока адзначыла 50-годдзе з дня заснавання, яе грамадскі аўтарытэт стаў вельмі высокім.

Цягам часу я адчуў пільную ўвагу да акадэміі і асабліва да сваёй персоны з боку ўладных структур. Залішняя дэмакратычнасць, панаванне беларускай мовы, удзел выкладчыкаў і студэнтаў у грамадскіх акцыях — усё гэта не магло задаволіць вышэйшыя эшалоны ўлады.

І вось у 1997 годзе пад канец прыёмных экзаменаў у акадэмію заявілася камісія ў складзе начальніка ўпраўлення паліўна-энергетычных рэсурсаў Дзяржкантролю нейкага Ложачніна і яго паплечніка. Ужо ў размове са мной яны выказалі абсурдныя абвінавачанні. Вядома ж, гэтыя людзі былі далёкія ад мастацтва, як неба ад зямлі. Пад вечар таго ж дня яны зніклі, экзамены праз некалькі дзён закончыліся, і я пачаў забываць непрыемную сустрэчу.

А праз нейкі час, прыйшоўшы раней на работу, я яшчэ да 9 раніцы пазваніў першаму намесніку міністра культуры У.П. Рылатку, а той у мяне пытаецца:

«Вы што, на працы? А газету «Советская Белоруссия» не чыталі? Тады пачытайце». Адчуўшы нешта нядобрае, выйшаў на вуліцу, купіў і прачытаў, што я зняты з працы за «міфічныя» парушэнні пры правядзенні ўступных экзаменаў. Так «добра» папрацаваў тагачасны віцэ-прэм'ер небезвядомы палкоўнік Замяталін!!!

У тым годзе спаўнялася 30 гадоў маёй педагагічнай і 35 гадоў творчай дзейнасці. Вось дык падарунак!

Неўзабаве мяне запрасіў міністр культуры А.У. Сасноўскі і прапанаваў стаць дырэктарам Нацыянальнага мастацкага музея, але я адмовіўся. Тады міністр прапанаваў узначаліць музей сучаснага выяўленчага мастацтва, якога не існавала, а была толькі пастанова Савета Міністраў аб яго стварэнні. Усё трэба было пачынаць з чыстага ліста, і я згадзіўся.

Стварыў новы ў Беларусі музей, ён стаў папулярным не толькі ў рэспубліцы, але і за яе межамі. За час працы там выканаў шэраг творчых работ, бо вольнага часу было больш, чым у акадэміі.

Асабліва хочацца адзначыць работу над новым выданнем «Пана Тадэвуша» А. Міцкевіча і «Новай зямлёй» Я. Коласа, да якой я выканаў больш за дзевяноста акварэльных малюнкаў. За апошнія дзесяць гадоў адбылося некалькі дзясяткаў персанальных выставак як у Беларусі, так і далёка за яе межамі.

А тут незаўважна наблізілася 70-годдзе. Напісаўшы аўтабіяграфічную аповесць «Ген жыцця», выдаўшы альбом аб сваёй творчасці, арганізаваўшы ў сваім жа музеі юбілейную выставу, я падаў заяву аб звальненні з пасады дырэктара і нарэшце стаў вольным мастаком, аб чым марыў са студэнцкіх гадоў».

*25.09.2017*



**З маці і малодшым братам Вячаславам. 1949 год**



**Партрэт маці. 1948 год**



**Семестравы прагляд работ у мастацкім вучылішчы. 1958 год**



**Студэнт Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута. 1961 год**



З дзедавай люлькай. 1957 год



Пасля абароны дыпломнай работы ў БДТМІ. 1966 год



З жонкай Галінай



Сям'я на адпачынку ў Дзінтары. 1948 год



Падчас летняга адпачынку. 1948 год



З дачкой Наташай. 1971 год




На першамайскай дэманстрацыі. 1975 год



З дачкой Наталляй на выстаўцы. 1995 год



У майстэрні



З Марынай Захарэвіч у Мядзелі
на сустрэчы з землякамі. 1995 год



Уладзімір Басалыга ў ролі Дзеда Мароза з падарункамі ўнучцы Юлі. 1999 год

# Віктар ШАЛКЕВІЧ



**Ёсць людзі, якія выклікаюць добрую ўсмешку ўжо здалёку, бо ты ведаеш пра іх неардынарнае пачуццё гумару і дасціпнасць. Віктар Шалкевіч — адзін з такіх. Нават сур'ёзны напрамак нашай размовы (на маё шчасце) не прымусіў яго на гадзіну адмовіцца ад гэтых унікальных якасцяў характару. Як кажуць, звычка — другая натура.**

## Родам з легенды

«Ёсць такое мястэчка — Поразава. Гэта былы Ваўкавыскі павет Беластоцкага ваяводства. Раней — ваяводства Навагрудскае. Перад гэтым — Рэч Паспалітая, а потым — Расійская імперыя.

Бацька, Антон Станіслававіч, з 1911 года. Маці, Эльжбета Іосіфаўна, 1918 года нараджэння. Бацька нарадзіўся ў царскай Расіі, маці — у незалежнай Польшчы. Старэйшая сястра Яніна — за «першымі Саветамі». Брат Юрый — ва Усходняй Прусіі. Брат Стась (як і я) — у Савецкім Саюзе. Падкрэсліваю, што размова пра адно і тое ж мястэчка. Мы мянялі падданства, нікуды з яго не выязджаючы.

Дзяцінства ў мяне прайшло ў Поразаве, да 17 гадоў я не бачыў вялікіх гарадоў за выключэннем Бярэсця і Ваўкавыска. Ваўкавыск увогуле для нас быў ледзь не цэнтральным горадам, куды ўсе ездзілі нешта купляць. Напрыклад, згарэўшую лямпу для тэлевізара...

Бацькі ўсё жыццё працавалі і прывучалі да гэтага нас, так што ніхто з Шалкевічаў ніколі не баяўся працаваць. Памятаю, у дзяцінстве дзеці бягуць па грыбы-ягады альбо купацца, а я пасу гусей ці індыкоў і гляджу, каб іх кот ці сабака не панёс.

У нашым мястэчку працавала і працуе цяпер толькі адна сярэдняя школа. Адзін вучэбны год, пасля вайны, яна была польскай, але нехта палічыў гэта няправільным, і школа стала рускай. Нягледзячы на змену моў выкладання, настаўнікі вучылі нас надзвычай сумленна. Адзін з іх успамінаецца і зараз. Сяргей Аляксандравіч Шкуноў выкладаў рускую мову і літаратуру. Ён быў без

адной рукі, час ад часу звяртаўся да нас: «Гады, варвары!» — за што і атрымаў мянушку Варвар. Акрамя адпаведных урокаў вёў яшчэ драматычны гурток і называў мяне яго душой. Мы нават аднаактоўку Чэхава «Мядзведзь» і апошнюю частку «Рэвізора» паставілі.

Цудоўныя былі часы. Шкуноў прывіваў у вучняў любоў да прыгожага слова і добрых кніжак. Здавалася, сама атмасфера спрыяе самастойнай творчасці. Заўсёды хацелася зрабіць нешта большае. Я спяваў, прымаў удзел у школьных канцэртах, традыцыйных святкаваннях, КВЗ...

У розныя гады ў нашым мястэчку жылі ад паўтары да дзвюх з паловай тысяч чалавек. Нават калісьці яно было цэнтрам раёна. Мама расказвала, што, паводле паданняў, некалі Поразава знаходзілася крыху вышэй, чым цяпер, у Трыгорах, там, дзе пачынаецца рэчка Паразоўка.

Ёсць такая мясціна — Трыгоры. Кажуць, што там, на сярэдняй горцы, стаяла цэркаўка, якая правалілася пад зямлю. Калі ў дванаццаць гадзін дня ў нядзелю прыкласці вуха да гары, можна пачуць, як б'юць званы.

Другое паданне звязана з Маткай Боскай. Яна праходзіла тут з панам Езусам. Іх наспела навальніца. Схаваліся пад ляшчынаю, пад гарэшнікам, а на паблізкім камяні і застаўся яе след.

У мамы быў талент вельмі цікавай расказчыцы. Калі халоднай зімой не патрабавалася недзе працаваць, малыя дзеці забіваліся на печку (нашы і суседскія) і прасілі яе нешта расказаць.

Шмат з пачутага тады я знайшоў потым у кнігах фалькларыста Міхала Федароўскага...

Дакладна невядома адкуль пайшла назва (версіі існуюць розныя), але адназначна, што Поразава — старажытнае мястэчка. Ужо ў XV стагоддзі яно сустракаецца ў розных летапісах у сувязі з будаўніцтвам Янам Рымвідам парафіяльнага касцёла.

Падчас Другой сусветнай вайны актыўных баявых дзеянняў у нашых мясцінах не было, аднак улада мянялася, як у фільме «Вяселле ў Малінаўцы»: першыя Саветы — немцы — другія Саветы...

Напэўна, гэта прагучыць нечым крамольным, але, па расповедах асобаў старэйшых, людзям няблага жылося менавіта пры немцах. Канешне, яны прынеслі ў наш край нямала гора і перасследавалі свае мэты, аднак парадокс — немцы бясплатна мянялі гаспадарам горшае сеўнае зерне на лепшае альбо паляпшалі ў прыватных гаспадарках пароду свойскіх жывёл...

Словам, як казаў Адам Міцкевіч, жыццё ў нас было сельскім і анельскім, хоць сялом Поразава назваць вельмі складана, бо амаль адразу мы атрымалі поўнае Магдэбургскае права. З ратушай, лаўнікамі, самакіраваннем.

Паразаўчане біліся разам са Стэфанам Баторыем з рускім войскам пад Вялікімі Лукамі, удзельнічалі ў паўстанні 1863 года, ваявалі ў 1918—1920 гадах з бальшавікамі. Цяжка паверыць, але ў нас адзін старэйшы чалавек нават быў ад'ютантам Пілсудскага — захавалася фота.

Мясцовыя вызначалі сябе літвінамі. Калі ў 1939 годзе прыйшлі «першыя Саветы», то пачалі з пошукаў памешчыкаў, ад якіх нас «вызвалілі», і здзіўляліся, што «прыгнёт» быў зусім не такі, пра які тыя думалі. А яшчэ Саветы пачалі ўсіх называць беларусамі, што выклікала адмоўную рэакцыю — усе як адзін сказалі: «Не, мы — палякі!».

Пачалася вывазка людзей у Сібір, на белыя мядзведзі. Мама расказвала, што пасля вайны падобнае выпрабаванне пагражала і нам, але неяк пранесла. Дарэчы, каб пазбегнуць трагічнага сцэнару, шмат хто з'ехаў на «нямецкія тэрэны» ў Польшчу. У сямейным архіве захаваліся дакументы пра тое, што так хацеў зрабіць і мой бацька, бо па вайне, за савецкай уладай людзям жылося неверагодна цяжка. Накладалі падаткі нават на колькасць пладовых дрэваў у асабістым садзе.

Як вядома, Беларусь была «рысай аседласці», таму значную частку насельніцтва Поразава складалі жыды, аднак ніякага антысемітызму! Я жыдоў ужо не застаў — немцы іх вывезлі ў Майданак і Асвенцым. А што цікава — напрыканцы XIX стагоддзя ў нашым мястэчку нарадзілася Эстэр Рахель Гальперн, якая потым стала Эстэр Рахель Камінскай, вялікай акторкай і «мамай прафесійнага жыдоўскага тэатра». Гэтую вельмі прыгожую жанчыну пахавалі ў Варшаве, але яе бацькі, хутчэй за ўсё, скончылі свой шлях на поразаўскіх жыдоўскіх могілках.

На мой погляд, у Поразаве варта ўсталяваць хаця б мемарыяльную шыльду. Я рабіў на гэты конт захады, але праблема пакуль не вырашана. Спадзяюся, ідэю падтрымае польская амбасада ў Мінску ці Генеральнае консульства ў Гродне, бо зрабіць гэта варта. Тэатр імя Эстэр Рахель Камінскай у Варшаве — адзіны ў Еўропе тэатр на ідыш.

## Першыя ўспаміны

Пачну з дня, які не магу помніць па вызначэнні, — 9 лютага 1959 года (дзень маіх народзінаў).

Доўгі час пасля вайны людзі жылі вельмі цяжка. Многія хаты згарэлі, таму мясціліся дзе прыйдзецца. Першымі, натуральна, будаваліся хлявы, бо без малака і мяса было б не выжыць увогуле. Калі я пачаў прасіцца на свет, цяжарная мама каля хлява на адмысловым станку стругала шчапу, каб пакрыць

дах. Пра шыфер тады ніхто не чуў. Маму хуценька палажылі ў санкі і павезлі ў былы палацык шляхціца Бутаўт-Андрайковіча — Багудзенкі. Дзесьці па дарозе я і нарадзіўся.

Брат мой, Стась, у гонар гэтага здарэння на ўнутранай частцы дзвярэй хлява намаляваў крыж і паставіў дату.

Усе ж астатнія мае дзіцячыя ўспаміны пераважна звязаны з працай. А яшчэ з каталіцкай эстэтыкай, калі кабеты доўга насілі жалобу па бліжэйшым ці далейшым нябожчыку, ходзячы ў чорных хустках. Такая паўднёвая Італія!!!

Пахаванні ўвогуле былі неардынарнымі. Нябожчыка адправоджвалі ўсім мястэчкам, з жалобнымі спевамі, не фармальна, а абсалютна шчыра, плачучы і енчачы.

Дарэчы, недалёка ад нашага мястэчка, каля касцёла ў Лыскаве, пахаваны вялікі і папулярны паэт (Паэт Сэрца) — Францішак Карпінскі, які напісаў шмат тэкстаў вядомых польскіх свецкіх і касцельных песняў.

Па нядзелях мама мяне заўсёды брала з сабой у касцёл на імшу, якая цягнулася каля гадзіны. На вялікія святы прыязджаў ксёндз (некалькі разоў на год). Па пятніцах мы не елі нічога мяснога, а падчас Вялікага посту яшчэ і нічога забеленага.

Свайго ксяндза ў Поразаве не было. Імшу ў касцёле людзі правілі самі. Запальвалі свечкі, выходзіў пан Юзаф Буйка, якога ўсе называлі «ксенжулькай», чытаў пэўныя малітвы, усе абраныя падхоплівалі, разам спявалі. Не пайсці на імшу ці сысці з яе нікому ў галаву не прыходзіла.

Здавалася, праца была штодзённай і бясконцай. Напрыклад, амаль кожны дзень мы з мамай (бацька працаваў на пякарні) ездзілі па траву для свіней. Мама напакуе травы ў мяшок, пагрузіць на ровар, і я малы цягну яго з канца вуліцы аж да нашае хаты. Малы сам, слабы, ровар з мяшком цяжкі, падае, я намагаюся, падымаю, вязу далей — мама засталася ў полі, ірве траву і чакае мяне з другім рэйсам...

Іншага выйсця проста не было, бо я — самы малодшы і адзіны, хто застаўся ў хаце з бацькамі. Усе старэйшыя дзеці ўжо раз'ехаліся, стварылі свае сем'і.

У нашым доме, паўтаруся, увесь час працавалі. З маленства я хадзіў пасвіць кароў, потым, як падужаў, то касіў траву і гроб сена на балоце, дапамагаў дарослым нарыхтоўваць у лесе дровы.

Нават калі маме споўнілася 90 гадоў, яна, пасля кароткага святкавання, узяла ў рукі серп і пайшла ў гародчык нешта жаць...

Добра памятаю, на самым пачатку 60-х гадоў мінулага стагоддзя бацька купіў радыё. Па паддашку мужчыны расцягнулі драты, і вечарам усе разам мы пачалі слухаць радыё. Не абышто, а «Вольную Еўропу».

Потым паявіўся тэлевізар, але радыё падабалася не менш — там казалі праўду. Гэта быў нейкі культ. Кожны вечар збіраліся каля моцна напаленай галандскай печкі і нехта круціў «корбачку». Канешне, былі «глушылкі», аднак гэта не спыняла. Калі не атрымлівалася пачуць рускую мову, «лавілі» польскую.

Яе ўсе разумелі, а мае бацькі і ўвогуле чыталі толькі па-польску.

У дзяцінстве (як і зараз) я вельмі любіў чытаць. Запісаўся ў адну бібліятэку, другую, а потым у трэцюю. Яна была самай вялікай, называлі яе па-старому раённай. Прыносіў маме кніжкі, аднак выбар быў невялікі. У асноўным пераклады на польскую мову «твораў» сталінскіх часоў.

Нармальную класіку я ім пачаў прывозіць ужо падчас вучобы ў інстытуце.

Бацькі ніколі не сядзелі без справы. А калі ў мамы ўжо былі праблемы са зрокам, яна чытала кнігі праз лінзу, павелічальнае шкло.

А яшчэ яна вельмі любіла вязаць і ткаць. Памятаю, у доме зімою заўсёды стаяў ткацкі станок. Вялікія сурвэты і сурвэткі, ручнікі, ходнікі, посцілкі — у нас было робленае шыдэлкам ці саматканае.

А яшчэ ў Поразаве жылі вельмі цікавыя людзі. Сапраўдныя гаспадары, нягледзячы на тое, што іх сагналі ў калгас, кожны ведаў, дзе яго зямля.

Пра кожнага чалавека, пра кожную біяграфію можна было напісаць цэлую кнігу. Кожны з іх перажыў неверагодна цікавае жыццё і мог расказаць шмат розных цікавостак. Расказаць ярка, падрабязна, дасціпна.

Толькі адзін прыклад.

Як вядома, калгас заўсёды саджае сваё і толькі потым прыватнае. З гэтай нагоды апантаны заўзятар геаграфіі Казічко, сын Клеманса, заўсёды жартаўліва прыгаворваў: «Вялікі Савецкі Саюз, ад Амура да Эльбы, а сотак пасадзіць няма дзе»...

Што сёння можа ўспомніць сярэднестатыстычны чалавек? Колькі каштавала раней «чарніла»? А ў іх было пра што расказаць, бо яны вельмі шмат перажылі.

Я вучыўся ў «Б» класе, у нас былі вельмі класныя хлопцы, а ў «А» — прыгожыя дзяўчаты. Падчас вучобы нечакана для ўсіх і сябе самога я пачаў пісаць вершы. Прычым на рускай мове. Адзін з іх быў шлягерам школьнай сцэны гады тры. Стась Сабалеўскі, мой аднакласнік, умеў іграць на гітары. І мы, зрабіўшы з верша песню, выступалі з ёй амаль на ўсіх канцэртах.

Я таксама вельмі хацеў навучыцца іграць на гітары, але не было каму вучыць. Як і самой гітары...

Мама купіла мне яе толькі пасля першага курса вучобы ў інстытуце. Пасля таго інструментаў было некалькі штук, а першая (чарнігаўская) недзе па гэты дзень вандруе па людскіх руках, бо потым прэзентаваў яе знаёмым.

Школу закончыў у 1976 годзе.

# Дарогі жыцця

Атэстат у мяне быў даволі прыстойны. Здаецца, 4,8 бала з 5. Доўга выбіраў, куды паехаць паступаць. Вырашыў пайсці ў тэатральна-мастацкі інстытут, які цяпер стаў акадэміяй. Паступіў. Як і ў школе, мне пашанцавала з выкладчыкамі. Гады вучобы праляцелі вельмі хутка, і ў 1980-м мяне размеркавалі ў Гарадзенскі абласны драматычны тэатр.

Распачаўся тэатральны перыяд майго жыцця.

Адносна тэатра ўвогуле скажу так: адна справа, калі вакол цябе харошыя, прыстойныя таварышы ці аднадумцы, якім сапраўды не ўсё абыякава, і зусім іншая, калі трапляеш у рознакаляровы калектыў з адносна сумнеўнымі традыцыямі. Руціна пачынае заядаць, штодзённасць і гэтак далей...

Для мяне тэатр хутчэй за ўсё хобі, прыемнае, але не самае істотнае. Хоць у канцы дзевяностых быў эпізод (я ўжо перайшоў у суседні лялечны тэатр), які цалкам абверг такую выснову, калі пастаўлены рэжысёрам Мікалаем Андрэевым на французскай мове спектакль «Прышэлец», з якім мы паехалі ў горад Лімож, у Францыю, тыдзень збіраў поўныя залы гледачоў. Пазней у Беларусі яго назвалі спектаклем года. Несумнеўным поспехам карысталася і п'еса Славаміра Мрожака «Караль» — «Стрыптыз», паставіць якую ў Гародню спецыяльна прыехаў САМ Мікалай Пінігін.

Дарэчы, на гэтую размову я трапіў таксама дзякуючы спектаклю «Местачковае кабарэ». Ён ідзе ў Купалаўскім тэатры, паставіў яго таксама Мікалай Пінігін. Творчай глебай сталі тэксты львоўскага пісьменніка-сатырыка Мар'яна Хемара.

Для мяне там прыдуманы герой — Валентый Ядвабкевіч (з рускай мовы на беларускую слова «шёлк» перакладаецца як «ядваб». — **Заўв. аўт**.), пясняр з Прыблудзіч. Я спяваю там тры свае песні — «Гарадокскі раманс», «Яна — праваслаўная, я — каталік» і «Танга Цнота».

...Ваеннай кафедры ў нашым інстытуце не было, таму мяне (на паўтара года) амаль адразу прызвалі на вайсковую службу.

Менавіта ў гэты час здымалі кіно пра тых, каму пасля ВНУ выпала афіцэрам паслужыць у арміі. Здаецца, рабочая назва ў яго была «Зоркі над палігонам». Нехта вырашыў зэканоміць на акцёрах і статыстах. Усіх, хто «на гражданке» меў дачыненне да сцэны, сабралі на палігоне пад Дрэтунню. Некалькі месяцаў мы там бегалі перад камерамі...

Большая ж частка маёй вайсковай службы прайшла ў тым будбаце, на базе якога пазней пабудавалі вядомы ўсім мінчукам Уруцкі будаўнічы рынак. Быў сяржантам на нашым КПП — адкрываў і закрываў жалезную браму часці.

Акрамя двух месяцаў, калі знаёмы рэжысёр забраў мяне ў знакамітую 120-ю Рагачоўскую мотастралковую дывізію, дзе мы рыхтавалі святочны канцэрт на 9 Мая.

Пагадзіцеся, гэта лепш, чым валіць лес недзе пад Омскам...

Потым у кіно я здымаўся не раз, аднак з маёй «фактурай» можна прэтэндаваць толькі на ролі нямецка-фашысцкіх захопнікаў...

Вяршыняй кінакар'еры стала роля каменданта Гуфэльда ў фільме Ігара Дабралюбава «Плач перапёлкі», дзе з сямі серый я быў у дзвюх...

Прыйшлося вывучыць нямецкую мову... Калі пачаліся здымкі, я загаварыў. Адразу падбегла ўзрушаная перакладчыца і спыталася: «Адкуль у вас такі цудоўны ўсходне-берлінскі акцэнт?»...

У 1984 годзе я зволіўся ў запас і вярнуўся ў Гародню. У выніку розных «перабудоў і паскарэнняў» у хуткім часе прыйшлося сысці з драматычнага тэатра. Тры гады ў культасветвучылішчы выкладаў акцёрскае майстэрства і рэжысуру, а ў 1990 годзе ўладкаваўся ў лялечны тэатр, таму што туды прыйшоў кіраваць творчым працэсам Мікола Андрэеў, з якім мы вучыліся на паралельных курсах у тэатральна-мастацкім інстытуце. Потым ён працягнуў вучобу ў Ленінградзе і прыехаў да нас поўны творчага натхнення.

Пачаліся залатыя часы лялечнага тэатра. Мы паставілі спектаклі вельмі вядомых аўтараў Матэрлінка, Мрожака, нашых радзімых Грачанікава, Вярцінскага і г. д.

Потым прыйшлі «ліхія дзевяностыя». Каб працаваць «за капейкі», трэба было альбо моцна любіць тэатр, альбо лічыць яго сваім хобі. Я абраў другі варыянт і перавёўся «на паўстаўкі».

## Вандроўнік з гітарай

Самая класная ў маім жыцці з'ява — падарожжы. Прычым у большай ступені, дзякуючы не тэатру, а гітары. Я быў у Злучаных Штатах Амерыкі, Канадзе, Дамінікане, Францыі, Германіі, Вялікай Брытаніі, Чэхіі і, канешне ж, у Польшчы. Нават пабываў на возеры Байкал. Засталося толькі тры мары — Паўднёва-Афрыканская Рэспубліка, Аўстралія і Ізраіль.

Асобае пачуццё — застацца аднаму ў вялікім горадзе. Напрыклад, у Нью-Ёрку. Я спыніўся там у Алы Орса-Рамана, нашай добрай зямлячкі і цудоўнай жанчыны. Сяджу я ў яе ў Манхасэце і сяджу...

Аднойчы яна, крыху занепакоеная маёй нерашучасцю, настойліва параіла пераадолець страх і здзейсніць самастойную вандроўку да месца, якое знаходзілася даволі недалёка ад нашага жытла — да Нью-Ёрка.

Пра Нью-Ёрк, як і пра Маму, можна распавядаць бясконца, і месца не хопіць...

Памятаю, мяне запрасілі на фестываль у глыбокую французскую правінцыю, пад Марсель і Тулон. Дабіраўся туды вельмі складана, аднак ужо на месцы (пад вечар) высветлілася, што да мястэчка Шадрон, дзе праходзіў фестываль, аўтобусы ходзяць толькі падчас вучобы дзяцей, якія былі на вакацыях. Адлегласць — з добры дзясятак км. Апошнія 120 франкаў ужо аддадзеныя за квіток на цягнік з Сент-Эцьена да Ле-Пюі-ан-Веле, таксовак увогуле няма.

Я спытаў, як можна дабрацца туды пешку... Мне сказалі: Брыў-Шарансак — Кубон — Шадрон.

І я пайшоў.

Праз маленькія французскія вёскі, дзе на мяне брахалі французскія сабакі. Кожны кіламетр пытаўся пра правільнасць абранага кірунку. У кішэні ні аднаго франка. У адной руцэ — валізка з касцюмамі, у другой — гітара.

Калі да Шадрона заставалася «рукой падаць», зразумеў, што ісці далей няма сілаў. Стаў галасаваць. Спадарожным аказаўся маленькі фургон. Ён ехаў не туды, куды мне трэба, але вадзіцель пагадзіўся крыху падвезці. Спытаўся, адкуль я. Успамінаю ўсе англійскія і французскія словы, расказваю. Ён у шоку, мяняе маршрут і прывозіць мяне прама ў Шадрон.

Пашанцавала.

Як і ў Чыкага. Я трапіў туды на Дзень незалежнасці ЗША, то бок 4-га ліпеня. Такога прыгожага феерверку ў сваім жыцці не бачыў ніколі. Тым больш прыгожыя агні адлюстроўваліся ў цудоўным мясцовым возеры. Атрымлівалася, так бы мовіць, «два ў адным». Пасля сканчэння святочнага феерверку людзі пачалі разыходзіцца. Мы жылі ва ўсходнім канцы Чыкага, трэба было паўгадзіны ехаць. Я падумаў, што аўтобусы ўжо не ходзяць і пайшоў пешку.

Ішоў па абочыне хайвэя — хуткай аўтастрады, дзе амаль не было машын. Праз паўгадзіны ўсё паехала — пачаў хадзіць транспарт. Неяк удалося дайсці да свайго раёна, які і дагэтуль лічыцца ў Чыкага вельмі небяспечным у крымінальным сэнсе. Раней там жылі даволі заможныя людзі, а потым іх выцеснілі афраамерыканцы. З адной цемнаскурай кабетай прыйшлося кантактаваць, каб удакладніць маршрут. Напэўна, яна была крыху ашаломленая нахабным з'яўленнем белага чалавека паначы ў іх раёне. Выратавала толькі тое, што на мне была цішотка з надпісам пра канадскае віскі, і тая прыняла мяне за «дурнога канадца»...

Гаспадары майго жытла потым доўга здзіўляліся таму, як у мяне атрымалася застацца жывым...

А яшчэ я часта знаходжу ў краінах, куды трапляю, грошы. У Канадзе, напрыклад, адразу пяць канадскіх даляраў! Тое ж самае было ў Амерыцы, Польшчы... Нічога не атрымалася толькі ў Расіі... Напэўна, там з гэтым цяжэй...

Нягледзячы на тое, што я шмат дзе пабываў, самае лепшыя падарожжы — у Поразава. Асобная традыцыя — Вялікдзень. Вельмі люблю слухаць старых людзей. Ездзіў заўсёды «на пераkладных», таму спадарожнікаў было надта шмат.

Дарэчы, напісанне маёй першай песні (як музыканта) таксама звязана з, так бы мовіць, падарожжам.

Падчас работы ў культасветвучылішчы для прафарыентацыі мяне накіравалі, здаецца, у Ашмяны. Сутнасць камандзіроўкі была ў агітацыі за паступленне да нас. Я аб'ездзіў тады шмат мясцовых калгасаў і бачыў сельскія клубы, закрытыя на свірнавыя замкі, таму мая агітацыя, мякка кажучы, была дысанансам рэчаіснасці. Па выніках той паездкі і нарадзілася песня «Культасветработнік — прымітыў-блюз».

А ўжо праз тры гады на першым «Басовішчы» я праспяваў аж пяць сваіх песняў.

Дарэчы, у 1987 годзе ў маім жыцці адбылася і яшчэ адна знакавая падзея. Я атрымаў прэмію часопіса «Маладосць» за найлепшы літаратурны дэбют. Напісаў тры апавяданні і, напэўна, зрабіў бы пісьменства галоўным, калі б у час чарговага ад'езду з Мінска не ўбачыў на аўтавакзале ў кіёску «Саюздрук» часопіс са сваімі творамі. З моманту выхаду прайшло даволі шмат часу, яго не хацелі купляць, і часопіс быў напалову пераэцэнены. Хоць многія шчыра раілі болей пісаць, у той момант я зразумеў, што гэты кірунак творчасці не стане для мяне магістральным.

Я не магу пісаць «па графіку», як гэта робяць некаторыя паэты (кожны дзень па вершу). Лепш твораў будзе менш, але яны будуць вартымі таго, каб быць...

# Жыццё ў дарозе

Тыя гады (нягледзячы на фінансавыя праблемы) сталі перыядам надзей. Было цяжка. Каб не базары ў Беластоку альбо Варшаве, дзе палякі (з большасці) куплялі нашы тавары з пачуцця салідарнасці, нам бы, напэўна, не выжыць.

Здаралася ўсё, але ў людзей была надзея на змены.

Існавала шмат прыгожых кампаній, цудоўных, вельмі цікавых людзей, сапраўдных аднадумцаў.

Зараз іх называюць тусоўкамі. Ненавіджу гэтае слова. Шмат сваіх тагачасных сяброў я сустракаю за мяжой. Кампаніі з'ехалі, засталася тусоўка.

Жыць было цікава, кожны дзень — кантакты, сустрэчы, імпрэзы. Думаю, многія памятаюць, як Ядзвіга Станіславаўна Волкава ў Доме літаратура кожны дзень арганізоўвала нейкую новую падзею.

Потым усё гэта некуды знікла... На жаль, выйшла зусім не тое, пра што мы марылі... Як казаў адзін вядомы чалавек, «хацелі, як лепш, атрымалася, як заўсёды...»

Банальна, але апроч таго, што ў чалавека ёсць любімая справа, ён павінен яшчэ і карміць сваю сям'ю, забяспечваць асабістыя патрэбы, то бок зарабляць грошы. Бедныя людзі не могуць быць арыстакратамі духу.

Ужо 25 гадоў я езджу з Гародні ў Мінск праводзіць аўкцыёны. Тры з паловай гадзіны дарогі сталі чарговай звычкай.

Пачалося ўсё з прыходу ў Беларусь Міжнароднай фінансавай карпарацыі, якая стала займацца так званай малой прыватызацыяй. Дэбютавала яна ў Бярэсці, потым перайшла ў Гародню. Аднойчы мой прыяцель Саша Маліноўскі (на дзяржслужбе працаваў у гэтым кірунку) прапанаваў правесці адпаведны аўкцыён. Я паспрабаваў. Атрымалася някепска. Потым аўкцыёнаў было яшчэ шмат, у тым ліку і ў розных гарадах нашай вобласці. Напрыклад, у Наваградку.

А потым прыехалі людзі з Мінскага гарвыканкама. Паглядзелі на маю работу і прапанавалі зрабіць гэта ў іх. Я пагадзіўся.

Падобна на жарт, але ў Мінску рэальна не было дошчачак з нумарамі, і было вельмі смешна, калі я ездзіў (туды і назад) у цягніках з дзвюма сумкамі гэтых рэчаў...

За чвэрць стагоддзя мне не раз (у тым ліку і па тэатральнай лініі) прапаноўвалі перабрацца ў Мінск, але я не мог, бо вельмі любіў сваіх бацькоў, да якіх у Поразава ездзіў амаль кожны тыдзень. Як люблю, дарэчы, і само наша мястэчка.

Ад Гародні да яго больш як у два разы бліжэй, чым ад Мінска, і значна прасцей (на некалькі гадзін) дабірацца.

Бацькі не стала ў 1991 годзе, маці жыла адна. Яна заўсёды мяне вельмі чакала. Брат Стась расказваў, што нават выходзіла на дарогу паглядзець: іду я ці не...

У сем гадзін раніцы сядаў на аўтобус, у дзесяць ужо быў у мамы. Яна пражыла 90 гадоў, валодала ўнікальнай памяццю. Помніла, што калі ёй было тры гады і гарнастаевіцкі пан Андрайковіч запрасіў яе на калядны прыём, яна была менавіта ў ЖОЎТАЙ сукенцы.

У 2008 годзе мама пайшла ў лепшы свет, я моцна перажываў. Аднак і пасля гэтага не стаў перабірацца ў Мінск. І зусім не таму, што па ўзросце ўжо было пазнавата. Проста ў гэтым адсутнічаў любы сэнс.

Сённяшнія камунікацыі дазваляюць надзвычай хутка вырашыць любую праблему, маршруткі з Гародні на Мінск едуць кожную гадзіну. Жыццё ў правінцыі мне падабаецца больш за сталічнае. Да таго ж па дарозе ты ўбачыш тое, чаго нельга ўбачыць з акна працоўнага кабінета.

Песня «Пра лета, лета, якое мы зноў змарнавалі» так і нарадзілася. Праз аўтобуснае шкло я кожны год назіраю, як мяняцца прырода. Ад сумётаў да зялёнай траўкі, ад вясенніх кветак да першага снегу. На гэтым палягае ўсё наша жыццё.

Ніколі не лічыў, колькі разоў ездзіў у Мінск, магу толькі сказаць, што звычайна гэта адбываецца два-тры разы на тыдзень.

Час ад часу я чую, што свет змяніўся. На мой погляд, людзей гэта не датычыцца. Нягледзячы на колькасць гаджэтаў і іншых карысных прылад, іх натура не стала іншай, у сваіх памкненнях і прыярытэтах людзі з большасці не змяніліся. Калі параўнаць карціны мастакоў-перадзвіжнікаў з сучаснасцю, няцяжка ўбачыць нямала агульных рысаў. Перш за ўсё мяшчанскія паводзіны людзей.

Шмат хто ператварыўся ў прымітыўны планктон, якому акрамя бараў і кактэйляў не будзе аб чым расказаць нашчадкам. Яны не ведаюць, з якога боку падысці да каровы, як правільна набраць ваду ў вясковым калодзежы.

А тут — усё жывое, рэальнае, натуральнае. Калі я еду ў вёску Салацце, дзе збудаваў дом, магу ўбачыць зайца, які сядзіць пры дарозе і паглядае на вагоны, альбо лясную козачку, што перастала пужацца гукаў цягніка. Гэта — здорава! Сапраўдны жыццёвы драйв!

Як і ад вынікаў сваёй працы.

У дадзены момант я працую над сваёй новай кнігай. Яна называецца «Маланабздзейкаўскія гістарычныя хронікі». У сярэднія вякі жыў легендарны князёк Набздзей Малы па прозвішчы Шакадынец. Калі ён памёр, яго вотчыну, згодна з тагачаснымі традыцыямі, прызналі велікакняжацкай і назвалі Малымі Набздзейкамі.

Раман пачынаецца датай 22 красавіка 2070 года, калі споўніцца 200 гадоў з дня нараджэння Леніна, і вяртаецца да Сярэднявечча. Няцяжка здагадацца, што гэта фантасмагорыя, дзе я вырашыў вылажыць на паперу ўсё, што назапасіў за сваё жыццё.

Большая палова рамана зроблена. Трэба, каб усё адляжалася. Спачатку трэба будзе яго закончыць, а потым пачнецца самае складанае — выданне кнігі.

Як толькі яно адбудзецца, у мяне пачнуцца сапраўдныя праблемы...

Дакладна таксама магу сказаць, што сёння мной напісана больш як сто песняў. Плюс некалькі дзясяткаў, зробленых на польскай мове; выйшлі тры кнігі і сем музычных дыскаў.

Я не медыйная альбо палітычная персона, таму, напэўна, ніхто і не робіць акцэнт, што сярод маіх добрых сяброў ёсць, напрыклад, Аляксандр Мілінкевіч. Мне ніякім чынам не перашкаджае наша сяброўства, якому ўжо амаль сорак гадоў. Гэта цудоўны чалавек. Мы ніколі ў жыцці не сварыліся і заўсёды падтрымлівалі адзін аднаго.

Іншая справа, што такіх лідараў, як ён, усім нам трэба яшчэ заслужыць. Грамадства да яго яшчэ не даспела.

Гэта раз.

Па-другое, мне здаецца, тое, што я раблю, не мае нейкай ідэалагічнай ці палітычнай афарбоўкі...

Вельмі не люблю медыйнасці, хоць паважаю журналістаў і пісьменнікаў. Як толькі нешта з'яўляецца ў медыях, на цябе адразу выліваецца літаральна вядро памыяў.

Са мной у жыцці адбывалася рознае. Безумоўна, я мог стаць нейкай палітычнай ахвярай, аднак не хачу. Мая справа — з любой жыццёвай сітуацыі выходзіць пераможцам. Не перамагу толькі ў адным выпадку — калі мяне панясуць «на погост», але, кажуць, на тым свеце так добра, што яшчэ ніхто адтуль не вяртаўся...

Якая я ахвяра!? Малады, вясёлы, прыгожы, энергічны! Як казалі ў адным мульціку — «мужчина в расцвете сил». У гэтым жыцці ў мяне пакуль усё нармальна!»

*28.09.2017*

# Змест

Аўтарскі пралог ........ 3
Беларускі феномен ........ 5
Святлана АЛЕКСІЕВІЧ ........ 11
Алена АНІСІМ ........ 23
Алесь АРКУШ ........ 35
Зміцер ВАЙЦЮШКЕВІЧ ........ 47
Ігар ВАРАШКЕВІЧ ........ 59
Сяргей ВЕРАЦІЛА ........ 71
Наталля ГАРДЗІЕНКА ........ 87
Адам ГЛОБУС ........ 99
Таццяна ГРЫНЕВІЧ ........ 113
Генадзь ДРАЗДОЎ ........ 125
Ірына ДУБЯНЕЦКАЯ ........ 137
Максім ЖБАНКОЎ ........ 155
Кася КАМОЦКАЯ ........ 171
Алесь КАМОЦКІ ........ 181
Іван КІРЧУК ........ 193
Артур КЛІНАЎ ........ 207
Андрэй КУДЗІНЕНКА ........ 219
Андрэй КУРЭЙЧЫК ........ 235
Гэнік ЛОЙКА ........ 249
Віктар МАРЦІНОВІЧ ........ 261

Дзмітрый ПАДБЯРЭЗСКІ .................................................. 277
Алесь ПАШКЕВІЧ.................................................................. 291
Алесь ПУШКІН ..................................................................... 303
Барыс ПЯТРОВІЧ ................................................................. 315
Анатоль ТАРАС .................................................................... 327
Андрэй ХАДАНОВІЧ ............................................................. 343
Алег ХАМЕНКА .................................................................... 357
Сяргей ХАРЭЎСКІ................................................................. 369
Юлія ЧАРНЯЎСКАЯ ............................................................ 383
Васіль ШАРАНГОВІЧ .......................................................... 403
Віктар ШАЛКЕВІЧ ............................................................... 415

